МІКОЛА
АЎРАМЧЫК

# У ПАДЗЯ-
# МЕЛЛІ

РАМАН

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986

*ПІМЕНУ ПАНЧАНКУ —*
*дарагому сябру,*
*любімаму паэту*

**1** Арыштаваную вёў канваір. Калі яны разміналіся з сустрэчнай калонаю, жанчына запаволіла крок і паспешліва абводзіла позіркам рады палонных, як быццам кагосьці шукаючы.

— Лёс! Абэр шнэль! — закрычаў канваір і вылаяўся: — Хімелькройц, сакрамэнт! [1]

Жанчына скаланулася ад ягонага крыку, але, не паскараючы хады, адказала на чысцюткай нямецкай мове:

— Не падганяйце і, калі ласка, не лайцеся.

У спакойнай інтанацыі яе адказу, што заканчваўся падкрэслена ветлівай просьбаю, адчуваўся жаночы гонар.

— «Немка?» — здзівіўся Янка, неспадзявана ўражаны выразным і бездакорным вымаўленнем арыштаванай і незалежнай годнасцю ўсёй яе паставы.

Нават мімаходзь нельга было не заўважыць прывабнасці гнуткае постаці і прыгажосці жаночага твару, хаця ён быў абязвечаны палосаю выстрыжаных ад ілба да патыліцы валасоў.

Вартавыя праводзілі жанчыну зняважлівымі позіркамі, а па радах калоны прабегла незразумелае ажыўленне. Само з'яўленне канваіра з арыштаванай і асабліва выгляд жанчыны выклікалі ва ўсіх цікавасць. А тыя, хто чуў словы вартавога і адказ арыштаванай, перапытвалі ў суседзяў, жадаючы даведацца, што адказала жанчына. Па меры таго як яна і канваір разміналіся з палоннымі, перапытванне ажыўленаю хваляю кацілася з галавы да хваста калоны.

Хто гэтая жанчына? Чаму на яе галаве выстрыжана палоса?

Праўда, Янку не трэба было перапытваць у суседзяў, што адказала канваіру арыштаваная. Пасля ша-

---

[1] Пайшла! Ды хутчэй! Нябесны крыж, праклянцце!

сцігадовага вывучэння ў школе, за тры гады вучобы ў інстытуце ён збольшага авалодаў нямецкай мовай. Паспрыялі гэтаму ўмельства і настойлівасць Веры Сяргееўны, патрабавальнай, строгай выкладчыцы ў іхняй падгрупе. Хлопец разумеў змест гаворкі, асабліва калі размаўлялі па-нямецку не спяшаючыся, з выразным вымаўленнем. Ён і сам мог падтрымаць размову, у якой часам на беларускі лад будаваў сказы, нетаропка выбіраючы з памяці патрэбныя нямецкія словы.

Аднак само жыццё аднойчы задало яму такі ўрок нямецкай мовы, які стаў для хлопца добрай навукаю. У шталагу іх павінны былі пераганяць у іншы блок. На апельпляцы канваіры з паліцаямі адлучалі ад калоны адну за адною шарэнгі палонных, прымушалі іх класці на зямлю свае рэчы і кожнага абшуквалі.

— Містшвайнэ! Зі вердэн зіхер флёэ хабэн! [1] — грэбліва сказаў канваір, лазячы па кішэнях Янкавага суседа.

— Дэн кёрпер вэшст ду міт зайфэ аб. Ві махэн вір абэр унзэрэн маген фон дэр фаулен ферфрорэнэн краут заубэр? Зэен зі маль дрэк ін майнэм мунд [2],— не сцярпеў і прамармытаў Янка.

— Глядзіце, свіння, а размаўляе па-чалавечы! Дый яшчэ дае парады людзям!..— па нямецку абурыўся канваір, здзіўлены тым, што Янка гаворыць па-іхняму, і стукнуў хлопца па плячы прыкладам.

Ад нечаканасці Янка аж увагнуў плячо. Але яго адразу ж зноў выпрастаў ударам кія шустры паліцай, які, як паслужлівы сабака перад гаспадаром, рупліва стараўся перад канваірам. Аблізваючы губы і прыцмокваючы, ён затрымаўся перад хлопцам, працяжна паўтараючы:

— Ах, які разумнік! Ах, які разумнік!..

У ягоным голасе было не столькі злосці, колькі зайздрасці і шкадавання, што ён сам не ведае мовы сваіх гаспадароў.

У Янкі не так шчымела плячо, як ныла ўсярэдзіне. На вочы ледзь-ледзь не набягалі слёзы. Як хлапчанё, ён быў абражаны да глыбіні душы.

Адкуль у іх абодвух такая знявага і пагарда? Не-

---

[1] Брудныя свінні! Яшчэ чаго-небудзь ад іх набярэшся!

[2] Цела адмыеш мылам. А як вымыць нутро ад гнілой і мёрзлай гародніны? Гляньце ў рот, які там бруд!

людзі! Звяругі ў чалавечай скуры! Калі б не адчуў на ўласным целе, не ўявіў бы: як можа чалавек бязлітасна біць другога прыкладам ці кіем? Няўжо гэты канваір лічыць сябе звышчалавекам?.. Хай сабе пакуль што ён пераможца, а я пераможаны... Дык ён жа са зброяй, а я бяззбройны... А можа, ён які-небудзь крымінальнік?.. Ну, а гэты паліцай?.. Ён жа быў нашым чалавекам... Выходзіць, што толькі лічыўся ім?.. Ён вылюдак! Халуй!

Але пажылы сусед, кішэні якога толькі што грэбліва выварочваў немец, вывеў хлопца са стану здранцвеласці, павучальна шэпчучы, калі канваіры з паліцаямі абшукалі іх, ператрэслі ўсе рэчмяшкі і адышлі да іншай шарэнгі палонных:

— Цябе, хлопец, вучыць трэба... Неабачліва не вылазь... Чаго добрага, яшчэ сам напросішся ў паліцаі.

Потым з ног да галавы змераў Янку позіркам і, нібы апраўдваючыся, дадаў шэптам:

— На паліцая то не выцягнеш ні вагою, ні выглядам: занадта кволы, сілы малавата... А ў перакладчыкі можаш трапіць... І тады, талмач, што ты ніякі не вярблюд — тлумач!..

Ён давёў хлопца да розуму. Нездарма ж кажуць, што адна галава добра, а дзве — лепей...

У той дзень іх перагналі ў іншы блок. Там былі іншыя канваіры і паліцаі.

З таго шталага этапная дарога вядзе ў гэты горад. Хутка ён жыўцом пракаўтне ў ненасытным чэраве іх доўгую калону.

На павароце Янка азірнуўся, акінуў позіркам рознакаляровыя шынялі. Яму раптам захацелася, каб гэтая плямістая неўтаймаваная змяя, прапаўзаючы па гарадскіх вуліцах, выклікала трывогу ў жыхароў. Хлопец злаваўся, калі заўважаў, што разнамасныя шынялі палонных, наадварот, пацяшаюць многіх сустрэчных немцаў, выклікаюць пачуццё зларадн асці. Маўляў, во колькі армій разграмілі доблесныя сыны Германіі! Во колькі захоплена нявольнікаў!

Аднак неўзабаве Янка зразумеў, што тут ніхто не звяртае ўвагі на іх стракатую калону. Адзінокія постаці, ідучы па тратуары, нібы і не прыкмячалі палонных, нават не пазіралі ў іх бок.

Змрочным і няўтульным здаваўся незнаёмы горад, з цаглянымі дамамі і вастраверхімі гатычнымі дахамі з чырвонай чарапіцы. Востры шпіль над нейкім будынкам прапорваў цяжкую хмару, што нізка навісла над горадам. У хлопца было такое адчуванне, нібы цяпер яго самога працялі навылёт нечым вострым і на плечы ўзвалілі непасільную ношу.

Калона праходзіла міма вялізнага збудавання. Тоўстыя трубы яго перапляталіся, уздымаліся ўгору і цягнуліся ў некалькі ліній над зямлёю. У чэраве волата штосьці шыпела, бурліла, клекатала.

Палонных прыгналі ў лагер, на супрацьлеглую ўскраіну горада.

Перш чым канваіры перадалі калону лагернаму начальству, палонных абышлі і ўважліва агледзелі, нібы прыцэньваючыся да кожнага, два чалавекі ў цывільным адзенні.

Высокі мужчына з выцягнутай шыяй і вытыркнутым, як дзюба, носам, апрануты ў куртку, трымаў кій. Галёнкі ягоных ног аблягалі крагі, а на галаве была чорная фуражка з вялікаю эмблемаю на аколышку.

Другі быў прысадзісты, на кароткіх ножках, у шчыгульным паношаным паліто цёмна-зялёнага колеру. Здавалася, што яно вось-вось трэсне на ім па швах.

Абодва размаўлялі па-руску, але з чужаземным акцэнтам.

Калі перад варотамі яны сталі, намерваючыся пералічваць палонных, высокі загадаў:

— Разберись как люди!

— Что столпились, как овцы?! — спытаўся другі.

Янка пачуў, як ззаду нехта паціху сказаў:

— Тоўпяцца людзі. У гурт збіваюцца авечкі. Сам ты баран з шырокім ілбом і выгнутай сапаткаю.

«Ну і трапна сказаў!.. Як у сук уляпіў!..» — падумаў хлопец, калі ўважліва прыгледзеўся да немца з выкручанымі ноздрамі. У спалучэнні з лупатымі вачамі яго нос нагадваў баранову мысу.

Палонных пералічылі і калону ўпусцілі ў вароты, за высокую агароджу з калючага дроту. Па ізалятарах на слупах было відно, што да яе падключана электрычнасць. У чатырох кутках лагера і з кожнага боку ўздымаліся вартаўнічыя вышкі з пражэктарамі і ўзброенаю аховаю.

Спынілі калону на апельпляцы, яго з трох бакоў загароджвалі доўгія нізкія баракі. З аднаго боку яны былі трохі далей ад апельпляца, перад імі ўзвышалася некалькі пагоркаў з душнікамі. Пагоркі нагадвалі доўгія капцы бульбы на калгасным полі. Каля лагернай брамы да агароджы прысланілася прахадная і непадалёку ад яе — нізкая будыніна барачнага тыпу. З вартаўнічых вышак крыж-накрыж і па дыяганалях добра праглядалася ўся тэрыторыя лагера. Тварамі да пагоркаў павярнулі палонных.

Перад калонаю нецярпліва пераступаў з нагі на нагу камлюкаваты чалавек у новым чырвонаармейскім шынялі, збоку ў яго, ледзь не дакранаючыся да зямлі, целяпалася шабля.

Ці ў чалавека не было вайсковай выпраўкі, ці да яго постаці кравец не змог падагнаць апранаху, але шынель на ім адтапырваўся і сядзеў, як на манекене.

— Здарова, браткі! — раўнуў ён.— Во што я вам скажу... Дабраліся, дзякуй богу... Землякі, беларусы, е?

— Ёсць! — адазвалася некалькі галасоў.

— А жыдоў і камісараў не прыхапілі з сабою?

Палонныя маўчалі.

— Анямелі? — зарагатаў ён, выскаліўшы жоўтыя зубы.

Янка заўважыў, што да аднае пятліцы на цельпуковым шынялі прымацавана бліскучая зорка, мабыць, з нейкага замежнага пагона.

— Во што я вам скажу. Не мадзейце, як аскабалкі, адшчэпленыя ад камля пакалечанага дрэва. Назад да яго ўжо не прылепіцеся. Бацькаўшчына пракляла вас. Бацька народаў заявіў, што ў яго няма палонных. Ён нават адрокся ад роднага сына, які трапіў у палон. А жыць жа неяк трэба... Дзела е... Няма чаго дарэмна есці хлеб нямецкі. Во што я вам скажу.

Ён пляснуў похваю па халяве і агаліў шаблю. Потым, груваcтка пераступаючы, з правага фланга адлічыў ёю большую частку палонных і, утыркаючы між імі шаблю да самае ручкі, крыкнуў:

— Моргеншыхт [1]!

Як укопаныя застылі тут два паліцаі з ягонае сві-

---

[1] Ранішняя змена.

ты. А цяльпук адмераў сваімі крокамі яшчэ некалькі радоў палонных і гыркнуў:

— Мітагшыхт! [1]

Яшчэ два паліцаі спыніліся насупраць адлічаных. Далей цяльпук не стаў пералічваць, а толькі сказаў: «Нахтшыхт! [2]» — і кляцнуў шабляю, укладваючы яе ў похву. Потым гучна дадаў:

— Во што я вам, браткі, скажу. Запомніце. От гер Фрэйвальд,— і ён кіўнуў галавою ў бок прысадзістага, у цёмна-зялёным паліто.— А от гер Герберт,— ветліва паказаў рукою на высокага, з крагамі на нагах. Той у сваю чаргу ўзаемна назваў яго:

— А это господин комендант!

«Прыгналі на завод»,— падумаў Янка.

У бараку ранішняй змены былі двух'ярусныя нары. Яны не агульныя, як у шталагу, а з паасобных секцый. Трохспальныя палаці кожнага яруса змацоўваліся адным узгалоўем і трымаліся на стаяках, прымацаваных да столі. На нарах ляжалі сеннікі з шорсткай мешкавіны.

— Пасцель — царская... Без падушкі, каб не залежваўся. Галаве мулка, яна не будзе забываць, хто ты,— сказаў Янкаў сусед, калі яны ўзабраліся на другі ярус.

Янку здалося, што ён дзесьці чуў гэты голас. Хлопец уважліва паглядзеў на суседа. Той:

— Чаго глядзіш?.. Як падушку, кладзі пад галаву рэчмяшок. Як цябе завуць?

— Янка,— адказаў хлопец.

— Беларус? А чаму ж не зарыкаў на роў таго бугая з шабляй?

— Пабаяўся, што ў халуі возьме.

— Бачыў, колькі гнід у яго свіце? «Во што я вам... Во што я вам...» Канечне, вош ты нам! Братамі заве, у землякі набіваецца.

Янка ўспомніў, дзе ён чуў суседаў голас. За спіною ў калоне гэты чалавек назваў бараном каратканогага немца.

А сусед усё абураўся:

— «Радзіма пракляла вас...» Маці ніколі не праклянe няшчасных дзяцей, калі яны ні ў чым не віна-

---

[1] Дзённая змена.

[2] Начная змена.

ваты. «Бацька народаў нават адрокся ад роднага сына, які апынуўся ў палоне». Яшчэ невядома, пры якіх абставінах ён трапіў у палон. Я толькі за сябе адказваю, бо добра ведаю, дзе і якім чынам захапілі мяне. Таму не лічу сябе вінаватым перад бацькаўшчынай.

Гэтыя словы кранулі за жывое Янку. Яму чамусьці здалося, нібыта сусед сумняваецца ў тым, якім чынам Янка трапіў у палон. Хлопец не ўстрымаўся б, каб не сказаць што-небудзь у сваё апраўданне, але сусед не змаўкаў:

— Яму сваю шкуру ратаваць трэба. Выслужыцца хоча. Камсастаўскі шынель напяліў. Яўрэяў і камісараў яму падай. Як быццам не ведае, што фашысты самі на іх палююць. Бачыў, як фільтравалі нас?

Ён меў на ўвазе дзіўную праверку палонных у апошнім шталагу. За тэрыторыяй лагера, як шатры, узвышаліся дзве вялізныя палаткі. Непадалёку ад іх, быццам хан на троне, сядзеў даўгатвары немец, у пенснэ і ў чорнай скуранцы. Абапал навыцяжку стаялі салдаты з аўтаматамі. Да іх павольна рухалася калона. Яшчэ метраў за трыццаць перад немцам яна выцягвалася ў адну шарэнгу. Палонныя валачыліся адзін за адным з інтэрвалам у пяць-шэсць крокаў. Кожны з іх, набліжаючыся да салдат, павінен быў зняць з галавы шапку, на імгненне прыпыніцца і сказаць, адкуль ён родам, назваць нацыянальнасць і прафесію.

Немец у гэты момант праз пенснэ халодным праніклівым позіркам углядаўся ў твар палоннага. Калі выгляд чалавека ці яго вымаўленне выклікалі падазронасць, гэты спецыяліст па асобых справах выкрыкваў «аб!» — і паказваў рукою ў бок шатроў, куды нешчаснага адводзілі. Астатнія на хаду зноў выстройваліся ў калону і рухаліся далей.

Янкавага суседа звалі Вадзімам. Не паспелі яны разгаварыцца між сабою, як у праходзе з'явіліся палонныя з іншых баракаў.

Цыбаты хударлявы хлопец, які прабіраўся сюды, на хаду выкрыкваў:

— Ёсць масквічы?.. Хто масквіч?

Вадзім абазваўся. Хлопец з радасцю кінуўся да іх параў, працягнуў Вадзіму руку, знаёмячыся, назваў прозвішча — Румега — і адразу ж папрасіў закурыць. Вадзім пачаставаў земляка тытунём і пацікавіўся, дзе ў Маскве жыў хлопец.

— Я — з Тулы,— спакойна адказаў той, дрыготкімі пальцамі паспешліва згортваючы цыгарку, як быццам баючыся, каб у яго не адабралі назад тытунь.

Вадзім пакрыўдзіўся. А туляк, як нічога і не было, у апраўданне ўсур'ёз пераконваў, што Тула ж побач з Масквою.

Янку таксама знайшоў зямляк, чарнявы хлопец з рэдкім імем Арсень. Родам ён быў з-пад Парычаў, перад вайною працаваў трактарыстам. Янка ведаў назву гэтага мястэчка, але ні разу не бываў у ім. Ён знаў, што яно знаходзіцца паўднёвей ягоных родных мясцін. Цяпер успомніў іх — і на нейкі момант адчуў у сэрцы прыліў шчымлівае пяшчоты.

Пасля таго, як Арсень сказаў, што палонныя іхняга лагера здабываюць пад зямлёю каменны вугаль, прыліў гэты адхлынуў. У душы застаўся асадак горычы, трывогі і страху.

Мала таго, што як нявольнікаў завезлі далёка-далёка на чужыну, дык яшчэ ў падзямелле кінуць...

Жыве Арсень у гэтым бараку. Ужо шэсць месяцаў працуе на шахце. Янка прыкмеціў пад вачамі земляка чорныя крапінкі вугальнага пылу. За паўгода Арсень прызвычаіўся да лагернага распарадку, ведае нямецкую акуратнасць. Перад адыходам ён пажартаваў:

— Немцы, халера, дарма карміць хлебам не будуць. Сённяшнюю пайку атрымалі ў шталагу?.. Ад сілы дадуць вам дзень на перадышку — і то на абмундзіроўку.

Але не спраўдзілася ягонае прадказанне. Ранішняй змене ні дня не далі на перадышку. Пакарміць не пакармілі, а спяцоўкі выдалі.

Абмундзіроўваў іх даўгашыі немец з крагамі на галёнках. Ён выдаў Вадзіму шапку, чаравікі, бялізну, брызентавую робу з шырокімі штанамі і загадаў распісацца. Вадзім нахіліўся над гросбухам і, распісваючыся, здзіўлена запытаўся:

— Распісвацца? Тут жа няма прозвішча, а толькі лагерны нумар?.. Самі ставілі б крыжык ці птушку...

— Я вот на твоем крестце поставлю птичку! — рыкнуў раззлаваны немец і сваім кіем лупянуў паланнага па спіне.

Вадзім потым ахрысціў яго кондарам.

І ўсё-такі Янкаваму суседу пашанцавала: такіх, як

ён, шчасліўцаў толькі пяць-шэсць чалавек у ранішняй змене. Яны будуць працаваць не ў шахце.

Янку дасталася спяцоўка ў падзямелле: шапка, чаравікі, майка, трусы і картовы гарнітур.

Кажуць, што абодва гэтыя немцы — Герберт і Фрэйвальд не толькі выдаюць спяцоўкі і па чарзе дзяжураць у лагеры, але маюць нейкую долю акцый у таварыстве, якое ўладае шахтаю. Абодва яны горныя спецыялісты. У трыццатыя гады дапамагалі нам рэканструяваць шахты ў Данбасе. Таму і гавораць парускў. Можа, руская мова памагла набыць капітал. Пусцілі грошы ў абарачэнне... І цяпер нажываюцца на дармовай рабсіле.

Вось як яно бывае ў жыцці. Хлопец разгублена глядзеў на тое, што рабілася наўкола. Блізка прымаў да сэрца незразумелыя паводзіны і ўчынкі, якія не падаваліся асэнсаванню.

Узяць хоць бы гэтага даўгашыяга Герберта. Інтэлігент?.. Без дай прычыны, ні за што лупцуе чалавека? Нябось, у Данбасе шпацыраваў без кія... А тут яму ўсё можна, усё дазволена. Тут ён пан.

Увечары, лежачы побач на нарах, Янка з Вадзімам пра ўсё гэта перагаварылі. Янку падабаўся сусед. У яго востры язык і цвярозы, светлы розум. Відаць, неблагі чалавек. Праўда, старэйшы за Янку на дзесяць гадоў. Але, калі Янка сказаў яму «вы», Вадзім пакрыўдзіўся:

— Будзем на «ты»... Па-суседску... Свае ж людзі...

Вадзім культасветработнік. Скончыў спецыяльнае вучылішча. Выкладаў музыку і спевы. А на фронце, кажа, быў анёлам у бога вайны. Сталы чалавек, які болей пажыў на свеце, ён кеміў розумам і адчуваў сэрцам, што ў Янкі душа не на месцы. Таму цэлы вечар заспакойваў хлопца: усё абыдзецца. Да поўначы суцяшаў-суцяшаў дый сам заснуў. Усё-такі на сенніку не тое, што на голых нарах у шталагу.

Янка варочаўся з боку на бок, а сну ні ў адным воку. На душы неспакойна. Замест падушкі — згорнутая спяцоўка. Здаецца, і галаве мякка, але яна ўсё роўна не забывае, з чаго гэтая падушка,— сам сабе кпліва перайначыў ён суседавы словы, якія той гаварыў, калі ўзабраліся на нары.

Прыход земляка таксама развярэдзіў закарэлыя раны. Янка яшчэ болей раз'ятрыў іх соллю ўспамінаў.

І трэба ж стацца так, што Арсень — блізкі зямляк дый яшчэ і трактарыст. Янка ж быў вагаўшчыком у трактарнай брыгадзе. Адно лета яны працавалі каля Арсеневых мясцін. Ад ракі белы вільготны туман паводкаю затапляў поплаў. На строме над Бярэзінаю раскінуўся дубовы гай. Раптам павеяла цёплым духам ад саломы, што безупынным вадаспадам цякла з саламатрэса малатарні. Янка не ўпраўляўся важыць мяхі збожжа, што ўзвальвалі на вагі мужчыны. Аднойчы, дурэючы ў абед, маладухі на таку паваліл хлопца на груд залатых зярнят і пачалі засыпаць імі ўсяго. Зярняты струменямі цяклі за каўнер, прахалодай казыталі спіну і грудзі. Ох і дурыкі ў гэтых маладух!..

І, можа, не ў пару ўспомнілася смешнае-смешнае... Неяк, вяртаючыся з абеду, Янка зайшоў да Генадзя Краўца, што «інтарам» араў іржышча, і ўпрасіў таго на некалькі хвілін даверыць трактар. Генадзь, дужы чарнявы прыгажун, перадаў Янку руль, саскочыў на ржэўнік, каб размяць ногі і выпрастаць плечы пасля доўгага сядзення. У гэты час чорт аднекуль прынёс сюды Хрысцю і Варку. Яны з жанкамі на суседнім полі бралі лён. Вяртаючыся з абеду, разлучніца Хрысця, мабыць, падгаварыла дзяўчыну збочыць да трактарыста. Спачатку яны доўга дурэлі з Генадзем, а потым, абедзве здаровыя, паваліл яго на ржэўнік і клычаць. Аб'ехаўшы ўзаранае поле і набліжаючыся да іх, Янка разгубіўся, калі пачуў, як раскудлачаная Хрысця, рагочучы, пагражае зняць порткі з трактарыста. Хлопец хацеў памагчы Генадзю і разам з тым, збянтэжаны, спалохаўся, што наробіць агрэхаў, няўмела спыняючы «інтар». Але раптам убачыў, як твар Генадзя ўспыхнуў чырванню і трактарыст, напружваючы сілы, так адштурхнуў у бакі абедзвюх свавольніц, што яны, падхапіўшыся, кінуліся наўцёкі, ажно замільгалі загарэлыя лыткі. Цыбатая Варка, апярэдзіўшы напарніцу, порстка шмыгнула ў нізкі малады сасоннік. У самым канцы ржышча разгарачаны Генадзь дагнаў задыханую Хрысцю і з разгону паваліў на дол у крайніх сасёнках.

За гэтымі дурыкамі і валтузнёю, мабыць, назіралі жанкі з ільнянога поля. Бо пазней маладыя языкастыя мужчыны, пакепліваючы, усё пыталіся ў Хрысці, ці праўда, што яна падужала трактарыста.

2 На досвітку, адамкнуўшы дзверы, у барак як апантаныя ўляцелі паліцаі, раз-пораз працяжна выкрыкваючы «па-а-д'-ё-ём!» і на хаду падварушваючы кіямі санлівых і заспаных.

— Пастраенне на сняданне! — нараспеў падцягвалі яны, як папы, размахваючы кіямі, нібы кадзіламі, калі паднялі ўсіх з нараў.

Праз некалькі хвілін малады, сімпатычны з твару паліцай, відаць, наўмысна ўтварыў у дзвярах затор, камандуючы:

— Без кацялкоў! Ніякіх бляшанак!

І каго папала ён пачаў лупцаваць кіем. Калі пярэднія шарахнуліся ад яго назад, без разбору ажыўлена запрацавалі кіямі астатнія паліцаі.

— А камендантаў любімчык Гаўрык — выдумшчык на забавы!..— пачуў Янка за плячамі.

Хлопец спрытна скочыў на ніжнія нары, увішна шпурнуў на верхатуру сваю бляшанку, але, саскокваючы ўніз, усё-такі не паспеў ухіліцца ад удару і атрымаў па карку. Збянтэжаны, падхоплены людской плынню, ён нерашуча падаўся да выхаду, не цямячы, у што ж наліць тое варыва?

Звычайна, калі ў ранейшых лагерах хто-небудзь з пустымі рукамі падыходзіў да кухоннага аконца, праз якое выдавалі страву, каб не застацца галодным, ён вымушаны быў атрымліваць яе ў шапку або ў пілотку. Паліцаі, якія з кіямі ў руках назіралі за выдачай ежы, не зважалі на тое, ці мае чалавек посуд для атрымання смярдзючай бурды.

І раптам неспадзеўка. «О, дык тут жа новы парадак. Культура!..» — кпліва падумаў хлопец, пры святле ліхтара разгледзеўшы перад ганкам кухні стол са стосамі місак, перавернутых уверх дном.

Выстраеная калона спераду выцягвалася ў ланцужок па адным. Кожны палонны браў і падстаўляў да кухоннага акна міску, у якую адтуль нейчая рука спрытна выкульвала два палонікі баланды. За выдачай ежы спакойна назіралі паліцаі. Яны напагатове стаялі паблізу, задаволеныя, што цяпер могуць адпачыць пасля руплівае працы.

У прыцемку, ідучы ў барак, Янка не разгледзеў як след ні пасудзіны, ні таго, што ў ёй наліта. На нарах, пры цьмяным святле лямпачкі ён таропка глянуў на эмаліраваную карычневую міску і лыжкаю прагна

апаражніў з яе цёплую рудаватую бурду. Хлопец не толькі не адчуў у ёй ніякага смаку, але нават не зразумеў, што гэта за варыва.

«Еш ваду: яна каменне варочае, паможа пад зямлёю глыбы варочаць»,— падумаў з'едліва і спытаўся ў Вадзіма, з чаго баланда.

— А чорт яе ведае!..— паціснуў той плячамі.

— Што тут смакаваць? Нішчымная сушаная бруква... Нават міскі не трэба мыць,— растлумачыў Тарас Перадавігорла, сусед з другога боку, і, павучаючы, дадаў: — А цяпер адносьце міскі і спяшайцеся на ранішняе відовішча... Вы — малодшыя, дык спрытнейшыя... У вас пакункі. Засланяйцеся імі ад кіёў і прыкладаў, як запарожцы ад турэцкіх шабляў.

Папярэджаныя, Янка з Вадзімам хоць і не ўяўлялі ранішняга відовішча, але зразумелі, што трэба трымаць вуха востра і глядзець ва ўсе вочы, каб не атрымаць па карку кіем ці прыкладам. Падрабязна распытваць суседа не было калі, бо ў дзвярах пачулася каманда:

— Выходзьце на пастраенне!

Янка дамовіўся не разлучацца з Вадзімам. Перад кухонным ганкам яны паклалі на стол міскі і, падхопленыя натоўпам, стыхійна ўліліся ў калону, у якой спрытна расштурханыя ў бакі іншымі, апынуліся крайнімі ў радзе: адзін — справа, а другі — злева. Абодва не атрымалі па карку, але затое кожнага з іх прымусілі ўзяць з долу запаленую шахцёрскую лямпу. Трымаючы ў адной руцэ пакунак са спяцоўкаю, а ў другой — лямпу, Янка азіраўся, намагаючыся разгледзець, што адбываецца ззаду.

Калона выстрайвалася па чатыры чалавекі ў рад. Крайніх справа і злева ў радзе вахманы ўдарамі прыкладаў прымушалі браць з долу запаленыя шахцёрскія лямпы. Пазбягаючы гэтага, кожны імкнуўся схавацца ў калоне, і таму яе дзве сярэднія шарэнгі пры пастраенні імгненна выцягваліся. На іх, як малацьбіты з цапамі на два рады пастаўленых снапоў, накінуліся паліцаі на чале з камендантам. Камендант напружваў сілу, паказваючы прыклад паліцаям і жадаючы, каб вахманы маглі па заслугах ацаніць ягоную руплівасць. Плазам аголенай шаблі ён малаціў палонных па спінах і па плячах. А паліцаі, каб выслужыцца ў прысутнасці яго, стараліся адзін перад адным.

Яны пусцілі ў ход свае кіі, якія пры святле ліхтароў і шахцёрскіх лямпаў таксама мільгалі, нібы шаблі.

І ўсё роўна ў мітусні і штурханіне найболей спрытныя і паваротлівыя ўмудраліся ўхіліцца ад удараў і не апынуцца крайнімі ў калоне.

Так жывёльная лютасць і жорсткасць нелюдзяў абуджала ў чалавеку статкавы інстынкт хітрасці і самазахавання. Цяжка цярпець здзекі, балюча зносіць пабоі, але яшчэ жудасней усведамляць, што ты жывёліна, хай сабе са здаровым розумам і мудраю хітрасцю.

Па меры таго, як ахова пільна адлічвала спераду рады палонных, калона, пункцірна абазначаная ў змроку агеньчыкамі шахцёрскіх лямпаў, у акружэнні вахманаў і паліцаяў, павольна выпаўзала з лагерных варот. Жаласнае гэта відовішча выклікала ў Янкі прыгнечаны, пануры настрой. Здавалася, што д'яблы гоняць у пекла статак грэшнікаў, абвіты гірляндаю мігатлівых лампад. Паганы настрой не развеяўся і тады, калі іх узвялі на пасадачную пляцоўку і як быдла пачалі заганяць у чыгуначныя вагоны без столі. Палонных адвезлі кіламетры за тры. Там высадзілі і прыгналі да вялізнага збудавання з металічнымі варотамі і шырокімі вокнамі пад самым дахам. Расчыненую брамку засланяў сабою каратканогі Фрэйвальд.

— Оставить на землю лямпы и все — са мной! — загадаў ён, запрашаючы пярэдніх жэстам рукі.

Па шырокім калідоры без усялякага строю палонныя ўвайшлі ўслед за ім у прасторнае памяшканне, перагароджанае на дзве палавіны высачэзнай драцяной сеткаю.

Канваіры і паліцаі засталіся на вуліцы.

— Слюшать внимательно! — загадаў немец.— Прежни пленны знают свои вешалки. Новы пленны отмыкают замки, в которых торчат ключи, и опускают себе вешалки. Всем переодеться и одежду оставить. Каждый сабирает ключ.

Янка нічога толкам не зразумеў. Ён і Вадзім разам з іншымі нерашуча падышлі да драцяной сеткі. Па ёй у чалавечы рост цягнуўся металічны каркас з безліччу пласцінак, на якіх стаялі лічбы і віселі маленькія замкі. Ранейшыя палонныя даставалі з кішэняў ключы, адмыкалі свае замкі і апускалі ўніз вешалкі са спяцоўкамі. Яны растлумачылі навічкам, што і яны

таксама павінны адмыкаць замкі, у якіх тырчаць ключы, апускаць вешалкі і, пераапрануўшыся, вешаць на іх сваю вопратку. Потым вешалку з адзеннем трэба падняць угару, пад самую столь і, надзеўшы кольца ланцужка на замочную дужку, замкнуць замок. А ключ, да якога прымацавана бірка з адпаведным нумарам, узяць у кішэню.

Янка павярнуў ключ, адамкнуў замок, зняў з яго дужкі кольца і, патрошку адпускаючы з рук ланцужок, апускаў уніз вешалку. Чалавечыя галасы заглушала працяжнае свірчэнне. Высока пад столлю, рухаючыся па роліках, свірчэлі ланцужкі, нібы нямазаныя колы фурманак па выбоінах раз'езджанае дарогі. Янка акідваў позіркам дзесяткі вешалак, што апускаліся, але не разумеў, каторая ягоная. Ён пачакаў, пакуль яны апусцяцца, і пачаў тузаць за ланцужок, то трошкі падцягваючы яго, то адпускаючы назад, каб такім чынам па торганні вызначыць позіркам, дзе знаходзіцца ягоная вешалка. Ён заўважыў, што і Вадзім побач з ім робіць тое самае.

Іх вешалкі звісалі крокаў за дзесяць ад замкоў і былі суседнія. Вешаючы шынель на адзін з чатырох рагоў, Янка горка ўсміхнуўся. Вешалка нагадвала «кошку», якой ён бывала падчэпліваў са студні вядро, упушчанае з вочапа. Толькі да «кошкі» быў прымацаваны не ланцужок, а тонкая вяроўка. Пераапранаючыся, хлопец уявіў глухаваты металічны стук і шорганне «кошкі» аб цынкавае вядро пад воднаю тоўшчаю. І ўжо як быццам адчуў вуснамі смак халоднае-халоднае, ажно заламала ў зубах, вады з бацькоўскае студні. Нездарма яе пілі жыхары з усяго канца іхняе вуліцы. На ёй былі іншыя студні, нават глыбейшыя, некаторыя з цэмянтовымі кругамі. Але ў адных — вада гарэніла, а ў другіх — мела тлусты прысмак. А ў іхняй студні, са збуцвелым зрубам, на ніжніх вянках спрэс пакрытых мохам, яна была смачная-смачная. Казалі, што ў ёй многа жалеза. Змалку ён не разумеў, хто накідаў у студню жалеззя. Хлапчук заўважыў, што кожная жалезіна ржавее ад вады. І ўсё здзіўляўся, чаму вада ў іхняй студні заўсёды празрыстая. Чаму яна не ржавая?

Гэтыя ўспаміны абарваў незнаёмы немец. Ён забраў Вадзіма і кудысьці павёў разам з астатнімі палоннымі ў брызентавых спяцоўках.

Фрэйвальд падганяў хутчэй пераапранацца. Многія з папаўнення, пераапрануўшыся, усё яшчэ блукалі сярод апушчаных вешалак і мінілі адзін аднаму каля драцяной сеткі, шукаючы свае замкі.

Янка занепакоіўся, нават аблізнуўся. Каб зараз хоць глыточак вады, у якой шмат жалеза. Ён ведаў, што глытком не натоліш смагі. Але яму здавалася, што дастаткова цяпер прычасціцца адным глытком — і ў пекле будзе лягчэй, бо з прымессю жалеза па ўсім целе разальюцца гарт і дужасць.

Ён падышоў да замка і пачаў падцягваць на сябе ланцужок, падымаючы ўгору вешалку з адзеннем. І заўважыў, што за драцяной сеткаю таксама пераапранаюцца людзі. Яны размаўляюць, але немагчыма пачуць іхнюю гаворку, бо пад столлю безупынку свірчаць ролікі. Па асобных словах хлопец пераканаўся, што людзі размаўляюць там па-нямецку. На плячах іхніх цёмных і карычневых куртак, на спінах разнамасных кашуляў і клятчастых паўпаліто няма кляйма «SU», якое вялікімі літарамі напісана алейнай фарбаю, жоўтаю або белаю, на плячах шыняля і гімнасцёркі кожнага палоннага. «Значыць, там цывільныя. Мабыць, нямецкія шахцёры».

У гэты момант зноў прагучала каманда Фрэйвальда:

— Слюшать внимательно! Все — са мной!

«Ад гэтага не чакай паблажкі! Прыдбаў дармовую рабсілу!..»

Палонныя рушылі ўслед за Фрэйвальдам па калідоры. Потым глуха загрукалі нагамі па металічных прыступках лесвіцы і ўжо, нібы згружаючы на бляшаныя лісты каменне, дробна забарабанілі абцасамі па жалезных плітах падлогі на другім паверсе.

— Сдесь все на ходу сабиряют лямпы,— камандаваў Фрэйвальд, паказваючы рукою на шырокае акно, каля якога спыніўся.

Высокі хударлявы палонны ў новай спяцоўцы, беручы з падаконніка лямпу, раптам спытаўся:

— Пан, шахта газавая?

— Почувствуеш, когда в клети опустим туда, как вы опускали в клетках канареек в шахты Донбасса,— зларадна ўсміхаючыся, адказаў Фрэйвальд.

Палонны, не разумеючы, паціснуў плячамі...

Янка насцярожыўся: пры чым тут Данбас і кана-

рэйкі ў клетках? А Фрэйвальд, пераканаўшыся, што пярэднія бяруць з падаконніка запаленыя лямпы, якія таропка выстаўлялі туды тры жанчыны, адразу ж рушыў далей наперадзе палонных.

Хлопец падумаў, што гэтыя жанчыны — немкі. Але пачуў, як яны зрэдку перакідваюцца словамі з палоннымі. А калі даведаўся, што яны таксама паланянкі, якіх немцы вывезлі сюды, у галаве мільгнула: «Мала таго, што палонных апусцілі ў падзямелле, дык яшчэ і нашых жанчын кінулі ў гэтае пекла!»

Янка таксама ўзяў лямпу. Паглядзеў, як робяць іншыя, і, беручы з іх прыклад, паднёс да твару і, павярнуўшы галоўку са шкляным каўпачком, спачатку патушыў, а потым зноў уключыў святло.

Прайшоўшы метраў дзвесце, усе спыніліся. Аднекуль патыхала вільгаццю. Дзесьці шыпела паветра. Навокала сабраўся цэлы натоўп. Палонныя ўліліся ў яго і растварыліся. У некаторых на галовах былі шчыгульныя каскі з брылямі. Толькі па аднолькавых новых спяцоўках можна было яшчэ адрозніць палонных з учарашняга папаўнення. Янка прыслухоўваўся і ніяк не мог зразумець, адкуль даносяцца звонкія сігнальныя ўдары — зверху ці з-пад зямлі. Раптам з глыбіні, нібы вялізны ліфт з пекла, вынырнула і нерухома павісла над безданню двухпавярховая клець. Хлопец занепакоіўся. Шырока расплюшчанымі ад жаху вачамі ён глядзеў, як, адсунуўшы перад ёй металічную агароджу, у клець пачалі ўваходзіць людзі. Калі па чарзе абодва яе паверхі запоўніліся і яна, напружана ўздрыгнуўшы, нырнула ў прорву, у Янкавых грудзях ёкнула сэрца.

Чым болей прагавіта глытала людзей ненажэрнае падзямелле, тым болей Янка адчуваў сябе самотна. Нарэшце хлопец убачыў, што працуе не адна, а дзве клеці. Рухаюцца яны побач адна насупраць другой. Відаць, калі адна падымаецца на паверхню, другая ў гэты момант апускаецца на дно падзямелля. Пасля кожнага з'яўлення і знікнення пякельнага ліфта Янка інстынктыўна аддаляўся ад агароджы перад падземнаю прорваю.

Але неўзабаве ад натоўпу засталася маленькая жменька людзей. Разам з імі і ён вымушаны быў, нарэшце, увайсці ў клець. Мабыць, гэтак адчувае сябе звер у клетцы, якая вось-вось павінна рушыць з ім у

невядомую дарогу. Павярнуўшыся спінаю да астатніх, хлопец для ўстойлівасці шырэй паставіў ногі, прысланіўся да сценкі з мноствам круглых дзюрачак і заплюшчыў вочы. Спачатку, калі клець дрогка скаланулася і рынулася ў прадонне, у яго сярэдзіне штосьці абарвалася і душа апынулася ў пятках. Мабыць, ад хуткага руху ўніз шумела ў вушах, а ў грудзях нібыта спынілася сэрца. Потым, калі ён адчуў, што клець апускаецца хутка, але плаўна і цела захоўвае раўнавагу, яго грудзі захліснула цёплая хваля.

Па баках клеці штосьці мякка пляскала. Гэтак, бывала, на малацьбе шастаў шырокі прывадны пас па шківах малатарні і трактара. Мабыць, адпаведна таўшчыні паветраных пластоў бяздоннай прорвы, клець то надоўга запаўняла вільгаць, то кароткачасова абдавала цеплыня. Прыкладна на палове глыбіні, на якую яна апускалася, Янка зіркнуў на палавінкі дзвярэй і заўважыў за імі промні.

Калі клець, плаўна запаволіўшы спуск, спынілася і расчыніліся дзверы, па вачах паласнула святло. Падштурхнуты заднімі, Янка разам з іншымі выйшаў у шырачэзны падземны калідор. Тут іх чакалі два чалавекі: адзін — прысадзісты, шыракаплечы, другі — высокі, танклявы. Абодва — у паношаных гарнітурах: прысадзісты — у чорным, высокі — у карычневым. На іхніх галовах былі шчыгульныя каскі, а на грудзях, як маленькія пражэктары, ярка блішчэлі прамавугольныя лямпы. Відаць, гэтыя двое добра ведалі многіх у твар, бо наперабой аклікалі людзей па прозвішчах і кожнаму аклікнутаму прызначалі падручным аднаго палоннага ў новай спяцоўцы.

— Гільро! — выгукнуў па-нямецку высокі.— Вазьмі вось гэтага,— і апусціў далонь на Янкава плячо.

Аклікнуты чарнявы чалавек сярэдняга росту кіўнуў галавою. Ён моўчкі падышоў да Янкі, даў знак, што гэта ён Гільро, і рукою запрасіў ісці за ім услед.

Расцягнуўшыся, некаторыя ўрассыпную адзін за адным, а некаторыя па два-тры поплеч, усе рушылі па асветленым калідоры, які на кожным кроку падпіраўся выгнутымі металічнымі рэйкамі. На іх, як ступенькі на драбінах, былі драўляныя перакладзіны, што зверху і з бакоў трымалі скляпенне. Ад абедзвюх клецяў цягнуліся дзве вузкакалейкі, далей, як на станцыі

чыгуначныя пуці, яны разгаліноўваліся яшчэ на дзве ці тры запасныя каляі. На адной стаяў цуг да краёў напоўненых вугалем ваганетак, упярэмешку з пустымі нізкімі пляцоўкамі, на другой — доўгі састаў паражняку і пляцовак з тонкімі бярвенцамі. Паступова скляпенне павузела і паніжэла. Тут падземны калідор ужо не асвятляўся. Толькі па-ранейшаму пасярэдзіне ўнізе цягнуліся дзве вузкакалейкі, а ўгары — таўшчэзныя трубы, у якіх шыпела паветра. Ззаду прарэзліва прасвістаў і абагнаў усіх састаў паражняку, у хвасце з дзвюма пляцоўкамі. На іх сядзелі людзі. Хтосьці нават памахаў лямпаю.

Янку здавалася, што ідуць яны ўжо не меней трох кіламетраў. Падземны калідор разгалінаваўся новымі лабірынтамі. Па іх скіравалася большая частка люду. Астатнія крочылі далей.

Усю дарогу, занепакоены і насцярожаны, хлопец стараўся не губляць з вачэй каржакаватую постаць Гільро. Яна таксама не аддалялася, а маячыла блізка. Нарэшце наперадзе ўсе прыпыніліся каля нейкай клеткі, што ўзнікла пасярэдзіне падземнага калідора, асветленая са столі цьмяным ліхтаром. Янка падышоў бліжэй і ў прыцемку разгледзеў невялікую прымітыўную клець.

— Увага! Будзьце асцярожны! — амаль па-беларуску прамовіў перад ёю хударлявы чалавек год трыццаці, адсоўваючы ўбок металічную загародку.

— Глюкаўф, Тадэвуш! — сказаў яму Гільро і павітаў яго паднятай левай рукою.

«Мабыць, паляк?» — мільганула ў Янкавай галаве.

Следам за Гільро хлопец нерашуча ўвайшоў у клець.

Зверху цурчэла вада. Струмені яе разбіваліся аб крацістыя дзверы, пырскалі ў твар, кроплямі сцякалі за каўнер.

«Няўжо ён апусціць яшчэ глыбей, у самую апраметную?..» — са страхам падумаў Янка, з-пад прыплюшчаных павекаў гледзячы на Тадэвуша. Той не спяшаючыся засунуў назад загародку, пасля рукою рэзка тузануў за ручку, што наўзбоч звісала ўверсе, як стрэмя. Дзесьці, нібыта ў глыбокай студні, глуха блямкнулі сігналы. Клець няўклюдна скаланулася і шуганула ўгору.

«Хоць і не ў рай, але ўсё-такі прэч са дна апраметнай»,— з палёгкаю ўздыхнуў хлопец і шчыльней стуліў губы, адчуўшы імі гаркотны смак солі.

«Хацеў прычасціцца глытком вады з жалезам, дык вось глытай удосталь яе з соллю... Увесь прасолішся наскрозь — і адубееш...»

Відаць, клець падымалася нядоўга, бо ў яго толькі трохі намоклі шапка і плечы. Усе выйшлі і зноў рушылі па цёмным калідоры, які нічым не адрозніваўся ад ранейшага. Ён таксама разгаліноўваўся на паасобныя лабірынты.

Услед за пярэдняю купкаю палонных перад самым Янкавым носам з бразгатам зачыніліся цяжкія металічныя дзверы. Хлопец з усяе сілы налягаў на іх целам, але яны не адчыняліся, быццам хтосьці трымаў дзверы з таго боку. Толькі пасля таго, як Гільро, які адстаў, штурхнуў невялікую фортку пасярэдзіне, дзверы пад ягонаю рукою лёгка адчыніліся. У той момант, калі адчынялася фортка, Янка, стоячы збоку, адчуў, як праз яе тугою хваляю з шумам хлынула з-за дзвярэй паветра. Хлопец здзівіўся і зразумеў: там яго збіраецца гэтулькі, што пакуль не выпусціш трохі праз фортку, яно не дае магчымасці адчыніць дзверы.

Прайшлі яны, можа, з кіламетр і прыпыніліся каля нейкай кладоўкі, выдзеўбленай у сцяне, нібы прасторная пячора. Палонным у новых спяцоўках тут выдавалі шахцёрскі рыштунак: адбойны малаток з доўгім гумавым шлангам, кірку, шуфельную рыдлёўку і лучковую пілу. Усё гэта кожны з іх павінен быў несці далей. Калі Янка атрымаў столькі прыладаў, ён не разумеў, як можна адразу ўзяць іх дзвюма рукамі. Здагадлівы Гільро моўчкі памог. Цераз галаву, лязом за спіну, як вінтоўку, ён надзеў Янку на плячо пілу, а сабе — згорнуты тоўстым колам гумавы шланг і ўзяў у руку адбойны малаток. За яго спагадлівасць Янка пранікся пачуццём удзячнасці да чужога, незнаёмага чалавека. Самому яму цяпер заставалася ўзяць рыдлёўку і кірку. Ён нёс іх пад пахаю, а другою рукою — лямпу. Пасля паклаў шуфель на незанятае плячо, на яго дзяржальна перад грудзьмі павесіў за крук лямпу, а ў руцэ трымаў кірку.

Ісці давялося нядоўга. З падземнага калідора ўсе пачалі залазіць адзін за адным у праломленую збоку адтуліну. З яе патыхала цяплом, нібы з жарала печы.

Адтуліна была пачаткам нахіленай удалечыню нары. Па ёй можна было рухацца толькі сагнуўшыся ў тры пагібелі. Справа ўздымалася шчарбатая каменнавугальная сценка, а злева ляжаў металічны жолаб, над якім угары пад столлю вісела труба. Яшчэ лявей за жолабам нара наўсцяж была захламлена каменнем цёмна-шэрага і попельнага колеру, сям-там застаўлена клеткамі складзеных дроў, мясцінамі завешана драцяною сеткаю. Па ходу некаторыя спыняліся і заставаліся ў ёй на пэўных месцах. Раптам, як саламатрэс у малатарні, зарухаўся і затарахцеў жолаб, складзены з паасобных рыштокаў.

Гільро спыніў Янку і спачатку моваю жэстаў даў зразумець, што яны абодва сядуць у жолаб, а потым растлумачыў па-нямецку:

— Пад'едзем на транспарцёры. Разумееш?

Янка кіўнуў галавою.

Тады Гільро паказаў рукою на стык двух рухомых рыштокаў і пальцамі сціснуў ззаду свае штаны.

— Будзь уважлівы, каб не ўшчаміла,— зноў сказаў па-нямецку і, усміхаючыся, спытаўся: — Разумееш?

Янка зноў кіўнуў галавою.

— Сядзем! — скамандаваў Гільро і першым пасвойску ўсеўся на дно жолаба, спрытна падкінуўшы зад на стыку рыштокаў.

Хлопец зрабіў тое самае, пераймаючы ягоны прыклад. Транспарцёр не толькі па тарахценню нагадваў саламатрэс малатарні, але і працаваў па такім жа прынцыпе: рэзка торгаючыся, ён рухаў па нахіленай плоскасці ўсё, што на яго трапляла.

Праехалі яны метраў дзвесце. Відаць, напрактыкаваны, Гільро ўчэпіста, як малпа, хапіўся рукою за перакладзіну, на якой пад столлю мацавалася труба, спружыніста падцягнуўшыся ўсім целам, спрытна саскочыў. Янку лягчэй было сесці ў жолаб, чым з яго вылезці. Ён сумеўся, выкінуў кірку, пасля — рыдлёўку, а потым, нязграбна перакінуўшы праз край рыштока падкурчаныя ногі, бокам выкуліўся сам. Калі б не ручка пілы, ён выцяў бы плячо аб транспарцёр.

— Асцярожна. Гэтак можна пакалечыцца,— спачувальна сказаў па-нямецку Гільро, калі да яго падышоў хлопец, сабраўшы раскіданы інструмент.

Гільро зняў з плячэй і паклаў на дол шланг, пры-

сланіў да сценкі адбойны малаток і, нагнуўшыся, пачаў шукаць штосьці пад транспарцёрам. Нічога не знаходзячы, вярнуўся назад пад нахіл крокаў дзесяць і выцягнуў з-пад жолаба другі шланг з адбойным малатком, пілу, кірку і шуфель. Знайшоў нейкую адзнаку на вугальнай сценцы, паклаў каля яе ўвесь інструмент і кіўком рукі падазваў Янку. Тыцнуў пальцамі сабе ў грудзі і спачатку адрывіста сказаў «Гільро», а потым працяжна — «Гіль-ро», «Гіль-ро». І запытальна гледзячы ў хлопцавы вочы і дакранаючыся рукою да ягоных грудзей, па-нямецку прамовіў, стараючыся перакрычаць тарахценне транспарцёра:

— А якое імя ў цябе?

— Янка. Ян-ка.

Але хлопец адчуў, што Гільро не ўспрымае незнаёмага імя. Гэтак неаднойчы здаралася і ў арміі, калі байцы іншых нацыянальнасцей лічылі гэтае імя жаночым. Таму схамянуўся і растлумачыў:

— Іван. І-ван.

— Жан? — узрадавана, па-свойску зразумеў Гільро.

Ён абедзвюма рукамі абвёў падзямелле, тыцнуў пальцамі ў Янкавы грудзі і, узяўшы кірку і дзюбнуўшы ёю вугальную сценку, гучна запытаўся па-нямецку:

— Жан у шахтах працаваў?

Янка адмоўна пакруціў галавою.

— Жан, Гільро даўно працуе пад зямлёю. Гільро — шахцёр. Цябе хочуць зрабіць шахцёрам паняволі. Жан, Гільро табе спачувае. Гільро пакажа табе шахцёрскую працу. Толькі ты, Жан, калі ласка, не крыўдуй на Гільро,— па-нямецку сказаў ён каля хлопцавага вуха і нетаропка пачаў выбіраць бярвенцы і плашкі, што рухаліся па транспарцёры.

Янку кранулі шчырыя словы незнаёмага чалавека. Хлопец разгубіўся і не ведаў, што рабіць. Памкнуўся памагаць, нават злавіў і зняў з жолаба адну плашку, але Гільро спыніў яго жэстам рукі.

У забоі запахла смалою. Праз некаторы час гэты пах яшчэ болей узмацніўся, нагадаў пах сасновага бору.

Хлопцу хацелася прызнацца, што ён зразумеў усё, што сказаў Гільро і глыбока ўдзячны за яго спагадлівасць і шчырасць. Але стрымлівала боязь, каб у сло-

вах незнаёмага, чужога чалавека не было якой-небудзь падэсці або хітрасці.

А Гільро навылоўліваў з транспарцёра лесаматэрыялу і, тройчы ўзняўшы перад Янкам растапыраныя пальцы абедзвюх рук, па-нямецку растлумачыў:

— Я лічыў, колькі чаго спатрэбіцца.

Хлопцу стала прыкра. Ён думаў, што Гільро, шкадуючы яго, сам выгружае плашкі з бярвенцамі.

— Жан, а цяпер глядзі, што робіць шахцёр пад зямлёю,— гучна абвясціў па-нямецку Гільро. Ён узяў вольны канец шланга з гайкаю і пачаў прыкручваць да невялічкага адростка на трубе пад столлю. Праверыў, ці туга прыкручана гайка — і павярнуў на адростку кран. У шланг са свістам хлынула паветра. Гільро пальцамі правае рукі абхапіў ручку адбойнага малатка, ад чаго той адразу ж загрукатаў. Леваю рукою Гільро спрытна падхапіў малаток на сярэдзіне і, заганяючы вастрыём наўскасяк у сценку, адваліў ад яе глыбу каменнага вугалю. Паглыбляючыся такім чынам, паўтарыў некалькі заходаў. Пазней у сценцы атрымалася ніша, глыбінёю на даўжыню плашкі — «шапо», як назваў яе Гільро хлопцу.

— Бярэм «паль»,— па-нямецку сказаў Гільро і ўзяў кол. Змераў яго, паставіўшы наўскасяк ад долу да столі, і на вока адпілаваў лішні канец. Потым аднаю рукою спрактыкавана прыклаў да столі, як бэльку, плашку, перпендыкулярна транспарцёру, а другою рукою падпёр пасярэдзіне калом, які тужэй падбіў абухам кіркі. Астатні час шufляваў на транспарцёр адбіты вугаль, вялікія глыбы расколваючы адбойным малатком, а малыя — кіркаю. Калі ніша ўсцяж транспарцёра падоўжылася крокі на два, Гільро ўзяў два тонкія бярвенцы, змераў даўжыню кожнага, паставіўшы насторч, і адпілаваў лішку. Іх падбіў абухам кіркі пад абодва канцы раней умацаванай бэлькі, а кол з-пад яе выбіў і далей падпёр ім да столі другую, наступную бэльку.

— Жан, гэта цяжкая праца. Трэба добра есці. Многа-многа жэрці,— з тугою гледзячы ў хлопцавы вочы, па-нямецку стараўся ён перакрычаць тарахценне транспарцёра і грукат адбойных малаткоў з абодвух канцоў падземнае нары.— У цябе мала сілы. Ты кволы і галодны. Ат, ты ж усё роўна не зразумееш.

Янка маўчаў.

Гільро падышоў з хлопцам да таго месца, дзе знаходзіўся Янкаў рыштунак. Хлопец таксама прыкруціў вольны канец шланга да трубы, праверыў, ці туга прыкручана гайка — і павярнуў кран. У шлангу зашыпела паветра. Янка падняў у руках цяжкі малаток і, як паказваў Гільро, толькі павольна, пачаў адколваць не глыбы, а невялікія скрылі вугалю.

— О, Жан кемлівы. Жан цяміць, што да чаго. Дзейнічай у залежнасці ад абставін. Корпайся сабе патрошку. А я пайду. Бо я ж не палонны. Буду падыходзіць на выручку,— па-нямецку пракрычаў над хлопцавым вухам Гільро і пайшоў да свае нішы.

Пасля ягонага павучання Янка яшчэ болей адчуў, што Гільро — шчыры, няхітры чалавек. З ім можна гаварыць. Але абодва яны цяпер заняліся працаваць адбойнымі малаткамі.

Нават цікава самому ўпершыню самастойна кіраваць незнаёмай і нескладанай прыладаю. Янка, не прыкладаючы асаблівае сілы і намагання, толькі скіроўваў вастрыё ў патрэбным напрамку, а малаток паслухмяна паглыбляўся ў цвёрды вугаль. Паспрабаваў накіроўваць яго ў сценку насторч, але праз нейкі момант ледзь выцягнуў назад, адчуўшы, што вастрыё заклінoўваецца, а малаток захлынаецца паветрам і глухне. «О, дык гэтак можна рабіць выгляд, што працуеш, а на самай справе грукатаць ухаластую». Малаток грукатаў, нібы кулямёт. Ад дрыгатлівага тургання рук ажно мітусілася ў вачах. «Пацешыўся! Яшчэ нацешышся!» — з іроніяй падумаў хлопец, успамінаючы, як, едучы на фронт, забіраўся ў невысокі вагон без даху, ставіў на яго борт распоркі ручнога кулямёта і страчыў у начное неба. Здавалася, яно ззяла не зорамі, а прабоінамі, якіх увачавідкі большала ад выпушчаных ім куляў. Таксама цікава было пазабаўляцца. Настраляўся... Цяпер самога возяць тут пад аховаю ў гэтакім вагоне без даху. Тады не ведаў, што ў гэтых высокіх чыгуначных пляцоўках возяць вугаль. Таму яны і называюцца вугляркамі.

Далёка на чужыне, глыбока ў падзямеллі, на адзіноце яму горка. Апаноўвала крыўда і мучыла злосць. Толькі невядома: на каго крыўдзіцца і на каго злавацца?

І адбойны малаток, і ручны кулямёт — дзіцячыя цацкі ў параўнанні з «кацюшамі», даручанымі ім.

У лясной мясцовасці ў канцы зімы, калі яшчэ ляжаў глыбокі снег, некалькі іхніх дывізіёнаў зрабілі залпы, каб вырвацца з акружэння. Прабілі шырокі калідор і на світанні выходзілі па ім пад варожым мінамётным абстрэлам. Навокал ляжала чорная, нібы пераворaная, зямля, валяліся скарабачаныя, абгарэлыя каркасы чужой тэхнікі ды сям-там, як абеліскі, стаялі абпаленыя куртатыя камлі дрэў.

Чаму б не зрабіць гэтак і другі раз, каб зноў праврваць чарговае акружэнне? Хоць бы і не вырваліся, дык затое і нязваных прышэльцаў насмалілі б, як вепрукоў! Дык не, хтосьці аддаў загад узарваць «кацюшы» і штабялі скрыняў са снарадамі. А пасля з вінтоўкамі ў руках ісці на прарыў. Чужакі ў Мясным Бары кулямётнымі чэргамі лаўжы целаў наклалі. А ўцалелых, як нявольнікаў, рабіць на сябе прымушаюць.

Думаючы свае горкія думы, Янка, як павучаў Гільро, кешкаўся патрошку ў падземнай нары. То паволі адколваў са сценкі скрылі вугалю і не спяшаючыся ўскідваў шуфлем на транспарцёр, то па сем разоў адмяраў даўжыню бярвенцаў і плашак і марудна адпілоўваў іх лішнія канцы. Але часта паглядаў на столь. Баяўся, што яна абваліцца і жыўцом пахавае яго ў нары. Таму абухам кіркі паспешліва падбіваў бярвенцы пад плашкі. Адно бярвенца толькі што падбіў пад канец плашкі, а другое адмераў, паставіўшы наўскасяк, і пачаў адпілоўваць невялікі лішак, сантыметраў пяць даўжынёю. Вострая піла, зубы якой амаль да стрыжня бярвенца лёгка ўядаліся ў драўніну, раптам нечакана скрыганула. Янка падумаў, што яна трапіла на сук. Таму павярнуў бярвенца і пачаў пілаваць яго з другога боку. Але зноў піла глуха скрыгатнула, нібы па металу. Хлопец дастаў яе і агледзеў бярвенца кругом. Нідзе не было ніякіх сукоў. Можа, у драўніне засеў асколак снарада? Але з бакоў не было прабоіны. Прыгледзеўшыся, Янка здзівіўся: у самым цэнтры бярвенца сядзеў патрон. Мяркуючы па глыбокай меціне, што засталася на капсулі ад удару байка, патрон быў выстралены. Хлопец разгубіўся. З маленства яго напалохалі патроны, схаваныя ў драўніне. Цяпер тое далёкае, дзіцячае, выразна паўстала.

Успомнілася Сідарава хата. Гаспадарова жонка памерла, а ў яго былі сыны, трое хлопцаў, як на пад-

бор. З усяе вёскі сыходзіліся дзецюкі ў гэтую хату гуляць у карты, баяць байкі, курыць самасад. Вучылі курыць і падшывальцаў. Аднойчы малога Янку кожны са старэйшых частаваў сваім недакуркам, паказваючы, як трэба курыць узацяжку. Хлапчук так назацягваўся «бычкамі», што ўсю ноч яго нудзіла і ванітавала. З тае пары ён не курыў ніколі.

У Сідаравай хаце ўзімку палілася бляшаная печка. Дроў чамусьці заўсёды бракавала. Кожны дзяцюк, прыходзячы на гулянку, валок якое-небудзь паліва. Выходзілі з хаты і адломвалі па вёсцы штыкеціны або праслы. У завіруху далёка адыходзіць ленаваліся, а ламалі штыкетнік з Маханікавага частаколу, якім была аточана сядзіба з агародам і садам. Суседу, мабыць, надакучылі штукі дзецюкоў, і ён добра напалохаў іх, назаўсёды адвучыўшы ад зладзейства.

Аднойчы, зімовым адвячоркам, калі азартныя карцёжнікі, б'ючы па банку, паднялі спакуслівы «стук», а малыя падшывальцы на ўслоне смакталі ўзацяжку іхнія «бычкі», у печцы пачалася страляніна. Узнялася страшэнная паніка. Усе з перапуду кінуліся ў дзверы. Нехта з уцекачоў, імкліва ўсхапіўшыся з-за стала, разбіў шкло і паветранаю хваляю патушыў агеньчык лямпы. Хтосьці з малых упоцемку заенчыў пад нагамі старэйшых.

Толькі пасля страляніны ў настылую хату, дзверы якой былі пакінуты насцеж, вярнуліся смялейшыя дзецюкі і перапалоханыя Сідаравы сыны. Выветрылася не толькі хата. Як ветрам садзьмула са стала ўвесь зайздросны банк карцёжнікаў. Хлопцы лаялі спрытнага зладзюгу, які схапіў са стала грошы. Пасля выявілі, што ў той адвячорак на паліва ламалі верхнія канцы штыкетніка з Маханікавага частаколу. Усе ведалі, што Маханіку недарэмна далі мянушку. У яго былі залатыя рукі. Рабіў малатарні, рамантаваў ваўначоскі. Думалі, што ён зверху ў штыкеціны закручвае патроны і маскуе іх шпунтамі. Раззлаваныя, рашылі яго перахітрыць. Мінула некалькі дзён. Забылася тая беспарадкавая страляніна. Дзецюкі адламалі з Маханікавага частаколу не верхнія канцы штыкецін, а сярэднія і ніжнія, ад цвіка ў верхнім прасле і да самае зямлі. Але пасля таго, як у Сідаравай печцы зноў пачалася страляніна, на гэты раз чэргамі, нібы з кулямёта, ніхто болей не чапаў Маханікавага частаколу.

А Сідар, які вечары праседжваў у суседзяў, даведаўшыся пра страляніну ў сваёй хаце, задаў дыхту сынам.

«Хочаце, каб хату ўшчэнт разнесла?! — крычаў ён.— Дзе жыць будзеце?.. У Маханіка такая галава і такія рукі, што ён можа ў штыкеціну і бонбу залажыць».

...Янка супакоіўся і пачаў кругом асцярожна пілаваць бярвенца глыбей, акуратна яго паварочваў. Пілавінне пырскала з прорэзі, і ў нос біла цёплым смалістым духам. Калі бярвенца было надрэзана кругом амаль да самага стрыжня, хлопец крутнуў рукою і адарваў адрэзаны круг. З адпілаванага боку, у самым цэнтры, меней чым напалавіну сваёй даўжыні вытыркалася куля. Янка нетаропка абмацаў пальцамі яе вострую дзюбку, яшчэ цёплую ад трэння пілы, і паціснуў плячамі. «Што такое?! Куля не вылецела з выстраленага патрона? А мо асечка?..»

Баючыся, што столь умацавана не вельмі трывала, ён паспешліва падбіў абухам кіркі пад вольны канец плашкі толькі што адпілаванае бярвенца, у якім засталася меціна ад дзюбкі кулі. Супакоіўшыся, што мацаванне, нарэшце, надзейнае, заняўся адпілаваным кругам, у цэнтры якога тырчэла куля. Паклаў круг на дол і вастрыём рыдлёўкі раскалоў яго на дзве палавіны. З аднае з іх лёгка вылушчыў патрон і пачаў уважліва разглядаць месца, дзе ён сядзеў. След чатырохграннай адтуліны, якая выразна вызначылася там, дзе знаходзілася шыйка патрона, сведчыў пра тое, што дзюрка з канца бярвенца не прасвідравана, а глыбока пракалата штыхом трохлінейнае вінтоўкі. Янка дастаў з кішэні патрон і без асаблівых цяжкасцей выцягнуў кулю. Бліжэй да агеньчыка лямпы паднёс патрон і, зазірнуўшы ў яго сярэдзіну, разгледзеў там згорнутую папяровую трубачку. Паспрабаваў вытрасці яе, але як ні трос, яна не выпадала, бо раскруцілася і была таўсцейшая за шыйку патрона. Спачатку хацеў адкалоць ад круга трэску, каб ёю выкалупаць згорнутую паперу, але потым успомніў пра крук шахцёрскае лямпы. Ягонаю дзюбкаю пасля некалькіх няўдалых спробаў, нарэшце, падчапіў і выцягнуў з патрона папяровую трубачку.

Хаваючыся, разгарнуў пажоўклы кавалачак паперы. На ім хімічным алоўкам было напісана па-руску:

«Возле взорванного железнодорожного моста наш батальон, приняв удар на себя, прикрывал отход через реку 112-го стрелкового полка. Вся материальная часть и живая сила успели отойти за водный рубеж. Бревна из штабелей, за которыми мы укрываемся на лесоскладе, от бомбежки и артобстрела разлетаются, как спички. Переправа уничтожена. Нас уцелело только шестеро. Будем переправляться вплавь. Если погибнем, прощайте. Комбат Павлович, командир роты Сиверцев, помкомвзвода Федоров, бойцы Иващенко, Синица, Лещеня».

Янка ўявіў сабе адважную шасцёрку, якая ацалела ў кровапралітнай бітве і пад бамбёжкаю і артабстрэлам, адрэзаная ад сваіх, яшчэ спадзявалася на ратунак. Праўда, сярод іх былі тры камандзіры. Дык і з ім жа вопытны чалавек — Вадзім. На яго ён можа спадзявацца. Няўжо яны не выберуцца адсюль на волю?

Бач, не толькі мяне хочуць жыўцом пахаваць тут, дык яшчэ і родныя сосны апускаюць сюды ў падзямелле. Прывезлі іх з таго ляснога склада, за штабелямі якога адважная шасцёрка стрымлівала націск азвярэлага ворага. Калі б хлопец выпадкова не натрапіў пілою на гэты патрон, дык ніхто і не даведаўся б пра бясстрашных шасцярых. А іх запіска засталася б тайнаю ў падземных глыбінях на чужыне. Ды і яму самому ніколі не прыйшло б нават у галаву, што ён пілуе на чужыне родныя сосны, умацоўваючы імі над сабою столь у змрочнай нары. Раптам яму здалося, што тое бярвенца, у якім сядзеў патрон з куляю, заскрыпела пад цяжарам навіслых над ім кіламетровых пластоў, нібы ў буру сасна ў лесе, і на ягонай паверхні, як пот, выступіла смала. Але прамое, трывалае, яно падтрымлівала столь, засцерагаючы свайго земляка ад бяды. Сам ён, можа, яшчэ якім-небудзь цудам выкараскаецца адгэтуль, а яно ўжо навекі будзе пахавана глыбока пад змрочнымі тоўшчамі. На радзіме, на паверхні, дзенебудзь у аконнай раме ці ў дзвярах яно цешыла б людскі позірк. А тут ніхто яго не ўбачыць. Цікава, колькі год гэтая сасна набывала бронзавы загар пад сонцам, шумела на ветры зялёнымі галінамі? Янка склаў абедзве палавінкі расколатага круга і на толькі што адпілаванай паверхні пазногцем налічыў дванаццаць гадавых колцаў. Значыць, сасна пражыла на зям-

лі меней за яго самога. Яна, як і ён, не нарадавалася ўволю святлом і сонцам, не выкупалася ў ліўнях, не нацешылася гуллівым ветрам, хоць і расла недзе на прыволлі, бо ствол яе таўставаты. Янка ледзь абхапіў яго пальцамі абедзвюх рук.

А смалісты пах яшчэ мацней распаўсюдзіўся. Хлопцу ніколі не думалася раней, што невялікія сасновыя бярвенцы і плашкі водарам сваёй жывіцы могуць перабіць усе іншыя пахі ў змрочным падзямеллі. Ён кінуў позірк спачатку на тонкі кол пад сярэдзінаю плашкі, а потым на два бярвенцы, якія з абодвух канцоў падтрымлівалі яе, і ўявіў на іх месцы тры маладыя сасны. Бярвенцы ж былі трыма соснамі, з залатымі стваламі і зялёнымі галінамі. Цяпер ён не ў родным лесе, а ў падзямеллі заблудзіў у трох соснах. Аказваецца, сапраўды можна заблудзіць у трох соснах. На памяць прыйшла песня «На мурамскай дарожцы стаялі тры сасны». Нудна і маркотна зрабілася на душы. Куды ні кінь, усюды — клін.

Час ад часу да Янкі падыходзіў Гільро. Даваў парады, дапамагаў мацаваць столь. Калі транспарцёр спыніўся, Гільро сказаў па-нямецку:

— Жан, перадышка. Будзем абедаць,— і рукою паклікаў да сябе.

З аднае кішэні пінжака ён дастаў скрутак, а з другой — жоўтую біклажку. Сам прымасціўся на вялікую глыбу вугалю, а хлопцу паказаў рукою са скруткам — на меншую. Разгарнуў газету, дастаў два бутэрброды, адзін падаў Янку. Пакуль Гільро разгортваў скрутак, хлопец ужо глытаў сліну. Таму не стаў аднеквацца, а толькі як мага спакайней, каб не здацца нявыхаваным, узяў бутэрброд і ветліва сказаў:

— Дзякую!

— Жан поляк? — здзівіўся Гільро.

— Чаму? — па-нямецку спытаўся хлопец.

— Жан сказаў «дзянькую». Тадэвуш таксама гаворыць «дзянькую». А Тадэвуш поляк.

— Я не поляк, а беларус,— удакладніў Янка.

— Белорусэ? Хто гэта? — разгублена пацісну ў пляцамі Гільро.

— Ёсць такі народ,— па-нямецку сказаў Янка.

— Дзе ён жыве?

— Паміж Расіяй і Польшчай.

— А-а, як эльзасцы? — задаволіў сваю цікаўнасць

Гільро, нават ніколькі не здзівіўшыся, што хлопец гаворыць па-нямецку.

Янка не стаў яму тлумачыць, што эльзасцы — нацыянальная меншасць. Адны з іх размаўляюць па-французску, другія — па-нямецку. А беларусаў жа разоў у шэсць болей, у іх свая мова. Праўда, лёс іхні падобны.

— Можа, Жан гаворыць і па-французску? — ажывіўся Гільро.

— Не, па-французску не ўмею.

— Чаму?

— У школе, дзе я вучыўся, вывучалі нямецкую мову.

— Шкада... Гільро — француз. Гільро няма з кім пагаварыць па-свойму,— і ў гэтых словах, і ў ягоным выглядзе адчувалася расчараванне.

Гільро вялікімі кавалкамі адкусваў бутэрброд і, старанна пераЖоўваючы, кожны кус запіваў глытком з біклажкі. Янка ледзьве стрымліваўся, каб не кусаць папоўніцы. Ён патрошку адкусваў намазаную маслам лусту шэрага хлеба і, пакуль праглынуць, доўга-доўга разжоўваў.

Працяглым глытком Гільро запіў даедзены бутэрброд і перадаў біклажку хлопцу. Яна была не авальная, як вайсковая, а пляската-выцягнутая, з плоскім дном. Янка глынуў з яе — і зморшчыўся ад гаркавага піва.

— Напэўна, Жан думаў, што французы п'юць толькі віно, а немцы піва? — усміхнуўся Гільро.— Там, на паверхні,— і ён указальным пальцам тыцнуў уверх,— п'юць, вольнаю часінаю. А тут, пад зямлёю, і тыя, і другія хлебчуць каву... Жан, запівай каваю бутэрброд. Яна здымае стому і падбадзёрвае.

«Чаму яна не падсалоджаная? Можа, каб нельга было многа выпіць?» — у думках задаваў сам сабе пытанне хлопец. Але ў Гільро папытацца саромеўся. Адмаўляцца таксама няёмка.

Некалі так здарылася з ім у раннім юнацтве, калі вучыўся ў школе. У святочны дзень хадзіў гуляць на чыгуначную станцыю. Завітаў у краму. Мужчыны і юнакі пілі ў ёй разліўное піва. Ён ніколі ў жыцці яго не каштаваў. Спакусіўся — і купіў куфаль. Пакаштаваць пакаштаваў, ды ледзьве праглынуў глыток. Піва гарэніла, як асінавая кара. Стаяў з куфалем у руцэ, не

ведаючы, што рабіць: выліць няма куды і піць немагчыма. Памуляўся, выбраў зручны момант дый пакінуў поўны куфаль на прылаўку.

Цяпер толькі дзеля ветлівасці ён трымаў у руцэ біклажку. Нават зрэдку прыкладваўся да яе. Але піў такімі маленькімі глыточкамі, каб смак бутэрброда перабіваў гаркоту кавы.

Яны сядзелі насупраць адзін аднаго: беларускі юнак і француз, пажылы мужчына. Хлопец не адчуваў розніцы ва ўзросце і ў нацыянальнасцях. У душы ён быў глыбока ўдзячны гэтаму чалавеку за тое, што сваімі паводзінамі і ўчынкамі, сваёю манераю трымацца, нават самою інтанацыяй ён развеяў самотны Янкаў настрой у падземнай нары.

Пасля абеду Гільро часта падыходзіў выручаць хлопца. Сам у сценцы выдзеўб цэлую тэрасу. У ёй, як на калонах, столь трымалася на слупках, што з двух канцоў умацоўвалі кожную бэльку. Гільро злучыў з тэрасай Янкаву нішу і таксама пашырыў яе на некалькі крокаў.

— Гэты лесаматэрыял прывезлі сюды з Беларусі,— сказаў хлопец, паказваючы рукою на бярвенцы і плашкі.

— Адкуль ты ведаеш? — насцярожыўся Гільро.

Янка дастаў з кішэні дзве расколатыя палавінкі адпілаванага круга і патрон з куляю і замест адказу падаў іх французу. Потым паказаў запіску і пераклаў яе змест. Усё гэта ўразіла Гільро.

— У вас многа лясоў? — спытаўся ён пасля таго, як перастаў ад здзіўлення прыцмокваць губамі.

— Вельмі многа. Вакол азёраў — бярозавыя і дубовыя гаі. Бары па-над рэчкамі. Ёсць нават дрымучыя пушчы.

Перад канцом змены па нахілу падземнай нары, асвятляючы сваёю нагруднаю лямпаю слупкі, згорбіўшыся, прабег прысадзісты чалавек, які ранкам аклікаў па прозвішчах шахцёраў і даваў ім падручнымі новых палонных. Прашмыгнуў моўчкі, хаця было чутно, як ён моцна крычаў і размахваў лямпаю дзесьці далей.

— Хто гэта? — спытаўся Янка.

— Штайгер.

Хлопец ведаў нямецкае слова «штайгер». Яно азначае — горны майстар або дзесятнік. А гэты ж усё роў-

на як паганяты ці наглядчык. І, разгублены, Янка спытаў:

— А другі, высокі, што быў з ім раніцаю?

— Ягоны памочнік,— адказаў Гільро.

## 3

Ранішняя змена вярнулася ў лагер у другой палавіне дня. У душавой палонныя адмываліся ад вугальнага пылу. Потым, пакуль прымалі іх канваіры з паліцаямі, прыдзірліва пералічваючы пры выхадзе з шахты, а пасля зноў пільна лічыла, упускаючы ў браму, лагерная ахова, дык часу прайшло нямала.

У першыя хвіліны на паверхні Янка ніяк не мог асвойтацца: пасля падземнага мораку ён ажно прыжмурваўся ад дзённага святла. Аднак хлопца суцяшала тое, што яго, нарэшце, з пекла паднялі на белы свет. Хаця на двары быў пахмурны дзень, але ўсё-такі на паверхні не так страшна, як у падзямеллі. Ва ўсякім разе адчуваеш сябе бяспечней.

Асенняе паветра прапахла дымком. Бывала, гэтак пахла ў полі, калі спальвалі прасохлы бульбоўнік. І ў вогнішчы пяклі бульбу. Кіямі хлапчукі выграбалі не з прысаку і, таропка садзьмуўшы попел і сяк-так выцершы рукамі лушпіны, папоўніцы глыталі яшчэ гарачую, студзячы ў роце захопленым паветрам. Дарослыя акуратна саскрабалі лязом сцізорыка абвугленыя і падсмаленыя лушпайкі, ад чаго кожная бульбіна была падобна на жаўток. З пачуццём уласнай годнасці яны елі яе, нібы яйкі, раз-пораз пасыпаючы дробачкаю солі. Янку тая ежа цяпер здавалася царскаю.

З ходу калону падвялі да кухні. З галавы яе палонныя выцягваліся ў ланцужок, бралі са стала міскі і атрымлівалі баланду. Цяпер дадаткова стаяла яшчэ некалькі сталоў. На іх ляжалі акуратна раскладзеныя пайкі хлеба. Зверху на кожнай з іх відзён быў невялічкі даважак нейкай скаромніны. Непадалёк ад сталоў, здавалася, абыякава застыў, як укопаны, з кіем у руцэ камендантаў любімчык Гаўрык. На самой справе, як адразу ж выявілася, ён прытворна прыкідваўся і толькі чакаў зручнага выпадку. І вось трапілася магчымасць. Сярод палонных, якія выцягнуліся ў ланцужок з першага ці з другога раду калоны, быў Вадзімаў зямляк Румега. Калі ён падышоў да стала, яму, ма-

2 Зак. 2074

быць, здалося, што пайка, якую належыць браць па чарзе, меншая. Румега не разгубіўся — і спрытна хапіў іншую, з самага краю.

Гаўрык у адзін момант ёмка перахлябіў яго кіем па спіне, прыгаворваючы:

— Дахадзяга! Обер-шакал! Каб не перабоўталі, да катла не празявае... Яму тлусцей ды гусцей!

Ці сваіх слоў у лаянцы Гаўрыку не хапала, ці, каб падкрэсліць тое, каму служыць, ён дзеля акрасы казырнуў замежным, чужамоўным — «обер».

Ледзьве Янка, Вадзім і Тарас Перадавігорла з міскамі баланды і з пайкамі хлеба ўзабраліся на верхатуру і пачалі абедаць, як у барак увайшоў Румега, гучна абвяшчаючы сваё з'яўленне:

— Каму загнаць?! Мяняю хлеб на баланду! Каму? Налятай!

— Усё выгадуе... Зусім дайшоў, а ўсё выгадуе,— сам сабе, ні да каго не звяртаючыся, прамовіў дзядзька Тарас.

Хоць кожны з іх цяпер унурыўся ў сваю міску і, здавалася, заняты толькі самім сабою, бо, нарэшце, можна спакойна паесці, зручна размясціўшыся на нарах, Янка краёчкам вока заўважыў, што дзядзька Тарас не проста есць, а нібыта свяшчэннадзейнічае, не спяшаючыся, з годнасцю.

— Дзядзька Тарас, а што ён выгадвае? — спытаўся Янка.

— Дык гэта ён думае, што выгадуе. А на справе сам сябе ашукуе. Хлеб збывае, а кандзёрам пуза набівае. Хлеб усё-такі хлеб, хоць ён і сурагат нямецкі.

— Колькі яго тут? — пацікавіўся Янка, акуратна адломваючы край пайкі, на які ссунуў квадратную, як укарочаны пачак запалак, порцыю мармеладу.

— Хто яго ведае,— няўпэўнена адказаў дзядзька Тарас.— Стандартны бохан, раскроены на чацвярцінкі. Нікому не крыўдна. Кожнаму акраец са скарынкаю. Даўжэй можна пажаваць. Задавальненне прадоўжыш і голад заморыш.

Не паспеў Румега зрабіць свой тавараабмен, як у бараку з'явіўся Гаўрык. Ён пачуў словы Румегі, падышоў да яго, і яны, паразумеўшыся з першага погляду, пайшлі разам да выхаду.

— Зноў будзе лупцаваць? — насцярожыўся Янка.

— Яны выгадна старгаваліся: у паліцая і кандзёр

гусцейшы, і порцыя большая,— адказаў дзядзька Тарас.

— Ну іануча! Ні гонару, ні вартасці!..— абурыўся Вадзім, здзіўленым позіркам праводзячы іх да самага выхаду.

— Твой зямляк?..— не разумеючы, спытаўся Янка.

— Які ён мне зямляк?!

Янку стала няёмка, нібыта ён пакрыўдзіў Вадзіма. Каб як-небудзь згладзіць ніякаватае ўражанне, хлопец ненатуральна пажартаваў:

— Усё-такі ён не раўня майму земляку, камендант.

— Вот з такіх, як мой, і выходзяць такія, як твой...— з'едліва адрэзаў Вадзім.

«Беспадстаўна нельга гэтак сурова асуджваць чалавека»,— падумаў Янка, але змоўчаў.

Нечакана гэтае маўчанне парушыў Тарас.

— Іванка, які ён табе зямляк? Беларусы — скромны народ. А гэты вырадак — выхрыст.

— Чаму выхрыст?

— Дык ён жа сам публічна абвясціў пра гэта на апельпляцы.

— Калі?

— Як наша папаўненне прыгналі. Ён тады спытаў, ці е сярод нас яго землякі? Гаўрык адказаў, што ведае яго, што камендант — Якубаў Рыгорка з іх мястэчка. А ён — Гаўрылка, сын Тодара Шпака, якога арыштавалі ў трыццаць сёмым годзе. Вы, кажа, з бацькам сябравалі. Злыя языкі нашэптвалі, нібыта вы яго і пасадзілі. А камендант яму: «А як жа, знаю, памятаю твайго бацьку Фёдара, царства яму нябеснае... Але гэта ўсё балачкі. Далібог — і перахрысціўся. Грэх не вазьму на сваю душу. Бацькам табе буду. З гэтай пары ўсынаўляю цябе, Гаўрык. Толькі запомні: я не Якубаў Рыгорка... Што за імёны павыдумлялі? Рыгорка, Якуб, Тодар... Я — Грышка Якавін. Так і называй мяне: Грышка. А ты — Гаўрык.— «Дзякую, пане камендант!» — адказаў Гаўрык. Тады гэты выхрыст усынавіў Гаўрылку, перахрысціў яго на Гаўрыка і зрабіў паліцаем. Выхрыстам і чалавека забіць — усё роўна як перахрысціцца. Бацька прыдбаў сабе вартага сына. Яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца.

— Грышка Атрэп'еў!.. Самазванец! — з'едліва за-

значыў Вадзім і пасля кароткай паўзы ўдакладніў у Янкі, ці беларускія імёны Якуб, Рыгор і Тодар.

— Дзядзька Тарас, акрамя варыва ў абед заўсёды даюць да хлеба якую-небудзь скаромніну? — запытаўся Янка, даеўшы баланду і закусваючы рэшткай пайкі з мармеладам.

— Даюць, Іванка. Найчасцей павідла або штучны мёд. Зрэдку каўбасу, порцыю, нібы вялікі гузік.

У барак зноў прыйшоў Румега. На гэты раз ён ужо нічога не выкрыкваў, а моўчкі трымаў у руцэ сваю пайку.

— Не старгаваліся? — уголас спытаўся хтосьці з верхніх нараў.

— Дурняў шукае!.. Аддай яму хлеб за прафільтраваную баланду. А яшчэ паліцай!.. Сумлення ні на грош!

Мужчына з залысінамі над скронямі прапанаваў баланду. Румега боўтнуў лыжкаю ў місцы, правяраючы гушчыню, і ахвотна згадзіўся на абмен. Але мужчына раптам выявіў, што пайка ўжо ўкарочана, і з-пад носа ў Румегі забраў міску, упікнуўшы:

— Ты па дарозе адкроіў ад яе ладную лусту. Чаго вачмі лыпаеш?.. Не пачырванее нават... І ў цябе сумленне, як у таго паліцая.

— Я ж не паліцай... О, калі б я быў паліцаем!..— унурыўшы галаву, адказаў Румега.

— Дык што было б?..— пацікавіўся хтосьці з верхатуры.

— Не мяняў бы хлеб на баланду! — разгубіўшыся, злосна, але невыразна працадзіў скрозь зубы Румега і пашыбаваў далей.

«Як ён пачырванее, калі ў яго крыві няма? — спачуваючы, падумаў Янка. Потым сумеўся і ўсміхнуўся сам сабе: — Затое ў Гаўрыка крыві, як у вепрука. А от не чырванее таксама... Бессаромны».

Тым часам дзядзька Тарас пайшоў у другі барак праведаць земляка і панёс да кухні міскі суседзяў. Янка з Вадзімам разляглiся на нарах, адчуваючы ў целе стомленасць.

— На якім напрамку ты ваяваў? Дзе з табой здарылася гэтая аказія? — пасля некаторага маўчання, якое здалося Янку доўгім, спытаўся Вадзім.

— На Паўночна-Заходнім фронце. А ў палон трапіў на Волхаўскім.

— На Волхаўскім? — здзіўлена ажывіўся Вадзім.— У якім месцы?

— У Мясным Бары.

— Ух ты!.. А ў якіх войсках?

Калі Янка назваў нумар мінамётнага дывізіёна, узрушаны Вадзім падхапіўся і сеў на сваім месцы.

— Дык мы з табой не толькі суседзі па нарах, але і анёлы бога вайны.

— А я думаў, сябры па няшчасцю,— іранічна прамовіў Янка, задаволены тым, што, нарэшце, Вадзім таксама даведаўся, якім чынам хлопец трапіў у палон.

— Наш былы камандуючы яшчэ можа ашчасліваць нас. Там ён сваю армію разгубіў, а тут з палонных збірае новую пад свае сцягі. Былых сваіх салдат возьме з радасцю. Кітайскі ордэн яго не задавальняе. Хоча атрымаць яшчэ і нямецкі, з рук самога Гітлера. Атрымае жалезны крыж з дубовым вянком...

— Цяпер у яго рукі кароткія. Пад зямлю не дацягнуцца. Яго апярэдзілі Герберт з Фрэйвальдам і іх кампанія. Нас прадалі ім. Цяпер мы — іхняя ўласнасць.

У перасыльных лагерах Янка сустракаў пасланцоў свайго былога генерала. Дзе адны, а дзе разам з нямецкімі афіцэрамі яны вербавалі палонных у яго новую армію, на службу фюрэру. Янка саромеўся прызнавацца іншым, што ён ужо ваяваў пад камандаваннем гэтага генерала.

— Хай набірае такіх, як мой зямляк, камендант.

— Гэтыя ўжо знайшлі сабе занятак,— супакоіўшыся, сказаў Вадзім, зноў разлягаючыся на нарах.

— А пра які кітайскі ордэн ты гаварыў? — зацікавіўся Янка.

— Хіба ты не ведаеш?

Вадзім расказаў пра многае, чаго не чуў Янка. Пра тое, што іх былы камандуючы да вайны некалькі гадоў быў нашым ваенным саветнікам у Чан Кайшы і з рук апошняга атрымаў кітайскі ордэн.

Не сказаць, каб Янка ўсумніўся ва ўсім гэтым, але яго трохі насцярожыла тое, адкуль у Вадзіма такія звесткі.

Выявілася што іхнія дывізіёны адначасова фарміраваліся ў Маскве, у будынку акадэміі механізацыі і матарызацыі Чырвонай Арміі. Абодва яны ўспаміналі, як іх праводзіў на фронт з Яраслаўскага вакзала адзін з канструктараў «кацюш». Нават шчыра прызналіся,

што самі пабойваліся гэтых пякельных машын, як тады іх называлі. А канструктар, просты чалавек у кажушку, заспакойваў, наказваў даражыць снарадамі, у якіх быў увесь сакрэт, бо яны выраблялiся саматугам, нібы гадзіннікавыя механізмы.

Аказалася, што і Вадзімаў дывізіён таксама ўдзельнічаў у прарыве акружэння, з якога яны вырваліся памятнаю зімою. Лежачы на нарах, абодва ўспаміналі той час, выказвалі адзін аднаму недаўменне, чаму нельга было паўтарыць такі манёўр пры другім акружэнні, улетку. Навошта спатрэбілася ўзрываць «кацюшы» і снарады, а самім з вінтоўкамі ў руках ісці на прарыў, які закончыўся трагічна?

— Калі цябе захапілі ў палон, пыталіся з якой ты часці?

— Ага.

— А што ты адказаў?

— Пабаяўся называць часць. Сказаў, што з мінамётнага палка, які стаяў паблізу.

Вадзім засмяяўся. Пасля даверліва прызнаўся, што ён не толькі не назваў немцам сваёй часці, але і не сказаў, што ён — лейтэнант. Вадзім камандаваў батарэяй «кацюш».

— А як жа ты не трапіў у афіцэрскі лагер палонных? — здзівіўся Янка.

Вадзім нічога не адказаў, толькі таямніча засланіў пальцамі губы, а потым памацаў абстрыжаныя валасы.

«Не дапамаглі ні боязь, ні хітрасць. Усё роўна трапілі ў пекла. Відаць, такі лёс. Вадзім хоць яшчэ на паверхні. А мяне загналі туды, куды Макар цялят не ганяе»,— думаў Янка.

— Трэба ўцякаць,— раптам шэптам абарваў ягоныя думкі Вадзім.

Янка не ведаў, як можна ўцячы з-пад зямлі. На паверхні прасцей. Інтуіцыя падказвала, што Вадзіму трэба давяраць. У душы зачаплілася спадзяванне, надзея на паратунак.

## 4

На наступным ранішнім пастраенні не было асаблівых эксцэсаў, калі не лічыць таго, што камендант трохі зачапіў па Янкавай спіне канцом сваёй шаблі. Без клункаў са спяцоўкамі Вадзім з Янкам

ужо не адчувалі сябе як наўючаныя вярблюды, а былі паваротлівыя і жвавейшыя. Вадзім, своечасова сарыентаваўшыся, зручна прашмыгнуў у сярэднія рады, калі тыя не паспелі яшчэ выцягнуцца доўгім хвастом калоны. А кій, якім Гаўрык спаганяў злосць на Румегу за няўдалы тавараабмен, затрымаў Янку, перагарадзіўшы яму шлях. Таму камендант канцом шаблі дастаў па хлопцавай спіне. Але ўдар быў слабы. Камлюкаваты, як цяльпук, Грышка, відаць, не асвойтаўся з шабляю і, баючыся паласнуць лязом, яшчэ не навучыўся ёмка біць плазам. Чужы тонкі шынель не зменшыў бы сілу ўдару, як магло зменшыць тоўстае айчыннае сукно.

Янка доўга не мог прывыкнуць да гэтай апранахі, якую, калі пахаладала, выдалі ў перасыльным лагеры. Спякотным летнім днём яны былі захоплены ў палон у гімнасцёрках. На плячах іх немцы наспех паставілі алейнай фарбаю кляймо «krg». Янкава гімнасцёрка выліняла ад поту і солі, а потым і зусім разлезлася на спіне. Восенню ў перасыльным лагеры іх, як галадранцаў, апранулі ў чужыя шынялі: чэшскія, югаслаўскія, галандскія, бельгійскія, французскія. Мабыць, да пары да часу яны ляжалі на нямецкіх складах. На плячах шынялёў чамусьці паставілі ўжо кляймо «SU», напэўна, каб падкрэсліць, менавіта чые гэта палонныя, што іх трэба пабойвацца і пільней ахоўваць. Гімнасцёрку і штаны Янку замянілі тады на цёмна-зялёны фрэнч з нашыўнымі кішэнямі на грудзях і на баках і на штаны-клёш такога ж колеру. Ніхто не ведаў, чыёй арміі гэтая форма. А замест шыняля хлопцу дасталася светла-блакітная апранаха з бліскучымі металічнымі гузікамі. Крыўдна было насіць не свой, а невядома чый шынель: адны казалі, што ён бельгійскі, другія пераконвалі, што — французскі. Дый, акрамя таго, адзеты ў гэтую лёгкую, каляровую вопратку, хлопец адчуваў яшчэ дзве нязручнасці. Па-першае, у ёй было халаднавата. Па-другое, яна занадта прыкметная: дзе трэба і дзе не трэба, ты заўсёды навідавоку. І ў перасыльным лагеры, і ў шталагу людзей у такіх шынялях было вельмі мала, а сюды іх трапіла ўсяго дзесяткі два. Большасць палонных тут апранута ў чырвонаармейскія шынялі.

Кажуць, чалавек да ўсяго прывыкае. А ў няволі, дый яшчэ на чужыне ён вымушаны прывыкаць. Пры-

выкаў Янка і да лёгкага шыняля. Праўда, у ім у мяккіх кліматычных умовах не холадна. Затое тут, на чужыне, гэты шынель выклікае асацыяцыі, якія нагадваюць пра далёкія родныя мясціны, што робяцца блізкія-блізкія. Асабліва такое пачуццё авалодвае ім тады, калі хлопец валачэцца ў хвасце і, як відно яму, цыбатаму, акідвае ўсіх спераду самотным позіркам. Рухомая калона нагадвае палосу жыта, якое ледзьледзь хістаецца ад павеву лагоднага ветрыку. У адных мясцінах яно яшчэ толькі красуе, у другіх ужо запалавела, у трэціх — даспявае. Сям-там мільгаюць у ім выцвілыя ад сонца валошкі. Гэта злёгку пагойдваюцца разнамасныя шынялі разнастайных адценняў: шэрага, зеленаватага, жаўтлявага, сярод якіх пракідваюцца светла-блакітныя.

А цяпер у раздзявалцы Янка ўявіў свет, перакулены ўверх нагамі. Толькі яны адзелі спяцоўкі і паднялі ўгору сваё адзенне, як немец забраў Вадзіма. Янка зірнуў на суседзяў, слізгануў позіркам па драцяной сетцы, задраўшы ўверх галаву, прыгледзеўся да столі з вешалкамі. Яна здавалася шырокім жытнёвым полем з рэдкімі пабляклымі валошкамі. Над ім палонных падвесілі ў вялізнай клетцы, як жаваранкаў або тых канарэек, пра якія штосьці намякаў Фрэйвальд.

Уражаны гэтым нязвычным уяўленнем, Янка, як загіпнатызаваны, адзін валачыўся за купкаю палонных, пакуль не апынуўся перад падаконнікам, на які мінулы раз тры жанчыны выстаўлялі запаленыя лямпы. Цяпер ён нічога не паспеў разгледзець, бо перад ім за акном, як прывід, узнікла мілавіднае стварэнне з бялявым абліччам, якое нагадала кагосьці вельмі знаёмага і блізкага-блізкага. Ці то ў Янкі ў гэты момант быў такі выгляд, які імгненна прыцягнуў яе ўвагу, ці то яна асляпіла яго сваёй прыгажосцю, але яны нібы ўзаемна загіпнатызавалі адно аднаго. Напэўна, гэтак бывае ў магнітным полі паміж двума прадметамі на такой адлегласці, калі яны яшчэ не здольны прыцягнуць адзін аднаго, але ўжо ўзаемна трымаюць сябе сілавымі лініямі.

Замест таго каб паставіць на падаконнік наступную запаленую лямпу, дзяўчына борздзенька запаліла перад сабою на стале адну, другую, трэцюю, нібы выбіраючы ярчэйшую, і, нарэшце, выбраўшы, спачатку

рупліва працерла яе анучкаю, а потым асцярожна-асцярожна перадала ў хлопцавы рукі.

Яна запаліла і перадала, а ён узяў з рук у рукі і, здаецца, усёю істотаю адчуў цеплыню агеньчыка. Нават не паварочваў каўпачок, як рабілі некаторыя, правяраючы, ці нармальна лямпа выключаецца і ўключаецца: баяўся, што, патушыўшы агеньчык, не пачуе болей цеплыні, якую перадала яму дзяўчына. Ідучы побач з палоннымі па калідоры, ён паглядаў на іхнія лямпы і параўноўваў іх са сваёю. Ягоная была ярчэйшая. А калі выйшаў з клеці, не разумеў, ці гэта цеплыня ад агеньчыка разлілася па ягоным целе, ці гэта яго ўсяго, як параю з лазні, абдало нагрэтым паветрам падзямелля. Толькі на момант з гэтага стану яго вывеў штайгер, які прызначыў Янку падручным нейкаму здаравяку Хольцу. Хлопец выразна пачуў выкрыкнутае штайгерам прозвішча. Ахоплены трапяткім пачуццём і заняты сам сабою, не стаў разглядаць Хольца, а, ідучы ўслед за іншымі, нават не цікавіўся, дзе той крочыць.

Пад зямлёю людская плынь ручаінамі пастунова расцяклася па разгалінаваных лабірынтах. У змрочным штрэку, заўважыўшы, што купка палонных засталася далекавата ззаду, а Хольц уперадзе знік за цяжкімі металічнымі дзвярамі, хлопец наўмысна пачаў валаводзіцца перад імі, быццам не ведаючы, як яны адчыняюцца. Яму хацелася адстаць ад немца. Не дачакаўшыся падручнага, Хольц вярнуўся і пацягнуў за фортку. Праз яе хлынула тугая паветраная хваля. Перад Янкавым носам немец адчыніў дзверы.

— Чаго валаводзіш?! Пара ўжо ведаць, як адчыняюцца гэтыя дзверы! — па-нямецку прачытаў ён кароткую натацыю, прапусціў хлопца наперад і рушыў за ім услед.

Янка па-ранейшаму не звярнуў увагі на тое, колькі яны ішлі па цёмных лабірынтах, і сваім позіркам, які абыякава блукаў навокала, не разглядзеў ні сцен, ні скляпення ў сутарэнні.

А гэта, відаць, не спадабалася Хольцу. Маўляў, нейкі лядашчы палонны, якога ён абавязаны навучыць шахцёрскай справе і які павінен быць удзячны яму, Хольцу, нават і вухам не шманае, не звяртае на яго, здаравяка, ніякае ўвагі.

— Зварочвай сюды! — не вытрымаўшы, па-нямецку загадаў ён сваім басам.

Толькі тады, калі Янка пачуў за спінаю валявы загад і ўбачыў у сцяне калідора праломленую адтуліну, праз якую трэба было лезці ў падземную нару, ён зразумеў, што Хольц зараз ішоў неадступна за ім услед. Хлопец і сам палез бы ў гэтую дзюрку, бо далей міма яе наперадзе ўжо ніхто не крочыў. Таму ён ледзьве стрымаўся, каб не агрызнуцца, але, своечасова схамянуўшыся, толькі канстатаваў у думках: «Адразу відно, што табе хочацца камандаваць, чалавеча».

— Дзе твой інструмент? — зноў прагучаў за спінаю глухаваты Хольцаў бас, калі яны, згорбіўшыся, адзін за адным пайшлі па нахілу падземнае нары.

Янка нічога не адказаў, а толькі паціснуў плячамі ды кіўнуў галавою наперад: маўляў, хто яго ведае, дзесьці там. Але, калі прайшлі яшчэ далей, мінаючы на шляху постаці іншых шахцёраў і палонных, насустрач пачуўся знаёмы голас:

— Глюкаўф, Жан! — і, быццам шахцёрская лямпа, у прыцемку засвяціўся твар Гільро.

Янка ўсміхнуўся і моўчкі павітаў яго паднятаю ўгору леваю рукою, так, як мінулым разам сам Гільро вітаў каля клеці Тадэвуша.

— Дзе яго інструмент? — непрыязна спытаўся панямецку змрочны Хольц.

— Вунь там,— незалежна трымаючыся, па-нямецку адказаў Гільро і паказаў рукою пад рышток транспарцёра.

— Забірай! — узарваўся Хольц.

Хлопец дастаў з-пад жолаба ўвесь шахцёрскі рыштунак. Неспрактыкаваны, Янка спачатку надзеў цераз галаву на плячо згорнуты тоўстым колам шланг, потым паспрабаваў такім жа чынам надзець на другое плячо пілу, але яе лязо і выгнутая ручка на яго не налазілі. Хлопец разгубіўся, паклаў на дол пілу і пачаў здымаць з сябе шланг.

— Шнэль! Лёс! — нецярпліва падганяў Хольц.

У гэты час затарахцеў транспарцёр і на выручку прыйшоў Гільро. Ён прыставіў да сваіх каленяў увесь Янкаў рыштунак і далей ад сябе, супраць руху транспарцёра, спачатку хуценька паклаў на жолаб кірку з рыдлёўкаю і пілою, а за імі — шланг з адбойным ма-

латком і потым злёгку падштурхнуў Янку рукою ў спіну: маўляў, сам ідзі побач з інструментам.

Хлопец ступіў пару крокаў, павярнуў галаву і ветліва кіўнуў ёю Гільро, які, усміхаючыся, глядзеў яму ўслед. Толькі цяпер Янка заўважыў побач з ім новага падручнага з палонных і ў думках яму пазайздросціў. Хольц, напэўна, раззлаваўся на Гільро, што той не даў яму, здаравяку, пацешыцца, як гэты лядашчы палонны будзе валачыць на сабе адбойны малаток са шлангам, пілу, кірку і рыдлёўку.

Янка ішоў з такім адчуваннем, як быццам услед за ім гоняцца. Час ад часу сабою засланяў сваю лямпу і, скасавурыўшыся, бачыў, як святло ад Хольцавай неадступна паўзе ўслед па вугальнай сценцы. А калі прыйшлі на рабочае месца, ледзь паспеў хлопец зняць свой рыштунак, як Хольц загадаў яму вылоўліваць з транспарцёра лесаматэрыял.

«Ён хоча ўзяць мяне зморам»,— падумаў Янка. Некалі ў перасыльным лагеры сусед, з якім іх паставілі аднойчы нарыхтоўваць дровы на кухню, жартам прапанаваў хлопцу «пілаваць па-польску». Разгублены Янка прызнаўся, што не ведае, як пілаваць папольску.

— Варушыся дзеля блізіру. Толькі паказвай выгляд, што нешта робіш,— растлумачыў напарнік.

Не спяшаючыся, яны ўскладалі на сталюгу лясіну і ледзь-ледзь цягалі адзін ад аднаго пілу.

Цяпер хлопец павольна вылоўліваў са дна рыштока і то перакульваў цераз яго край сабе пад ногі, то выцягваў і адкідаў да вугальнай сценкі бярвенцы і плашкі, крадком паглядаючы, як тое ж самае робіць Хольц. Янка не ведаў, якую колькасць іх трэба браць, таму вылоўліваў і адкідаў да таго часу, пакуль Хольц раззлавана закрычаў: «Генуг!»

Немец адразу ж адвёў Янку крокаў на пятнаццаць ніжэй па нахілу і паказаў адзнаку, ад якой хлопец, выбіраючы вугаль, павінен рухацца яму насустрач. Пачакаў, пакуль Янка перанёс свой рыштунак, прыкруціў да адростка трубы вольны канец шланга і ўзяў у рукі адбойны малаток. Як толькі хлопец загрукатаў, наўскасяк паглыбляючыся вастрыём у вугальную сценку, Хольц пайшоў на сваё месца.

Калі да гэтага з-пад снегавой адчужанасці агалялася жыватворная глеба для ўсходу зярнят узаемнай

непрыязнасці, дык цяпер адкрыта пачынаўся зацяты паядынак на вытрымку нерваў.

Бо адна справа пілаваць дровы на кухню, дзе ніхто асабліва не сочыць, як пілуеш, дый не ўяўляе, колькі можна напілаваць іх за дзень, і зусім іншая справа — здабываць у забоі вугаль, дзе кожнаму адмяраецца пэўны ўчастак, які шахцёр павінен адбойным малатком і кіркаю адваліць ад сценкі і шуфлем перакідаць на транспарцёр.

Спачатку Янка адколваў тонкія вугальныя скрылі, паволі паглыбляючы ў сценцы вузкую пячурку і разпораз кідаючы позіркі на столь, баючыся, як бы яна не абвалілася ды не пахавала яго ў падзямеллі. У хлопца не выходзіў з галавы палонны, якому ў дзённай змене абвалам раструшчыла абедзве нагі. Ён таксама быў з іхняга папаўнення. Небараку з шахты нават не прывезлі ў лагер. Куды ж яны яго запраторылі? У Германіі хлеба ў абрэз. Не стануць жа немцы карміць чужых калекаў, калі хапае сваіх з фронту. Янку чамусьці ўявілася, як гэты няшчасны нявольнік, пераадольваючы боль і стому, на руках імкнецца дапаўзці да радзімы. Калі яны здаровых расстрэльваюць, дык калеку адгэтуль не выпусцяць жывога. Вядома, пакалечыла яго па нявопытнасці. Праўда, Арсень расказваў, што нібыта некаторыя палонныя, знясіленыя і даведзеныя да адчаю, самі прадбачліва хаваюць сябе жыўцом у падзямеллі. Хлопец да гэтага аднёсся з недаверам. Яму самому хочацца жыць, таму ён і не ўяўляе, якім чынам іншы можа налажыць на сябе рукі.

У палахлівым чаканні марудна поўз час. Пячурка паглыблялася і паглыблялася. Калі яна ператварылася ў нішу глыбінёю на даўжыню плашкі, Янка прыклаў апошнюю да столі, паставіўшы знізу наўскасяк кол, і адмераў яго вышыню. Якраз у той час, як ён адпілаваў лішку кала і абухам кіркі пачаў забіваць пад сярэдзіну плашкі, у праходзе з'явіўся Хольц. Панаглядаўшы за Янкам і ўпэўніўшыся, што хлопец ведае азы шахцёрскае справы, ён спакойна пашыбаваў на сваё рабочае месца. А хлопец тым часам замест таго, каб пашыраць далей нішу, выбіраючы вугальны пласт, для надзейнай бяспекі пачаў трывала мацаваць столь. Па чарзе паставіўшы адно за адным, ён адмераў даўжыню двух бярвенцаў, адпілаваў лішак, а іх падбіў з двух канцоў пад плашку, з-пад яе сярэдзіны выбіўшы кол,

і на яго месца заціснуў крук сваёй лямпы. Падвешаная ўгары, яна лепей, чым пастаўленая на доле, асвятляла столь, выдзеўбаную ў сценцы нішу і жолаб транспарцёра.

Ці таму, што Янка трохі паспакайнеў, умацаваўшы навіслую над сабою каменную глыбу, ці таму, што лямпа вісела бліжэй да ягоных вачэй, але хлопцу здавалася, што яе агеньчык ззяе яшчэ ярчэй. Ён асабліва перакананаўся ў гэтым, калі паглядзеў у бок Хольца. Лямпа таго нібы скрозь вугальны пыл цьмяна свяцілася ў прыцемку падземнае нары. Прыжмурыўшы павекі, хлопец зноў паглядзеў на зыркі агеньчык сваёй лямпы і ўспомніў дзяўчыну, якая запаліла яе і перадала яму з рук у рукі. Можа, таму, што ён увагрэўся ў цёплай нары, таропка адпілоўваючы, а потым забіваючы пад плашку спачатку кол, а пасля — два бярвенцы, на душы ў яго таксама пацяплела. Шуфлем ён адкідаў на транспарцёр вугаль, які замінаў пад нагамі, і зноў узяў у рукі адбойны малаток. Раптам яму захацелася ўспомніць аблічча дзяўчыны. Але як ні намагаўся ў думках, не мог яе ўявіць. Нават пачаў крыўдаваць на сябе за сваю неназіральнасць і няўважлівасць. Паступова крыўда перарастала ў злосць. Ён злаваў на сябе самога і на сваіх ворагаў. «Яшчэ невядома, чый верх, хто пераможа... Вы абхітрылі, узялі ў палон і адабралі з рук зброю, пазбавіўшы магчымасці змагацца супраць вас... Ну што ж, трымайце ў лагеры палонных... Але вы хочаце прымусіць, каб мы сваёю працаю памагалі вам каваць перамогу?..»

Янка схаваўся ў нішы, як у надзейным акопе, і загрукатаў ухаластую адбойным малатком, то насторч заганяючы ягонае вастрыё ў вугальныя тоўшчы, то выцягваючы назад, як толькі яно закліноўвалася. Так захапіўся, што зрашаціў перад сабою ўсю глыбу, нібы буйнакаліберннымі кулямі. Схамянуўшыся, успомніў пра Хольца і, з асцярогаю выглядаючы ў яго бок з-за вугла нішы, пачаў гэткім жа чынам ухаластую свідраваць самы край выступу. Калі ён увесь дарэшты быў таксама зрашэчаны, хлопцу нічога іншага не заставалася, як выйсці на праход і хоць дзеля выгляду, што ён нешта робіць, патрошку зразаць вугал. Ён выйшаў з нішы, не спяшаючыся адваліў на дол некалькі тонкіх скрылёў і паглядзеў у бок Хольца. Таго не было відно на праходзе. У святле, што выпраменьвалася з

выдзеўбанай Хольцам пячоры, ледзь пагойдваўся цень ды даносіўся глухаваты стук адбойнага малатка. Янка зразумеў, што Хольц увішна займаецца справаю. Хлопец асмялеў і зноў ухаластую загрукатаў малатком, свідруючы яго вастрыём вонкавы край выступу і час ад часу касавурачыся ў бок Хольцавай пячоры.

Яму ўявілася запрэжаная ў калёсы пара коней, што імчацца рыссю. Той, які прыпрэжаны збоку, на хаду хітравата касавурыцца на каранніка, а сам паслабіў пастронкі і не цягне воз, пакуль фурман не падхвасне пугаю. Вось гэтак і сам ён цяпер хітра касавурыцца ў бок Хольца, пакуль яго не падхвасне штайгер ці памочнік.

Мінаў час. Хлопец варушыўся, нават затрачваў сілу, а выніку працы не было відно.

Але ці таму, што сама па сабе столь у забоі была нетрывалая, ці таму, што ад празмернага грукату і вібрацыі вугальныя глыбы ў нішы расслаіліся, калі Янка ўторкнуў вастрыё малатка ўгары выступу, раптам увесь яго вугал, як узарваны выбухам, пачаў павольна адколвацца, асядаць і разам з ладным плоскім кавалкам столі грымнуў на дол. Перапалоханы, хлопец ледзьве паспеў адскочыць убок. Сэрца ў грудзях, здаецца, спынілася, нібы адбойны малаток, што раптоўна заціх у руках. Скрозь пыл, якім завалакло нішу, цьмяна свяціўся агеньчык лямпы. Янку зрабілася страшна. Ён спалохаўся не толькі за сябе. Здалося, што столь над нішаю таксама абваліцца і цьмяны агеньчык патухне. Гэты страх развеяў Хольц, які, як здань, з'явіўся побач.

— Пад капу стаўляй шпіцу! — па-нямецку закрычаў ён над вухам. Нічога не разумеючы, хлопец стаяў разгублены, глядзеў на яго шырока расплюшчанымі вачамі. Ён не ведаў, што такое капа і шпіца.

— Стаўляй шпіцу і штэмпелі! — зноў загадаў па-нямецку Хольц.

— Шапо, паль? — здагадаўшыся, перапытаўся хлопец, якога навучыў гэтым назвам Гільро.

— Капэ! Шпіцэ! Штэмпель! — крычаў раззлаваны Хольц.

Янка разумеў, што Хольц хвалюецца не за яго. Немцу няма ніякае справы да палоннага. Хольц баіцца, што ўсё скляпенне ў гэтым месцы абваліцца, наглуха закаркуе падземную нару і спыніць транспар-

цёр. Хлопец спалохаўся не на жарт. Раптам яму ўявілася, як яго самога жыўцом пахавае пад сабою груවасткая тоўшча. Ён мог на радзіме загінуць у бітве, прарываючыся з акружэння. Але не загінуў, уцалеў. Яму не хацелася гінуць на чужыне, у змрочным падзямеллі.

Хлопец наспех прысланіў да вугальнай сценкі свой малаток. Рукі ў яго дрыжалі. Леваю ён схапіў плашку, а праваю — кол. Плашку прыклаў да столі, як паказаў Хольц, а кол наўскасяк падпёр знізу, мераючы яго вышыню. Потым, палахліва паглядаючы на столь, скочыў убок, паклаў на дол плашку і, спяшаючыся, адпілаваў лішак кала. Пасля зноў схапіў плашку, прыклаў да столі і пад яе сярэдзіну абухам кіркі таропка падбіў кол.

Абодва яны трохі паспакайнелі. Пыл у нішы асеў. З-пад столі зноў зырка свяціў агеньчык лямпы. Пакуль вымяраў даўжыню двух бярвенцаў і адпілоўваў лішак, Хольц увайшоў у нішу, каб паглядзець, што зрабіў хлопец. Магчыма, ён і не звярнуў бы ўвагі на тое, што ніша малая і з яе падэшвы не выкіданы на транспарцёр вугаль. Маўляў, палонны яшчэ не мае вопыту, толькі вучыцца шахцёрскай справе, а вугаль на доле — з абваленага выступу.

Але, калі Хольц прыгледзеўся да вугальных тоўшчаў, глыбока зрашэчаных вастрыём адбойнага малатка, здаравяк спачатку аслупянеў ад здзіўлення, а потым затупаў нагамі і нема зароў:

— Зімулірэр! Заботажэ! [1]

Нават не ведаючы нямецкай мовы, Янка зразумеў бы сэнс гэтых слоў. Моўчкі падбіваючы пад канец плашкі бярвенца, ён насцярожана, крайком кідаў позіркі на Хольца, на ўсялякі выпадак ямчэй сціскаючы ў руках дзяржак кіркі, каб, калі што якое — абараняцца. Невядома, як павярнулася б справа, калі б нечакана не спынілася тарахценне транспарцёра і ў абодвух канцах падземнай нары не заціхнуў стук адбойных малаткоў.

З кішэнькі Хольц таропка выцягнуў за ланцужок цыбуліну гадзінніка, зірнуў на цыферблат, здзіўлена, невядома каму прамовіў «абед» і, незадаволены, пайшоў на сваё месца.

---

[1] Сімулянт! Сабатаж!

Янка падбіў пад вольны канец плашкі другое бярвенца, дзеля надзейнай бяспекі нават не стаў выбіваць кол, а сеў насупраць сваёй нішы, зручна прымасціўшыся на рыштоку.

«От табе і брат па класу! — з прыкрасцю падумаў ён.— Як выходзіць на паверку, дык дзе ж тое братэрства, пра якое нам пратрубілі вушы? Няўжо яно існуе толькі тэарэтычна? А мы, наіўныя, на яго спадзяваліся...»

Хлопец думаў, што Хольц прымусіць яго працаваць у абедзенны перапынак, а сам будзе палуднаваць, схаваўшыся ў сваёй пячоры. А той таксама выйшаў і ўсеўся на рыштоку са скруткам і біклагаю ў руках. Паколькі ён выйшаў непадалёк, Янка зразумеў, што Хольцава ніша ператварылася ў галерэю і значна падоўжылася. Немец не звяртаў ніякае ўвагі на палоннага, нібыта яго і не было паблізу. Хлопец таксама стараўся не глядзець у той бок, але да слыху данеслася шамаценне паперы, у якую былі загорнуты бутэрброды. Можа, Хольц наўмысна ўсеўся навідавоку, каб дражніць галоднага хлопца, распальваючы ягоны апетыт. Палонным жа давалі абед пасля вяртання з шахты ў лагер. Янку даўно хацелася есці. Цяпер ён толькі глытаў сліну і адчуваў, што ў жываце падцягнула кішкі. Не вытрымаўшы, хлопец устаў і перайшоў у сваю нішу, дзе прымасціўся на глыбе вугалю, каб не чуць і не бачыць, як Хольц палуднуе. А каб як-небудзь адагнаць думкі пра голад ці хоць трошкі развеяцца, ён абыякавым позіркам пачаў ляніва блукаць па сценах сваёй пячуркі і па абваленых глыбах на доле. Слізгануў па плашцы, па калу, па бярвенцах, якімі толькі што ўмацаваў абваленую лапіну столі, і ўсміхнуўся сам сабе. Хольц крычаў яму: «Капа, шпіца, штэмпель», а ён не разумеў, што гэта такое. Здзівіўся, як аднолькавыя па гучанні словы часамі набываюць зусім іншы сэнс у розных мовах.

Прыгадалася, што ў маленстве сястра называла «капаю» посцілку, якой засцілала ложак. Бывала, маці з воўны вязала спіцамі рукавіцы. На спіцах трымаўся вобад у кола фурманкі ці веласіпеда. Квадратны штэмпель з назваю калгаса заўсёды стаяў на чарнільнай падушцы, на стале ў канторы, што была ў іхняй хаце.

Можа, таму ў іх заўсёды бавіўся ягоны сябар, су-

седскі Уладзік, хлапчук з прыгожым, каліграфічным почыркам. Бывала, Уладзіка хлебам не кармі, а толькі дай яму распісацца. Калі ішоў на полудзень ці часам адлучаўся з канторы рахункавод, кульгавы дзядзька Лявон — большай радасці хлапчуку не было. Уладзік падсядаў да стала, засланага тоўстай блакітнаю паперαю — і то ставіў на ёй штэмпель і на ім распісваўся, то распісваўся і на подпісу ставіў штэмпель. На вялізным аркушы настольнай паперы густа красаваліся знакі штэмпеля і Уладзікавы подпісы. Дабрадушны дзядзька Лявон, чухаючы патыліцу, аднойчы сказаў Уладзіку:

— Табе, хлопец, з такім почыркам толькі пісарам быць або на грашах распісвацца.

Як у ваду глядзеў калгасны рахункавод. Уладзіку сапраўды суджана было мець справу з грашыма. Ён скончыў фінансавы тэхнікум і стаў галоўным бухгалтарам раённага банка.

Дзе цяпер Уладзік? На чым ён распісваецца?

А тут і распісвацца не трэба. Як кажа Вадзім, замест роспісу можна ставіць птушачку ці крыжык. Людзі не маюць прозвішчаў. Пад гімнасцёркамі на шыі носяць металічныя жэтоны з нумарамі. Адны як жывёлы, другія як звяры. Затое ўмеюць распісвацца шабляю ды кіем, як гэтыя землякі Грышка з Гаўрыкам. Што яны рабілі дома?

З-за выступу пачулася нямецкая гаворка. Янка прыслухаўся.

— Яны абавязаны працаваць. Я за яго рабіць не буду!

— Ён будзе працаваць. Хай толькі навучыцца трымаць у руках адбойны малаток.

— Яны ўсе сімулянты і сабатажнікі. Расстаўляйце іх асобна ад нас. Хай прывыкаюць працаваць самі за сябе.

Знаёмым басам гаварыў Хольц. А хто размаўляў з Хольцам, хлопец не ведаў. Але ў злавеснай цішыні пачуўся шоргат крокаў і з-за выступу сноп зыркага святла слізгануў спачатку па сцяне нішы, потым ярка асвяціў на доле абвалены вугаль і на ім Янку. Перад нішаю стаяў штайгер, на грудзях злёгку кратаючы рукою пражэктарную лямпу, промні якой слізгалі па сценах і па столі.

— Чаму так мала зроблена? — спакойна запытаўся ён па-нямецку, асляпляючы Янку снопам святла.

Хлопец прыплюшчыў павекі і маўчаў.

— Як жэрці дык можаш, а як працаваць дык не ўмееш? — дапытваўся штайгер, павысіўшы голас. Але, відаць, разумеў, што ніякага адказу не атрымае.

— Шнэль! Тэмпо! — загадаў ён і рушыў далей уніз па нахілу нары.

«Пайшоў, каб не псаваць сабе нерваў. Калі б не абедзенны перапынак, ён падняў бы мяне, прымусіўшы працаваць... Нямецкая акуратнасць».

У канцы дня штайгер перакінуў аднекуль двух пажылых шахцёраў, якія выбралі вугальны выступ, што заставаўся паміж Хольцавай галерэяй і Янкавай нішаю. Янка маўчаў, і яны таксама не сказалі ніводнага слова.

Пасля змены, калі шахцёры і палонныя расцягнуліся па падземным калідоры, Хольц незадаволена чмыхнуў, абмінаючы Янку і не звяртаючы на яго ўвагі. Але хлопец прыкмеціў, як немец на хаду рукавом незанятае рукі працёр на лацкане пінжака маленькі круглы значок са свастыкаю.

«Ну й боўдзіла!.. У падземную нару на спяцоўку начапіў партыйны значок! Чаго добрага, можа, яшчэ ззаду на сцягне тушшу вытатуіраваў свастыку...»

Янка цягнуўся, адчуваў вагу акумулятарнай лямпы і час ад часу браў яе крук то адною, то другою рукою. Ён забыўся на голад і на стому. У думках яго не пакідала дзяўчына з лямпавай. Як ні намагаўся, ніяк не мог успомніць яе аблічча. Яму хацелася хутчэй уважліва паглядзець на яе, каб не толькі прыгадаць, але і запомніць дзявочы твар.

А што, калі цяпер яна яго не пазнае? Ён жа ўвесь замурзаны, брудны. Мабыць, і ў яго, як і ў іншых, твар таксама запэцканы вугальным пылам. Прыгадаўся выгляд камінараў, што лазілі па дахах вакол каміноў. На плячах яны насілі скруткі вяровак, а ў руках трымалі густыя драцяныя мяцёлкі з грузілам. Дык камінары ж хоць у каміны не залазяць. А палонныя поўзаюць у падземных норах, нібы ў камінах, са скручанымі шлангамі на плячах і з акумулятарнымі лямпамі ў руках.

Раптам тут, у падзямеллі, яму, як грэшніку ў пекле, дзяўчына з лямпавай здалася недасяжным анёлам.

Але калісьці ён чуў, што анёлы лунаюць у нябёсах. Ім няма ніякай справы да грэшнікаў у пекле. А дзяўчына ж на зямлі. Яна звярнула на яго ўвагу. Сама выбрала яму і перадала з рук у рукі лампаду, якая ярчэй, чым у іншых, асвятляе пекла. Беручы ў другую руку крук лямпы, хлопец уважліва паглядзеў на яе агеньчык, правяраючы, ці па-ранейшаму ярка ён свеціцца.

Пакуль Янка валачыўся ў людской гурме, якая на дзесяткі метраў расцягнулася па змрочным калідоры, у ягонай галаве канчаткова склаўся план далейшых дзеянняў. Яшчэ загадзя, як толькі яны адзін за адным вылазілі з нары ў калідор, Янка незаўважна развязаў шнуркі абодвух чаравікаў. Ён ужо ведаў, што пры пад'ёме і пры спуску галоўнай двухпавярховай клеццю шахцёры ўваходзяць у яе з аднаго боку, а выходзяць — з другога. Таму ён, вычакаўшы момант, адным з апошніх сігануў у клець, з якой павінны выходзіць у другую чаргу. А падняўшыся на паверхню і выйшаўшы з клеці, нагнуўся і затрымаўся, завязваючы шнуркі чаравікаў. Такім чынам ён адстаў ад іншых і замыкаў шэсце. З наступных клецяў людзі будуць ісці праз некаторы інтэрвал.

Чым бліжэй хлопец падыходзіў да лямпавай, тым мацней у яго білася сэрца. За рэбрамі яно трапятала ўсё часцей і часцей, як напалоханая птушка, якая, выбіваючыся з сіл, дарэмна намагаецца вырвацца з клеткі. Метраў за пяць перад акном ён наўмысна запаволіў крок, каб не наступаць на пяты пярэднім, якія, збіўшыся купкаю, адзін за адным ставілі лямпы на падаконнік, і асцярожна азірнуўся, каб не выклікаць падазрэння сваім адставаннем і ўпэўніцца, што ззаду нікога няма. Разлічыў хлопец дакладна. Падышоў ён да лямпавай у той момант, калі апошні перад ім палонны паставіў лямпу на падаконнік і адыходзіў.

Сярод трох жанчын у праёме акна бліжэйшай да яго была яе постаць. Відаць, дзяўчына яго чакала. Бо якраз у тое імгненне, як ён з'явіўся перад ёю, яна хацела ўзяць лямпу з падаконніка, але, калі ўбачыла Янку, разгублена апусціла працягнутую руку. Замест таго каб, трымаючы за крук, ставіць лямпу на падаконнік, хлопец узяў яе правай рукою за каўпачок, а левою — за дно і працягнуў дзяўчыне. Яна быццам чакала гэтага. Бо таксама працягнула насустрач абедзве рукі, беручы лямпу. Амаль адначасова ў паль-

цах ягонай левай апынуліся пальцы яе правай, а пальцы ягонай правай абхапілі і паціснулі пальцы яе левай рукі. Ці таму, што абое яны былі як наэлектрызаваныя, ці таму, што як плюсы і мінусы злучыліся іхнія рукі, па іх нібыта прабег ток. Можа, ад душэўнага ўзбуджэння, а можа, ад узаемнага трапяткога сутыкнення пальцаў на каўпачку лямпы хлопцу нават здалося, што ў гэтае імгненне яшчэ ярчэй мігнуў яе агеньчык.

Расчапіўшы пальцы, ён усміхнуўся дзяўчыне і заўважыў, як у адказ скалануліся яе вусны, нібы хацелі штосьці сказаць. Праўда, яна наўрад ці магла разгледзець усмешку на ягоным замурзаным твары. Але, адыходзячы, хлопец заўважыў, што дзяўчына не патушыла ягонай лямпы, а паставіла яе перад сабою на стале.

Усё адбылося так хутка, што абедзве жанчыны, якія таксама забіралі з падаконніка і тушылі лямпы, мабыць, і не заўважылі гэтага.

## 5

Герберт і Фрэйвальд дзяжурылі па адным. Звычайна ў канцы змены ніводзін з іх не ўпраўляўся з абавязкамі падганятага. Як ні прыспешваў палонных, а ўсё роўна праходзіла нямала часу, пакуль тыя адмываліся ў душавой і невялікімі купкамі выходзілі з раздзявальні, становячыся ў калону, аточаную аховаю.

Сягоння Янка з Вадзімам прымкнулі да яе ў пачатку пастраення. І адразу ж непадалёку спыніўся нізкарослы канваір, твар якога здаўся хлопцу знаёмым.

«Хто гэта? Я дзесьці бачыў яго,— падумаў Янка, але не пазнаваў чалавека, як ні напружваў памяць.— А ўрэшце, хіба ж мала канваіраў сустракалася ў перасыльных лагерах ды ў шталагу? Усіх не ўспомніш».

Тым часам каля вартавога прыпыніўся Хольц, звяртаючыся да таго па-нямецку:

— О, Карл! Рад бачыць! На ранейшае месца ў шахту не збіраешся?

— Не, няхай яны працуюць,— адказаў канваір, кіўнуўшы галавою ў бок палонных, і выставіў, як напаказ, растапыраную пяцярню правай рукі.

Янка паспеў прыкмеціць на ёй куртаты ўказальны палец.

«Куцапалы? — западозрыў хлопец.— Няўжо мой хроснік?»

Янка пільна прыглядаўся да канваіра, якога пакінуў Хольц, пакуль упэўніўся ў сваёй здагадцы.

Канечне, Кнот. Толькі напнуў на сябе салдацкую уніформу. У ядавіта-жоўтай, з павязкаю «Тодт» на рукаве, ён выглядаў больш салідна. А можа, такое ўражанне ад нязвычнай формы?

Пасля таго недарэчнага выпадку, які выклікаў зларадства ў палонных, бо ўзняў паніку сярод нямецкіх салдат, збянтэжыў і асарамаціў канваіраў невялікага лагера арганізацыі «Тодт», Янка празваў Кнота куцапалым, хаця гэтае слова здавалася хлопцу не то чужамоўным, не то скалечаным. Але ён запомніў яго змалку, бо такую мянушку ў суседняй вёсцы насіў зладзеяваты жыхар, які хадзіў з куксаю. Казалі, што ў той час, калі ён займаўся нейкаю падазронаю справаю, хтосьці пашкодзіў яму пальцы на правай руцэ.

Нізкарослы Кнот меў характэрны твар. Увагнутая пераносіца нацягвала скуру пад вачамі, якія ад гэтага зрабіліся круглыя, нібы ў савы, і халодна паблісквалі, як зашклёныя. Злуючы, канваір увесь натапырваўся і чмыхаў, як вожык. Ён да ўсяго праяўляў цікаўнасць, прынюхваўся і імкнуўся ўсюды ўсоўваць нос. А паколькі не меў ахоўных калючак дый не мог згортвацца ў клубок, убіраючы галаву ў тулава, дык без дай прычыны запалохваў палонных, тыцкаючы іх ствалом вінтоўкі і сцвярджаючы, што ён патомны шахцёр.

Увесь канец дня — у раздзявальні і ў душавой, па дарозе з шахты ў лагер, стоячы ў вуглярцы і ідучы ў калоне — Янка думаў толькі пра дзяўчыну. Яна не выходзіла ў яго з галавы. То ў аконным праёме лямпавай, нібы ў глыбіні асветленага кінаэкрана, перад ім маячыў яе танклявы стан, абцягнуты чорным халацікам. То ён бачыў перад сабою бялявы твар з пасмамі русых валасоў, што на скронях непаслухмяна высыпаліся з-пад лёгкай касынкі.

Сонейка, што сягоння скупа свяціла з вышыні, здавалася хлопцу лямпаю, якую яго багіня запаліла яму ў дарогу і не патушыла пасля ягонага вяртання. Тая лямпа — чарадзейная. Можа, дзякуючы ёй ён зноў вярнуўся з таго свету.

Усё-такі на паверхні, нават за калючаю агароджаю, палонным трохі лягчэй, чым нявольнікам — у падзямеллі.

Спачатку ў хлопца было такое адчуванне, як быццам ён — удачнік сярод іншых. Але потым яго юнацкі запал астыў, калі Янка падумаў пра тое, як штодня дзяўчына запальвае і падае лампадкі кожнаму гаротніку, каб той у пекле не сляпіў вачэй.

У хлопцавым уяўленні, як зоркі ў небе, мільгалі ў апраметнай мірыяды лампадак. Пры іх цьмяным святле, перад бліпчастаю сценкаю, нібы перад бажніцаю, варушыліся ў сваіх нішах жывыя мошчы пакутнікаў.

У лагеры, напрактыкаваным вокам, Вадзім прыкмеціў, што з суседам штосьці робіцца. Янка зрабіўся маўклівы, засяроджаны. Вадзім падумаў, што хлопец змардаваны падзямеллем, змораны цяжкою працаю, таму і сумуе. Суцяшаць Янку, развейваць ягоную самоту няёмка. Лацвей самому на паверхні, а як хлопцу ў змрочным падзямеллі?

А Янку тым часам ой як хацелася перамовіцца з дзяўчынаю. Паколькі вусна зрабіць гэта немагчыма, ён цвёрда наважыўся напісаць ёй хоць пару слоў. Праўда, як ты напішаш, калі няма чым дый няма на чым пісаць? Хлопец спадзяваўся толькі на Вадзіма. Не можа быць, каб у яго не знайшлося паперы з алоўкам. Вядома, прасіць ніякавата. Калі б для чаго-небудзь важнага, сур'ёзнага, дык іншая справа. А то ў такіх абставінах ды з дзівацтвам... Але, як кажуць, за спрос не б'юць у нос. Жывы чалавек пра жывое і думае. Хлопец набраўся смеласці і папытаўся. Вадзім спачатку здзівіўся: нашто табе папера з алоўкам? Адступаць было позна. Янка сарамліва намякнуў, у чым справа. Прызнаўся, што закахаўся з першага позірку. Сусед, памаўчаўшы, знайшоў дзесьці пад шынельнаю падкладкаю невялікі чорны блакнот з алоўкам і, працягваючы, прамовіў:

— Каханне патрабуе ахвяр. У імя яго дару табе. Сам зведаў, што гэта такое... Ніколі б не паверыў, што бывае каханне з першага позірку. І цяпер не магу забыць.

Янку карцела, каб старэйшы за яго чалавек, з большым жыццёвым вопытам, расказаў пра сваё каханне з першага позірку. Да гэтага часу з хлопцам такога яшчэ ніколі не здаралася. Таму ён спытаўся:

— Як гэта адбылося?

— У тым і справа, што сам не разумею.

Відаць, у такіх нязвычных абставінах напамін пра каханне, якое смылела незагойнаю ранаю, яшчэ болей развярэдзіў Вадзімаву душу. Бо ён не чакаў перапрошвання ці ўгаворвання, а пасля некаторага маўчання пачаў расказваць.

Аднойчы, едучы ў камандзіроўку са сталіцы ў абласны горад, Вадзім сядзеў у аэрапорце і чакаў аб'яўлення пасадкі на самалёт. Стаяла спякотнае сонечнае лета. У зале было мала народу. Час ад часу хрыплаваты жаночы голас аб'яўляў: самалёт прызямліўся. З аднаго з іх натоўп прайшоў у горад, а некалькі пасажыраў, відаць, транзітных, засталіся ў зале чакання.

Міма Вадзіма не прайшла, а праплыла маладая жанчына ў паркалёвай сукенцы. Мабыць, ён і не звярнуў бы на яе асаблівай увагі, калі б яна не села на вольнай лаве, крокаў за сем, тварам да яго, паклаўшы на ўлонне вялізны букет кветак. Калі Вадзім глянуў на жанчыну, сэрца ў ягоных грудзях ёкнула. Яна асляпіла яго сваёю красою. Незвычайна прыгожым здаўся яму яе загарэлы твар у спалучэнні з каштанавымі валасамі, квяцістаю сукенкаю і букетам кветак. Як зачараваны, Вадзім не зводзіў вачэй з жанчыны, любуючыся яе харастввом. А яна засяроджана глядзела міма яго, а потым твар яе раптоўна азарыўся ўсмешкаю. Яшчэ болей папрыгажэў. Павярнуўшы галаву, Вадзім пацікавіўся і глянуў у той бок, куды быў скіраваны жаночы позірк. Там стаяў газетны кіёск, у якім аднак не было прадаўца. Мабыць, ёй штосьці прыгадалася ў гэты момант. У нейкім здранцвенні, заняты ёю, ён як у сне пачуў, што хрыплаваты голас у мікрафоне абвясціў пачатак пасадкі на яго самалёт.

Вадзім яшчэ не спяшаўся б падымацца з лавы, калі б раптам не ўстала жанчына, імкліва накіроўваючыся да выхаду на лётнае поле. Толькі цяпер ён ачомаўся, зразумеўшы, што яны паляцяць у адным самалёце, і, ідучы да выхаду, захваляваўся.

Пасажыры знізу падавалі свае чамаданы грузчыкам, якія складалі іх у багажнае аддзяленне, а самі ўваходзілі ў самалёт. Жанчыне падаваць нічога не спатрэбілася, бо яе рэчы, відаць, транзітным грузам былі перавезены сюды. Яна адразу ж пайшла ў ся-

рэдзіну самалёта. Вадзім таксама рушыў за ёю са сваім партфелем у руцэ. Яшчэ падымаючыся па трапе, ён вырашыў, што абавязкова пастараецца сесці побач з ёю, хаця яго месца было ўказана ў білеце. Увайшоўшы ў самалёт, ён убачыў, што жанчына села каля ілюмінатара на самым пярэднім крэсле справа. Побач з ёю пуставала месца. Усхваляваны, ён спяшаючыся падышоў і, не спытаўшыся дазволу, сеў побач.

Вадзім не скончыў, бо ў гэты момант на верхатуру ўзабраўся дзядзька Тарас, які вярнуўся ад землякоў з другога барака. Расказ заінтрыгаваў Янку, але хлопцу няёмка было прасіць Вадзіма расказваць далей, ён перавёў гаворку зусім на іншае. Пачаў распытвацца, чым яны займаюцца на паверхні. Сусед яшчэ толкам не ведаў, менавіта што яны павінны рабіць. Расказваў пра шахтавы двор, куды прыводзяць іх немцы. Апошні раз палонныя працавалі на лясным складзе: выгружалі з вагонаў лесаматэрыялы, сартавалі іх па даўжыні.

Янка расказаў пра сённяшнюю сварку з немцам.

— Ён крычыць «капа», «шпіца», а я нічога не разумею. Толькі вырачыў на яго вочы, як баран на новыя вароты. Ён зноў закрычаў. Я няўпэўнена перапытаў: «шапо», «паль»? Тады немец як зараве: «капа»! «шпіца»! Дзядзька Тарас, як называецца крапёжны лесаматэрыял?

— А я, Іванка, слухаючы цябе, падумаў сам сабе, ці ўсё ў парадку ў хлопца з галавою? «Паль», «шмаль»... На тое яны і немцы, каб гаркаць ды гыркаць. А мы будзем размаўляць па-свойму.

— Дзядзька Тарас, учора ж мяне паставілі падручным да француза. Ён і навучыў гэтым «шапо» ды «паль». А немец сягоння крычыць на мяне, называючы іх «капаю» і «шпіцаю». Чорт яго ведае, як яны правільна называюцца?

— Называй так, як у нас шахцёры называюць. Тое, што ў цябе плашка ды бярвенца, у іх — вярхняк і стаяк. А што ў немца «шпіца», у іх — кол, звычайны кол.

— Дзядзька Тарас, а як называюцца падземныя калідоры, па якіх мы ходзім, нара, у якой корпаемся, і малыя паленцы, што пазасоўваны за чыгунныя слупы і бэлькі з бакоў і зверху?

— Ад галоўнай клеці ідзе каранная падоўжная.

Далей ад яе адгаліноўваюцца штрэкі. А нара — забой. Калі ён доўгі, яго яшчэ называюць лаваю. А па баках штрэка за стаякамі і зверху на верхняках ляжаць зацяжкі.

Так у Янкі пачалося знаёмства з мудрай шахцёрскай тэрміналогіяй. Ён ведаў, што слова «трэк», якім спартсмены называюць авальную бегавую дарожку, паходзіць ад англійскага, а па-нямецку «дрэкам» называюць дзярмо. Таму не ўтрымаўся, пажартаваў суседу, што ў гэтым «штрэку» таксама ёсць гэрканне. Дзядзька Тарас памаўчаў і, падумаўшы, пагадзіўся па-свойму:

— Бегуны хоць самі па іх бегаюць. А нас ганяюць па штрэках, гыркаюць ды прымушаюць у дзярме корпацца.

Янку прыгадалася, як у першы дзень, калі іх вялі міма лямпавай, адзін палонны спытаўся ў Фрэйвальда, ці газавая тут шахта, на што немец іранічна адказаў штосьці незразумелае пра Данбас і канарэек у клетках. І хлопец цяпер расказаў пра гэта дзядзьку Тарасу, цікавячыся, што меў на ўвазе Фрэйвальд.

— Выстаўляе сваю перавагу,— абурыўся сусед.— Здзекуецца, што ў Данбасе канарэйкамі выяўлялі прасочванне рудніківага газу. Як быццам не ведае, што вентыляцыйныя дзесятнікі замяралі яго ў нас бензінавымі лямпамі. Яму шкада, што шахта незагазаваная? Зрабіў бы з палонных паддоследных трусоў. А сам маўчыць, што драў з нас па дзесяць далараў за дзень.

— Дзядзька Тарас, а што яны рабілі ў Данбасе? І навошта ў шахтах канарэйкі?

— Немцы ў нас устаноўлівалі свае вентылятары для падачы паветра. А канарэйкі жылі ў клетках на вокнах горнавыратавальнай станцыі. Калі туды пранікала хоць нязначная доза рудніковага газу, канарэйка падала мёртваю. Пах такой дозы газу чалавек нават не адчуваў.

Калі Янка пацікавіўся, ці доўга дзядзька Тарас працаваў на Данбасе, сусед неахвотна адказаў:

— У сябе дома з голаду, які напавал касіў людзей, схаваўся пад зямлю, а тут, на чужыне, ад яго і ў падзямеллі не выратуешся.

Янку карцела распытацца пра людскую бяду, што некалі пракацілася па Украіне жахліваю паводкаю,

разводдзе якой прыбівала чалавечыя ахвяры і да ягоных родных мясцін.

Цяпер, у сталым узросце, ён упершыню сустракае ўкраінца, які сам перажыў гэтую бяду. І мог бы расказаць пра яе падрабязна. Але Янка бачыць, што дзядзька Тарас не ў настроі, таму не хоча назаляць яму роспытамі.

У хлапечай памяці назаўсёды захавалася, як на іхняй маленькай станцыі з таварных цягнікоў ледзьве злазілі з убогім скарбам украінскія дзядзькі і цёткі. Некаторыя з іх, аслабелыя, з распухлымі тварамі, не дапаўзалі да вёсак, паміралі на прасёлачных дарогах. Шчаслівейшыя разжываліся боханам хлеба ці кошыкам бульбы. Але як маглі яны мізэрным набыткам ратаваць свае галодныя сем'і дзе-небудзь на далёкай Херсоншчыне ці Мікалаеўшчыне?

Тады па маладосці Янка асабліва не задумваўся над усім гэтым. Толькі значна пазней ён пачаў уяўляць і ўсведамляць тое, што адбылося на Украіне.

## 6

Янка абмазгаваў сваё пасланне. Ён разумеў, што напачатку, дзеля знаёмства і наладжвання сувязі дастаткова і кароткай запіскі. Бо напішаш вялікі ліст, дык дзяўчына балбатуном палічыць. Дый не прызнавацца ж адразу, што яна падабаецца.

Выбраўшы зручны момант, калі суседзі адлучыліся і на нарах застаўся ён адзін, хлопец употайкі, каб, крый божа, хто не заўважыў, таропка напісаў алоўкам на клетках першай старонкі блакнота:

«Давайце пазнаёмімся. Завуць мяне Янка. Я ваеннапалонны. Перад вайною быў студэнтам у Мінску. Вучыўся ў педагагічным інстытуце. Сюды нас прывезлі зусім нядаўна.

Напішыце, калі ласка, якое ў вас імя? Адкуль вы родам? Дзе жывяце тут? Ці ёсць з вамі сваякі або родзічы? Са шчырым прывітаннем. Янка».

Даядаючы на нарах цёплую баланду, ён злавіў сябе на тым, што ўжо з нецярплівасцю чакае, каб хутчэй павялі з лагера. Падумаў і здзівіўся: як у жыцці часам здараецца з чалавекам? Забываюцца і страх, і цяжкасці. А ўсё ў імя кволага, яшчэ неўсвядомленага пачуцця. Яно ледзь-ледзь зачаплілася ў душы, а ты

ўжо гатовы бяздумна рушыць насустрач, нават рынуцца ў прорву падзямелля.

Той раніцаю без цяжкасцей і затрымак Янка перадаў сваё пасланне ў рукі адрасата. Дзяўчына не толькі чакала хлопца, але загадзя падрыхтавала для яго лямпу.

З'явіўшыся перад акном у той момант, калі за спінаю нікога не было, Янка ўбачыў, як яна за крук узяла лямпу не са стала, а аднекуль з-пад нізу і, мабыць, хацела паставіць перад ім на падаконнік. Але, калі ён, апярэдзіўшы, працягнуў насустрач абедзве рукі, яна леваю падтрымала дно лямпы. Хлопец на ляту праваю ўзяў крук, а леваю, таксама падхопліваючы лямпу спадыспаду, перадаў запіску, якую ўчэпіста схапілі яе пальцы і спрытна заціснулі ў кулак.

Ідучы ад лямпавай да клеці, Янка не адчуваў цяжару лямпы, паглядаў на яе яркі агеньчык, разглядаў, як працёрты ў ёй шкляны каўпачок, як яна ўся руплі-ва начышчана. Нават пашкадаваў, што дзяўчына дарэмна старалася дзеля яго, бо ў падзямеллі лямпа ўсё роўна забрудзіцца, пакрыецца вугальным пылам.

Перадаючы яму лямпу і беручы ад яго запіску, дзяўчына не думала і не ўяўляла, што ў той дзень у яе рукі можа вярнуць гэтую лямпу хто-небудзь іншы, а самой ёй не будзе каму перадаць адказ на пасланне... А гэта ледзь не здарылася.

Янка, як і іншыя палонныя ў забоі, корпаўся на адмераным яму ўчастку, павесіўшы сваю лямпу на вярхняк, які з двух канцоў надзейна падпёр дзвюма стойкамі. Пасля таго выпадку, калі абвалілася столь з вуглом выступу, ён яшчэ асцярожней паводзіў сябе ў лаве, трывала ўмацоўваючы вярхняк стойкамі. Адколваючы ад пласта кожны скрыль ці кавалак вугалю, адначасова палахліва аглядаў столь, папярэдне праверыўшы яе трываласць, выстукваючы абухам кіркі.

Сягоння яму здаецца, што ягоная лямпа свеціцца асабліва ярка. Дзіва што, калі дзяўчына, не спяшаючыся, выбрала яе, можа, з якога-небудзь дзесятка іншых.

Патрошку зразаючы вастрыём малатка вугал у выдзеўбленай пячоры, Янка прыкмеціў, што ў адным месцы выступу надколваецца цэлая глыба. Магчыма, яна гэтак парасколвалася ад выбуху зарада, якім падрывалі ўначы вугальныя тоўшчы, а можа, яе развару-

шыла ўрубавая машына, падразаючы пласт па падэшве.

Адмераўшы і абрэзаўшы кол, хлопец, асцерагаючыся, падпёр ім, а потым абухам кіркі трывала падбіў наўскасяк прыкладзены вярхняк. Калі пераканаўся, што столь надзейна ўмацавана, вастрыём малатка нясмела пачаў адвальваць надколатую вугальную глыбу. Яна павольна рушыла з месца і падатліва вывалілася на дол, як валун з растрэсканай мураванай сцяны. Добра, што хлопец не ўздумаў адразу ж расколваць глыбу на дробныя кавалкі і шуфляваць іх на рышток. Ён не стаў з ёю валаводзіцца. Яна засцерагла і ўратавала яго ад немінучай пагібелі.

Зрэзаўшы вугал і выбраўшы сценку выступу, Янка на пару крокаў пашырыў пячору, трывала ўмацаваўшы дзвюма стойкамі яшчэ адзін вярхняк. Не спяшаючыся, хлопец корпаўся з адваленым вугалем, марудна, патрошку беручы яго шуфлем і адкідваючы на транспарцёр. Калі ўвесь вугаль быў перашуфляваны і трэба было дзеля прыліку нечым займацца, Янка рашыў выкінуць наўскасяк прыкладзены да столі вярхняк, які ўжо непатрэбны і выглядаў збоку, нібы на воку бяльмо. Хлопец пачаў выбіваць з-пад яго кол, здзіўляючыся, што кол не падаецца і стаіць як укопаны. Ён раззлаваўся і з усяе сілы наводмаш ударыў па калу абухам кіркі.

Што адбылося пасля гэтага, Янка не бачыў. Ён толькі ведае, што нехта аглушыў яго ўдарам, магутным цяжарам наваліўшыся зверху. Ды штурхануў у прадонне, куды не пранікаў смалісты пах, не прабівалася святло, не даносіўся стук адбойных малаткоў.

Палоннага, які корпаўся па суседстве, насцярожыла падазроная смуга, якая раптоўна засланіла святло перад Янкавай пячорай. Яшчэ не разумеючы, што за прычына, ён падышоў бліжэй і, углядаючыся праз пылюгу ў забоі, убачыў абвал, які пахаваў суседа. Хлопец падняў трывогу. Палонныя, што прыбеглі на дапамогу, паспешліва адкідалі шуфлямі абваленую пароду, каб адкапаць з-пад яе пахаванага таварыша. Абвал быў невялікі. Але ўсе пабойваліся і асцерагаліся, каб з праломленай адтуліны болей нічога не падала. Таму раскопкі вялі спяшаючыся. Раскідалі конус абвалу, пачалі падымаць і адвальваць убок вялізны «корж», як завуць шахцёры шырокі кавалак пароды,

што абваліўся са столі. Ён, як страха на крокве, трымаўся на верхняку, які таксама зваліўся зверху і адным канцом ляжаў на вугальнай глыбе, а другім упіраўся ў падэшву забоя. З-пад гэтай страхі, нібы са схованкі, падняўся Янка, выскаляючы зубы, што бялелі на чорным, вымазаным вугалем твары. Спалоханы, хлопец не адчуваў, што на галаве ў яго не было шапкі. Ён не ведаў, ці яе пры ўдары сарвала парода, ці шапка зляцела з галавы, калі ён падаў.

Палонныя накінуліся з роспытамі, ці баліць яму што-небудзь. Але, можа, з перапуду, а можа, у шокавым стане, Янка не адчуваў ніякага болю. Малаверагодна, каб яго не закранула, падаючы, парода. Магчыма, плоскі, як дошка, кавалак столі не моцна выцяў яго — бо хлопец з перапуду машынальна падняў угору рукі — а толькі штурхануў і паваліў пад вугальную глыбу, засланіўшы верхняком і сабою ад далейшых удараў пароды і цяжару ўсяе абваленае масы, якая жыўцом пахавала Янку.

Калі палонныя супакоіліся, пераканаўшыся, што бяда мінула і ўсё неяк абышлося, хтосьці з іх нават пажартаваў:

— Каб жа гэта веданне, што ты жывы ды здаровы ў такой бяспечнай схованцы... Можна было б і не спяшацца адкопваць... Хоць бы адпачыў да канца змены.

## 7

Увесь час, пакуль ахова зганяла ў калону палонных, пералічваючы пры выхадзе з шахты, і везла ў вуглярках у лагер, з неба ліў спорны асенні дождж. Цурчэў, нібы струмені паўз пад'ёмную клецъ у шахтавым ствале. Толькі там яны — салёныя. Ад іх пырскаў міжвольна заплюшчваеш вочы і стульваеш губы. А дажджавая вада — прэсная, хаця таксама халодная.

Янка ўхмыляўся, зрэдку кідаючы погляды на вахманаў і паліцаяў, якія натапырыліся, нібы мокрыя курыцы. А яму хоць бы што. Ад дажджу не размокнеш. Затое на паверхні — спакайней. Не тое, што ў падзямеллі. Тут нябёсы на галаву не абваляцца, як там — дах забоя.

Пасля звароту з шахты, толькі ён паабедаў, як прыйшоў яго адведаць Арсень. Слаўны гэты хлопец. Янку даспадобы ягоная сціпласць і шчырасць. Штось-

ці дзявочае ў абліччы і ў характары земляка выклікаюць у Янкі замілаванне. Адукацыя ў хлопца сярэдняя, але ў паводзінах — прыроджаная тактоўнасць і выхаванасць. Янка паклікаў яго да сябе, на нары, а ён ветліва адмовіўся. Толькі пасля настойлівага ўпрошвання сарамяжліва ўзабраўся на верхатуру. Тут сядзець трохі нязручна. Затое можна шчыра пагаварыць. Ніхто не штурхае пад бок, ніхто не ўмешваецца ў размову, ніхто не назаляе сваёй падазронаю прысутнасцю.

Янку прыемна гутарыць з Арсенем, бо іхняя гаворка выклікае ўспаміны пра дарагі, блізкі сэрцу куток. Янка не ведае, чаму з такой шчымлівай асалодаю і балючаю тугою цяпер прыгадваюцца Палянкі, Вуглы, Стасеўка. Ці таму, што дзесьці непадалёк ад першай з гэтых вёсак нарадзіўся ягоны бацька, ці таму, што ён сам вандраваў па гэтых мясцінах з трактарнаю брыгадаю, зведаўшы рамантыку малацьбы і ворыва...

Там Янка яшчэ застаў старэнькі, дапатопны «Фардзон». Як зараз бачыць перад сабою востры выступ па самай сярэдзіне вобада на ягоных малых пярэдніх колах. А на вялікіх задніх — упоперак наўскасяк — секачы-шпоры. Як гэты трактар старанна пыхкаў на малацьбе! Праўда, кожны раз ён натужліва стагнаў і, заглухаючы, спыняўся, калі нявопытны падавальшчык кідаў у цапы малатарні нерастрэсены як след сноп жыта.

Усё там здавалася Янку таямнічым і незвычайным. Сімвалічныя назвы вёсак. Нават мясцовыя імёны дзяўчат, якія некалі вучыліся разам з ім у сямігодцы. Броня, Ядзя, Франя. У ягоных родных мясцінах не было такіх імёнаў. А каларытная вёска старавераў, са своеасаблівай царквою, з дзіўнаватымі звычаямі і норавамі жыхароў? Яе злучаў вялікі мост праз раку з другою вёскаю, назва якой адначасова асацыіравалася і з жаночым і з мужчынскім імем. Яна знаходзілася ўжо ў Арсеневым раёне, мяжа якога праходзіла па рэчышчы Бярэзіны.

Нетрывалую нітку размовы, якую яны размотвалі з клубка памяці, нечакана абарвала Румегава абвестка:

— Каму загнаць?! Мяняю баланду за тытунь! Налятай!

— Давай сюды! — паклікаў нейчы голас з-пад нараў.

Румега пашыбаваў туды, важна трымаючыся, з самаробным дзюралевым вядзерцам у руцэ.

— Дык яна ж прафільтраваная! — пачулася неўзабаве адтуль сварка.

— Гэта табе здаецца...

— У мяне вочы не павылазілі... Перагон з-пад сепаратара выдае за малако!

— Усё-такі ж у баландзе калорыі... А што ў цыгарэтах? Нікацін. Яд! — нахабна апраўдваўся Румега.

— Крутам-мутам век не пражывеш. Круцячы, свет пройдзеш, але назад ці вернешся?

— Да ручкі дайшоў, халера, а ўсё як цыган мяняе... Так і глядзіць, каб падшакаліць што-небудзь. У яго тонкі нюх і доўгія ногі... Ніхто за ім, халера, не ўгоніцца, калі ў памыйках шныпарыць,— ахарактарызаваў Румегу Арсень.

Янка не зразумеў, што ў гэтых словах: жаласць і спагада ці асуджэнне? Але Арсень, удакладняючы сваю характарыстыку, працягваў:

— Хлеб абменьвае на баланду. Толькі ёю і харчуецца, халера. Сваю порцыю з'ядае, а выменены, папярэдне вывудзіўшы з яе гушчу, аддае за тытунь. Хітрэйшы за ўвесь свет не будзеш. Ад кашлю ўначы аж заходзіцца, халера.

— Хто мяняе, у таго хамут гуляе. Па якой цане ён абменьвае?

— Цана вядомая, як і ў іншых лагерах: пайка хлеба за порцыю баланды. А тытунь — ці за тое, ці за другое — восем закурак.

Янку кінулася ў вочы, што Арсень схуднеў і паблажэў з выгляду. Вакол ягоных вачэй яшчэ гусцей паўядаўся чорны вугальны пыл. Пад павекамі і пад вейкамі праз скуру сінелі малюсенькія, нібы макавыя зярняткі, крупінкі, ад якіх прыгожыя Арсеневы вочы здаваліся падфарбаваныя, як у дзяўчыны.

На верхатуру ўзабраўся Вадзім. Ён адносіў да кухні міскі і, мабыць, дзесьці затрымаўся са знаёмымі, якія разам з ім працуюць на паверхні. Сарамяжлівы Арсень трошкі збянтэжыўся, заспяшаўся і, развітваючыся, злез з нараў.

— Як нясе службу падземная пошта? — жартаўліва запытаўся Вадзім, калі пайшоў Арсень.

— Не горш за палявую,— таксама жартуючы, адказаў Янка.

— Нармальна. Наводзь сувязь з воляй. Хаця чужына — няволя, але ўсё-такі, відаць, яны там не за калючым дротам.

— А ты тады ў самалёце і пазнаёміўся з той жанчынаю?.. Куды яна ляцела з кветкамі? — адразу ж пацікавіўся Янка, бо з нецярплівасцю чакаў, калі Вадзім прадоўжыць свой расказ.

— Нават і нямыя пазнаёміліся б, седзячы побач у крэслах на працягу ўсяго палёту. Яна вярталася дамоў з курорта.

— З кветкамі?..— з іроніяй у голасе запытаўся хлопец.

— Не наводзь цень. Я таму і сказаў табе пра нямых, што сам тады анямеў. Гэтак збянтэжыўся. Пасля ледзьве разгаварыліся. Як у сне, і цяпер чую яе працяжны грудны голас. Я быў на сёмым небе. Здавалася, што і вокны самалёта зашклёны празрыстым блакітам. За бартом асляпляльна ззяла сонца. Унізе рассцілалася белая пустыня, залітая не то хвалямі бавоўны, не то замеценая снежнымі барханамі. Мы любаваліся ёю, схіляючыся да аконца, шкло якога час ад часу пацела ад нашага дыхання. Здавалася, што мы побач не ў самалёце, а ў размаляваным вазку, які па снегавых сумётах імчыць у сонечную далячынь. Пільна ўглядаючыся ў гэты казачны краявід, прыхіліўшыся да ілюмінатара, я тварам нават адчуў ласкатанне валаска на яе радзімцы. Гэтую радзімку ўнізе на яе шчацэ я заўважыў адразу, як толькі міма твару суседкі глянуў у аконца, яшчэ не нахіляючыся да шкла.

Калі Вадзім пачаў запісваць службовы нумар яе тэлефона, жанчына прадыктавала яму і хатні. Вадзім зразумеў, што яе муж займае немалую пасаду.

— Мяне сустракаюць мае: муж і сын. Усяго вам добрага! — прамовіла яна, выглянуўшы ў ілюмінатар, калі самалёт прызямліўся і падрулiў да будынка мясцовага аэрапорта.

— У цябе таксама была сям'я? — перабіў Янка.

— Намінальна была. Але ў ёй штосьці не клеілася... Яна рассыхалася.

Вадзім расказваў, як ён тады ў камандзіроўцы штодзённа размаўляў з жанчынаю па тэлефоне. Гасцініца якраз была побач з домам, у якім яна жыла. З акна ён бачыў, як жанчына спяшалася на працу, выходзіла ў магазін. Перад ад'ездам Вадзім купіў вялізны букет і

пазваніў ёй, папрасіў, каб яна выйшла развітацца. Сказаў, што хоча падараваць кветкі. Спачатку яна сарамліва адмаўлялася: не трэба, навошта? Але пасля яго настойлівай просьбы ўсё-такі выйшла. Яркія кветкі дапаўнялі прыгажосць жанчыны, стан якой выразна акрэсліваў тугі ружовы світэр, што гарманічна пасаваў да яе каштанавых валасоў.

Пасля Вадзіму не даваў спакою гэты выгляд жанчыны. То ён бачыў перад сабою твар з радзімкаю, то ўспамінаў пявучы грудны голас. А каб зноў пачуць яго наяве, час ад часу званіў ёй па тэлефоне.

Неўзабаве здарылася так, што яе мужа перавялі на службу ў сталіцу, з якой ён не заўсёды прыязджаў дамоў на выхадныя дні. Аднойчы, размаўляючы па тэлефоне, Вадзім сказаў жанчыне, што ў нядзелю прыляціць, каб сустрэцца. Ад нечаканасці яна разгубілася:

— Я не абяцаю.

— Чаму?

— Можа, прыедзе муж.

— Мне хочацца пабачыць вас.

— Не трэба.

— Катэгарычна забараняеце?

— Глядзіце самі,— нібы стомленая, нерашуча адказала яна нараспеў.

За гэтае «глядзіце самі» ён ухапіўся, як тапелец за выратавальны круг, і схлусіў, што ўжо купіў білет, толькі не на нядзелю, а на суботу, на ранішні самалёт. Жанчына маўчала. Ад хвалявання і ў яго затрымцела рука. Каб як яе супакоіць, ён мацней сціснуў тэлефонную трубку, шчыльна прыклаўшы да вуха. У трубцы штосьці зашамацела. Яму здалося, што там чутно адрывістае дыханне.

— Алё! Алё! — выгукнуў ён, правяраючы, ці не перарвалася размова.

Пасля кароткае паўзы пачулася з выдыхам ціхае:

— Алё...

— Ну, дык да хуткае сустрэчы?

— Не ведаю...— замест «да пабачэння», разгублена адказала яна на развітанне.

Падахвочаны гэтаю размоваю, Вадзім адразу ж пайшоў набываць білет. Самалёт прылятаў у яе горад апоўдні. А Вадзіму чамусьці карцела прыехаць з самае раніцы, каб яшчэ да адыходу на працу тэлефон-

ным званком заспець яе дома. Дый зімою можа быць нялётная пагода. Таму ён купіў білет на цягнік, які выходзіў са сталіцы ў пятніцу надвячоркам і прыходзіў туды назаўтра на дасвецці. Хацеў зноў пазваніць ёй, сказаць дакладна, калі прыедзе, але вырашыў лепей зрабіць гэта, прыехаўшы на месца. Баяўся, каб яна не перадумала і не запярэчыла. Усё-такі «не ведаю» яшчэ не значыць — «прыязджайце».

Вадзім прыехаў раніцай, адшукаў знаёмую гасцініцу, уладкаваўся. Часу ў яго хапала. Вельмі рана не турбаваў жанчыну. Не спяшаючыся, галіўся, мыўся. Пазваніў толькі пасля васьмі гадзін. Пачуўшы ў трубцы яе знаёмы голас, павітаўся і папрасіў прабачэння, што рана турбуе.

— Нічога... Затое як добра чуваць!

— Лепей, як мінулыя разы?

— Ну.

— Дык я ж побач. Званю з гасцініцы.

— Праўда?! — вымавіла яна нараспеў з такой інтанацыяй, у якой прагучала не столькі запытанне, колькі адчувалася радасць.— А калі ж вы прыляцелі? — дапытвалася яна, яшчэ сумняваючыся.

— Прыехаў цягніком.

— Ой, дык ён жа рана прыходзіць. Вы, мабыць, і не адпачылі з дарогі?

Размаўлялі яны доўга. Вадзім пачаў хвалявацца сам і па інтанацыі адчуваў, што яна хвалюецца таксама. Ён глянуў на гадзіннік і, схамянуўшыся, пачаў апраўдвацца:

— Прабачце, што я так разгаварыўся. Вам жа — на працу. Калі ласка, запішыце мае каардынаты,— ён назваў паверх і пакой, прадыктаваў нумар тэлефона.— Будзе вольная хвіліна — пазваніце. Мы не развітваемся.

— Добра. Схадзіце паснедайце. Адпачніце. Я пазваню.

Паснедаў Вадзім у буфеце. Схадзіў у магазін. Паблукаў трохі па горадзе. Толькі вярнуўся ў нумар, як зазваніў тэлефон.

— Гэта я,— пачулася ў трубцы.— Чым вы займаецеся?

— Выконваю вашы парады.

— Якія? — здзівілася яна.

— Паснедаў. Адпачываю. А што чуваць у вас?

— Праверыла, як падрыхтаваў сын урокі. Управілася з усімі хатнімі справамі.

— Дык вы ўжо амаль вызваліліся?

— Амаль.

— Калі б не ваша праца, маглі б сустрэцца?

— Я адпрасілася на сягоння,— адказала яна пяшчотным пявучым голасам.

— Каб вы ведалі, як я ўдзячны вам за гэта! Вы проста малайчына!

— Ну што вы?

— Я хачу вас бачыць. Зараз жа. Неадкладна.

Яна маўчала.

— Чуеце?

— Ну... Што?

— Я запрашаю вас да сябе. Наведайце маю пустэльніцкую келлю. Разам памяркуем, куды нам зрабіць вылазку. Прыходзьце.

— Няёмка,— пачулася пасля некаторае паўзы.

— Чаму?

— Не ведаю.

— Прашу вас. Прыходзьце. Я выйду сустрэну.

— Не трэба. Пагляджу, можа, прыйду. Толькі не сустракайце.

Вадзім не зразумеў: яна палажыла трубку ці размова перарвалася. Ён не ведаў, што рабіць. Нерашуча памкнуўся пазваніць, але ўстрымаўся. Некалькі хвілін хадзіў па пакоі. Спыніўся перад акном. Стаяў, абыякава пазіраючы на двор. Унізе на каньках коўзаліся дзеці. Ён разглядаў прымітыўную коўзанку — невялічкі штучны каток. Да яго праз двор ішла жанчына з газетаю ў руцэ. Наблізілася да аднаго з хлапчукоў, штосьці яму наказвала, папраўляючы ягоную шапку. Толькі цяпер, прыгледзеўшыся, Вадзім пазнаў яе. У блакітным паліто з чорным каўняром, яна прайшла пад вокнамі, накіроўваючыся на вуліцу. Мабыць, у магазін. Вадзім не адыходзіў ад акна. Хацеў пагледзець на яе, калі яна будзе вяртацца назад. Невядома, колькі ён прастаяў бы ў дазоры, калі б яна не пастукала ў дзверы.

— А я праз акно бачыў, як вы прайшлі з газетаю ў руцэ. Думаў, што ў магазін,— гаварыў Вадзім, павітаўшыся і памагаючы ёй распрануць паліто.

— Сапраўды, а навошта я ўзяла яе з паштовае

скрынкі, ідучы сюды? — у сваю чаргу, смеючыся, пыталася яна.

Яны адчувалі сябе як даўнія знаёмыя.

Вадзім прызнаўся, як яму хацелася пазваніць ёй адразу ж, калі прыехаў. Баяўся, што патрывожыць сон, падыме з цёплае пасцелі. Пазваніў бы яшчэ пазней, але хацелася заспець дома, бо на працу званіць нязручна. А яна жартавала, што ёй было б прыемней, калі б яе разбудзіў не будзільнік, а яго тэлефонны званок. Вадзім сказаў, што ловіць яе на слове. Калі-небудзь пазвоніць. Спытаўся, ці дазваляе яна.

— Глядзіце самі,— смеючыся, адказала яна. Потым прызналася, што званіла ў аэрапорт. Цікавілася, калі прылятае ранішні самалёт. Ёй адказалі, што апоўдні. Яна рашыла, што Вадзім проста пажартаваў тады ў часе тэлефоннай размовы.

У нумары было ўтульна. І яны рашылі анікуды не ісці. На брудэршафт выпілі па шклянцы шампанскага. Разам правялі ўвесь дзень. Толькі надвячоркам расставаліся на нейкую гадзіну: жанчына адлучалася дадому пасля таго, як яны надумалі схадзіць у кіно. Гэтая гадзіна абоім здалася надта доўгаю. Калі Вадзім сказаў пра гэта, жанчына таксама прызналася:

— А я думала, што толькі мне гэтак здалося.

— Бачыце, як дарэчы ваша газета. Калі б не яна, як бы мы выбралі для сябе кінафільм? — жартуючы, пытаўся Вадзім, калі яны выйшлі з аўтобуса каля кінатэатра.

Фільм спадабаўся абоім. Шкада толькі, што імкліва праляцеў час. Вадзіму не хацелася выпускаць яе абедзве рукі, якія ён трымаў у сваіх. Калі яны выйшлі з кінатэатра, на дварэ падаў рэдкі снег. А ім усё не хацелася разлучацца. Яны яшчэ доўга-доўга блукалі па бязлюднай вуліцы, якая на ўскраіне пераходзіла ў шашу.

Назаўтра да абеду зноў былі разам. Яна прыйшла з раніцы, як толькі ўправілася і падрыхтавалася да сустрэчы гасцей. З вёскі па справах прыехалі яе сваякі. У абед яны прыйдуць да яе дадому і застануцца начаваць. Яна шкадавала, што яны з Вадзімам не змогуць, як учора, пабыць разам увесь дзень. Жартавалі, смяяліся. За гэтыя два дні даведаліся многае адно пра аднаго. Ім абоім не хацелася разлучацца. Але ў абед ёй

трэба было сустракаць гасцей. Развіталіся яны як блізкія сябры.

Пасля яе адыходу Вадзім быў як сам не свой. Нідзе не знаходзіў месца. З'ездзіў на вакзал, купіў білет на скоры цягнік, які адпраўляўся апоўначы. Хутчэй вярнуўся назад сюды, дзе ўсё напаміналa пра яе, і болей не пакідаў нумара да самага ад'езду. Успомніў, што ў партфелі ляжыць кніжка, якую браў чытаць у дарозе. Дастаў і пачаў чытаць. Чытаў з гадзіну, але болей не чыталася. Адклаў кнігу і ўспомніў жанчыну. Раптам яму захацелася, каб яна пазваніла. Праз нейкі момант зазваніў тэлефон. Здзіўлены, ён нерашуча падняў трубку.

— Што вы робіце? — пачуў ціхі-ціхі голас.

— Чытаю. Толькі штосьці не чытаецца.

— Не сумуйце. Я званю, каб вы не сумавалі.

Так паўтаралася за вечар разоў пяць. Другі раз яна пазваніла і шэптам спыталася, ці ўзяў ён білет і калі адыходзіць цягнік.

— Я хачу праводзіць.

— Не трэба. Як вы адлучыцеся з дому?

— Пастараюся... Да мяне прыехаў чалавек, і каб я не праводзіла яго?

Кожны раз, як толькі Вадзім адкладаў убок кніжку і думаў, што жанчына зараз павінна пазваніць, адразу ж, нібыта па заказу ці па ягонаму сардэчнаму выкліку, званіў тэлефон. Часам яна толькі шаптала:

— Мне размаўляць нельга. Гаварыце што-небудзь вы, а я слухаць буду.

І ён гаварыў ласкавыя, пяшчотныя словы. Гаварыў многа-многа. А потым, схамянуўшыся, напамінаў, што яна ўжо надоўга адлучылася ад гасцей. Яны могуць гэта заўважыць. Адзін раз жанчына сказала, што ў іх за сталом шумліва, яна прычыніла дзверы ў пакой. Цяпер можна трошкі пагаварыць. Ён гаварыў ёй пра таямнічасць і загадкавасць усяго, што адбываецца з ім.

— Як толькі падумаю, што вы пазвоніце, адразу ж звоніць тэлефон.

— А я таксама адразу ж званю, як толькі адчую, што вы ўжо чакаеце майго званка,— прызналася яна.

У восем гадзін вечара яна пазваніла і гаварыла гучна, нараспеў:

— Я званю апошні раз. Мы пераходзім да іншых

сваякоў, на другую кватэру. Там няма тэлефона. Не сумуйце, бо да цягніка яшчэ многа часу. Уявіце, што я разам з вамі і нікуды не адлучалася. Я абавязкова буду праводзіць. Прыйду на якую гадзіну раней, каб даўжэй пабыць разам. Сустрэнемся перад вакзалам, злева, пад дрэвамі. Пабягу даганяць сваякоў. Яны ўнізе ўжо зачакаліся.

Пасля гэтага званка Вадзім ледзь вытрываў у нумары нейкіх пару гадзін. Чытаць не чыталася і сядзець не сядзелася. Паколькі яна сказала, што прыйдзе на вакзал на гадзіну раней, дык ён, каб доўга яна не чакала, пакінуў гасцініцу дачасна. А яна, відаць, шкадуючы, што ён будзе доўга чакаць, таксама прыйшла загадзя. Зноў сустрэўшыся, яны радаваліся, што ў іх абоіх многа вольнага часу. Каля вакзала пад дрэвамі было бязлюдна. На лаве настываў Вадзімаў партфель, а яны, абняўшыся, цалаваліся, не адчуваючы, што нанач добра бярэцца на мароз. У такім стане, саграваючы адно аднаго, і прастаялі да самага адыходу цягніка.

Раніцою, сышоўшы на перон сталіцы, Вадзім кінуўся на вакзальную пошту і заказаў тэлефонную размову.

— Разбудзіў? — спытаўся, калі пачуў яе санлівы голас.

— Ну.

— Вось бачыце, падняў з цёплай пасцелі раней будзільніка. Як вам спалася?

— Спала як забітая. Добра, што пазванілі. Праспала б усё на свеце. Нанач забылася завесці будзільнік.

— Я хвалююся. Ці ўсё ў парадку?

— Нічога. Праўда, яны адчыталі, што надоўга адлучалася.

— Абдымаю і моцна-моцна цалую. Як учора.

— Я таксама.

— Вось якое каханне з першага позірку,— сказаў Вадзім і, перавярнуўшыся на спіну, замоўк.

— А што было пасля? — спытаўся Янка.

— Шмат чаго было пасля, на працягу некалькі год. Доўга расказваць. Калі ім прапанавалі ў сталіцы кватэру, Маруся прылятала яе глядзець. Я сустракаў у аэрапорце. Помню, дзе гэтая кватэра, таму што неаднойчы праводзіў Марусю дамоў. Добра ведаю службовую ўстанову, бо часта сустракаў каля яе жанчыну.

Яе калегі па службе прывыклі бачыць нас разам. Здаралася featured рознае — не толькі прыемнае, але і смешнае, а часам нават бязглуздае.

Вадзім расказваў, як яна выбрала ўтульнае месца за столікам, калі яны разам у інтымных абставінах сустракалі ў рэстаране Новы год. Звінелі келіхі, гучала музыка. Танцавалі. Аднойчы пасля абеду яны прыехалі на ягоную кватэру, дзе засядзеліся да ночы. Елі апельсіны. Выпілі шмат каньяку. Пазней абое недаўменна здзіўляліся: з чаго б гэта з імі было такое?

У гэты час на верхатуру ўзабраліся іхнія суседзі па ўзгалоўі Дробат і Сівалін.

Адчуўшы, што Вадзім не мае жадання далей прадаўжаць расказ, Янка папытаўся:

— Чым усё гэта скончылася?

— Нічым.

— Як нічым? — здзівіўся Янка.

— А вось так, вельмі проста,— і ён па-ранейшаму працягваў расказ, не звяртаючы ўвагі на прысутнасць суседзяў.

Аднойчы зімою яна пазваніла, што атрымала пуцёўку ў санаторый. Вадзім прапанаваў, што праз тыдзень, узяўшы адпачынак, таксама прыедзе.

— Там будзе вялікі начальнік мужа,— папярэдзіла яна.

— Ну дык што? Я ж спынюся ў гасцініцы.

Праз тыдзень, як дамовіліся, яна сустрэла яго ў полудзень на вакзале курортнага горада.

— З прыездам! — павіталася, падаючы руку.

— Дзякуй,— адказаў ён і пацалаваў яе, чырвоную ад марозу.

Яна праводзіла яго ў гасцініцу. Доўга сядзела, пакуль ён уладкоўваўся. Але не дачакалася, бо трэба было ісці на лячэбныя працэдуры. Прызначылі спатканне. Увечары блукалі па горадзе. Яна трымалася насцярожана. Баялася, што сустрэнецца мужаў начальнік. Казала, нібыта ён пажартаваў, што будзе тут сачыць за ёю, а яна ў сваю чаргу адказала, што будзе за ім сачыць. Вадзім праводзіў яе да санаторыя. Назаўтра раніцою яна пазваніла. Яны доўга размаўлялі па тэлефоне. Удзень былі разам у кіно. Увесь кінасеанс ён трымаў яе руку ў сваёй. Назаўтра раніцою яна зноў пазваніла, прыйшоўшы да гасцініцы. Ён спусціўся, і яны разам каля гадзіны, пакуль ёй ісці на сняданне,

блукалі змрочнымі вулкамі. Гэта была раніца перад-навагодняга дня. Вадзім прапанаваў сустрэць дзе-небудзь разам Новы, 1941 год. Яна адмаўлялася, спасылаючыся на тое, што не здолее, бо з ёю адпачываюць знаёмыя, і яна не можа іх ашукваць, выдумляючы штосьці. Закапрызнічала і пайшла, не развітаўшыся. Вадзім, вяртаючыся ў гасцініцу, успомніў, як яна некалі хвалілася, што ашукала мужа, калі той бачыў іх удваіх і папытаўся ў яе, з кім яна ішла па вуліцы. Яна назвала Вадзіма калегам па службе.

Увесь апошні дзень передваеннага года Вадзім правёў у нумары гасцініцы. Там сустракаў і Новы год. Цяжка ўявіць, што мог адчуваць на душы і як сустракаў на адзіноце Новы год чалавек, у якога не было ў гэтым горадзе ні знаёмых, ні сяброў, ні блізкіх. Дзесьці непадалёку знаходзілася толькі яна, дзеля якой ён сюды прыехаў і якая невядома як і невядома з кім сустракае ўрачыстую дату. Яшчэ пяць самотных зімовых дзён пражыў ён у гасцініцы, а потым купіў білет на цягнік. Праўда, усю ноч і ўвесь навагодні дзень чакаў тэлефоннага званка. Нават непакоіўся, ці не здарылася чаго-небудзь. А што, калі яна захварэла і не можа падаць пра сябе весткі? Гэтак бывала часамі нават улетку, а цяпер жа зіма. Таму ўвечары навагодняга дня сярод шматлюднага натоўпу ён трохі пашпацыраваў перад бюветам, дзе п'юць мінеральную ваду. Вадзім ведаў, за колькі хвілін да яды яна яе п'е. Адразу ж убачыў, як па дарожцы з іхняга санаторыя жанчына прайшла побач з незнаёмым мужчынам.

— З начальнікам мужа? — нецярпліва спытаўся Янка.

— Не ведаю. Мабыць,— абыякава адказаў Вадзім.

— У народзе кажуць, што жонку нельга давяраць лепшаму сябру. Які гэта муж давярае яе свайму начальніку? — наіўнавата заўважыў Янка.

— А можа, ён хоча, каб яна разам з ягоным начальнікам самога яго вышэй угору падкінулі,— уставіў Сівалін.

— Відаць, з блаславення мужа яна дзеля гэтага і прыехала з ягоным вялікім начальнікам,— іранічна дадаў Дробат.— Ну й Маруся!.. Не Маруся, а Маруха!

— Яна не разышлася са сваім мужам? — дапытваўся Янка.

— Такія рэдка разыходзяцца са сваімі, але часта сыходзяцца з чужымі.

— А пазней ты ні разу не бачыў яе, не сустракаўся з ёю?

— Бачыў. Але гэта ўжо была не яна. Тая для мяне памерла там навекі. А з гэтай некалькі разоў сустракаліся тварам да твару. Але абое не віталіся. Як быццам не пазнавалі адно аднаго.

## 8

Янка з нецярплівасцю чакаў гэтую раніцу. Ён быў упэўнены і нават ніколькі не сумняваўся, што дзяўчына-паланянка напіша яму ў адказ хоць пару слоў. Бо бачыў і адчуваў, як яны абое чакаюць імгнення, каб толькі зірнуць адно на аднаго ці дотыкам пальцаў узаемна дакрануцца рукі. Праўда, часам непакоіўся, а ці знойдзецца ў паланянкі на чужыне якая-небудзь паперчына ды сціло. Але потым прыгадвалася Вадзімава гаворка пра тое, што яны, відаць, тут усё-такі не за калючым дротам. І надыходзіла супакаенне.

Сягоння яму здалося, што яны абое не толькі чакалі моманту, каб кінуць позірк адно на аднаго, але яна яшчэ загадзя трымала ў заціснутым кулаку левай рукі свой адказ на ягонае пасланне. Калі хлопец падышоў да акна, дзяўчына праваю рукою ўзяла за крук аднекуль з-пад стала запаленую лямпу, а леваю спрытна падхапіла яе спадыспаду і, аддаючы яму ў працягнутыя рукі, расшчапіла кулак, перадала запіску. На імгненне яны ўзаемна азарылі адно аднаго ўсмешкаю, у якой было гэтулькі чысціні, прыязні і спагады. Хлопцу было радасна, што ўсяго гэтага з яе твару яшчэ не паспелі сцерці дзённая стома і заклапочаная задуменнасць, а на ягоным — не замурзаў вугальны пыл. Яшчэ цёплую, нагрэтую ў дзявочай руцэ запіску ён трымаў у заціснутым кулаку і подбегам гатоў быў імчаць у забой, бо яму рупіла хутчэй прачытаць дзявочае пасланне. Ад гэтага нават прыкра зрабілася самому, што ён трымаецца, як хлапчук. Чаго добрага, яшчэ хто-небудзь заўважыць запіску або ягоныя недарэчныя паводзіны выклікаюць падазронасць. Нехаця ён паклаў запіску ў кішэню і стараўся трымацца як мага натуральна і расслаблена. Але ўсё

роўна дарога па змрочных лабірынтах штрэкаў здалася яму на гэты раз бясконца доўгаю.

Як толькі шахцёры і палонныя расцягнуліся ўсцяж забоя, заняўшы месцы каля сваіх рыштункаў, Янка адразу ж прыкруціў вольны канец шланга да трубы і павярнуў кран для доступу паветра ў адбойны малаток. Паставіўшы на доле лямпу, ён унізе пачаў паспешліва адколваць вастрыём малатка вугальную глыбу, каб зрабіць у сценцы забоя пячурку. Калі ніша была выдзеўблена і пашырана, ён схаваў у ёй лямпу, сеў на адваленую глыбу, разгарнуў і прачытаў перад агеньчыкам дзявочы ліст, напісаны алоўкам на старонцы вучнёўскага сшытка:

«Добры дзень! Я — Надзя. Таксама студэнтка. Толькі лесатэхнічнага. Вучылася ў Гомелі. З Палесся. Вельмі люблю свой лясны край. Бацька — ляснік. І сабе абрала спецыяльнасць. А давучыцца не далі. Закончыла толькі тры курсы. Жывём мы ў лагеры, дзе вывезеныя нашы людзі. Сваякоў у мяне тут няма. Прывезлі адну моладзь. Аблавай вылавілі, вывезлі ў таварных вагонах. Бачыла, што яны вывозілі на платформах і наш лес. На Палессі ў лагеры людзей расстрэльвалі, складалі штабелямі: рад трупаў — рад бярвення. Аблілі бензінам — і спалілі. Не адчайвайцеся!.. Неяк вытрымаем, выжывем. Я рада: ёсць блізка зямляк. Чакаць буду... Пакуль. З богам! Шчасліва! Надзя».

Ліст перавярнуў усё ўсярэдзіне. Абрадаваў, ускалыхнуў Янкаву душу. Не толькі пацвярджаў яе жаданне падтрымліваць з ім сувязь, але і надзяляў вераю ў паратунак, спадзяваннем на збаўленне. Надзея. Само гэта імя сімвалічна абяцала спадзяванку на лепшае, надзею. А ўскалыхнуў душу? Пасля знойдзенай запіскі ў патроне хлопец нібыта канчаткова ўсвядоміў, што кожны вярхняк, кожную стойку, што тут у забоі,— гэта ўкралі з Беларусі. Іх па-зладзейску захапілі чужынцы і прывезлі сюды, каб далакопы ў начную змену навекі пахавалі ў змрочным падзямеллі. І яго самога прымусілі быць падручным у гэтых далакопаў. Бо і ён жа, як іншыя, хоць і марудна, хоць і паволі, але капае і капае бяскрайнюю магілу родным соснам. Хлопца мучыла гэтая думка. Ён са злосцю спыніў адбойны малаток. Не толькі не адколваў ім тонкія скрылі вугалю, але нават і не грукатаў ухаластую.

Праўда, дастаткова было ў адным ці ў другім канцы цьмяна асветленага забою мільгануць якому-небудзь падазронаму ценю ці святлу лямпы, як трэба было зноў варушыцца, паказваць выгляд, што нешта робіш. Янку насцярожыў нейкі цень. Хлопец узяў стойку, падставіў пад вярхняк і, змераўшы яе вышыню, пачаў адпілоўваць лішку. Раптам яму здалося, што ён нібы рэжа па жывому. З-пад зубоў лучковае пілы, быццам кроў, пырскала пілавінне. У носе заказытаў цёплы смалісты пах, падобны да таго, што стаяў у фанерным цэху, дзе працаваў ягоны стрыечны брат. Ён казаў Янку, што ў клеі, якім склейваюць фанеру, ёсць прымесь жывёльнай крыві. Дрыжэлі рукі. Усю істоту апанаваў жах, што столь, калі яе не ўмацуеш, вось-вось абваліцца і пахавае жыўцом самога ў гэтай магіле, якую ён сам сабе падрыхтаваў. Спалоханы, хлопец таропка падпёр вярхняк абедзвюма стойкамі і, абшчаперыўшы аберуч адну з іх, павіснуў на ёй з пахіленаю галавою, як вязень, прыкуты ланцугом да ганебнага слупа. Сярод шумлівага гулу, які стаяў у забоі ад грукату адбойных малаткоў і тарахцення транспарцёра, чуйнае вуха, прыхінутае да стойкі, здаецца, улоўлівала, як яна ўся наскрозь, да самага стрыжня напружваецца, парыпваючы пад цяжарам навіслых над ёю тоўшчаў, а прытуленаю шчакою і далонямі адчуваў, што на яе паверхні аж выступае смалісты пот. Ягоныя шурпатыя, натруджаныя пальцы пяшчотна гладзілі зямлячку, заступніцу, абаронцу. У думках ён ужо развітваўся з ёю, усведамляючы, што яму самому яшчэ адпушчаны ў жыцці нейкія дні або месяцы, а яе, змардаваную, але жывучую-жывучую, уначы навекі пахаваюць далакопы. Яна сустрэне смерць стоячы, нават не пахіснецца і не ўпадзе.

Янку ўявілася, як у непралазным гушчары паміраюць дрэвы. Сама прырода выбірае іх сярод іншых. А яны, як громаадводы, прымаюць удар лёсу і марудна, не спяшаючыся, усыхаюць з вяршаліны да самага карэння. Потым мадзеюць ужо не дрэвы, а сухастоіны, пакуль іх не паваліць вецер. Ператворацца яны ў буралом і згніюць лежачы, нікому не патрэбныя.

А яны, ягоныя землячкі, хай сабе і змардаваныя, на чужыне аберагаюць у бядзе, выручаюць ад немінучай пагібелі, грудзьмі засланяючы пры небяспецы. І ратуючы сваіх землякоў, ахвяруюць сабою, сустра-

каюць смерць стоячы. У такім стане далакопы і пахаваюць іх на векі вечныя, далёка-далёка ад радзімы, глыбока-глыбока ў падзямеллі.

У першы ж дзень у шахцёрскім лагеры Янка пачуў ад палонных, што ў падзямеллі працуюць таксама французы, галандцы, бельгійцы і чэхі. Гэта насцярожыла хлопца. Ён ведаў, што Францыя хоць трохі ваявала супраць немцаў і таму французскія палонныя ўтрымліваюцца ў Германіі. Можа, яны працуюць і ў шахтах. А якім чынам трапілі сюды галандцы, бельгійцы, а тым болей чэхі?

Толькі пасля таго, як папрацаваў падручным у Гільро, хлопец дазнаўся пра нягоды замежных шахцёраў.

Аказваецца, Гільро нарадзіўся ў Францыі, каля нямецкай граніцы. Працаваў у шахтах Саара і Эльзаса. Пасля анексіі Эльзаса фашысцкай Германіяй ён, як і іншыя замежныя гарнякі, пакваліўся на добры заробак, які завабіў сюды.

Цяпер спакушае не заробак, а ўтрымлівае страх: яны баяцца, што на акупаванай радзіме замест адбойных малаткоў немцы дадуць вінтоўкі. А то, чаго добрага, яшчэ заганяць чорт ведае куды, за свет, калі не ваяваць, дык вартаваць палонных. Таму прытаіліся і корпаюцца, як краты ў падземных норах, няведама чаго чакаючы. Ператварыліся ў добраахвотных заложнікаў. Многія з іх спачуваюць савецкім палонным, нават спрабуюць ім памагчы.

Янка неаднойчы чуў, як той ці іншы небарака даверліва хваліўся, што яму ўпотайкі перадаў бутэрброд бельгіец або чэх, у якога бедалага працаваў некалі падручным. Але той бутэрброд быў кропляю ў галоднай людской рацэ, якая цякла па штрэках, разгаліноўваючыся ручаінамі па забоях і лавах. Дый замежныя шахцёры запалоханы не меней, чым астатнія насельнікі рэйха, таму паводзілі сябе вельмі асцярожна, абачліва.

Заўсёды, калі даводзілася зрэдку сустракацца з імі, Янка з цікаўнасцю назіраў за іхнімі манерамі, паводзінамі і ўчынкамі. Да гэтага ж яму ніколі не траплялiся на вочы прадстаўнікі народаў Заходняй Еўропы.

Бельгійца Эміля, якога паказваў яму Арсень, ён

бачыў усяго пару разоў. А галандзец Бэкер з выгляду падобны да чэха Франца. Абодва яны драбнаватыя, чарнявыя, з тонкімі рысамі твару. Праўда, вастраносы Франц — ціхмяны, стрыманы ў выяўленні пачуццяў, але затое шчыры, у той час як Бэкер болей жвавы, няўрымслівы.

Ва ўсіх замежных шахцёраў на галовах — лёгкія каскі.

Усе людзі, як людзі,— прыходзіў да высновы Янка. Толькі сярод немцаў — адны нелюдзі.

І яшчэ зразумеў хлопец, што ў падзямеллі можна толькі выпадкова пабачыць іншаземных шахцёраў. А спецыяльна сустрэцца з кім-небудзь з іх цяжка.

Па-першае, іх мала, дый працуюць яны ў розных забоях і лавах. Па-другое, у людской масе, якую пад'ёмныя клеці апускалі ў падзямелле і якая бясконцаю плынню цякла, разгаліноўваючыся па штрэках, такая ж магчымасць сустрэчы двух разрозненых чалавек, як верагоднасць злучэння ў адну бурбалку двух разарваных пухіроў у вадзе, што адпампоўвалі па трубах з шахты, або як аб'яднанне ў адну глыбу двух расколатых кавалкаў вугалю, што падымаюцца на паверхню ў розных ваганетках.

На ростанях, дзе цьмяна асветлены штрэк разгаліноўваецца на два змрочныя, вузейшыя, стаіць драўляная скрыня. Каля яе час ад часу прыпыняюцца шахцёры і палонныя, чакаючы, пакуль падцягнуцца іншыя, якія выходзяць з абодвух цёмных штрэкаў, каб групамі рушыць далей. Падыходзячы да месца, асветленага шахцёрскімі лямпамі, Янка яшчэ здалёк убачыў знаёмую постаць Гільро. Узрушаны, француз нецярпліва кагосьці чакаў.

— Глюкаўф, Жан! — узрадавана павітаўся ён і падышоў да Янкі, які з купкаю палонных спыніўся каля скрыні.

— Глюкаўф! — адказаў Янка на ягонае прывітанне, таксама не хаваючы сваёй радасці.

Глыбока кранула прыхільнасць гэтага зычлівага чалавека. Спачуванне з боку некаторых замежных шахцёраў хлопец паспеў ужо прыкмеціць. Адчувалася яно ў спагадлівых патаемных позірках і ў лагоднай інтанацыі, з якою вымаўляліся скупыя словы пры-

тання пры сустрэчы. Непадобны з выгляду на шахцёра галандзец Бэкер ужо двойчы частаваў Янку нюхальным тытунём. Нават запрашаў у госці пасля вайны.

Пра спагадлівага і чалавечнага бельгійца Эміля, у якога некалькі дзён працаваў падручным Арсень, Янку ўжо расказваў зямляк. Бельгіец як мог дапамагаў Арсеню ў забоі, дзяліўся сваімі бутэрбродамі, вучыў хлопца эканоміць энергію.

А пра сардэчнасць чэха Франца, у якога давялося быць падручным дзядзьку Тарасу, таксама з пахвалою адзываўся сусед. Ён толькі шкадаваў, што не разумеў ні па-нямецку, ні па-чэшску, таму не здолеў па-людску пагаварыць з Францам.

Але ў гэтых нязначных спагадлівых учынках, спачувальных патаемных позірках і скупых прывітаннях адчувалася боязь і асцярога, чаго не заўважалася ў паводзінах Гільро. Наадварот, француз трымаўся незалежна, не асцерагаўся і не дазваляў прыніжаць сваю чалавечую годнасць.

— Жан, прачысці вугальны пыл,— параіў Гільро, насыпаючы з маленькай зеленаватай пляшачкі нюхальны тытунь на пазногаць вялікага пальца, спачатку Янку, а потым — сабе. Хлопец падзякаваў, з цікаўнасцю паглядзеў на авальную пляшачку і пачаў разглядаць залацісты тытунёвы пыл на сваім пазногці. У галандца Бэкера пляшачка квадратная і тытунь у ёй зялёнага колеру. Янка ўжо прыкмеціў у многіх шахцёраў, у адных — круглыя, а ў другіх — плоскія, з сіняватага ці жаўтаватага шкла пляшачкі з нюхальным тытунём рознага адцення. Мабыць, у іх ён распаўсюджаны нібыта кава.

— Сёння раніцаю Гільро бачыў Жана,— па-нямецку паведаміў француз, хаваючы ў кішэню пляшачку.

— Дзе? — здзіўлена спытаўся хлопец, стараючыся не надта паказваць прысутным, што ён размаўляе па-нямецку.

— Калі палонных упускалі ў шахту, Гільро адразу пазнаў Жана, бо Жан носіць французскі шынель. У першую сусветную вайну нашы салдаты ў такіх шынялях разам з вашымі білі бошаў... Жан, а цяпер у вашых лясах бошаў б'юць лясныя салдаты. Іх стала многа-многа,— таямніча прашаптаў ён, задаволены.

Па ягонай лагоднай усмешцы Янка зразумеў, што

Гільро даспадобы гэты шынель і асабліва імпануе тое, што яго носіць на сваіх плячах менавіта савецкі палонны. А пра лясных салдатаў хлопец чуў яшчэ на фронце. Пра іх пісалі газеты. Гільро тым часам па чарзе паднёс пазногаць спачатку да аднае, потым да другой ноздры, злёгку ўцягваючы ў іх тытунь. Янка зрабіў тое ж самае, пераймаючы француза, які пасля глыбока ўдыхнуў тытунь абедзвюма ноздрамі і моцна-моцна чхнуў.

— Будзьце здаровы! — паспеў сказаць хлопец і таксама зачхаў так, што на вочы накаціліся слёзы.

— Што ёсць буце здровы? — зацікавіўся Гільро, калі шахцёры і палонныя рушылі цугам па цьмяна асветленым штрэку.

Янка ўздыхнуў з палёгкаю, бо на хаду, пад шорганне падэшваў, пад галасы і гаворку іншых можна пацiху размаўляць, не звяртаючы на сябе ўвагі пабочных.

— Байм нісэн! [1] — растлумачыў хлопец і, заўважыўшы, як твар Гільро праясніўся, у сваю чаргу запытаўся па-нямецку:

— А як гэта сказаць па-французску?

— А во суэ́! — адказаў Гільро.

— А во суэ?! — паўтарыў Янка.

Твар Гільро засвяціўся ўсмешкаю.

— Буце здровы! — смеючыся, вымавіў ён па-беларуску.

— Будзьце здаровы! Будзьце здаровы! — папраівіў Янка, выразна вымаўляючы кожную літару.

— Буцце здаровы! Буцце здаровы! — задаволена паўтараў на хаду Гільро, практыкуючыся ў вымаўленні.

— У нас яшчэ так звяртаецца кожны да калег і сяброў у застоллі, перад тым, як выпіць кілішак гарэлкі або віна,— сказаў хлопец.

Француз трохі здзівіўся. Але адчувалася, што яму гэта падабаецца. Ён толькі ўдакладніў:

— А ў нас у такіх выпадках кажуць: «А вотр сантэ́!»

— А вотр сантэ?! — перапытаўся Янка, выразна вымаўляючы кожны гук.

— Буцце здаровы! — з усмешкаю сказаў Гільро перад тым, як увайсці ў клець.

— А вотр сантэ́! — адказаў хлопец на развітанне.

---

[1] Будзьце здаровы!

# 9

Па дарозе з лагера ў шахту і назад з шахты ў лагер немцы шчыльна напакоўвалі палоннымі вуглярκі, як бочкі селядцамі. Селядцам усё роўна, як укладваюць іх у тару. А людзям, якія стаяць упрытык адзін да аднаго, нельга паварушыцца або ўзняць апушчаныя рукі. У Янкавы грудзі балюча ўпіваюцца нейчыя дзве лапаткі, вастрыню якіх не прытупляе і не змякчае таўшчыня абодвух шынялёў. Хлопец ужо не адчувае сваіх здранцвелых ног і, мабыць, асунуўся б, калі б яго не падтрымлівалі з усіх бакоў здзервянелыя постаці суседзяў. «Вось так насторч напакоўвалі ў вуглярку і сасновыя стойкі, вывозячы на чужыну. Пры кожным штуршку і ўздрыгванні яны да болю адчувалі адна ў аднае ўсе сучкі і выступы,— падумаў ён, прыгадаўшы дзявочы ліст.— Не ўкладвалі ж іх штабялямі на платформах, бо яны кароткія. Затое іх не ахоўвалі, не мелі лішняе марокі. Дрэва нікуды не ўцячэ само, ці яно, жывое, расце ў лесе ці, спілаванае, ляжыць бервяном. А людзей бач як пільна сцерагуць вартавыя, прымасціўшыся над вугламі вуглярак з карабінамі. Нібы груганы ў гнёздах, нахохліліся, звесіўшы металічныя глюгі. Мабыць, спецыяльна дзеля іхняй бяспекі нас так памногу набіваюць у вуглярку, каб мы былі нерухомыя і скаваныя з усіх бакоў».

На адзіноце, лежачы не верхатуры, Янка ўпотайкі некалькі разоў перачытаў дзявочы ліст. Чым болей перачытваў яго, тым болей адчуваў сябе перад ёю ніякавата за сваю сціслую і сухую пісульку. Усё-такі яе ліст хоць і кароткі, але затое непасрэдны, шчыры. На гэты раз яму таксама хацелася напісаць ёй цяплей, сардэчней. Пад настрой, не адкладаючы, ён адразу ж і напісаў адказ.

«Добры дзень, Надзея! Дзякуй вам за шчыры сяброўскі ліст! Вы, напэўна, не ўяўляеце, як ён расчуліў і абрадаваў мяне. Хай сабе гэта ліст нявольніку ад паланянкі, але ж ён нібыта пасланне з радзімы на чужыну, вестка ад зямлячкі. Мы абое студэнты. Калегі заўсёды паразумеюцца. А тым болей, што мы яшчэ і сябры па няшчасці. Кажуць, сапраўднага сябра толькі ў бядзе пазнаеш. Бяда напаткала наш народ. І нам з вамі таксама нялёгкая доля выпала. На радзіме мяне вучылі выхоўваць гордых, свабодалюбівых людзей. А на чужыне самога зрабілі нявольнікам, растоптваюць чалавечую годнасць. Вы павінны былі дома се-

яць і вырошчваць лясы, а няпрошаныя прышэльцы высякаюць іх. Крыўдна, што і сярод нашых землякоў яны хаўруснікаў і памагатых сабе знаходзяць. Ёсць такія і ў нашым лагеры: камендант Грышка і паліцай Гаўрык. Нават сорамна прызнавацца, што яны землякі.

Пра ваша Палессе я чуў і чытаў. Кажуць, што гэта каларытны кут, з маляўнічымі краявідамі, самабытнымі народнымі абрадамі і звычаямі. Шкада, што сваімі вачамі не пабачыў усяго гэтага. Бо пабываць на Палессі не давялося. Думаю, што такая магчымасць яшчэ будзе. Само ваша імя, Надзея, умацоўвае маё спадзяванне. Дзякуй вам за спагаду і сяброўскую прыхільнасць! Як вы кажаце, будзем падтрымліваць адзін аднаго. Са шчырым прывітаннем! Янка».

І трэба ж такому здарыцца ў жыцці! Як яны падобны адна на адну — Надзея і Воля! Абедзве студэнткі, рослыя, з бялявымі абліччамі і русымі валасамі. Калі б не гэтае падабенства, можа б, і не прыкмеціў ён дзяўчыну ў лямпавай, не звярнуў бы на яе ўвагі. А калі б ён не так паглядзеў на яе, дык, можа б, і яна зусім іначай да яго аднеслася. Невядома, які лёс напаткаў Волю? Ці жывая яна? А можа, і яе вывезлі ў няволю на чужыну?.. Нават нейкае супадзенне і ў іхніх родных мясцінах. Воля не паляшучка, але таксама зляснога кутка. Янку зноў уявіўся сасновы бор каля яе вёскі, праз які ён уцякаў на ўсход. Там упершыню ў жыцці пабачыў цэлыя дзялянкі падсочаных дрэў. Вышэй чым у рост чалавека на гонкіх соснах кара надрэзана стрэлкамі. Пад імі конусы бляшаных конавак, у якія сцякае духмяная жывіца. Здаецца, увесь свет прапахнуў ліпучаю смалою. Успамінаючы ўсё гэта, хлопец сноўдае па лагеры, самотным позіркам аглядаючы наваколле. Якая тут убогая прырода, з гэтымі цёмна-шэрымі аднастайнымі малюнкамі. Толькі на хвіліну затрымліваецца позірк на азярцы, што раскінулася метраў за трыста ад лагерных варот ды на невялікай купцы чахлых хваін трохі далей на пагорку. Але якое гэта азярцо і якія гэта хваіны? Нізіна, у якую сцякла і застаялася вада, і пакручастыя чорныя дрэвы, скалечаныя скупою прыродаю, нібы ў гэтым лагеры людзі, знявечаныя нелюдзямі. Гледзячы на купку куртатых дрэў, ён раптам успомніў чамусьці хвоі на пагорку сталічнага парку.

У засені, лежачы ў высокай траве, ён употайкі перапісваў вершы Ясеніна. Сябар пад строгім сакрэтам даў яму на пару дзён зялёны томік. Янка ўпершыню ў жыцці чытаў гэтую паэзію. Не чытаў, а, смакуючы, патрошкі цягнуў услодыч дагэтуль невядомае, асвяжальнае пітво. Смакаваў і, удосталь не наталіўшы смагі, перапісваў верш за вершам. Ад нязручнасці зацякалі рукі і балелі грудзі. Каб адпачыць, ён пераварочваўся на спіну і ўглядаўся ў раскрытыя, скасабочаныя парасоны непрыглядных хвой з цёмным веццем і крывымі вузлаватымі галінамі. Тады яны здаваліся яму вартымі жалю ў параўнанні з гонкімі баравымі соснамі. А цяпер уяўляюцца казачнымі пальмамі, якія ўздымаюцца на далёкай недасяжнай выспе ў акіяне раз'юшанага полымя.

Янка прасноўдаўся па тэрыторыі лагера і вярнуўся ў барак. Калі наблізіўся да нараў, яшчэ не падымаючыся ўгару, пачуў, што Вадзім паціху спявае. Каб не перашкаджаць, асцярожна ўзабраўся на верхатуру і моўчкі лёг побач. Вадзім як быццам і не заўважыў яго, па-ранейшаму спяваючы. Пару разоў да гэтага ён спрабаваў напяваць штосьці без слоў. Цяпер спяваў прыгожым тэнарам, спяваў паціху. Ягоны голас пераліваўся своеасаблівым трымценнем і афарбоўваўся непаўторным гучаннем. Хлопцу міжвольна прыгадалася нейчае выслоўе пра тое, што песня — душа народа. Сапраўды, як гэта трапна сказана. Песня перадае душэўны стан і настрой чалавека, характарызуе абставіны, у якіх ён апынуўся, расказвае пра пэўныя падзеі. Вось і гэтая, якую спявае Вадзім, знаёмая і не раз чутая, гучыць зусім іначай, успрымаецца па-новаму. Раней ён ведаў, што ў песні просяць птушку, каб яна паляцела на станіцу і расказала роднай пра тое, як сына вялі на расстрэл. А цяпер хвалююць радкі:

Навеки умолкли веселые хлопцы,
В живых я остался один.

Успрымаюцца гэтыя словы трагічна. А праспяваныя тужлівым матывам, выклікаюць яшчэ самотнейшы настрой. Што ты зробіш, калі такое няўмольнае жыццё? Паасобку кожны з іх таксама застаўся толькі адзін. Навекі замоўклі вясёлыя хлопцы, іхнія аднагодкі і пабрацімы. Хіба ж ім, маладым, хацелася паміраць? Яны загінулі ў бітве. Янка з Вадзімам уцалелі.

Ім таксама не хочацца гінуць, а тым болей паміраць дарэмна, на чужыне. Таму абоім па душы гэтае чыстасардэчнае прызнанне:

> Не хочется думать о смерти, поверь мне,
> В шестнадцать мальчишеских лет.

Няхай сабе кожнаму з іх і не па шаснаццаць. Але якая розніца?

Янка прыслухоўваецца да гучання песні, усёю істотаю ўспрымаючы кожную ноту, кожнае слова. Яму ўжо здаецца, што ён слыхам адчувае і зрокам прыкмячае аксамітны, малінавы Вадзімаў голас, які адначасова і балюча забірае за сэрца і пяшчотна лашчыць душу. Увесь засяроджаны ў сабе, хлопец спачатку нават не заўважае, што спяваннем суседа ўжо заслухаліся ўсе, хто знаходзіцца паблізу. Толькі па насцярожанай, да нязвычнасці напятай цішыні спачатку адчувае, а потым прыкмячае гэта. Баючыся парушыць урачыстасць нявольнікаў, ён асцярожна-асцярожна прыўзнімаецца на локцях і, паволі паварочваючы галаву, разглядае, як палонныя з усіх бакоў слухаюць песню. Адны ў напрамку Вадзіма выцягнулі доўгія, схуднелыя шыі, другія падвярнулі адтапыраныя вушы, трэція прымружанымі вачамі нерухома ўтаропіліся ў адну кропку. Мабыць, у такіх абставінах гэтая песня не толькі імпануе ім, выклікаючы водгук у душы і асацыяцыі ў памяці, але і настройвае на роздум. Немагчыма быць абыякавым і да прыгожага Вадзімавага голасу, з усімі адценнямі і нюансамі, якія даносяць песню да кожнага сэрца.

А каб яшчэ ведалі гэтыя слухачы, якія канцэрты, бывала, даваў Вадзім, калі запявалі сваімі агністымі галасамі чатыры ягоныя «кацюшы» ды, нібыта бубен, у лад ім грукатала наваколле і, адгукваючыся працяжным водгуллем, шумелі дрымучыя лясы і плёскалі волхаўскія хвалі. Ажно за восем кіламетраў удалечыні ходырам хадзіла зямля пад вогненным танцам смерці. Калі б ворагі ведалі пра гэта, яны не далі б Вадзіму мадзець на белым свеце, а як грэшніка запраторылі б у падземнае пекла, у самую апраметную.

Янка прыгадаў жачыну, пра якую расказваў Вадзім. Ці чула яна калі-небудзь, які голас у Вадзіма, як ён спявае? Па тым, як шчыра расказваў сусед тады, хлопец зразумеў, што Вадзім моцна кахаў яе, даражыў

яе дружбаю. Але ўчынак жанчыны так скалануў Вадзіма, што перавярнуў усё ў ягонай душы. Выявілася, што яна была перапоўнена не толькі пяшчотаю, але і чалавечаю годнасцю. «Нікчэмнасць, вартая жалю!» — сказаў тады пра жанчыну сам сабе Вадзім.

Сапраўды, нікчэмнасць, вартая жалю... Сказаць так пра каханую мог толькі той, хто глыбока абражаны ёю, але не пазбаўлены чалавечай годнасці, ведае сам сабе цану.

— Як хораша ты пяеш! — парушыў маўчанне Янка.

— Не я пяю, душа пяе.

## 10

Дзіўныя бываюць сны. Часта людзі расказваюць, як бачанае ў сне потым збылося ў жыцці. А з Янкам здарылася якраз наадварот. Яму прыснілася тое, што ў маленстве адбылося з ім на самой справе. Паўстала яно ў сне выразна, з усімі падрабязнасцямі, праплыло перад вачамі, нібы кадры кінафільма, у якім ён сам удзельнічаў.

На апошнім уроку ў чацвёртым класе яны перамалёўвалі з вялікага плаката шкілет чалавека. Вучыліся ў другую змену. Калі скончыўся ўрок і выйшлі з класа, на дварэ змяркалася. Ісці дахаты трэба было міма могілак, за якімі — вёска. Пакуль увесь клас тоўпіўся ў нерашучасці на месцы, многім здалося, што ў прыцемку на могілках сярод крыжоў снаўдае адзінокая постаць.

— Баязліўцы!..— пагардліва вымавіў перарастак Гуд і, расклаўшы ў руках сцізорык, скамандаваў: — За мной!

Вучні моўчкі паслухмяна рушылі ўслед за ім, але, наблізіўшыся да могілак, выразна пачулі глухаватае металічнае бразганне і працяжны стогн: о-го-го, о-го-го!.. Болей не спатрэбілася ніякая каманда. Навыперадкі, адзін за адным, усе ўрассыпную кінуліся наўцёкі па полі, да загуменняў і гародаў. Першы, патануўшы ў прыцемку, з поля зроку знік цыбаты Гуд. На нейчым прыгуменні задыханы Янка з разгону праваліўся ў прадонне і з перапуду закрычаў з усяе сілы. Але крык прагуў, нібы ў парожняй бочцы, і, прыглушана адазваўшыся ўвушшу, глуха заціх,— як пад вадою. У цемрадзі, абліваючыся халодным потам, хлапчук

разгледзеў угары над сабою адтуліну. Задраўшы ўверх галаву, ён спачатку працяжна заплакаў, але потым, надарваўшыся, толькі скуголіў, нібы звер, што трапіў у воўчую яму. Ён не ведае, колькі мінула часу, пакуль зверху прасунуўся ліхтар, які падаваў калматы чорнабароды чалавек, што перагнуўся ў адтуліну.

— Ну досыць, сціхні...— упрошваў ён трывожным голасам.— Вазьмі ліхтар. Я прынясу драбіну. Адкуль нячыстая сіла прынесла цябе сюды? Падзякуй богу, што я быў якраз у гумне. А то і прасядзеў бы тут усю ноч.

Пры святле ліхтара Янка разгледзеў глыбокую яму з рассыпанымі на дне зярнятамі. Бакі яе акуратна выкладзены бяростаю, папрыбіванаю колічкамі. Бяроста, відаць, прыкладзена навыварат, бо жаўтаватая і пабітая рабаціннем чорных вяснушак.

Неўзабаве дзядзька асцярожна прасунуў у яму лёгкую драбіну і па яе прыступках сам апусціўся ўніз.

— Можа, балюча не выцяўся? — пытаўся ён, супакойваючы хлапчука, абмацаўшы рукамі ягоныя плечы і паправіўшы торбачку з кнігамі.— Не бойся. Я пасвячу табе, вылазь па драбіне і спакойна бяжы дамоў.

Чорнабароды дзядзька ўзяў з долу ліхтар, асвяціў да верху драбіну, па якой вылазіў хлапчук, а сам застаўся на дне ямы. Вылезшы са святла на змрок, Янка з непрывычкі не мог нічога разгледзець навокала. Упоцемку, навобмацак, ледзьве выбраўся праз гароды ў вёску і подбегам кінуўся па вуліцы. Добра, што потым нікому не расказваў пра гэта, нават не прызнаўся дома бацькам: саромеўся, што будуць з яго смяяцца. Бо назаўтра ўвесь клас кпіў з цыбатага пераростка Гуда, які з раскладзеным сцізорыкам у руках першы ўцёк, пакінуўшы ўсіх ззаду.

Аказваецца, нічога страшнага не здарылася. Дзядзька Пархвен, сядзіба якога была па суседстве з могілкамі, хадзіў у прыцемку сярод крыжоў, пабразгваючы цуглямі аброці і ўпрошваючы — ніяк не мог злавіць свайго неаб'езджанага, зброддлівага каня, што сышоў са двара. А Янка толькі ў юнацкім узросце скеміў, чаму хітры чорнабароды чалавек не вылез разам з ім з ямы, не пасвяціў ліхтаром і не вывеў хлапчука на вясковую вуліцу: баяўся, што той добра разгледзіць і прыкмеціць месца на прыгуменні, дзе хованка для збожжа.

Якраз у той момант, калі хлопцу снілася, што ён праваліўся ў прадонне і, абліваючыся халодным потам, ад страху анямеў і не можа закрычаць, яго ледзь разбудзіў Вадзім. Спрасонку Янка ніяк не мог апамятацца і не разумеў, што здарылася. Усё цела быццам налілося волавам. Шумела ў галаве. Не прадраўшы заспаных вачэй, чуў, як барак гудзе, нібыта вулей. А разгледзеўшыся, убачыў, што палонныя па праходзе шумлівым натоўпам імкнуцца да выхаду. Запозненых, якія кубарам скочваюцца з нараў, без асаблівай стараннасці падганяюць кіямі перапалоханыя заспаныя паліцаі, час ад часу пакрыкваючы:

— Люфталярм! [1] Марш па бункерах!

Янка ведае, што азначае гэтае слова. Многія палонныя чуюць яго ўпершыню. Але ўсё роўна, занепакоеныя, яны спяшаюцца пакінуць свае логавы. Праз асветлены двор з дзвярэй баракаў людскія рачулкі бягуць у дзверы бункераў. Біўні зыркіх пражэктараў з вартавых вышак нервова слізгаюць па агароджы, абмацваюць і асвятляюць калючы дрот.

У бункеры не так цесна, як у вуглярцы. Але палонныя, стоячы, збіліся ў гурт, бо няма на што сесці. Пахне цвіллю, патыхае холадам ад заінелага скляпення. Янку прыкра, што ў першы дзень з'яўлення ў гэтым лагеры ён прыняў бункеры за капцы. Зморшчаныя людзі, нібы звялыя бульбіны, пазакочваліся сюды, хаваючыся не пад пластом мяккай саломы, а пад тоўшчамі настылага бетону, ад якога, як у маразілцы, можна спруцянець. Адубееш, выпрастаюцца маршчынкі, з вялай бульбіны ператворышся ў крамяны лядзяш.

Здавалася б, чалавек разумная істота, а таксама недасканала створаны. Ён адважна аддае жыццё ў імя высокіх ідэалаў і адначасова са страху гатоў доўга пакутаваць, каб толькі не памерці імгненна. Хоць і паліцаі прыспешвалі палонных, але ж і страх таксама падганяў іх сюды.

Раптам у бункеры тухне святло, выклікаючы ці то выбух агульнага абурэння, ці то ўздых палёгкі. Наступае цішыня, да якой усе насцярожана прыслухоўваюцца. Спачатку слых ледзь улоўлівае далёкі пчаліны гуд, сярод якога, нібыта прыглушаныя аплявухі, чуваць разрозненыя воплескі. Янка ўвесь сціснуўся ў ка-

[1] Паветраная трывога!

мяк і напружыў слых, чакаючы пачуць у душніках прарэзлівы віскат, што наганяе жах і раздзірае душу. Яму здавалася, што з нябёс на зямлю зараз абваляцца грымоты са шквалам агню. Спраўдзіўся пракляты сон з падзеннем у яму, якая па форме якраз такая, як вялізная авіябомба з тупаватаю галавою, тоўстым доўгім тулавам і танчэйшым хвастом. Калі гваздане такая ў бункер, ад яго і мокрага месца не застанецца. Цяпер толькі ў падзямеллі ад яе выратаваўся б. Усё-такі крыўдна гінуць ад бомбы саюзнікаў. Лепей бы ў бітве з ворагам памёр. А можа, яны ўсляпую бамбіць не будуць, выкінуць спачатку на парашутах асвятляльныя ракеты і потым пачнуць ужо трам-тарарам. Для пачатку хай бы хоць адною тысячакілаграмоваю гвазданулі ў ствол шахты ці па хімічным камбінаце. Во дзе было б відовішча! І ў гэты час, як па загадзе, нібыта далёкі ўдар грому, пачуўся выбух. Чорт яго бяры, хай сабе нам суджана загінуць дарэмна, але затое і тут нарэшце адчуюць фрыцы на сваёй скуры, што такое распачатая імі вайна. Узмацняецца і пашыраецца адплата за сусветны разбой і рабаванне.

Але болей выбухаў не чутно. Можа, і папярэдні быў не выбухам бомбы, а ўзрывам падбітага самалёта. Па глухаватых разрывах зенітных снарадаў можна здагадацца, што самалёты ляцяць на вялікай вышыні.

У невядомасці, напружанні і трывожным чаканні праходзіць некалькі гадзін. Ад цёплага шматлюднага дыхання растае іней настылага скляпення. І халодныя кроплі вады капаюць на галаву, трапляюць за каўнер. Некаторыя палонныя даўно селі на халодную цэментную падлогу, падклаўшы пад сябе шынялі. Пасля не стала чутно глухаватых выбухаў зенітных снарадаў і, паступова аддаляючыся, сціх гул матораў. Але трывожнае напружанне ўсё роўна не пакідала людзей. Марудна цягнуліся доўгія пакутлівыя хвіліны. Нарэшце густую цішыню бункера распаласавала на часткі далёкае завыванне сірэны, якое знадворку пранікла ў душнікі. Што гэта? Сігнал няшчасця?.. Неўзабаве ў абодвух канцах бункера амаль адначасова спачатку забразгаталі засовы на дзвярах, а потым заскрыпелі заржавелыя завесы і нейчы голас загадаў:

— Адбой! Марш па бараках!

Цяпер паліцаям не трэба кіямі выганяць палонных

з бункераў. Яны самі паспешліва, подбегам вяртаюцца ў баракі, каб яшчэ хоць гадзіну паспаць.

У Янкі зліпаюцца павекі і разломваецца лоб. Ён прасунуў руку пад шапку, абмацаў надлоб'е, цемя — і пальцамі і далонню адчуў, што пабольвае скура, напятая чэрапам, пад якім замест мазгоў быццам распухла штосьці нежывое. Хлопец вяртаецца ў барак з дваістым пачуццём. Прагучаў сігнал адбою. Мінула пагроза смерці. Але разам з гэтым душу раз'ядае нейкая трывога. Што за налёт без бамбёжкі? Угары праляцелі паветраныя армады і ніякага следу на зямлі не пакінулі? Толькі напалохалі немцаў, але не далі адчуць, што такое распачатая імі вайна?

Як і ў Янкі, у Вадзіма паганы настрой, няпэўнасць і незадаволенасць. Ён мяркуе, што, можа, саюзнікі пачынаюць калашмаціць Германію ў цэнтры, таму яшчэ не бамбяць Рура.

— Вось таму нам асабліва трэба ўсё абмазгаваць. Трапляецца зручны момант. Не прапусціць бы, не праваронiць такога выпадку,— таямніча прашаптаў ён, імгненна засынаючы.

Янка таксама адразу ж заснуў. Салодка спіцца чалавеку, зморанаму цяжкою працаю і змучанаму вымушанаю начною бяссонніцаю. Здаецца, не хапіла б ні дня ні начы, каб адаспацца.

Пасля начнога вэрхалу хлопец сам не свой. Мала таго, што і сягоння Надзеі няма на працы, дык яшчэ невядома, што творыцца тут, дзе выдаюць лямпы. Мабыць, наўмысна Фрэйвальд сваёй паўнаватаю постаццю засланіў акно, каб ніхто з палонных добра не разгледзеў, што робіцца ў лямпавай. Не адыходзіць адсюль ні на крок, пакрыквае на кожнага:

— Проходи скорее! Не задерживаться!

Праз яго плячо Янка ўсё-такі зірнуў усярэдзіну лямпавай. У ёй зусім іншыя жанчыны. Дзе ж Надзея? Дзяўчына раптоўна знікла, як праз зямлю правалілася. Трэці дзень, праходзячы міма акна, хлопец вымае і зноў хавае ў кішэню адказ на яе апошні ліст, у якім яна, між іншым, напісала пра каменданта Грышку і паліцая Гаўрыка. З ёю жыве тут маладая жанчына з таго палескага мястэчка, адкуль родам абодва гэтыя прайдзісветы. Аказваецца, Грышка працаваў там на-

чальнікам пажарнай. Нічым не вылучаўся. Толькі быў прыкметны постаццю ды яшчэ любіў выслужыцца перад начальствам. Гэтая схільнасць стала ягонаю слабасцю. Каб выслужыцца, ён гатоў быў вылузвацца са скуры. Можа, таму яго і не павышалі па службе: пабойваліся, што калі падымецца, дык сабою падамне іншых.

А ад гіцля Гаўрыка за вярсту патыхала псінаю. Мабыць, нюхам яе адчувалі местачковыя сабакі, бо там, дзе ён праходзіў вуліцаю, у дварах на прывязі яны са страху вылі. У школьным узросце Гаўрык лавіў і лупіў кратоў. Потым кінуў вучобу. Але кратовыя шкуркі занадта маленькія, з імі няма разгарнення. Вунь колькі іх пойдзе на футра для мажное кабеты! Іншая справа — сабака. Ён як цяля. Прынамсі, ягоная шкура — велічынёю з аўчыну. Дык авечкі ж не швэндаюцца без нагляду, як сабакі — без гаспадароў. З трох-чатырох сабак уга якая мужчынская даха выйдзе! Гаўрык вырас і адпаведна ўзросту надаў справе належны размах.

Калі Янка расказаў пра ўсё гэта Вадзіму, той злосна абураўся абодвума пярэваратнямі. Аднаго абзываў шкурнікам, які не нагрэў рукі на мясцовых пажарах, дык хоча на сусветным пажывіцца, а другога — скурадзёрам, што з-за адсутнасці сабак з людзей жыўцом здзірае скуру.

Эх, Надзея, Надзея! Куды ж ты прапала, Надзейка? Без тваёй зыркай лямпы хлопец вочы прагледзеў у змрочным падзямеллі. Ад іншых цьмяных лямпаў пацямнела ў ягонай душы асветленая табою надзея, якая ледзьве цепліцца ў сэрцы маленькім кволым спадзяваннем.

Адразу ж пасля працы па душавой і па раздзявальні, як гром сярод яснага неба, пракацілася пагалоска: усё-такі з аднаго самалёта па шахтавым двары гвазданулі паветранаю тарпедаю. Падазраюць, што знізу лямпаю падалі сігнал, бо выбухам разваліла сцяну ў акумулятарнай і пашкодзіла лямпавую.

Калі хлопец пачаў распытваць у Вадзіма пра верагоднасць усяго гэтага, той з іроніяй у голасе адказаў:

— У страха вочы вялікія. Тут яшчэ не бачылі выбуху сапраўднай авіябомбы. От ім і блюзніцца нейкая паветраная тарпеда. Чулі звон, ды не ведаюць, дзе ён. Невялікая бомба, мабыць, выпадкова скінутая, сапраўды трапіла ў акумулятарную. Ды якая карысць з яе?

Толькі сцяну развярнула,— і таямніча прашаптаў, калі яны апраналіся: — Незаўважна пададзень пад вопратку пінжак спяцоўкі. А можа, спатрэбіцца. На волі клеймаванаму няма раздолля.

Янка зразумеў, што Вадзім задумаў штосьці сур'ёзнае. Калі вярнуліся ў лагер, у часе абеду на верхатуры сусед паспачуваў Янку, што абарвалася сувязь з Надзеяй, і растлумачыў:

— Думаеш, пра нас клапоцяцца ў часе паветранай трывогі? Наадварот, баяцца, каб мы не разбегліся. Таму і заганяюць у бункеры. Трэба выкарыстаць момант, пакуль яны самі, як перапалоханыя пацукі, хаваюцца ў бамбасховішча. Калі паўторыцца паветраны налёт без бамбёжкі, яны асмеляцца і не стануць хавацца. Тады ўжо не ўцячэш, будзе позна.

Скончыўся абед. Вадзім і Янка панеслі міскі на кухню.

— Трэба нагледзець утульную мясціну, дзе можна часова прыхавацца, калі выганяюць з баракаў у бункеры,— прашаптаў Вадзім Янку, павольна ідучы з ім побач.— Нябось, спалоханыя вартавыя таксама схаваюцца. Калі патухне святло, у апраметнай цемры перамахнем цераз вароты. Да іх ток не падключаны. На шахтавым двары я такі тайнік аблюбаваў, што ў ім сам чорт не знойдзе. Ды нікому і ў галаву не прыйдзе, што мы перайшлі туды.

Каля кухні яны паклалі міскі на стол і сноўдалі па лагеры, незаўважна выглядаючы які-небудзь зацішны куток, прыдатны для кароткачасовае схованкі на выпадак паветранай трывогі.

На хаду Вадзім выкладаў далейшы план:

— Аказваецца, адсюль рукой падаць у Галандыю. Менш пяцідзесяці кіламетраў. Нават Рэйн не трэба фарсіраваць. Наперадзе, недалёка толькі нейкі яго прыток... У часе начнога паветранага налёту — гэта не перашкода.

— Хоць блізка, але пад нагамі слізка,— іранічна зазначыў Янка.

— Некуды аглядвацца, калі смерць за плячамі.

«Глядзі ты, а я і не ўяўляў, што побач Галандыя. Недарэмна ж Бэкер, частуючы мяне нюхальным тытунём, запрашаў у госці пасля вайны. Казаў, што ягоны Тэрбарг недалёка адгэтуль. У наступны раз трэба заручыцца ягоным адрасам. Ён можа спатрэбіцца».

Але дзе ні сноўдаліся яны па лагерным двары, ні на чым не затрымліваўся іхні праніклівы позірк. Ён слізгаў то па гладкіх барачных сценах, з якіх нават нідзе не выступалі ўваходныя сенечкі, то па прыпляснаных дахах без усялякіх гарышчаў, то па лабатых погарбах бункераў з пакатымі, утравянелымі схіламі, нібыта падстрыжанымі пад вожыка. Яны праглядаюцца з вартавых вышак, а паверхня навокала, як выпрасаваная: на ёй ні складак, ні пагоркаў.

Так і не нагледзеўшы нічога, расчараваныя, яны вярталіся ў барак.

— А што, калі ў апошні момант рассунуць на нарах матрацы ды між іх ушчаміцца? — няўпэўнена спытаўся Янка.

— Задумаў уцякаць, дык нечага ляжаць. Выявяць. Мы яшчэ не настолькі пахудзелі, каб не вытыркацца паміж матрацаў.

Янка слухае Вадзіма, верыць яму, як самому сабе. Нават давярае болей, чым сабе самому, за ягоную сталую вопытнасць і цвярозую разважлівасць, спадзяецца на ягоную камандзірскую кемлівасць. Цяпер хлопцу сорамна, што спачатку да яго халоднаю вужакаю падпаўзала сумненне. У сэрца закрадвалася недаверлівасць. Хоць Вадзім і пажартаваў, нібыта блізкі сусед лепей далёкай радні, але што з таго? Ён жа яму не аднагодак. А гэтыя двое, што ўвесь час трымаюцца разам, таксама ж суседзі: спяць на адным узгалоўі. Яны старэйшыя за Янку. Ён асабліва насцярожыўся, калі даведаўся ад Вадзіма, што і яны ўтаілі афіцэрскія званні. Аказваецца, валжанін Дробат — ваентэхнік, а сібірак Сівалін — начхім. Толькі пасля таго, як Вадзім, цяжка ўздыхаючы, прызнаўся аднойчы: «Бяда на чужыне бязмоўнаму», а потым, другім разам, удакладняючы гэтую думку, яшчэ намякнуў, просячы, каб Янка быў ягоным языком, хлопец зразумеў, што ён патрэбен суседу, што яны ўзаемна неабходны адзін аднаму. Цяпер Янку няёмка, што раўнаваў Вадзіма да Сіваліна і Дробата. Сібірак і валжанін падабаюцца яму за далікатнасць і таварыскасць. Яны неразлучныя. Хоць ён бачыць іх толькі раніцаю ды ў нядзелю, бо працуюць яны ў дзённую змену, але Янка прыкмеціў, як суседзі ўпотайкі перашэптваюцца. Мабыць, штосьці задумалі. Не спяць у шапку.

І Янка з Вадзімам ніяк не могуць заснуць. Звеча-

ра спрабавалі не выдаваць сваёй узбуджанасці. Размаўлялі, нават жартавалі, а цяпер упоцемку ляжаць ціха, не перагаворваюцца. Вадзім часта варочаецца з боку на бок, мабыць, непакоіцца, нервуецца. А Янку раптам уявілася, як яны ўдвух перамахнуць праз вароты і, вылузнуўшыся з клеймаванай уніформы, у спяцоўках, на плячах якіх няма ніякага таўро, сігануць у цемрадзь начы. Чамусьці прыгадалася кніга «Чалавек мяняе скуру», якую да вайны незаўважна прыбралі са школьнай бібліятэкі. Тады нейкаю дзіўнаю здавалася яму гэтая назва. Ён ведаў, што змеі мяняюць скуру. Цікава, чаму яе мяняюць толькі тыя, хто поўзае? Паліцай Гаўрык таксама падкалодная змяя. Хоць у яго і няма на плячах кляйма, а ён жа змяніў скуру. Гаўрык жывадзёр у чалавечай скуры. Янка памятае, як вясковыя хлапчукі на мурагу краталоўкамі лавілі кратоў. Гаўрык з маленства асвойтаўся з гэтаю справаю, налаўчыўся лупіць кратоў, а як вырас, заняўся лоўляю сабак. У горадзе на сенным базары Янка аднойчы бачыў, як адзін гіцаль з жэрдкаю, на канцы якой пругка ўздрыгвала драцяная пятля, перапалохаў не толькі сабак, але і нагнаў жах на людзей. Дзіва што! Гэтакі жывадзёр і з чалавека здзярэ скуру. Нездарма ж Гаўрык жардзіну змяніў на кій. Кажуць, убогага кій корміць. Аказваецца, кій можа карміць і прайдзісвета.

Вярзецца чорт ведае што! Узбіўся на гэтага праклятага скуралупа. Каб адкараскацца ад неадчэпных думак, Янка перавярнуўся на другі бок. Неўзабаве прыйшло супакаенне, думкі набылі іншы кірунак. Чаго чалавек моцна жадае, да чаго ўсёю душою імкнецца, пра тое ён і думае. У Янкі багацця, як у пагарэльца. А кажуць жа, той нічога не страціць, хто нічога не мае. Ён толькі пазбудзецца няволі. Вядома, не ўсё тое збываецца, на што чалавек спадзяваецца. Свайго лёсу не мінеш. Але калі ўжо Вадзім абмазгаваў усё як след і аблюбаваў надзейную схованку на шахтавым двары, то рызыкнуць варта. Тым болей што пад бокам Галандыя. Янка і не ўяўляў, што да яе адсюль меней паўсотні кіламетраў. Хай сабе яна і акупавана Германіяй, але жывуць жа ў ёй усё-такі галандцы. І ўспомніў драбнаватага Бэкера, які ўжо двойчы частаваў яго нюхальным тытунём — і ад гэтых успамінаў пацяплела ўсярэдзіне. Цеплыня разлівалася па целе. Разморany ёю і стомленасцю ён хутка заснуў.

**11** Звычайна, калі шахцёры — і немцы і іншаземцы — пачынаюць палуднаваць, многія палонныя не сядзяць у сваіх нішах, а ідуць у забоі да землякоў, знаёмых або суседзяў і, сабраўшыся купкамі, бавяць час не на адзіноце.

Янка таксама пайшоў адведаць Арсеня, які працуе ў самым канцы, там, дзе вугаль з транспарцёра няспынным вадаспадам цячэ ў ваганеткі адкатачнага штрэка. Спусціўшыся па нахіле забоя, знайшоў землякову нішу. Спачатку не звярнуў увагі на тое, што ў ёй бязладна раскіданы шахцёрскі рыштунак. Самога Арсеня не было. Янка падумаў, што зямляк злез уніз да адкатчыкаў. Яны ж ягоныя суседзі. Дый там хоць можна разагнуць спіну, выпрастацца на ўвесь рост, падыхаць свяжэйшым паветрам. Усё-такі адкатачны штрэк — не забой. Хлопец чакаў Арсеня, седзячы на глыбе вугалю, абыякава аглядаючы напятую драцяную сетку, пустату за якой начная змена забуціла пародаю. Ягоны пагляд спыніўся на складзеных, нібыта зрубы калодзежаў, драўляных клетках мацавання. У маленстве на печы ён складаў узімку такія клеткі з нашчапанай лучыны. Каб яны не падалі, для ўстойлівасці заціскаў іх між чарэнню і столлю хаты, як гэтыя заціснуты між падэшваю і столлю забоя. Ён складаў іх з чатырма вугламі, а тут трапляюцца і трохвугольныя. Рассеяны Янкаў позірк слізгануў па кучах пароды, што навалена перад клеткамі, і на схіле аднаго погарба спыніўся на нечым, што вылучалася сваёй белізною. У забоі, на фоне чорнага вугалю і цёмна-шэрай ці попельнай пароды толькі выпадкова акораная сасна выглядае жаўтлявамо. Пацямнелая драўніна мае непрыкметны шэры колер. Што там бялее? Можа, кавалак паперы, у які хто-небудзь загортваў бутэрброды? Але ж немцы, як правіла, не кідаюць яе абы-дзе, а, акуратна склаўшы, хаваюць у кішэні спяцовак. Не адолеўшы цікаўнасці, Янка ўстаў, пералез цераз транспарцёр і наблізіўся да накіданага погарба. Нават пры святле сваёй лямпы, разгледзеўшы бруднаватасць прадмета, хлопец не мог зразумець, што бялее сярод пароды. Намерваючыся падняць гэтую рэч, ён узяў рукою за яе танчэйшы канец, але, адчуўшы пад пальцамі кволую цеплыню і кароткія радкавыя валасы, дзіка войкнуў і з усяе сілы закрычаў, клічучы на дапамогу. З-пад пароды відаць была чалавечая галёнка.

Трывожны крык прарэзліва слізгануў па выкаўзаным транспарцёры прыціхлага забоя, абапал перакочваючыся ад стойкі да стойкі запаволеным пошчакам. Калі палонныя, нібы ветрам падхопленыя ім і прыцягнутыя ягоным водгуллем, якое паціху вярталася назад, прамчалі цугам па нахіле міма шахцёраў, апошнія, адчуўшы, што нешта здарылася, таксама пашыбавалі ўслед. Першыя, хто прыбег на дапамогу, хутка выбавілі Арсеня з-пад погарба, якім ён быў прыкіданы.

Па бледных губах, выразна вызначаных на замурзаным твары, і па частым пульсе, які ледзь-ледзь праслухоўваўся, было відаць, што парода, наваленая на хлопца, сваім цяжарам яшчэ не выціснула душу з ягонага аслабелага цела.

Кожны, хто падыходзіў сюды, перш-наперш інстынктыўна аглядаў над Арсенем трывала ўмацаваную столь і, не знаходзячы на ёй ніякіх слядоў абвалу, здзіўлена паціскаў плячамі. Усе разумелі, што тут не няшчасны выпадак, а загадкавая зламыснасць, учыненая невядома па чыёй віне. Малаверагодна, што яна адбылася ў выніку спрэчкі ці сваркі Арсеня з суседзямі. Такое магло здарыцца хіба толькі пры варожай сутычцы з начальствам. Але ні штайгер, ні ягоны памочнік яшчэ не заяўляліся ў забоі.

Ціхмяны чэх Франц, які прыбег адным з першых і памагаў адкопваць Арсеня, зняў з яго шапку, чаравікі, расшпіліў спяцоўку. Разам з Янкам і іншымі палоннымі ён дапамог пакласці Арсеня спінаю на рышток, наперад апушчанаю галавою, каб да яе прылівала кроў. Параіў у такім стане асцярожна спускаць пацярпелага па транспарцёры ў адкатачны штрэк, дзе свяжэйшае паветра, а сам хуценька кудысьці адлучыўся. Нехта з палонных пашкадаваў, што няма пад рукамі нашатырнага спірту, каб даць панюхаць Арсеню і нацерці ягоныя скроні.

«Хоць бы халоднаю вадою апырскаць хлопцаў твар. Дык і яе ж тут нідзе не знойдзеш».

Калі Арсеня апусцілі ў штрэк і паклалі на доле таксама галавою ніжэй, хтосьці з іншаземных шахцёраў на пазногці паднёс да ягоных ноздраў дробачку нюхальнага тытуню. Тытунёвы пах, мабыць, казытнуў у носе, які ледзь прыкметна зморшчыўся. Янка ўздыхнуў, заўважыўшы гэтую прыкмету кволага дыхання земляка. Тым часам сюды прыспеў задыханы

Франц, трымаючы ў руцэ біклагу. Ён паспешліва наліў сабе ў далонь кавы і акуратна апырскаў ёю Арсенеў твар.

— На жаль, яна не халодная,— расчаравана прамовіў па-нямецку чэх і, пачакаўшы, усё роўна апырскваў.

Калі ён з невялікімі перапынкамі некалькі разоў паўтарыў гэтую працэдуру, пацярпелы апрытомнеў: ледзь-ледзь паварушыў губамі.

— А цяпер наадварот, добра было б, калі б кава была гарачая,— прамовіў задаволены чэх, патрошку льючы з нахіленай біклажкі ў рот хлопцу цёмна-жоўтую вадкасць.

Праз некаторы час Янка зразумеў, што бяда мінула. Арсень апамятаўся: спачатку аблізаў языком губы, а потым на нейкае імгненне расплюшчыў павекі.

— Трэба неадкладна падымаць яго на паверхню,— параіў Франц.

Разам з Янкам і яшчэ трыма палоннымі яны аднеслі Арсеня ўсцяж гружанага саставу да самай пярэдняй ваганеткі. Каля яе паціху апусцілі хлопца на дол. Хуценька разраўнялі ў ваганетцы вугаль, выбраўшы спераду ўпадзіну, і зверху асцярожна паклалі цела, па-ранейшаму галавою ніжэй.

— Ну, з богам! — прамовіў чэх, выпраўляючы гэтую незвычайную працэсію. Ён параіў узяць па дарозе да клеці пляцоўку, на якой возяць лесаматэрыял, і перакласці на яе Арсеня. Палонныя выканалі гэтую параду. Яны не толькі знайшлі парожнюю «казу», як называюць шахцёры пляцоўку, але яшчэ і выклалі на яе дне з верхняку неглыбокія ночвы, у якія зручна паклалі свайго таварыша.

А ў адкатачным штрэку, як дазнаўся Янка пасля звароту ў лагер іхняй змены, выбухнула гнеўнае абурэнне. Успыхнула яно як ад іскры, ад навіны, якую паведаміў адкатчык. Аказваецца, перад самым абедам штайгер са штрэка лазіў у забой, але чамусьці не пайшоў па ім, як заўсёды, а хутка вярнуўся назад. Палонныя западозрылі яго ў зламысным замаху на жыццё чалавека і, узбуджана мітынгуючы, завочна пагражалі самасудам і расправаю. Невядома, чым бы гэта скончылася, калі б ён тады трапіў ім на вочы.

Адзін знявечаны нявольнік, а столькі клопатаў і абслузе, і ахове, і начальству! Набраліся яны з ім ма-

рокі. Тады, калі трэба вугаль выдаваць на гара, шахтавая абслуга павінна падымаць на паверхню ляжачага нявольніка. Ахова ў непрадугледжаны час вымушана прысылаць канвой — крый бог уцячэ ляжачы — шукаць насілкі і машыну, каб забраць няшчаснага ў лагер. А лагернае начальства — хоча ці не хоча — прымай палоннага і ў такім стане ды яшчэ думай, дзе яго ўладкаваць. Таму і не дзіўна, што пры выкананні службовых абавязкаў яны злуюць: адны моўчкі чмыхаюць, другія гугнявяць штосьці пад нос, трэція бязбожна лаюцца. Вядома ж, справу маюць не з паўнацэнным чалавекам, а з нявольнікам, якім можна пагарджаць, якога можна абразіць. Нават хворы або фізічна знявечаны, ён не выклікае ў іх ні жаласці, ні спагады.

Арсеня паклалі ў санчасць, у бараку, побач з кухняю. Гэта своеасаблівы кароткачасовы пункт, дзе звычайна бываюць толькі хворыя і тыя, каго пакалечыла на шахце. Адсюль разам са знясіленымі лагернымі дахадзягамі іх перасылаюць этапам у шахцёрскі шталаг. Вядома, толькі ўмоўна можна лічыць санчасцю пакойчык, дзе чатыры ложкі і маленькі столік па суседстве з цеснаю бакоўкаю, у якой захоўваюцца аптэчка ды банькі з клізмаю. Наколькі намінальная гэтая ўстанова, настолькі мізэрны і яе персанал у асобе аднаго-адзінюткага фельчара, дый таго падазронага. Падазронага, бо ў кожным лагеры пры адборы і прызначэнні на пасаду кухара або цырульніка ці фельчара ім прыкідваецца любы спрытнюга, якога ў лагерныя прыдуркі благаслаўляе ўказальны палец пана камендаданта.

Пятрушу ў лагеры звалі санінструктарам, не давяраючы ні ягоным медыцынскім ведам, ні ягонай фельчарскай кваліфікацыі. Адны думалі, што такое ў яго імя, другія былі ўпэўнены, што Пятруша — прозвішча. Ці з прычыны таго, што ўжо ўсім уеліся ў косці ласкавыя імёны цельпукаватага каменданта Грышкі і грознага паліцая Гаўрыка, ці праз ягоную нізкарослаць і драбнату рэдка хто называў фельчара Пятрушкай. Толькі жартаўнікі пакеплівалі, што хаця Пятрушка побач з кухняю, а ў баландзе ўсё роўна ні смаку, ні паху ад гэтае прыправы. Затое часта пахне ёю ў паліцайскай штубе, невялікім доміку, дзе жывуць лагерныя прыдуркі. Размяшчаецца ён побач з прахадной.

Пранырлівы і ўслужлівы Пятруша ведаў, каму варта прыслужваць. Ён добраахвотна выконваў вакантную пасаду дзеншчыка ў паліцаяў і большую частку вольнага часу бавіўся ў іх. Некаторыя падазравалі і нават плявузгалі, што ён спіртам з аптэчкі задобрывае паліцаяў. Аднак наўрад ці быў калі-небудзь у ягонай убогай аптэчцы спірт. Арсеню Пятруша нацёр скроні нашатырам, даў запіць мікстураю нейкі парашок, прынёс з кухні абед і, задаволены, што адведаць земляка прыйшоў Янка, даручыў яму прыгледзець і пакарміць хворага, а сам хутчэй пабег у паліцайскую штубу.

Янка адчуваў, што зямляк аслабеў, таму прымусіў яго паабедаць на ложку, лежачы. Арсень не выяўляў прагнасці да ежы. Еў неахвотна, марудна. Але, падсілкаваўшыся, ці то адчуў прыліў дужасці, ці то, саромеючыся, адмовіўся ляжаць, а ўсеўся на край ложка, апусціўшы ногі на падлогу. Янка не хацеў вярэдзіць яго свежыя сардэчныя раны і непакоіць душу, нават не збіраўся распытвацца пра тое, што адбылося ў забоі.

У Арсеня, канечне, смылела сэрца. Душу вялізным грузам гняла крыўда. Каб скінуць яе цяжар, яму самому хацелася выгаварыцца. А перад кім жа яшчэ паспавядаешся тут, як не перад земляком? Ён адзіны блізкі чалавек на чужыне. І Арсень, нібы грувасткія камяні, пачаў выварочваць з сябе словы:

— Во, халера. Ледзь не аддаў богу душу. Забаронены прыём ужыў, пракляты штайгер. Садануў пад дых кулаком, як баксёр — пальчаткаю.

— Трэба ж было абараняцца.

— Надта абаронішся голымі рукамі.

— А кірка навошта?

— Яе не было блізка. Я сядзеў на вугальнай глыбе. Ён вылез са штрэка. Убачыў, што я не працую — і ў наступ на мяне, халера. Я ўправіўся схапіць шуфель. Наставіў яму насторч. Трымаю наперавес, як вінтоўку са штыком. А ён, халера,— за кірку. Злаўчыўся ды як гакнуў ёю наводмаш, дык і выбіў з рук шуфель. Я з гарачкі кінуўся наўцёкі цераз транспарцёр. А там жа ўцякаць няма куды. Трэба было бегчы ўздоўж забою.

Пасля гэтага чыстасардэчнага прызнання Янка, нібы ўвачавідкі, убачыў перад сабою кароткую драматычную сцэну, якая разыгралася ў забоі, і ўявіў ролі

4 Зак. 2074

яе абодвух выканаўцаў. Раз'ятраны штайгер, мабыць, выцяў хлопца пад сонечнае спляценне. А ці многа трэба знясіленаму, галоднаму чалавеку? Наўрад ці чакаў немец такога выніку барацьбы. Ён, відаць, сам перапалохаўся. Каб замесці свае сляды і не выклікаць на сябе падазрэння, з перапуду прыкідаў ахвяру пародаю і, не паказваючыся нікому на вочы ў забоі, вярнуўся назад у штрэк.

— Во, халера. Як я не задыхнуўся пад пародаю?

— Жывучы. Дый, мабыць, паміраць яшчэ не пара.

Янка расказаў Арсеню, як ён заўважыў ягоную галёнку і паклікаў на дапамогу палонных.

— Мабыць, падсвядома ты выпраставаў падкурчаную нагу і адкінуў пароду, ссунуўшы ёю да калена калашыну і агаліўшы галёнку. Добра, што яшчэ на гэта хапіла сілы. А то і слядоў ніякіх ніхто не заўважыў бы.

— Во, халера. Жывога пародаю забуціла б начная змена.

## 12

Калі Янка вярнуўся з санчасці і расказаў пра ўсё Вадзіму, у суседа ўзнікла цікавасць, а ці нельга пранікнуць туды ў пачатку паветранай трывогі, калі фельчар павядзе хворага ў бункер? Яны памеркавалі пра гэта, і Вадзім папрасіў Янку, каб той, калі будзе адведваць земляка, абавязкова ўсё разведаў, вывучыўшы абстаноўку на месцы. Але гэты план адразу ж адпаў. Янка выявіў англійскі замок на ўваходных дзвярах санчасці і вярнуўся з разведкі расчараваны. Не было ніякага сумнення ў тым, што, выводзячы ў бункер хворага, санінструктар замкне гэтую кануру, можа, выконваючы загад начальства, а можа, баючыся, каб не прапала аптэчка з прымітыўнымі медыцынскімі прычындаламі. Заставаўся толькі адзіны, не асабліва надзейны варыянт, на якім прыйшлося спыніцца. Як прагучыць сігнал паветранай трывогі, ім трэба затрымацца на верхатуры, пакуль апошнія палонныя будуць выбягаць з барака, а потым незаўважна прашмыгнуць у прыбіральню і, прытаіўшыся, дачакацца, калі запруць дзверы бункераў і выключаць святло ў лагеры. Раней забягаць у прыбіральню рызыкоўна, бо пасля сну кожнага патрывожанага паланнага баланда таксама пагоніць туды абавязкова. А ўслед, прыспешваючы і падганяючы, можа забегчы хто-небудзь з

паліцаяў, які вытурыць адтуль. Каб ажыццявіць свой план, ім абодвум неабходна вытрымка, дакладны разлік і спрыт. Вадзіму гэтага не пазычаць. А Янка пастараецца пераймаць яго і следаваць за ім ва ўсім.

Пачалося ўсё нібыта па загадзя распрацаваным раскладзе. Знясіленыя ад недаядання і стомленыя цяжкою працаю палонныя моцна спалі і не чулі ні прарэзлівага завывання сірэны, што абвясціла паветраную трывогу, ні скрыпу дзвярэй, якія адамкнуў паліцай Аляксей. Спачатку толькі нямногія з тых, чые нары знаходзіліся паблізу, прачнуліся ад ягонага ўстрывожанага голасу, які не загадваў, а ўпрошваў:

— Хлопцы, паветраная трывога. Бяжыце ў бункеры.

Вадзім і ў лагеры не адвык ад вайсковае прывычкі: спаў вельмі чуйна. Яны з дзядзькам Тарасам прачнуліся ад першых слоў паліцая. Дзядзька Тарас у адзін момант нырнуў з верхатуры ўніз, а Вадзім не спяшаючыся раскатурхаў Янку. Яны хуценька ссунулі ў бакі абодва крайнія матрацы і ніцма ўціснуліся ва ўпадзіны, якія ўтварыліся абапал Янкавага сенніка. Шчыльна прытуліліся жыватом і грудзьмі да аголеных дошак, як быццам імкнучыся ўсёю істотаю зліцца з імі і разам з тым у чаканні напружыньваючы ўсё цела, каб у патрэбны момант імгненна падхапіцца. Сярод мітусні і бегатні чуўся Аляксееў голас, які па-ранейшаму не загадваў, а ўпрошваў:

— Хто прачнуўся, не забывайце разбудзіць суседзяў.

Янка асабліва задаволены, што якраз цяпер у бараку будзіць палонных менавіта Аляксей. Невядома, хто і якім чынам вылучыў яго на пасаду паліцая. Хлопец яшчэ ні разу не чуў, каб Аляксей павысіў на каго-небудзь голас або вылаяў палоннага. Хаця, як і іншыя паліцаі, ён ходзіць заўсёды з кіем, але носіць яго ўсё роўна як дзеля прыліку, бо ніколі ім нікога не выцяў. Калі Аляксей дзяжурыў ля кухні і сачыў за парадкам пры выдачы ежы, Янку здалося, быццам паліцай ад сораму не знаходзіў сабе месца перад калонаю, не ведаў, чым заняцца, а кій трымаў толькі таму, што не было куды дзець рукі. Ён і не выфранчваецца, як іншыя паліцаі, не фарсіць, як яны, наглянцаванымі джымамі, ходзіць у звычайных чаравіках, носіць навыпуск неадпрасаваныя штаны і непадагнаны пад ягоную фігуру

цёмна-зялёны фрэнч. Затое палонныя не баяцца Аляксея. Можа, таму ніхто з іх не называе яго Лёшам або Лёшкам. Некаторыя пажылыя таямніча шэпчуць самі сабе: «Аляксей — чалавек божы».

Жадаючы разгадаць, кім мог быць да вайны гэты чалавек, Янка то з цікаўнасцю ўглядаўся ў ягоны заўсёды заклапочаны твар і не знаходзіў у знешнім выглядзе рысаў інтэлігентнасці, то прыглядаўся да ягонай хады і паставы, але не заўважаў у іх прыкмет страявой выпраўкі. Аказваецца, сапраўднага чалавека не псуе ні пасада, ні захапленне сваёю ўладаю. Нават і ў самых нечалавечых умовах ён па-ранейшаму застаецца чалавекам.

Кажуць, што сон даражэйшы за ўсё на свеце. Але страх мацнейшы за сон. Асабліва страх перад смерцю. Ён як рукою здымае сон, умомант адганяючы прэч вяласць і санлівасць. Нават і тых, каго звычайна цяжка разбудзіць раніцаю, панічная трывога падхоплівае, нібы марскі прыбой на пірсе, і змывае з верхатуры і з ніжніх нараў. Янка не бачыць, але слыхам адчувае, як паступова спадае хваля гэтага прыбою, адносячы да дзвярэй запозненых палонных, разрозненыя галасы якіх сціхаюць аддаляючыся. Ён паўзверх свайго матраца насцярожана з нецярплівым чаканнем глядзіць на Вадзіма. Сусед асцярожна прыўзнімае галаву, выглядвае на праход, на дзверы і, прашаптаўшы «пара», падхопліваецца, пераскоквае цераз узгалоўе, бяжыць па Дробатавым матрацы і нырае ўніз з верхатуры. Янка таксама ўсхопліваецца і ледзьве паспявае за ім услед. Прашмыгнуўшы па праходзе між апусцелых нараў, яны адзін за адным убягаюць у прыбіральню, якая займае канец барака. Імгненні здаюцца вечнасцю. Не згаворваючыся, інтуітыўна, яны абодва ўскідваюць позіркі на цьмяную ад бруду электрычную лямпачку, нібы ўпрошваючы, каб яна хутчэй патухла. Янка не адчувае свайго сэрца. Як быццам яно спынілася ў грудзях. Толькі кроў моцна стукае ў скроні. Але што гэта?.. Ці то яна раптам часта-часта забруіла, сціхаючы, ці то, аддаляючыся, даносяцца нейчыя хуткія крокі? Чуваць, як зарыпелі дзверы барака.

— Яшчэ не ўсіх паднялі з нараў,— набліжаючыся, даносіцца знаёмы голас.

Як па камандзе, яны абодва збянтэжана прысядаюць без усялякай патрэбы. У прыбіральню ўлятае за-

дыханы камендантаў любімчык Гаўрык. Ён, відаць, паспеў ужо добра напрацавацца, увагрэўшыся як след.

— Што, страх праняў?! — пытаецца, выскаляючы белыя зубы на круглым, як поўня, твары, і ёмка перахрышчвае кіем кожнага з іх, пакуль яны ўсхопліваюцца і кідаюцца наўцёкі.— З перапуду пранесла наскрозь? — рагоча ён, задаволены, што наўздагон паспеў яшчэ па разу агрэць.— Баіцёся, што за ноч бункер замініруеце?

— І адкуль яго прынесла нячыстая сіла? — разгублена пытаецца ў Вадзіма Янка, калі яны бягуць да бункера праз асветлены двор, па якім ад баракаў таксама ўцякаюць адзінокія постаці запозненых палонных.

Толькі яны спусціліся ў бункер і з цяжкасцю працiснуліся трохі далей ад уваходу, як услед за імі з грукатам зачыніліся дзверы і неўзабаве, тройчы мільгнуўшы, пагасла электрычнае святло.

«Чаму б яму не патухнуць тады, калі мы схаваліся, прытаіўшыся,— з прыкрасцю падумаў успатнелы ад бегу Янка, адчуваючы, як яго, нібыта пасля парыльні ў прылазніку, абдае настылаю вільгаццю.— Добра, што хоць з Вадзімам не бачымся ўпоцемку. Сорамна паглядзець у вочы адзін аднаму. Дробязі не ўлічылі. І як мы ўсяго не прадугледзелі? Не здагадаліся загадзя прыхапіць што-небудзь дый раструшчыць тую лямпачку... Хаця гэты праныра, відаць, засвяціў бы ў змроку сваю запальнічку».

Янку не давала спакою крыўда на сябе і злосць на праклятага земляка. Яму захацелася, каб насцярожаную цішыню ў бункеры хутчэй скаланулі раскаты перуна, а трывожную цемру распаласавалі водблескі навальніцы.

«Хай бы хоць дзве-тры бомбы ўляпілі ў бакакі і ў вартавыя вышкі. Во паніку паднялі б і страху нагналі б!.. Але што з таго?.. Ніякага толку. Палонныя так і сядзелі б зачыненыя. Калі б у бункеры пацэлілі... Загінуць многія. Затое ўсе жывыя на волю вырвуцца. Як хлынуць, дык і вароты вынесуць на сабе».

Аднекуль здалёк даносілася ціхае гудзенне. Яно перарастала ў густы гул, які суправаджаўся частымі воплескамі. Яны радзелі, як толькі гул слабеў, і сціхалі, калі аддалялася кволае гудзенне. На працягу некалькі гадзін, праз вялікія інтэрвалы, пад адрывістыя

воплескі гул накочваўся тугою хваляю, якая ўздымалася дзевятым валам і, зноў спадаючы, адкочваўся, не даносячы да слыху выбухаў, а да зроку — водбліскаў. Янка насцярожана прыслухоўваўся і з надзеяю сустракаў уздым крутой хвалі, спадзеючыся, нібы на збавенне, на штосьці пагрозліва-вырашальнае, не дачакаўшыся, расчараваны, праводзіў няўважлівым слыхам яе спад. Яго ўжо даняло і знервавала марнае чаканне. Калі прытупілася злосць, яму стала ніякавата за тое, што ў думках наклікаў на людзей бяду. Схамянуўшыся, ён уявіў, што многія з палонных яшчэ спадзяюцца на паратунак і хочуць уцалець. Яны, мабыць, са страхам сустракаюць кожнае ўзмацненне гулу і з палёгкаю праводзяць яго затуханне. Што значыць чалавек, у якога не вычарпаны сілы? Тыя, што за паўгода працы ў падзямеллі канчаткова знясілелі, ужо не спадзяюцца выбрацца адгэтуль, таму адчуваюць сябе зусім інакш. Яны не імкнуцца выжыць. Ім усё роўна: пад бомбамі загінуць у бункеры ці пад пародаю — у забоі.

Толькі варта было ўлегчыся злосці, як у Янкі змяніўся настрой. Ажыў інстынкт самазахавання. Цяпер хацелася жыць. Раптам у цемры нейчая рука лагодна легла яму на плячо і, слізгануўшы ўніз, намацала і паціснула ягоны локаць. У поціску ён адчуў падтрымку і падбадзёрванне. Зрабіць гэта мог толькі Вадзім.

— А землячка твайго трэба правучыць. Каб не перашкаджаў людзям жыць,— злосна і рашуча сказаў ён Янку, калі яны вярталіся ў барак пасля адбою паветранай трывогі.

## 13

Па тым як перад варотамі лагера ўважліва пералічвалі ранішнюю змену, якая вярталася з працы, напрактыкаванае Вадзімава вока прыкмеціла, што нешта адбылося. Бо хоць канваіры, што суправаджалі палонных, лічылі іх пры выхадзе з шахты, зноў пералічылі цяпер і, паціскаючы плячамі, сцвярджаючы «алле зінд да», узрушаная лагерная ахова, якая прымала калону, двойчы недаверліва пералічвала людзей.

«Можа, хто-небудзь уцёк?» — падумаў Янка. Але потым усумніўся. Ніякіх адзнак неспакою не заўважалася ні каля кухні пры выдачы ежы, ні ў бараку, дзе

сноўдалі палонныя з начной змены. Што-што, а такая вестка хутка разнеслася б па ўсім лагеры.

Аднак усё высветлілася, калі хлопец пайшоў у санчасць адведваць Арсеня. Той таямніча паведаміў навіну, якую са штубы прынёс санінструктар і ў сваю чаргу, таксама па сакрэце, перадаў Арсеню. З лагера знік паліцай Аляксей. Знік нечакана-неспадзявана, як праваліўся. Усе паліцаі абураны, бо калега і на іх кінуў цень. Гаспадары паставяць пад сумненне іхнюю адданасць, не будуць ім давяраць. Санінструктар казаў, што асабліва разгневаны камендант і ягоны любімчык Гаўрык. Камендант, вядома, баіцца за свой мундзір. Каго ж ён прыгрэў і трымаў у сваёй свіце? А Гаўрыку абы толькі выслужыцца лішні раз. Кажа, ён крычаў на ўсю штубу: «Зловім — і з жывога здзярэм скуру!» У жывадзёра толькі гэта ў галаве. Ён пра сваё думае. Але спачатку паспрабуй злаві! Шукай ветру ў полі!

Несумненна, што такі чалавек, як Аляксей, усё абдумаў сур'ёзна і абставіў надзейна. Бо ён сам быў заўсёды сур'ёзны і заклапочаны. Відаць, падрыхтаваўся як след, наладзіў трывалыя сувязі са знаёмымі людзьмі за агароджаю. Магчымасці ў паліцаяў вялікія. Яны выходзяць з лагера, за імі не сочыць ахова. Жывуць яны вольна, прыпяваючы. Цікава толькі, чаму за баланду хлеб выменьваюць, як Гаўрык спрабаваў тады ў бараку зрабіць тавараабмен з Румегам?

Янка спытаўся, ці бачыў Арсень, як Гаўрык хацеў збыць Румегу баланду.

— Не. Не бачыў.

— Няўжо і паліцаям не хапае хлеба?

— Нейкая махінацыя. У іх ёсць усё. Хіба што малака птушынага не хапае. Бач жа, як, халера, павыфранчваліся! Галіфэ-брыджы, фрэнчы і шапкі з сініх і зялёных замежных шынялёў... Джымы — з плашчпалатак.

— З плашч-палатак?.. І гэтак наглянцаваны? — здзівіўся і перапытаўся Янка.

— Са звычайных плашч-палатак. Толькі наваксаваны да бляску. Справа рук майстра, і ніякага падману... Лацвей, халера, калі да іхніх паслуг дармовыя шаўцы і краўцы! Нават кухары персанальныя... Праўда, дзеншчыкоў яшчэ няма... Дый то такія, як Румега, за аб'едкі з-пад стала боты языком выліжуць.

— А дзе ж санінструктар?

— У паліцаяў. Прападае ў іхняй штубе.

— Добра, што яшчэ дзвярэй не замыкае. Хоць адведаць можна. Замест таго каб тут цябе прыгледзець, ён там паліцаям прыслужвае?

— Халера яго ведае. Ён дзверы замыкае тады, калі ў бункер выводзіць. А мяне няма чаго глядзець. Са мною нічога не здарыцца,— намагаўся зямляк заспакоіць Янку.

Аднак Янка адчуваў, што штайгер даканаў хлопца. Арсень не толькі абмяк і паблажэў. Здавалася, што ў яго сярэдзіне штосьці надломлена. Каб не паказаць выгляду, а, наадварот, хоць трохі падбадзёрыць Арсеня, Янка расказаў, як палонныя адрэагавалі на ўчынак штайгера.

— Цяпер кожны з іх, сядаючы адпачыць у забоі, будзе побач трымаць напагатове кірку.

Але Арсень чамусьці не падтрымаў Янкавай гаворкі. Спачатку Янку здалося, што зямляк на гэты раз абыякавы да ўсяго. Потым ён пераканаўся, што Арсень проста не ў настроі. То з пахвалою гаварыў пра Аляксея і шкадаваў, што ён збег з лагера. Маўляў, быў адзін добры чалавек — і той уцёк ад нягоднікаў. То здзіўляўся і абураўся, чаму ў часе паветранай трывогі не разбамбяць ні лагер, ні шахту, каб адразу скончыліся пакуты.

Янка доўга не затрымліваўся, а пакінуў Арсеня сам-насам са сваімі думкамі. Вярнуўшыся ў барак, ён адразу ж паведаміў навіну Вадзіму.

— Я ж казаў, што ў лагеры штосьці здарылася,— прамовіў сусед, ніколькі не здзіўлены Янкавым паведамленнем.— Ён і так доўга затрымаўся. Відаць, пераканаўся, што тут вялікай карысці не прынясе. Ягоныя паводзіны — не прыклад для нягоднікаў. Наадварот — ён сярод іх — белая варона. Такія людзі спатрэбяцца на волі. Хай спадарожнічае яму ўдача і поспех!

Калі хлопец сказаў суседу, што іхняя здагадка пацвердзілася: фельчар замыкае дзверы санчасці пасля таго, як выводзіць хворых у бункер, Вадзім супакоіўся:

— Не сумуй. Будзем спадзявацца, што і нам пашанцуе! Вось толькі трэба вырашыць штосьці з тваім земляком.

«Усё-такі якія дзіўныя людзі! Якія яны неаднол-

кавыя па характарах і звычках. Як па-рознаму паводзяць сябе пры тых ці іншых абставінах. Узяць хоць бы таго ж Арсеня. Зямляк раней заўсёды падабаўся Янку. Але як ён змяніўся апошнім часам. Зрабіўся нейкі абыякавы, няўважлівы. Чалавека пакідаюць сілы — і ў яго знікае цікавасць да жыцця. Ён становіцца раўнадушны, гатовы хутчэй памерці, каб толькі не пакутаваць. Што казаць пра Арсеня, калі і сам Янка ўначы са злосці ў думках прасіў, каб бомбы трапілі ў бункер і прынеслі збавенне. А цяпер яму хочацца жыць, ён спадзяецца яшчэ на паратунак. Неразгаданаю загадкаю для яго застаўся Аляксей. Адкуль ён родам? Якая яго даваенная прафесія? Ні няволя, ні жывёльныя ўмовы не змянілі ягонага характару. Але ж і ў земляка Гаўрыка гэтыя ўмовы не змянілі звычак. Іншая справа, якім чынам складваўся ў яго чэрствы характар і выпрацоўваліся жорсткія звычкі. Можа, калі б не краталоўства, дык ён і не стаў бы гіццем? А каб не сабакалоўля, дык і не зрабіўся б жывадзёрам? Чаму ён заняўся краталоўствам, жывучы ў палескім мястэчку, дзе навокала раздолле і прыгажосць? Жанчына, пра якую расказваў Вадзім, нарадзілася і выхоўвалася ў вёсцы, на ўлонні прыроды, у сведе паэзіі. А чаму ж у яе душы ні шчырасці, ні сардэчнасці? Праўда, гэта выявілася толькі ў спрыяльных для яе ўмовах і зручных абставінах. На працягу некалькіх год у паўсядзённым жыцці Вадзім нават не прыкмячаў гэтага. Каханне асляпляе чалавека, прытупляе ягоны зрок. А сам Вадзім змалку жыў у вялізным горадзе, дзе цесна сярод гмахаў-камяніц, дзе няма ні раздолля, ні прыроды. А якая ў яго сардэчная і гарманічная натура!»

## 14

Шыла ў мяшку не ўтоіш. Хоць паліцаі і не распаўсюджвалі сярод палонных вестку пра ўцёкі Аляксея, але сягоння яна перадаецца з вуснаў у вусны па ўсіх бараках. Спрыяе гэтаму выхадны дзень. У нядзелю не працуе ніводная змена. Палонныя нікуды не адлучаюцца з лагера. Адны цэлымі гадзінамі адлежваюцца і адсыпаюцца на сваіх нарах, другія снoўдаюць па бараках, адведваючы землякоў, трэція на чыгунных печках, якія апальваюцца вугалем, падсушваюць вільготную соль і вараць у бляшанках траву.

Апошнія — найболей шчаслівыя. Праўда, іх вельмі мала. Але затое ім зайздросцяць многія. Калі хочацца есці, здаецца, абы-чым набіў бы пусты жывот. А трава хоць яна і пустазелле, а ўсё-такі, калі яе згатаваць,— варыва. Ды дзе яе возьмеш пад зямлёю? Толькі тыя, хто працуе на паверхні, зрэдку знаходзяць яе на здратаваным шахтавым двары. Кажуць, соль сталактытамі звісае пад столлю ў вільготных штрэках. Шчасліўцы, якім яна трапляе на вочы, прыносяць яе ў лагер. Відаць, Вадзім з Янкам нешчаслівыя, бо першы з іх яшчэ ні разу не знайшоў на паверхні травы, а другі ў шахце — солі. Хоць, вядома, абодвум было б таксама прыемна падсаліць саладжавую баланду, загусціўшы яе варанаю травою.

Звычайна ў нядзелю шчасліўцы спакойна падсушваюць соль і вараць траву, нікога не пабойваючыся. Па-святочнаму выфранчаныя паліцаі ў выхадны дзень не заглядваюць у баракі. Немцы таксама не з’яўляюцца ў лагеры. У будні дзень то Фрэйвальд, то Герберт наведваюцца па некалькі разоў. Герберт са злосцю скідвае з печкі сваім кіем кацялкі з варывам і бляху з падсушанаю соллю і з усяе сілы дубасіць ім па спінах кухараў. Фрэйвальд робіць амаль тое ж самае, толькі не б’ецца, а лаецца, што траву і соль шкодна спажываць у ежу. У сапраўднасці ж, хто дакладна ведае, якая трава карысная для арганізма, а якая шкодная? Чалавеку вядомы спажыўныя якасці толькі акультураных раслін. А колькі ж іх дзікарослых?

Сягоння хоць і нядзеля, але палонныя з раніцы напагатове: даведаліся, што з лагера будуць адпраўляць новы этап. Адны асцерагаюцца, каб Фрэйвальд з Гербертам не паскідалі з печак іхнюю соль з варывам, другія проста не хочуць трапляць на вочы паліцаям, якія ў такі дзень асабліва выслужваюцца, вышукваючы, да каго прычапіцца і аперазаць кіем.

Кажуць, як правіла, этап адпраўляецца адзін раз у два месяцы. Адпраўляюць самых знясіленых і схуднелых з выгляду, з падазроным кашлем. Пры адпраўцы абавязкова прысутнічаюць абодва немцы. Яны прыдзірліва правяраюць, каб бедалагі здалі ўсё шахцёрскае абмундзіраванне.

— Сдавайте все как есть! Это другим понадобится! Вам сейчас — отдых! — як заведзены патэфон, хрыплаватым металічным голасам зларадна паўтарае Гер-

берт, то заглядаючы ў свой кандуіт, то акідваючы пільным позіркам адзенне кожнага дахадзягі і правяраючы ягоны рэчмяшок.

На самай справе большасці гэтых небаракаў давядзецца не адпачыць, а навекі спачыць. Ніхто з тых, каго адпраўляюць у шахцёрскі шталаг, не вяртаецца назад на шахту. Раней узамен прыганялі іншых. Праўда, тады імі папаўнялі лагер рэгулярна. Апошнім часам іх прыбывае ўсё меней і меней. Мяркуючы па гэтым, цяпер часцей трапляюць у акружэнне і захопліваюцца ў палон не нашы, а нямецкія салдаты.

На кожны этап набіраецца дваццаць — трыццаць палонных. Сягоння набралася дваццаць пяць чалавек, сярод якіх — Арсень, дзядзька Тарас і Румега. Да варот іх праводзілі толькі землякі і суседзі па нарах. Многія не хочуць прысутнічаць пры гэтай цырымоніі, якая наводзіць на тужлівы роздум.

Вадзім развітаўся з дзядзькам Тарасам у бараку. Пажадаў яму добрага здароўя і пажартаваў на дарогу:

— Перадаві горла свайму ворагу!

— Як ты яму перадавіш горла, калі ён цябе самога ўпоперак перадавіў? — намагаючыся роблена пажартаваць, запытаннем на жарт адказаў той, тыцнуўшы пальцам у свой падцягнуты жывот.

На апельпляц Вадзім не пайшоў. Мабыць, не хоча сустракацца са сваім земляком Румегам, якога неўзлюбіў з першага знаёмства.

Пры развітанні Янка моцна-моцна абняў Арсеня, хацеў абнадзеіць і суцешыць, але не здолеў вымавіць ні слова, заўважыўшы ў шэрых земляковых вачах вадзяністую бездань і самоту. Можа, Арсень і не трапіў бы яшчэ на этап, калі б не выпадак са штайгерам. Відаць, немцы рашылі сплавіць хлопца адгэтуль, каб хутчэй усё забылася і не выклікала ніякіх непрыемнасцей і непаразуменняў. Калі этап вывелі за вароты, Янку зрабілася балюча на душы. Як быццам аднялі і забралі маленькую часцінку яго самога, на месцы якой смыліць свежая рана. Што значыць для чалавека блізкі зямляк на чужыне? Хоць яны пазнаёміліся нядаўна, але Арсень за кароткі час стаў для Янкі жывым увасабленнем далёкай бацькаўшчыны.

Тужлівым позіркам правёў Янка невялікую купку людзей, якая аддалялася ад лагерных варот. Толькі цяпер ён звярнуў увагу на тое, што яны ўсе апрануты

ў выліналыя чырвонаармейскія шынялі і здалёку на фоне цёмнага непрыгляднага краявіду здаюцца невялічкаю выспаю нязжатага жыта, пабляклага ад дажджоў і сіверу. Канваіры ахоўваюць выспачку пустых каласоў, каб з іх не ўпалі на чужую глебу астатнія заморкі-зярняткі.

Цяпер шахта ўявілася Янку вялізным вулканам. Ён з шыпеннем і свістам уцягвае нявольнікаў у падзямелле, дзе высмоктвае кроў і забірае сілы, а іх, як шлак, разам з пародаю вывяргае з кратэра на паверхню. Парода дыміцца на вяршыні тэрыкона і па баках вулкана спаўзае застылаю лаваю. А знясіленых нявольнікаў адводзяць этапам у таямнічы шахцёрскі шталаг, з якога яны трапляюць у невядомыя магілы.

Янку неаднойчы даводзілася чуць, што немцы — культурны народ. Спачатку ён прымаў напавер гэтую характарыстыку. Потым, уважліва прыглядаючыся, пачаў адносіцца да яе з дваістым пачуццём. Вядома, калі ў трыццатыя гады мы запрашалі іхніх спецыялістаў манціраваць у Данбасе механізмы і абсталяванне на шахтах, значыць, нямецкая тэхніка значна апярэджвала айчынную. Дый у нашых збудаваннях такога тыпу Янка з Вадзімам знайшлі б які-небудзь закануракі або захламленую бакоўку, у якіх змаглі б часова схавацца. А тут не знаходзяць. Бо нідзе няма нічога лішняга. Усё навокала нібы падстрыжана. Ва ўсім нейкая паказная культура і педантычная акуратнасць.

Ну, а чым адрозніваюцца Фрэйвальд з Гербертам ад Гаўрыка з Грышкам? Хіба толькі тым, што два першыя — горныя спецыялісты, а апошнія — адзін гіцаль, а другі — пажарнік? Культура ж іх аднолькавая. І лаюцца яны аднолькава, і людзей лупцуюць кіямі аднолькава.

Нават да думкі пра тое, што немцы ў жыцці гаспадарлівыя, эканомныя і ашчадныя, Янка пачынае адносіцца з недаверам. Хіба ж самі ўладальнікі акцый гарнаруднай фірмы або таварыства Фрэйвальд з Гербертам не разумеюць, якая непрадукцыйная праца палонных пад зямлёю? Як жа яны мірацца з тым, што на паверхні лодарнічаюць і разгульваюць адкормленыя дармаеды-паліцаі, якія не прыносяць ніякай карысці і ад нечага рабіць толькі тэрарызуюць і запалохваюць усіх у лагеры? Чаму б іх з гэтымі кіямі не апускаць

у шахту наглядчыкамі, каб па-гаспадарску павялічыць здабычу вугалю? Вядома, у падзямеллі яны адчулі б сябе інакш, заспявалі б зусім іншыя песні. Нават залютавалі б з большаю злосцю і стараннасцю, хутчэй заганяючы ў магілы сваіх суайчыннікаў. Але затое і карысць прыносілі б гаспадарам. Дык не, выходзіць, немцам важней падкрэсліць сваю звышчалавечнасць, разбэшчваючы нават ворагаў, падзяляючы іх на бяспраўных і ўладароў. Значыць, разбэшчванне выгадна тым, хто абапіраецца на ўладу бізуна і перніка. Раздзяляй і пануй!

Але, аказваецца, не ўсіх спакусіш пернікамі. Не кожнага купіш за пернік. Не прадаўся ж Аляксей. Пажылыя палонныя перашэптваюцца, нібыта чалавек божы не прадае душу д'яблу. А маладзейшыя кажуць, што душа добрага чалавека каштуе дорага: ёй няма цаны. Румега абазваў Аляксея дурнем, які не захацеў жыць прыпяваючы.

«Разумнік знайшоўся! Хоча жыць, але не ўмее»,— падумаў Янка.

Сягоння хлопец зноў прыраўнаваў Вадзіма да Сівалїна і Дробата. Праўда, на гэты раз прыраўнаваў не розумам, а пачуццём. Калі вярнуўся з апельпляца і застаў іх, як змоўнікаў, на верхатуры, рэўнасць варухнулася ўсярэдзіне, быццам спрасонку мядзведзь у бярлозе. Пасля таго як яны ўтрох пакінулі яго на нарах, а самі некуды зніклі, яна не толькі заварочалася, прачнуўшыся, але і заскрэбла кіпцюрамі за грудзьмі. Хто ведае, можа, рэўнасць распаліла б ягонае нутро і ўзяла за жывое, калі б Вадзім, неўзабаве вярнуўшыся, не пачаў намёкамі даверлівую гутарку.

— Табе хадзіць урукапашную прыходзілася?

— Не. А што такое? — збянтэжыўся Янка.

— Ды так... Як табе сказаць. Непрыемная гэта справа. Калі ісці паасобку адзін супраць аднаго, могуць здаць нервы, не кожны вытрымае. Уздымае і падтрымлівае агульны парыў.

— А як жа паляўнічы выходзіць на мядзведзя адзін на адзін? — насцярожыўся хлопец.

— У адзіночку на мядзведзя выходзіць толькі смелы. Звер жа дурнейшы за чалавека. Ды і паляўнічы можа манеўраваць, хаваючыся за дрэвамі,— з роздумам, не спяшаючыся, адказаў Вадзім і пасля запінкі

раптам нясмела спытаўся: — А ты выйшаў бы на мядзведзя адзін?

— Які ж з мяне паляўнічы? — ухіляючыся ад шчырага адказу, няпэўна прамовіў Янка.

— А калі б запрасілі паляўнічыя?

— Супольна — іншая рэч.

— Вось гэта ўжо іншы адказ,— прашаптаў Вадзім, асцярожна азіраючы навокала пустыя нары.— Пры чарговай паветранай трывозе абложым у бункеры твайго землячка. Спатрэбіцца твая дапамога.

Вадзімаву прапанову Янка сустрэў без энтузіязму. Яму здавалася, што пры новай паветранай трывозе трэба як мага хутчэй вырвацца адсюль на волю, а не займацца дробязямі. Не хацелася пэцкаць рукі аб гэтую брудную нікчэмнасць, якая выклікае агіду. Нават здзіўляла, што гарманічная натура не працівіцца Вадзіму, а, наадварот, падштурхоўвае яго на фізічную расправу. Янку спачатку здавалася неверагодным, што менавіта Вадзім будзе завадатарам усяго гэтага. Потым хлопец пачаў адчуваць сорам за тое, што ён мяккахарактарны і чуллівы, унутрана не падрыхтаваны да суровай справы.

Боязі хлопец не адчуваў, бо быў упэўнены ў кемлівасці трох суседзяў, на спрыт і вытрымку якіх спадзяваўся. Зыход паядынку не выклікаў сумнення. Урэшце, не такая складаная праблема чацвярым упоцемку зрабіць цёмную аднаму нягодніку.

Спачатку ва ўсёй гэтай задуме Янка ўгледзеў Вадзімаў капрыз, якому патураюць суседзі па ўзгалоўі і які выкліканы ні чым іншым, як крыўдаю за няўдалую спробу ўцёку і жаданнем адпомсціць паліцаю. «Аднак, калі Вадзіма ўхвалілі і падтрымліваюць Сівалін і Дробат, якое маю права я, малакасос, свае асабістыя інтарэсы выстаўляць на пярэдні план? Іх — трое, а я — адзін. Яны — камандзіры, а я — радавы».

У думках Янка ставіў сябе на Вадзімава месца і спрабаваў ягонымі вачамі паглядзець на ўсё збоку. Тады яму здавалася, што Вадзім турбуецца не толькі пра сябе, але заклапочаны Янкавым лёсам і становішчам іншых палонных.

«От знік Аляксей. Збег з лагера адзін, а якое ўражанне зрабіў на ўсіх астатніх! Многія яго ўспамінаюць, шкадуюць, што не будзе побач з імі добрага чалавека, жадаюць яму ўдачы і шчаслівае дарогі. А ці

заўважыць хто-небудзь, што не стане Гаўрыка? Заўважаць ці не заўважаць, але ўсе ўздыхнуць, адчуюць сябе вальней. Але ж Гаўрыкава месца зойме хто-небудзь іншы. Затое што падумае той іншы пра сябе, перш чым займаць вакантную пасаду? Які перапалох падымецца! Колькі страху нагоніць на паліцаяў! Можа, якраз і добра перад уцёкам з лагера на развітанне моцна бразнуць дзвярамі?»

Падсвядома, па інтуіцыі, ён адчуваў Вадзімаву крыўду за няўдалую спробу ўцёку і разумеў ягоную злосць на паліцая. Але хлопец не ведаў, што тая крыўда са злосцю былі апошнімі кроплямі, якія перапоўнілі Вадзімаву істоту і ад якіх, нарэшце, лопнула ягонае цярпенне. Наогул біццё чалавека чалавекам заўсёды здавалася Вадзіму агідным і пачварным. Бачачы пастаянную лупцоўку палонных, ён ледзьве стрымліваў сябе, бо яна абражала ягоную чалавечую годнасць, выклікала гнеўнае абурэнне. Біццё Вадзім успрыняў як недаравальны асабісты здзек і знявагу. Злосць на Гаўрыка зацьміла ягоны розум, засланіла ўсё іншае. Якраз пад руку прыгадаліся яму страшныя расказы пра смяротныя пакаранні астрожнікаў самімі зняволенымі, расказы, якія ўзвінцілі настрой і душэўны стан. Дык то ж — самасуд, які чыняць падазроныя асобы з рэцэдывістаў і крымінальнікаў, топчучы законы грамадства і дзяржавы. А тут тройка вынесла справядлівы прысуд здрадніку свайго народа і паслугачу ворагаў. І гэты прысуд яна павінна прывесці ў выкананне. Вадзім разумеў, што такі прысуд сустрэнуць з радасцю і аднадушным адабрэннем палонныя ў лагеры. Гэта яшчэ болей акрыляла і натхняла. Псіхалагічная самападрыхтоўка, чаканне зручнага моманту і праца напружанай думкі на нейкі час адцягнулі ўвагу ад усяго іншага, развеялі і згладзілі згрызоты і непрыемнасці паднявольнага жыцця.

Тройка дэталёва распрацавала план. Вадзім пазнаёміў з ім Янку. Як маладому і малавопытнаму, хлопцу адводзілася роля падручнага, які неадступна павінен быць побач, падстрахоўваць і толькі пры непрадугледжаных абставінах таксама дзейнічаць рашуча. У часе новай паветранай трывогі яны ўчацвярых высачаць, з якога барака Гаўрык будзе выганяць палонных, і перад самым ягоным носам, можа, нават рызыкуючы атрымаць кіем па гарбе, пашыбуюць у той

бункер, куды пагоніць паліцай. Убегшы ў бамбасховішча, адразу ж спыняцца: Вадзім з Янкам — злева, а Сівалін з Дробатам — справа, чакаючы Гаўрыка, каб зрокава ямчэй узяць у абцугі. У наступны момант іхняя чацвёрка, нібы цвікі, прыцягнутыя магнітам, у такім становішчы будуць трымацца паліцая: спыніцца ён пры ўваходзе — яны застынуць на месцы як укапаныя, пройдзе Гаўрык далей — адначасова з ім, але быццам не заўважаючы яго, яны рушаць таксама. Да тае пары, пакуль у бункеры прасігналіць, тройчы мігнуўшы, святло, кожнаму з іх неабходна быць напагатове, не прамарудзіць і не адстаць адзін ад аднаго. Бо не болей чым праз хвіліну пасля таго, як яно патухне, Вадзім паціху двойчы кашляне, што будзе сігналам да рашучага дзеяння. Халоднай зброі яны не мелі, дый у такіх абставінах карыстацца ёю рызыкоўна: могуць параніць адзін аднаго. Вырашылі дзейнічаць голымі рукамі: навобмацак у цемры яно куды зручней і надзейней.

## 15

Галоднай куме хлеб на вуме. Бывала, Янка неаднойчы чуў гэтую прыказку, але ніколі не задумваўся над ёю. Наадварот, яна здавалася яму пацешнаю. Мабыць, прыказка ўзнікла пры камічнай сітуацыі. Цяпер ён прыгадаў яе, апынуўшыся на месцы галоднай кумы. Але прыказка не суцяшае. Не да смеху, калі страшэнна хочацца есці. Падцягнула жывот. Здаецца, вантробы прыраслі да хрыбетніка. Гэтак доўга не пратрымаешся, ногі працягнеш. З кожным днём убывае сіла. За два-тры месяцы знясілееш і нават пры зручным выпадку не здолееш уцячы. Усё-такі, напэўна, даецца ў знакі падзямелле. Невыносная праца, недахоп кіслароду. У перасыльных лагерах харч быў не лепшы. А якая-небудзь выпадковая праца на паветры не была такой цяжкаю. Дый часцей удавалася прыхапіць што-небудзь збоку. Цывільнае насельніцтва таксама сёе-тое падкідвала. Не кажучы ўжо пра падножны корм, якім усе перабіваліся. Улетку траву розную варылі, набівалі ёю жываты. Позняй восенню знаходзілі падмарожаную бульбу і капусныя храпкі. А ў падзямеллі нічога не знойдзеш. Ні вугалем ні пародаю не наб'еш пусты жывот. Янка не прызнаецца пра гэта Вадзіму. Саромеецца, каб сусед не падумаў, што ён слабавольны ныцік. Сам Вадзім не пачынае гаворкі на гэ-

тую тэму. Ведама, сталы чалавек: у яго большая вынослівасць, мацнейшая загартоўка. Янка паважае Вадзіма, адносіцца да суседа па-сяброўску, бо таксама адчувае ягоную ўзаемную прыязнасць. Вадзім нечым нагадвае франтавога Янкавага камандзіра. У абодвух нават пасады і званні аднолькавыя. Толькі Вадзім — высокі, падцягнуты, а лейтэнант Лабуцін — сярэдняга росту, круглатвары, з выгаралымі на сонцы брывамі. Янка прыгадаў свайго камандзіра батарэі — і цеплыня разлілася па целе, падкацілася да грудзей. Наплылі ўспаміны.

Увесь чэрвень яны былі ў акружэнні. Скончыліся прадукты. Побач стаяла кавалерыйская часць. Ратавала мяса параненых коней. Нават адразалі ад сёдлаў крылы і перакідныя торбы і гатавалі з іх студзень. Елі шчаўе і кісліцу. Паступова акружэнне звузілася. Самалёты, якія прывозілі прадукты, не маглі прызямляцца на пасадачнай пляцоўцы. Кукурузнікі зніжаліся над ёю і скідвалі ўначы правіянт. Папяровыя мяшкі рваліся аб галіны дрэў, і сухары разляталіся, як асколкі. Людзі поначы навобмацак шукалі іх, поўзаючы па мурагу. Хлопец поўзаў таксама. Памёр Астахаў, сціплы інтэлігентны баец узвода забеспячэння. З болем і горыччу ў сэрцах успрынялі ўсе гэтую недарэчную смерць на фронце. Лейтэнант Лабуцін, мабыць, занепакоіўся і пра Янкаў лёс. Хударлявы хлопец здаваўся яму занадта сарамяжлівым і ціхмяным.

— Баец Лагун! — паклікаў аднойчы Лабуцін.

Янка падбег да камандзіра батарэі і выцягнуўся перад ім у струнку, па стойцы смірна.

— Ходзіш? — незразумела пра што запытаўся Лабуцін.

— Не разумею, таварыш лейтэнант?

— Уначы ходзіш? — нічога не ўдакладняючы, перапытаў камандзір.

Па тым, як задрыжаў ягоны голас, Янка зразумеў, пра што пытаецца Лабуцін, і пасля кароткае паўзы нерашуча прызнаўся:

— Хаджу, таварыш лейтэнант.

— Малайчына! Трымайся! — падбадзёрыў камандзір батарэі і замест таго, каб сказаць «вольна» і адпусціць байца, не па-вайсковаму павярнуўся і, сутуліўшыся, палез у зямлянку.

«Чаму ж я не пабаяўся сказаць гэта Лабуціну, а

прызнацца пра голад Вадзіму саромеюся? Мабыць, таму, што Вадзім далікатны. Тонкая і чуллівая натура. Музыка з яе пяшчотнаю гукавою танальнасцю і строгасцю формы сфармавала Вадзімаў характар. Музыка робіць людзей высакароднымі.

Лейтэнант Лабуцін прасцейшы. Ён патомны рабочы аўтазавода, на якім працавалі ўсе ягоныя родзічы. На фінскай вайне ў лыжным батальёне Лабуцін стаў малодшым лейтэнантам. Наўрад ці змог бы Вадзім даць мне аплявуху, як зрабіў гэта Лабуцін. Праўда, я не крыўдую на яго, бо атрымаў яе заслужана».

Здарылася гэта ўвесну, калі дывізіён перабазіраваўся ўглыб на вызваленую тэрыторыю. Атабарыліся ў лесе, побач з плыткаю рачулкаю, што, пятляючы, бруіла каля вёскі, якую карнікі спалілі разам з жыхарамі. У першы дзень пераезду Янка доўга блукаў па наваколлі. Калі выходзіў на край поля,— з пажарышча веяла гарам, калі хаваўся ва ўзлеску,— патыхала прэлым лісцем і саладжаваю цвіллю, якая чамусьці нагадвала трупны пах. Здзіўлена глядзеў ён на сінія кветкі сну, што былі напамінкам пра каляровыя сны бесклапотнага маленства. Навокала цвілі пралескі. Нібыта вясна вытрашчыла на свет бельмы невідушчых вачэй, асленленых агнём, дымам і попелам. Гэтак вытрашчыў свае вочы Янка, угледзеўшы сярод россыпу пралесак пад кустом ляшчыны нязвычную зброю. Ён нагнуўся і нерашуча падняў з зямлі заржавелы абрэз, які, відаць, праляжаў пад снегам усю зіму. Як дзіця, хлопец узрадаваўся знаходцы, уважліва аглядаючы яе з усіх бакоў. У вінтоўцы каля шыйкі цаўя хтосьці адрэзаў прыклад і ствол — пальцы на чатыры ад патронніка. Як не радавацца, калі ў рукі сама трапляе такая зручная зброя? Яе можна насіць і пад шынялём і ў рэчмяшку. Дый не абы-якая зброя! Абрэз не са звычайнай трохлінейкі, а з дзесяцізараднай сіманаўскай вінтоўкі. Праўда, казалі, што гэтая вінтоўка дужа капрызнічала ў суровыя маразы на фінскай вайне. Дык тое ж было ўзімку. А цяпер наперадзе — лета. Дый не ў пяхоце ж ён... Калі і спатрэбіцца зброя, дык час ад часу. А зрэдку яна будзе працаваць спраўна і надзейна.

Пры фарміраванні дывізіёна ім чамусьці не выдалі вінтовак. Ці таму, што не хапала зброі, ці таму, што вінтоўкі і сапраўды не вельмі патрэбны ў разліках

«кацюш». Усе камандзіры ўзброены пісталетамі, а байцы — гранатамі, лімонкамі і РГД. Было некалькі вінтовак, з якімі вартавыя стаялі на пастах пры «кацюшах» і каля скрыняў са снарадамі.

У душы Янка ганарыўся сваёй асабістаю зброяю. Ён старанна вывеў з абрэза ржу, надраіў яго да бляску, змазаў вінтовачным маслам. Дастаў падсумак з патронамі і з нецярплівасцю чакаў зручнага моманту, каб, на зайздрасць іншым байцам, у іх прысутнасці ўрачыста выпрабаваць унікальную зброю. Калі тыя аднойчы цёплым вясновым днём грэліся на санцапёку, павылазіўшы з зямлянак, на вершаліне сасны прарэзліва раскаркалася варона, прыцягваючы сваім картавым крыкам увагу людзей. Янка зразумеў, што зручнейшага моманту не дачакаешся, і, задраўшы галаву, не спяшаючыся, прыцэліўся ў парушальніцу спакою і плаўна націснуў спускавы кручок. Хлопец адчуў, як аддачай пры стрэле моцна тарганула абедзве рукі ды штосьці з гудзеннем праляцела міма галавы. Па-рознаму расказвалі байцы пра тое, што тады адбылося. Мала хто з іх бачыў, як хлопец наводзіў абрэз на варону. Затое, калі грымнуў стрэл, усе адразу ж глянулі на Янку, і таму ніхто не заўважыў, як паляцела прэч напалоханая птушка. Хлопец стаяў нібы спруцянелы, з белым як палатно тварам, трымаючы ў руках абрэз, расшчэплены, быццам пашча звера, з ніжняю драўлянаю, а верхняю, трохі даўжэйшаю, металічнаю сківіцаю. Усё адбылося так імгненна і нечакана, што ніхто не паспеў ні ахнуць, ні войкнуць. Усе адчувалі, што ў такой сітуацыі рагатаць недарэчна. Лабуцін сядзеў на лаве перад зямлянкаю. Калі ён пачуў стрэл і ўбачыў, што здарылася, лейтэнант спачатку, відаць, разгубіўся, бо таксама пабялеў з твару, але праз нейкі момант сумеўся, рашуча ўстаў, цвёрдым крокам падышоў да Янкі і моўчкі, з ходу ўляпіў яму аплявуху.

## 16

Янка спаў моцным сном, калі яго суседзяў разбудзіла сірэна паветранай трывогі. Яны прачнуліся амаль адначасова, але, як было папярэдне дамоўлена, нерухома ляжалі, чакаючы, пакуль большасць палонных пакіне нары. Будзіць Янку не спяшаліся: няхай паспіць лішнюю хвілю без клопату і тым часам не перанервуецца ў сне. Раскатурхалі хлопца

толькі тады, калі ў бараку з'явіўся Гаўрык, вымятаючы кіем запозненых палонных. Рабіў ён гэта так увішна, нібы падчышчаў неахайную працу сваіх калегаўпаліцаяў. Суседзі разбудзілі хлопца, баючыся, што Гаўрык некалькі разоў паспее аперазаць яго кіем, і Янка перапалохаецца ў сне.

Калі хлопец прахапіўся і гатоў быў кінуцца наўцёкі, суседзі стрымалі ягоны парыў і разам учацвярых, як іранічна прашаптаў Дробат, манеўруючы, пачалі планамерны адыход з занятых пазіцый. Самымі апошнімі яны прашмыгнулі з барака перад носам у Гаўрыка і, асабліва не адрываючыся ад паліцая, а тым самым яшчэ болей злуючы яго і заманьваючы следам за сабою, трушком накіраваліся да бліжэйшага бункера. Гаўрык бег па пятах. Канцом кія пару разоў ён дастаў да нейчай спіны. Нібы выдыхі кавальскага меха, што раздзьмухвае тлеючае вуголле ў горане, за плячамі чуваць было паліцаева дыханне, якое распальвала ягоную злосць. Уцякаючы ад кія, Янка на імгненне вырваўся быў наперад суседзяў, але, здзіўлены іх дакладным разлікам і ўпартай настойлівасцю, схамянуўся і сарамліва замарудзіў крокі.

«Кось, кось, кось у стайню, дзе ямчэй цябе ўзяць за грыву!»

Нібы чорт з кіем уляцеў у бункер паліцай з чацвярыком палонных, якія з разгону пратрусілі некалькі крокаў ад дзвярэй і раптам распрагліся і дзвюма парамі шмыганулі ў бакі, а Гаўрык, не сарыентаваўшыся, па інерцыі прасунуўся ўслед за імі па праходзе. Пакуль ён запаволіў рух, яны ўчатырох, імгненна скарэкціраваўшы дыстанцыю, падаліся трохі назад да дзвярэй і, як па камандзе, спыніліся амаль адначасова з ім, толькі абапал праходу. Янка паспеў заўважыць, як адчужана адсунуліся ад Гаўрыка суседнія палонныя, з апаскаю пагпядаючы на яго кій. Відаць, сам паліцай таксама прыкмеціў гэта, бо яго сімпатычны твар заззяў, як поўня з-за аблокаў, асветлены ўсмешкаю задавальнення, што людзі пабойваюцца ягонага кія мацней, чым паветранай трывогі.

«Цяпер ты папаўся, не выкруцішся!»

У думках Янка цвёрда наважыўся рабіць усё, што ад яго патрабуецца.

Павольна цягнуўся час, пакуль у бункеры гарэла святло. Хвіліны з тае пары, калі яно патухла, і да Ва-

дзімавага кашляння здаліся хлопцу вечнасцю. Пры святле ён стараўся не глядзець на паліцая, хаця ўсёй істотаю адчуваў ягоную прысутнасць паблізу і нават заўважыў, як абодва суседзі па ўзгалоўі, прыжмурыўшы вейкі, краечкамі вачэй усё-такі касавурацца ў той бок, вымяраючы да яго адлегласць. А як толькі патухла святло, Янка напружыўся, выцягнуўся, як напятая струна, затаіў дыханне і ўвесь ператварыўся ў слых, нічога не бачачы перад сабою ў цемрадзі. Марудна цягнуўся час.

Ад Вадзімавага кашляння ў хлопцавай сярэдзіне штосьці скаланулася, як узведзеная спружына, ад руху якой ён машынальна наважыўся ўзяць паліцая загрудкі, але навобмацак толькі ўчэпіста хапіў за рукаў. Гаўрык спрытна крутнуўся з усяе сілы, так што адзенне на ім трэснула, а Янка паляцеў потырч. У наступны момант хлопец пачуў, як непадалёк хтосьці спачатку зарохкаў, а потым коратка прахрыпеў і заціх, нібы перакулены вяпрук, якому саданулі швайкаю пад левую лапатку. У напружанай цішыні не было чуваць ні шуму, ні валтузні. Па дамоўленасці яны павінны былі разгрупавацца, каб не наклікаць на сябе лішняй падазронасці. Некалькі хвілін, асцярожна намацваючы нагамі, дзе можна вальней ступіць, Янка паволі пасоўваўся, мяняючы месца. Яму было прыкра за сваю прамашку. Перад суседзямі ён адчуваў сябе ніякавата. Праўда, у душы ганарыўся імі. Недарэмна ж ён верыў у іх спрыт. Усё-такі яны зрабілі тое, што задумалі. Спадзяванне на паратунак, як шахцёрская лямпа, якую ўручыла Надзея, зноў засвяцілася ў ягонай свядомасці. То, хвалюючыся, Янка заміраў пад узмоцненаю хваляю гулу, што накочвалася і заглушала разрозненыя глухія воплескі, то з палёгкаю ўздыхаў і супакойваўся, калі зноў часова ўсталёўвалася насцярожаная цішыня. Тады лавіў сябе на думцы, што на гэты раз яму хочацца, каб пагрозлівая навальніца прайшла без грымотных выбухаў або пракацілася бокам.

Невядома, ці паспрыяў гэтаму душэўны стан, ці на самай справе паветраная трывога не зацягнулася доўга, але сірэна адбою прагула значна хутчэй, як мінулыя разы. Праўда, адбой прынёс Янку не заспакаенне, а новую трывогу і горкае расчараванне. Бо калі ўспыхнула святло і расчыніліся дзверы бункера, многія

палонныя заўважылі, як цераз парог без шапкі і без кія сігануў паліцай Гаўрык пад прарэзлівы свіст і зларадпае гіканне, што выбухнулі наўздагон.

«Няўжо ў цемры ён у няроўным паядынку задушыў кагосьці з праціўнікаў?»

У шматлюднай гурме, якая раптоўна ажывілася і хлынула да выхаду, спалоханы Янка збянтэжана шукаў вачамі сваіх суседзяў і, расчараваны, нікога з іх не знаходзіў.

Па тым, як яны па адным вярнуліся на верхатуру і моўчкі занялі свае логавы, можна было меркаваць, што суседзі не ў гуморы. Праўда, Вадзім адразу ж зняў шынель, таропка выняў аднекуль з-пад падкладкі іголку з ніткаю і пад пахаю пачаў няўмела прышываць, усё роўна як прафастрыгоўваць, надарваны па шве рукаў.

— За неахайнасць сваім кіем Кондар паставіць на маім крыжы птушку,— з іроніяй у голасе толькі і прамовіў ён, ні да каго не звяртаючыся.

«Няўжо гэта ўпоцемку я хапіў яго, а не паліцая?» Янка адчуў, як да твару прылівае кроў. З-пад ілба абвёў сарамлівым позіркам суседзяў, але пераканаўся, што тыя нават і не глядзяць у яго бок. Хацеў спытацца, ці не вынік гэта ягонай прамашкі, але не адважыўся першы пачынаць гаворку, бо суседзі маўчалі. Яны ж старэйшыя па ўзросце. Так і заснулі яны, ні слова не прамовіўшы між сабою. А можа, і не заснулі, а толькі прыкінуліся, што спяць. Бо хто ж адразу засне пасля гэтакага душэўнага ўзрушэння? Янку здавалася, што яны раззлаваныя сваёю няўдачаю. У гэтай сітуацыі і яму ніякавата перад імі, як салдату перад афіцэрамі. Ён разумеў, што перад ім яны не хочуць гаварыць пра тое, што адбылося. Без яго яны напэўна распачалі б непрыемную размову. Бо, мабыць жа, не толькі яму, але і ім таксама карціць ведаць, што ж адбылося ў бункеры. «Ну й дзівак я,— схамянуўся ён, моўчкі праляжаўшы некаторы час.— Хто ж стане гаварыць пра такія справы тут, наклікаючы на сябе падазронасць? Яны ж — афіцэры. У зручны час, вядома, дэталёва разбяруць ход усёй аперацыі».

А на самай справе кожнаму з іх не цярпелася даведацца, што ж адбылося ўпоцемку ў бункеры, якая іхняя памылка? Адразу ж пасля адбою шаптацца небяспечна. Каб не падслухаў хто-небудзь з боку ці з

ніжніх нараў. Дый у Гаўрыка, можа, узнікла падазронасць. А што, калі ён здагадваецца, хто хацеў яго задушыць? Чаго добрага, яшчэ падгледзіць, як яны сябе паводзяць?

Толькі назаўтра за сняданнем суседзі змаглі асцярожна пагаварыць перад адыходам ранішняй змены.

— У апраметнай цемры цяжка абкласці мядзведзя. Асабліва калі ён не спіць у бярлозе,— ні да каго не звяртаючыся, пачаў Вадзім.— А гэты жывадзёр і дужы, і хітры.

— Ды яшчэ з падручнага — не помач, а немач,— вінавата прызнаўся Янка.

— Ты прыцэліўся дакладна. Яго выратавала хітрасць. Праўда, і сіла выручыла. Упаўзла падкалодная змяя!

Аказваецца, як толькі патухла святло ў бункеры, Вадзіму інтуітыўна здалося, што Гаўрык мяняе сваё месца, пасоўваючыся ўглыб па праходзе. Таму Вадзім паспешліва закашляў і рушыў у наступ на паліцая, але таго ўжо не было на ранейшым месцы. Якраз у гэты момант Янка ўчапіўся за Вадзімаў рукаў. Сівалін з Дробатам перахапілі Гаўрыка, які, наадварот, набліжаўся да дзвярэй. Сівалін нават намацаў ягоную гарлянку. Але здаровы, як бугай, Гаўрык вылузнуўся з рук двух дахадзягаў. Толькі пакінуў кій ды згубіў шапку.

«Нябось, не закрычаў са страху! Не паклікаў на дапамогу! Баяўся, што выдасць сваё месца, дык тыя, хто паблізу, даканаюць»,— зларадна думаў Янка, скінуўшы з сябе непасільную ношу, калі развеялася непаразуменне наконт ягонай прамашкі. Некалі ён таксама апынуўся ў ролі няўдалага падручнага і цяпер, каб парушыць прыкрае маўчанне, расказаў суседзям пра той выпадак.

У часе зімовых канікулаў ён прыехаў дадому. Узрадаваная маці паклікала дзядзьку, заядлага паляўнічага, каб той з нагоды прыезду сына асвяжыў вепрука. Дзядзька ўзяў падручным пляменніка. Калі Янка, выслухаўшы парады і павучэнні, нарэшце злаўчыўся і на імгненне прытрымаў жывёліну за заднюю нагу, дзядзька спрытна ўхапіў яе за пярэднюю і садануў кухонным нажом пад лапатку. Вяпрук так тузануў абодвух, што хлопец выцяўся локцем аб сценку, а ў дзядзькавай руцэ толькі засталіся адламаныя тронкі.

— З нажом пад лапаткаю сам працягнуў ногі, знясілеўшы,— абыякава сказаў Вадзім.

— Дзе там? Як ашалелы бегаў па хляве. Бядуючы, што на крывянкі зусім не застанецца крыві, дзядзька кінуўся па дубальтоўку. Ва ўпор з яе ўвагнаў дранкулю ў вепрукову лабаціну.

— Нам пад гарачую руку хаця б сцізорык,— са шкадаваннем прамовіў Дробат.

— А замест бярданкі хаця б заваляшчы самапал,— паспрабаваў з'яхіднічаць Вадзім.

Аднак што б яны ні гаварылі, як бы ні маўчалі — у іхніх паводзінах адчувалася часовая збянтэжанасць і разгубленасць. Апрача выхаднога яны маглі бачыцца толькі за сняданнем. Таму суседзі нават не паспелі дамовіцца, што ім цяпер рабіць далей. А калі ў наступную ноч зноў паўтарыўся паветраны налёт, яны былі не падрыхтаваны для супольных дзеянняў, апынуліся разрозненымі парамі. Тым часам да паветранай трывогі ў лагеры ўжо прызвычаіліся, бо без аніякіх бамбёжак яна нікога не палохала. Стомленыя палонныя моцна спалі. Разбуджаныя не хацелі пакідаць свае логавы. Паліцаі, а на гэты раз яны былі асабліва раз'юшаныя, бо, мусіць, даведаліся пра замах на Гаўрыка, сілком вытурвалі з баракаў заспаных і запозненых, бязлітасна лупцавалі тых, хто спрабаваў дзе-небудзь прытаіцца. Ахова, відаць, таксама не спяшалася пакідаць вартавыя вышкі. Можа, яна і не ўцякала ўжо ў бамбасховішча.

Вадзім з Янкам зноў паспрабавалі ўцячы. Але як ні прытойваліся ў бараку, як ні туляліся па лагерным двары,— па-ранейшаму нідзе не знаходзілі ніякай шчыліны, у якую можна было б ушчаміцца. Толькі перанерваваліся абодва. Лагерны двор асвятляўся хоць ты збірай іголкі. Цяпер у бункеры сярод палонных не было ніводнага паліцая. Пасля адбою даведаліся, што яны разам з камендантам пачалі хавацца асобна.

## 17

Праціраючы вочы, Янка з Вадзімам прачнуліся ад шуму і мітусні. Спачатку думалі, што палонных разбудзіла сірэна паветранай трывогі. Але потым, калі пачулі каманду паліцаяў «выходзьце строіцца!», спрасонку не маглі ўцяміць, якая гэта пара сутак. Толькі тады, калі разам з іншымі выстраіліся на

апельпляцы асобна ад дзённай змены, якая, відаць, толькі што вярнулася з шахты, зразумелі, што зараз поўнач.

На апельпляцы, як статуя, у чаканні нецярпліва стаяў камендант, важна засунуўшы зверху за рэмень вялікія пальцы, далонямі да жывата. Перад абедзвюма калонамі адзін за адным мітусліва бегалі паліцаі, паспешліва пералічваючы палонных.

— Моргеншыхт — алес, мітагшыхт — найн цвай ман,— на свой лад, па-нямецку непісьменна прамовіў паліцай Ляўшун, падбегшы да каменданта.

«Людзей знявечылі, але не анямечылі, а нелюдзі казыраюць невуцтвам, родных матак выракліся,— падумаў Янка, абвёў позіркам усіх паліцаяў і здзівіўся, што на гэты раз не Гаўрык, а Ляўшун дакладвае каменданту.— А дзе ж Гаўрык? Звычайна ён стараўся выслужыцца перад Грышкам. Чаму цяпер яго няма?»

— Нехта ўцёк? — прашаптаў Вадзім.

— Не відаць Гаўрыка. I ў дзённай змене двух чалавек не хапае,— адказаў Янка.

Аказваецца, было ўжо далёка за поўнач. Бо, калі пасля гэтай паверкі пазачынялі ўсіх па бараках, палонныя дзённай змены расказалі, як доўга іх пералічвалі і пратрымалі канваіры, спачатку прымаючы пры выхадзе з шахты, а потым здаючы лагернай ахове перад брамаю. Як ні лічылі і колькі ні пералічвалі, а двух чалавек усё роўна не хапала. Ды ў дадатак яшчэ выявілася, што ў лагеры не стала аднаго паліцая. Паліцаяў, вядома, не пералічвалі. Яны ўсе навідавоку. Палонныя адразу ж заўважылі, каго з паліцаяў няма. Прысутнасць Гаўрыка заўсёды адчувалася. А вось каго не хапае ў дзённай змене, нават самім палонным немагчыма выявіць у калоне. Толькі як усе леглі на нарах, Вадзім з Янкам заўважылі, што няма на сваіх месцах абодвух іхніх суседзяў па ўзгалоўі, і пазайздросцілі ім. Вадзім ведаў, хто яны, таму разумеў, на што здатны гэтыя людзі. Няўдалы напад на паліцая мог быць штуршком, які паскорыў іхні ўцёк. А можа, яны папярэдне нават расквіталіся з Гаўрыкам? Не, наўрад, бо як можна з падзямелля дацягнуцца да яго на паверхню?

— Падкалодная змяя адчула небяспеку! — сказаў Вадзім Янку.

Янка цяпер прыгадаў, як Гаўрык спрабаваў выме-

няць у Румегі хлеб на баланду. Відаць, рыхтаваў сухары на дарогу?

Да таямнічых перашэптванняў абодвух суседзяў па ўзгалоўі хлопец прывык. Ён даўно іх западозрыў у нейкай змове. Вось цяпер на волі, шчасліўцы. Сонейка выглядвае. Абагрэе гаротнікаў. Які-небудзь падножны корм знойдзецца. Праўда, трохі насцярожвае тое, што суседзі зніклі адначасова з Гаўрыкам. Няўжо проста супадзенне?

Чым болей Янка думаў пра гэта, тым мацней яго апаноўвала сумненне. Яму чамусьці пачало здавацца, што яны ўтрох уцяклі разам. Але ж ён ніколі не заўважаў, каб яны дзе-небудзь збіраліся супольна. Ну, дык што з таго? Сапраўдныя канспіратары ніколі не выдадуць сябе на людзях. А як жа абодва суседзі ўдзельнічалі ў замаху на жыццё Гаўрыка? Хто дакладна ведае, можа, яны на самой справе нічога не рабілі ў бункеры? Толькі дзеля адводу вачэй выдумалі версію, што схапілі паліцая, але не здолелі ўтрымаць у руках. А Гаўрык да пары да часу ім спатрэбіцца. Ён мог наладзіць трывалыя сувязі на волі, знайсці бяспечную схованку для трох. Хоць ім разам не па дарозе, але часова яны маглі яго выкарыстаць.

Вестка пра ўцёкі двух палонных і паліцая імгненна распаўсюдзілася па лагеры. Яе перадавалі з вуснаў у вусны, з барака ў барак, са змены ў змену. Наконт паліцая ўсе гаварылі прыкладна адно і тое ж: адчуў, што карабель патоне, дык паспешліва пакінуў трум. Усё роўна тут могуць прыдушыць. Хітрун і праныра. Воўк, які хоча залезці ў авечую скуру. Зменіць прыстанішча, выдумае сабе новую біяграфію — і ніхто не даведаецца, хто ён напраўду. Пра абодвух уцекачоў-палонных меркавалі па-рознаму. Адны ім спачувалі, бо лічылі, што іх жыўцом пахаваў абвал, на які маглі не звярнуць увагі. Другія, спагадаючы, казалі, што яны проста заблудзілі ў лабірынтах штрэкаў. Трэція распытвалі, якія з выгляду ўцекачы. На якіх месцах яны спалі на нарах? Няўжо такія малайцы маглі быць непрыкметныя сярод іншых? Ніхто не змог яшчэ ўцячы з гэтага падземнага пекла, а яны нейкім чынам выбраліся на волю.

# 18

Як толькі Янка выйшаў з клеці на каранную падоўжную, яго па-нямецку аклікнуў незнаёмы пажылы шахцёр:

— Ты, юнгэ, пачакай!

Разгубіўшыся, хлопец спыніўся.

— Генрых, я вазьму вось гэтага,— тым часам звярнуўся немец да штайгера.— Забойшчык з яго нікудышні, а мне ён штокольвечы памагчы здолее.

— Добра, Швэрмер, бяры.

— Лёс, комм,— звяртаючыся нібы не да Янкі, а да некага іншага, прамовіў немец і пакрочыў не азіраючыся, упэўнены, што хлопец ідзе следам.

Па гэтай незалежнай манеры трымацца і па тым, як па імю ён звярнуўся да штайгера, а той у сваю чаргу пачціва назваў яго па прозвішчы, адчувалася, што немец трымаецца з годнасцю, ведае сабе цану.

Спачатку іх падхапіла плынь шахцёраў і палонных, якая разлілася па каранной падоўжнай на сотні метраў і патрохі скарачалася і звужалася па меры таго, як ручаямі выцякала ў адгалінаваныя штрэкі. Потым яны моўчкі ішлі адзін за адным па бясконцых цёмных лабірынтах. Янка ззаду добра разгледзеў сутулаватага немца. На ягонай кароткай шыі моцна сядзела галава, прыкрытая непрыглядную, пакамечанаю шапкаю, верх якой ад брыля напускам звісаў на патыліцу. Апрануты немец быў у паношаны карычневы гарнітур, што мешкавата сядзеў на мажной постаці. Нягледзячы на мешкаватасць, ніжнія кішэні пінжака адтапырваліся: з аднае вытыркаўся абгорнуты газетаю пакунак, у другой была жоўтая біклажка. Немец ішоў не спяшаючыся, смешнаватаю паходкаю: ступаў груваста, пагойдваючыся, нібы маятнік, з нерухома павіслымі рукамі. Адна з іх трымала лямпу. Янку ён здаўся не толькі маўклівым, але і змрочным. Прайшлі яны, можа, кіламетры два. За гэты час немец спыняўся толькі каля невялікай скрыні, што тулілася ў нішы з боку штрэка. Пачакаў, пакуль падышоў хлопец, адамкнуў скрыню, адчыніў і прысланіў да сцяны века. Адною рукою, якая трымала лямпу, асвяціў усярэдзіне гэты куфар, а другою спачатку нетаропка падняў і пераклаў на іншае месца адбойны малаток і невялікую цяслярскую сякеру, потым моўчкі падаў Янку шуфель, а сам узяў лучковую пілу і кірку. Хлопца ўразіла, што немец не нагружае яго рыштункам, як Хольц. Пасля

таго як ён зачыніў і замкнуў скрыню, яны адзін за адным рушылі далей. Невядома, колькі ішлі б яшчэ, калі б не загарадзіла дарогу невысокая куча пароды, што абвалілася са столі штрэка.

Нібы паляўнічы, які нечакана трапіў на след звера, немец насцярожана спыніўся і, нават не азіраючыся на Янку, знакам узнятай рукі загадаў хлопцу зрабіць тое ж самае і збочыць да другой сцяны. А сам, не зводзячы позірку з адтуліны, што ўтварылася ўгары, ступіў пару крокаў назад, прысланіў да сцяны кірку і пілу, паставіў лямпу, зняў з плячэй пінжак і павесіў яго з боку штрэка.

— Абвал не такі, як на горнай дарозе,— прамовіў ён па-нямецку, суцяшаючы сам сябе, і змераў позіркам кучу пароды. Але, калі ўзяў лямпу, асцярожна наблізіўся да дзюркі ў столі, асвяціў яе і зазірнуў усярэдзіну, адразу ж усклікнуў: — Юнгэ, юнгэ! Не кратэр, а прорва!

Пасля гэтых слоў адышоў убок і зноў паставіў на доле лямпу. Янка не разумеў, што хоча рабіць немец. У штрэку было цёмна. Хлопец зняў картовы пінжак і павесіў яго на сцяне. Немец выцягнуў кароткія зацяжкі, што, відаць, зваліліся са столі, бо тырчэлі з кучы пароды. Але ўбачыўшы, што яны пераломаны, шпурнуў іх прэч. Узяў у рукі лямпу і, штосьці шукаючы па баках, павольна пайшоў штрэкам.

«Няхай сабе ідзе, а я тым часам шмыгну куды-небудзь у цемру»,— падумаў хлопец, праводзячы яго пільным позіркам.

Але немец далёка не адышоў, а хутка вярнуўся назад, трымаючы пад пахаю два паленцы. Іх ён паклаў на дол, а лямпу прыхіліў да сцяны. Яна добра асвятляла невялікую адтуліну ў столі між дзвюх металічных бэлек. Янка назіраў, што будзе рабіць немец. А ён узяў кірку, як нарогам, разворваючы ёю кучу, выверну ў адтуль некалькі «каржоў» і буйнейшых кавалкаў пароды. Потым узяў абодва паленцы, надзейна стаў на кучу і пад праломленай столлю асцярожна паклаў іх на металічных бэльках.

— Як цябе завуць? — раптам спытаўся ён і, відаць, не спадзеючыся, што хлопец зразумее па-нямецку, паспешліва працягнуў: — Нікалаўс? Пэтэр? Алекс?

— Янка,— адказаў хлопец, але адчуўшы, што немец не зразумее гэтае імя, растлумачыў: — Іван.

— Іван? Таксама імя рускага цара,— па-нямецку прамовіў немец. Потым наском чаравіка ткнуў «корж» пароды і, працягваючы руку ў напрамку яго, папрасіў: — Ёган, падай гэты «слоены пірог».

Янка падаў «корж», які сапраўды быў спрасаваны з тонкіх слаёў пароды. Немец асцярожна прасунуў і паклаў яго зверху на паленцы. Такім жа чынам папрасіў другі, трохі меншы «корж», які паклаў побач з першым, так што перакрыў большую частку дзюркі ў столі. Пасля, тыцкаючы наском чаравіка або ўказальным жэстам рукі, ён паказваў Янку, якія кавалкі пароды падаваць яму, а сам навобмацак забутоўваў імі нябачную пустату, якая пагрозліва навісла па-над «каржамі». Хоць і адчувалася ў ягонай паставе насцярожанасць, але рабіў ён усё нетаропка, упэўнена, без усялякай мітусні. І кожны раз, беручы з хлопцавых рук кавалак пароды, паказваў жэстамі або мімікаю, каб Янка адразу ж адыходзіў убок, не затрымліваючыся пад злавесным кратэрам.

Янку, канечне, не магла не расчуліць спагадлівасць змрачнаватага незнаёмца. Хлопец адчуваў сябе перад ім няёмка. Чалавек можа падумаць, што Янка выстаўляе напаказ сваю смеласць, пагарджае небяспекаю. У сапраўднасці ж усё выглядала іначай. Нельга сказаць, каб пасля кожнага перасцярожлівага напамінку немца хлопец забываўся пра небяспеку. Наадварот, розумам ён усведамляў яе, але нібыта не адчуваў боязі і не мог пераадолець абыякавасці да небяспекі. Нагогул ён пачаў заўважаць, як у гэтым чужым, невядомым яму раней свеце голаду, грубасці і гвалту паступова мяняецца душэўны стан чалавека. Янку ўжо не здзіўляла, чаму ў апошнія дні, калі ляжаў у санчасці, непазнавальна змяніўся быў Арсень: зрабіўся абыякавы да ўсяго навакольнага. Цяпер Янка з кожным днём адчувае, як усё болей чарсцвее ягоная душа і прытупляюцца пачуцці. Кажуць, чужая душа — пацёмкі. Што казаць пра чужую, калі нават у сваёй не разабрацца? Усё-такі як недасканала створаны чалавек! Які ён непастаянны ў пачуццях і перажываннях у залежнасці ад фізічнага і душэўнага стану! Цяпер Янку дзіўнавата, што ў бункеры ён баяўся паветраных налётаў і перажываў страх пад скляпеннем вугальна-

га забою. Ды ці ж толькі страх? А сардэчныя пачуцці? Убачыў у лямпавай Надзею, якая нагадала Волю — і ўжо адразу ж пачаў пісаць лісты.

Воля-Волька!.. Як далёка ты цяпер! Надзея-Надзейка!.. Куды ты знікла? Зараз усё тое здавалася яму сентыментальнасцю. У галаве зусім іншыя думкі, калі ў жываце — пустата, як у кратэры над гэтым штрэкам. Дык немец жа хоць забутоўвае яе «каржамі» ці, як ён кажа, «слоенымі пірагамі». Нябось, мабыць, не ўяўляе, што ў жываце ў палоннага пуста? А можа, на адзіноце, без субяседнікаў ён наўмысна мудрагеліста размаўляе сам з сабою? Але што ні кажы, а ён сапраўды — Швэрмер, летуценнік, энтузіяст, фанатык, што азначае ў перакладзе з нямецкай мовы ягонае прозвішча. У працы і ў паводзінах, як дакладна адпавядае ўсё гэта яму.

Невядома, ці гэтыя плоскія, нібы дошкі, кавалкі пароды «каржамі» празвалі палонныя ці так іх называюць і ў нашых шахтах? Але якое гэта мае значэнне? Усё роўна ж гэтымі «каржамі» і «слоенымі пірагамі» жывот не наб'еш.

А немец забутаваў адтуліну, сышоў на дол, пару крокаў ступіў убок і, задаволена аглядаючы зробленае, па-нямецку прамовіў:

— Прыпынілі вывяржэнне вулкана!

Пасля ўзяў шуфель і некалькі хвілін раўнамерна раскідаў па баках пароду. Потым на кароткі час перадаў шуфель Янку. Трохі перадыхнуў і зноў падмяніў хлопца, пакуль не раскідаў рэшту кучы і кругом усё акуратна не разраўняў. Пры ўсёй маўклівай нелюдзімасці ў ягоных паводзінах адчувалася чалавечнасць.

Хвілін за дваццаць яны перайшлі на іншае месца. Як толькі паклалі на дол начынне, немец нецярпліва прайшоўся па штрэку, аглядаючы асветленую лямпаю столь, і па-нямецку заклапочана прамармытаў:

— Юнгэ, юнгэ. Мы не багі. Дождж не спынім. А каб град на галовы не падаў, тут давядзецца доўга цыраваць дзюркі ў небе.

Янку здзівіла, што, прыладзіўшы лямпу і павесіўшы пінжак, немец чамусьці дастаў з кішэні пакунак і на чырвоным шнурку, якім ён быў перавязаны, падвесіў пры сцяне штрэка.

Няйначай, як стары з прымхамі. Павесіў амулет ці талісман? Бо полуднік не вымаў бы з кішэні. Бік-

лажку ж не дастаў. А можа, таму, што ў кішэні кава даўжэй захоўвае цяпло?

Немец, мабыць, працаваў тут мінулы раз, бо на доле пры сцяне, побач з нарыхтаванымі паленцамі, ляжалі ўжо «каржы» са «слоенымі пірагамі» ды буйнымі кавалкамі пароды і стаяла лёгкая пераносная сталюга, нібы памосткі ў маляроў або тынкоўшчыкаў, толькі з аднаго боку з лесвічнымі прыступкамі. І на гэтым месцы абодва яны рабілі амаль тое ж самае. Час ад часу мяняючы паставу ў залежнасці ад таго, як яму зручней, немец або станавіўся ніжэй, або сядаў вышэй на лесвічныя прыступкі, прыхінаўся спіною да сталюгі, па-ранейшаму браў з хлопцавых рук тое, што яму патрэбна, і мацаваў нетрывалую столь ці забутоўваў у ёй праламаныя адтуліны. Часам ён вяртаў Янку паленцы і аполкі, паказваў, дзе іх трэба ўкараціць. Хлопец пілою адразаў лішак, а патрэбнае падаваў назад, асабліва не разглядаючы, што робіць немец уверсе. Якая яму да яго справа? Як толькі яны перайшлі ў іншы штрэк, Янка адчуў, што ў ім яшчэ цяплей, чым у ранейшым, і адразу ж зняў пінжак.

Можа, прывыкшы працаваць на адзіноце або забываючы пра тое, што ў яго ёсць падручны, а можа, проста не жадаючы залішне нагружаць хлопца, немец часамі ўзапар набіраў з Янкавых рук па некалькі паленцаў, «каржоў» або кавалкаў пароды, лажыў іх зверху на памосткі сталюгі і корпаўся сабе пад столлю да тае пары, пакуль яны не канчаліся. Нічым не заняты ў такія моманты, Янка падоўгу прастойваў. Нягледзячы на гэта, яму было горача. Цела аблівалася потам. Пот выядаў вочы. Хлопец не вытрываў, скінуў з сябе і кашулю, і майку. А немцу хоць бы што, ён працаваў у кашулі і ў шапцы. Відаць, прывычка і вынослівасць. Кажуць, дужы чалавек не пацее. Празмерная патлівасць — першая прыкмета слабасці. Дый у штрэку ж душна, як у напаленай ёўні.

У маленстве Янка прыбягаў у гумно да дзеда, які паліў печку ў ёўні, дзе на палку прасыхалі насаджаныя снапы. У курнай ёўні змрок якраз такі, як у гэтым штрэку, і дым выядаў вочы, як цяпер — пот. Але ад снапоў патыхала прыемным-прыемным духам, ад якога ажно кружылася галава. А ў печцы дзед сма-

жыў, ці, як ён казаў, пражыў для ўнука загадзя намочаны гарох. Цяпер Янка аблізнуўся і праглынуў сліну, калі ўспомніў, які смачны ласунак — пражаны гарох!

Але ад гэтых успамінаў яго ўвесь час адрывалі кроплі, што, як назойлівыя мухі, тыцкаліся зверху ў плечы і ў спіну. Хоць яны і цёплыя, але непрыемна казыталі ўспатнелае цела, хуценька прабягаючы па ім, нібы мурашкі, ад якіх Янка злёгку пацепваўся. Ён задраў уверх галаву, каб разгледзець, адкуль сцякаюць кроплі і куды яму адысці ўбок — і аслупянеў ад нечаканасці. Хлопец сарамліва перавёў позірк на немца: ці не ўбачыў той, які нязвычны стан перажыў зараз ягоны падручны? Калі б немец зірнуў на Янку ў той момант, ён заўважыў бы, як ненатуральна перасмыкнуўся хлопцаў твар і як бліснулі ягоныя вочы. Відаць, такім імгненным бляскам успыхваюць вочы знясіленага голадам звера, калі ён бачыць, што здабыча сама трапляе яму ў лапы.

У хвіліны, калі немец корпаўся, заняты сваёю справаю, Янку час ад часу рупіла глянуць на гэтыя невялікія таямнічыя стрэлкі, падобныя на ледзяшы вясновых капяжоў. Праўда, крышталёвыя ледзяшы, якія звісалі са стрэх, пры сонечных промнях былі празрыстыя або матавыя, а гэтыя — ружовыя і пры святле шахцёрскіх лямпаў, асабліва калі мяняеш месца, паблісківаюць, як рубіны, адсвечваючы то цёмнымі, то светлымі адценнямі. Калі б ён не бачыў, як палонныя прасушвалі іх на печках у лагеры, дык цяпер нават і не здагадаўся б, што перад ім сталактыты солі. Нарэшце і яму пашанцавала! Глытаючы слінку, у думках ён смакаваў, як яны з Вадзімам будуць есці сягоння падсоленую баланду.

А ў немца ў гэтым штрэку з працаю не ладзілася. Відаць, размоклая столь была нетрывалая. Некалькі разоў латкі, якія Швэрмер старанна накладваў на дзюркі, з трэскам і грукатам адвальваліся, а сам ён спрытна адскокваў убок.

— Донэрвэтэр, гот фэрдамт нох маль! — вылаяўся нарэшце немец, выскачыў з-пад вадаспаду пароды, махнуў рукою, узяў сваю лямпу і кудысьці рушыў. Як толькі ён павярнуўся спінаю, Янка, не трацячы ні хвіліны, бы малпа, бясшумна ўскараскаўся на прыступкі сталюгі, пааблomваў крохкія сталактыты і, спяшаючыся, схаваў у кішэню пінжака, як быццам баючыся, каб

яны не расталі ў цёплых руках. Толькі адзін трымаў, перакочваючы на далоні, як гарачы вугольчык. Цёплы ружаваты сталактыт і формаю, і колерам нагадаў халодны светла-ружовы лядзяш, які змалку засеў пад сэрцам стрэмкаю. Такія ледзяшы звісалі з латкоў, калі запознены бярозавы сок прыхоплівалі апошнія замаразкі. І раптам хлопец адчуў, як ад салёных крапляў занылі плечы і спіна. Цяпер і ў родным краі на пакалечаных бярозах, мабыць, вось так ныюць раны, з якіх звісаюць у замаразак гэткія ж ледзяшы позняга бярозавіку.

Швэрмер і на гэты раз далёка не адыходзіў, а калі вярнуўся, нават не разглядаў кратэр вулкана, які нядаўна дзейнічаў. Толькі адставіў далей ад яго сталюгу. Потым адвязаў пакунак, дастаў з кішэні пінжака біклажку і зручна ўсеўся на ніжняй прыступцы лесвіцы. Калі Янка ўбачыў, што ён разгарнуў на каленях полуднік, хлопец, каб не стаяць перад ім навідавоку — крый бог чалавек падумае яшчэ, што палонны чакае ад яго міластыню — дый у такім стане немагчыма глядзець, як побач есць іншы, наважыўся адысці. Але немец, адрываючы паперу, апярэдзіў яго.

— Ёган,— прамовіў ён і моўчкі працягнуў кавалак газеты, на якой ляжаў бутэрброд.

Ад нечаканасці Янка сумеўся. Швэрмер дзеліцца сваім полуднікам з палонным? Хлопцу не дзіўна, што яму спачуваюць француз Гільро, чэх Франц, галандзец Бэкер. А то ж — немец. Аднеквацца, вядома, ён не здолеў бы. Таму, каб не прынізіць сваёй годнасці і, крый бог, не выдаць прагнасці да ежы, як мага стрыманей узяў пачастунак і ледзьве змог вымавіць слова «дзякуй!». У горле штосьці перасохла, а вочы завалаклі слёзы. Каб немец не заўважыў гэтага, хлопец гатоў быў пабегчы, але ўсё-такі ўзяў сябе ў рукі, нетаропка адышоў убок і сеў проста на дол. Мабыць, калі б не адбылося ўсё гэта з ім, ён усё роўна адышоў бы сюды. Ён бы саромеўся есці ў прысутнасці гэтага някепскага старога, якому магло здацца, што палонны не есць як чалавек, а жарэ, нібы звер. Таму нават тут, навідавоку — немец сядзеў да яго спінаю,— Янка прагна не накінуўся на ежу, а спачатку разгледзеў ладны бутэрброд з дзвюх лустаў, адрэзаных ад шырокага квадратнага бохана і перакладзеных нейкаю белаю скаромнінаю.

«Усё-такі гэты стары — чалавечны. Нічога, што ён маўклівы»,— расчуліўся хлопец.

Але голад мацнейшы за расчуленасць. Добра, што ў галоднага не атрафіравалася яшчэ чуллівасць. Цяпер хлопец заняты толькі бутэрбродам. Відаць, для зручнасці ён разрэзаны на дзве роўныя палавінкі. З аднае Янка не спяшаючыся адкусіў невялікі кавалачак мякіша, старанна перажаваў і, смакуючы, праглынуў, але не адчуў, якая скаромніна ў бутэрбродзе. Толькі як прыўзняў верхнюю лусту, дык убачыў на ніжняй скваркі ружаватага сала...

«Божа мой, няўжо мінула столькі часу, што я нават забыўся, які смак сала? Здаецца ж, скваркі не тонкія, смак хлеба не павінен перабіць іхні смак. Ці, можа, у мяне ўжо і адчуванне смаку прытупілася?» Ён прыкрыў сала лустаю і, перш чым адкусіць яшчэ кавалак бутэрброда, паднёс яго да носа і панюхаў. У цёплым штрэку, як з чалеснікаў печы, ледзь-ледзь павеяла знаёмым хлебным духам, але не адчувалася ні паху дыму, ні паху гары. Тады Янка адкусіў ражок верхніх скарынак і, жуючы іх разам з мяккаю скуркаю скваркі, нарэшце зразумеў, што сала не смаленае, а ў меру прасоленае. Можа, немцы наогул не смаляць свіней? Але ж соль адчуў адразу, хоць яе, як сала, таксама не каштаваў столькі часу. І раптам успомніў пра сталактыты, што ў кішэні пінжака, пра Вадзіма. Сусед — аднадумца. Як на добры лад, дык па-людску было б, каб сягонняшнюю радасцю спаўна падзяліцца з ім, раздзяліць яе пароўну,— думаў ён, апетытна жуючы хлеб і заўважаючы, як з кожным кусам усё болей адчуваецца смак сала. Адначасова прагна паглядаў на другую палавінку бутэрброда. Калі ж надта маленечкая гэтая радасць: няма чаго тут дзяліць. Але хай бы і Вадзім хоць раз за ўвесь доўгі пост разгавеўся шматочкам скаромніны, успомніў, які смак сала. «Няўжо я не здолею пароўну падзяліцца з ім гэтым бутэрбродам? От Вадзім жа валодае жалезнаю вытрымкаю, у яго моцная сіла волі. Няўжо ў мяне яе няма? Ці ж я ўжо такі бязвольны? Перад немцам жа ўстрымаўся, не выдаў свае прагі да ежы, сквапна, як сабака на костку, не накінуўся на хлеб?» — і ён прытрымаў у руцэ недаедзеную палавінку бутэрброда, глянуў на Швэрмера, які якраз у гэты момант запіваў каваю кус, нехаця загарнуў у

газету другую, цэлую палавінку — і рашуча і імкліва паклаў яе ў пустую кішэню свайго пінжака. На момант супакоіўся, адкусіў і, смакуючы, каб не закончыць раней за немца полуднік, не спяшаючыся разжоўваў невялікі кавалачак з недаедзенай палавінкі.

Але як ні смакаваў, як паволі не разжоўваў кожны кус, усё роўна надоўга не надтачыў. Бо рэшта палавінкі была ўжо невялікая. Дый нялёгка ўсё-такі смакаваць і доўга разжоўваць, калі нельга наталіць голад. Здаецца, з'еў бы вала. Янку занепакоіла тая палавінка бутэрброда, што ляжала ў кішэні. «Не, усё-такі пацярплю. Калі не наеўся, дык не наліжашся»,— супакойваў ён сябе мудраю прымаўкаю. Але страўнік, мабыць, сама што выпрацоўваў сок і патрабаваў свайго. Таму хлопец са з'едлівай іроніяй абвергнуў гэтую прымаўку іншаю: «Салаўя не кормяць байкамі». Цяпер ён сябе таксама спрабуе накарміць байкамі. Вадзіма ж побач няма. Ён жа нічога не будзе ведаць.

Янка ўжо ледзьве не працягнуў руку па прываблівую палавінку бутэрброда. Але нейкі ўнутраны голас стрымаў: «Гэта несумленна. Не па-таварыску. Сусед жа не толькі аднадумца, але і адзіны таварыш. Ты ж рашыў пароўну дзяліць з ім і трывогу, і небяспеку. А бутэрбродам падзяліцца не хочаш?»

Невядома, ці ўстрымаўся б канчаткова хлопец ад заманлівай спакусы, калі б раптам не падняўся Швэрмер, які скончыў полуднік. Ён падышоў да свайго пінжака і зноў паставіў у кішэню біклажку. Потым паднёс сталюгу да кратэра, з якога кожную хвіліну магла хлынуць халодная лава.

«А гэтая дзюрка ў столі сапраўды падобна да кратэра, толькі перавернутага,— падумаў хлопец.— Калі хлыне з яго каменная лава, дык будзе сыпацца да тае пары, пакуль не выцекуць зверху шматкіламетровыя тоўшчы».

Пасля яшчэ нямала часу правалаводзіўся тут немец. Тройчы кратэр разрываў ягонае незакончанае «цыраванне». Потым, нарэшце, прыціх, і Швэрмер задаволіўся, што канчаткова ўтаймаваў вулкан. Але не паспеў ён выбраць новае месца, каб пераставіць пад яго сталюгу, як раптам дзесьці далей у штрэку суха трэснула драўніна і кароткаю чаргою буйнакалібернага кулямёта прагрукатала парода.

— Юнгэ, юнгэ, дзе ж тут утрымаецца «цыраванне» на дзюрках, калі нават цалюткае неба трашчыць па швах?! — па-нямецку запытальна ўсклікнуў Швэрмер.

Ён узяў лямпу, надзеў на плячо пілу, падняў з долу шуфель — і жэстам рукі паказаў Янку ісці за ім следам. Яны прайшлі метраў трыццаць. Немец выявіў новы кратэр і пакінуў каля яго хлопца з рыштункам, а сам, не прамовіўшы ні слова, сходзіў на ранейшае месца і прынёс адтуль сталюгу.

«Усё робіць сам,— падумаў Янка, гледзячы на Швэрмера, мімаволі пранікаючыся да яго прыязнасцю.— Усё-такі чалавек застаецца чалавекам, хто б ён ні быў — немец або турак. Калі б на месцы Швэрмера цяпер апынуўся здаравяк Хольц, ён прымусіў бы мяне цягнуць на сабе ўвесь рыштунак разам з гэтаю сталюгаю. А стары не пануквае, не падганяе, нават полуднікам падзяліўся. А што не гаваркі, дык гэта ж не загана. Дый што яму гаварыць самому з сабою? Ён жа не падазрае, што падручны разумее па-нямецку. Хто ведае, калі б ты загаварыў з ім, дык і ён разгаварыўся б, можа, як рукою зняло б з ягонага чала маску панурасці».

Пасля полудніка Янка некалькі разоў парываўся загаварыць з немцам, але ўвесь час стрымлівала нейкая ўнутраная перасцярога.

«Стары някепскі, але хто ён на самай справе? Каб не было ў ягонай дабраце чаго-небудзь наўмыснага. Чаго добрага, яшчэ трапіш у бяду. Пажывём — пабачым».

Дый помнілася перасцярога палоннага суседа па шарэнзе, які вучыў яго ў шталагу не вылазіць са сваім веданнем нямецкай мовы: каб самому не напрасіцца ў паслугачы да ворагаў. Мабыць, абедзве гэтыя акалічнасці адыгралі важную ролю ў тым, што Янка так і ўстрымаўся і не распачаў з немцам ніякай гаворкі да канца рабочага дня.

А дзень гэты для яго сапраўды незвычайны. Бо ён адрозніваецца ад многіх беспрасветных дзён у змрочным падзямеллі. Сягоння хлопец упершыню за доўгі час атрымаў фізічную перадышку і адчуў маральную падтрымку. У параўнанні з невыносна цяжкою працаю ў забоі сягонняшні занятак здаўся дзіцячаю забаўкаю, гульнёю ў цацкі. Дый яшчэ пашэнціла чарвяка зама-

рыць. І за ўсё гэта ён, вядома, удзячны толькі аднаму чалавеку, маўкліваму і панураму старому. Хлопец зразумеў цяпер, што ён удзячны яму яшчэ і за тое, што стары перасцярог яго ад зладзеяватай спакусы на пачастунак, прыхаваны для таварыша. Пра гэта думаў Янка, калі яны, закончыўшы працу, вярталіся па штрэку да адзення.

Яшчэ крокаў за сем да сваёй вопраткі хлопцу кінулася ў вочы, што на доле пад ягоным пінжаком бялее нейкая пляма, якая выразна вылучаецца на фоне цёмна-шэрай пароды. «Што гэта? Пялёсткі кветак? Дробныя сняжынкі?» — здзіўлена падумаў ён, падыходзячы і аглядаючы ўверсе столь. Але яна была цэлая. На ёй не было ніякіх адзнакаў, што з яе што-небудзь сыпалася. Усё роўна як драпежнік наскуб пер'я. Наском чаравіка Янка капнуў белы копчык, што ўзвышаўся ў цэнтры густа запарошанае плямы — і той драбнюткімі пушынкамі раз'ехаўся ў бакі. Хлопец падазрона цубнуў за кішэню пінжака — і адчуў, як пахаладзела ў грудзях і адразу ж абмякла ягонае сэрца. Кішэня была парожняя. Навобмацак, яшчэ не даверваючы сам сабе, каб канчаткова пераканацца, ён засунуў руку ў яе сярэдзіну і скрозь пажвяканую, як паточаную шашалем, рэшту паперы тры пальцы вылезлі вонкі праз выгрызеную дзюрку. Занепакоены, Янка памацаў другую кішэню. У ёй ляжалі некранутыя сталактыты солі. Толькі ад іх вільготнасці кішэня намокла знізу.

— Юнгэ, юнгэ, ты пакінуў у кішэні засаленую паперу? — са шкадаваннем запытаўся па-нямецку Швэрмер, які назіраў за ўсім гэтым.— Яе зжэрлі пацукі. Табе трэба папера на курэнне? Вазьмі,— ён дастаў з кішэні штаноў і працягнуў Янку рэшту газеты, якой быў абгорнуты бутэрброд.

Невядома дзеля чаго, расчараваны і збянтэжаны хлопец моўчкі і нерашуча ўзяў газету.

«Дык вось чаму ён падвешваў свой пакунак у штрэку. Лепей бы я сам з'еў тую палавінку, чым яна дасталася пацукам,— у роспачы шкадаваў Янка.— І адкуль толькі яны ўзяліся ў падзямеллі? Можа, і іх, як нас, загналі сюды сілком? Няйначай як перапалоханыя ўсім тым, што вытвараюць людзі на зямлі, яны пазашываліся на такую глыбіню. Якая ж тут для іх спажыва? Ну дык вось і шукаюць яе... А я яшчэ збіраўся схавацца тут дзе-небудзь у цемры. У галоднага

і знясіленага яны паабгрызаюць вушы і нос... Трэба ж і ім нечым карміцца...»

Перш чым апрануць пінжак, Швэрмер выняў з яго кішэні біклажку, адціснуў драцяны зажым, адкінуў убок белы фарфоравы корак — і зрабіў некалькі глыткоў.

— Хочаш? Папі,— працягнуў ён біклажку Янку.

Іншым разам хлопец нізашто не стаў бы піць гэтае нязвычнае для яго пітво. А сягоння ці то ад гарачыні ў штрэку, ці то ад з'едзенага сала, ці то ад прыкрае горычы на душы — у яго перасохла ў горле і засмяглі губы. Ён узяў у Швэрмера біклажку і, перасільваючы сябе, набгом ледзьве не апаражніў яе. «І ў яго кава не салоджаная і гэтак жа гарэніць, як тая, якою частаваў Гільро»,— думаў хлопец, аддаючы біклажку немцу.

## 19

Хоць Янка і адчуваў прыкрасць на душы, затое перад таварышам у яго было чыстае сумленне. Гэта ён зразумеў, як толькі яны сустрэліся з Вадзімам у раздзявальні і сусед па-змоўніцку пахваліўся туга напакаванаю торбаю ад процівагаза.

— Паласуемся падножным кормам,— таямніча паведаміў ён Янку.

— І нарэшце падсолім баланду,— у сваю чаргу перад ім не застаўся ў даўгу хлопец, злёгку пляснуўшы далонню па кішэні пінжака.— Шкада толькі, што няма чым яе заправіць хоць дзеля акрасы. А таксама было. Было, ды сплыло.

Ён паказаў суседу прагрызеную кішэню і прызнаўся, што здарылася.

— Харошага патрошку. Не было ні граша, і раптам алтын,— суцяшаў Вадзім.— Вось шкада, што дзюрка на вачах. Лепш бы, акаянныя, прагрызлі з унутранага боку.

Яшчэ па дарозе ў лагер яны дамовіліся, што не будуць есці баланду, пакуль не размяшаюць яе з варанаю травою, як звычайна робяць іншыя шчасліўцы. Таму, атрымаўшы абед, злілі абедзве порцыі ў Янкаву бляшанку. Міскі, каб не атрымліваць лішні наганяй, хлопец аднёс да кухні. Калі ён вярнуўся назад і ўбачыў траву, якую задаволены Вадзім вымаў з торбы, Янка збянтэжыўся. Але каб не расчараваць і не пакрыўдзіць суседа, змоўчаў.

«Ведама, чалавек гарадскі. Таму і не разбіраецца ў травах. Дый сам я, відаць, таксама накінуўся б на яе з прагнасцю. Абы трава. Тут людзі за любою ганяюцца, каб толькі набіць ёю жывот».

Янка таксама не такі ўжо знаўца траў. Але гэтую ён добра ведае змалку. Перад Сідаравай хатаю яна густой шчэццю пакрывала дно канаўкі пасля таго, як там высыхала стаячая вада. Гэтую траву чамусьці не елі ні каровы, ні свінні. Праўда, Вадзім нашчыпаў маладой, сакавітай. Янка разглядаў доўгія, к канцу завостраныя лісцікі. У тых месцах, дзе яны растуць проста з каліва,— каленцы, нібы на сцяблінe збожжа. Хлопец помніць, што калі трава падрастала, гэтыя каленцы чырванелі, з іх над лістамі выбіваліся яшчэ новыя сцяблінкі з лісцікамі і пазней усё каліва ружавела, было трывалае на разрыў, драцяное. З чырванаватаю сцяблінаю і цёмна-карычневым насеннем нявопытнаму воку здалёк яно магло здацца калівам спелае грэчкі. Янка панюхаў маладую сцяблінку. У носе ледзь-ледзь заказытаў востры пах. Хлопец ведаў, што лісце гэтай травы горкае на смак і як перац пашчыпвае і паліць язык. Недарэмна ж яе празвалі драсёнам перцавым, або вадзяною гарчыцаю. Дык і сапраўдны ж перац таксама горкі. Але, нягледзячы на гэта, яго спажываюць у розным выглядзе, нават фаршыруюць ды марынуюць. Хто ведае, можа, і гэты, калі згатаваць як след, таксама спажыўны?

Яны прамылі зеляніну, зварылі яе і злілі ваду. Каб дарэмна не псаваць солі, спачатку абодва пакаштавалі гушчу. У ёй не адчувалася горычы, але і не было ніякага смаку.

— Як трава,— вызначыў Вадзім.

Бывала, гэтак гаварылі за сталом пра недасоленую страву. Таму, каб не расчароўваць суседа, Янка прамовіў:

— Пасаліўшы, можна есці.

Яны выкулілі гушчу ў абедзве порцыі баланды, укінулі сталактыт солі і ўсё гэта старанна размяшалі.

— Атрымалася сапраўднае першае. Паставіш у ім лыжку — яна не ўпадзе. Сама што без хлеба есці,— задаволена зазначыў Янка, калі яны ўзабраліся на верхатуру.

Абодва зручна ўляглiся бокам і паставілі між сабою Вадзімаў кацялок. У баландзе не адчувалася пры-

тарна-саладжавага прысмаку сушанае бручкі. А з выгляду яна нагадвала Янку буракі з бацвіннем, якія дома, бывала, варыла маці. Двойчы яны напаўнялі і апаражнялі Вадзімаў кацялок. Усё адно як з аднае міскі, не спяшаючыся, па чарзе чэрпалі з яго лыжкамі гэтае варыва.

Калі апрасталі да дна Янкаву бляшанку, абодва, як згаварыўшыся, амаль адначасова ўздыхнулі і, выцягнуўшыся на ўвесь рост, улягліся на нарах.

— Часова падманулі страўнікі — і душы лягчэй,— сказаў Вадзім.

— Мабыць, калі б чалавек мог ашукваць свой мозг, яму спакайней бы жылося,— дадаў Янка.

Ці таму, што сягоння хлопец адведаў сала, ці таму, што напоўніў страўнік травою, але пад настрой яму прыгадалася, як у маленстве ён вось гэтак ашукаў на пашы карову з цялушкаю. Якраз тады многія жыхары іхняе вёскі пераязджалі на пасёлкі. У полі, кіламетры за тры ад дому, быў іхні зямельны надзел, частка якога ў тое лета пуставала пад папарам. Кожную раніцу Янка ганяў туды авечак і карову з цялушкаю. На полуднік браў з сабою лусту хлеба, пляшку малака і скварку сала. Па мяжы пашы, якую за лета скаціна здратавала і выбіла, як бубен, праходзіла шырокая, з пакатымі берагамі, канава, невядома дзеля чаго выкапаная. Вады ў ёй не было, а дно пакрывала густая дробная асака, якую не ела жывёла. У прыпар карова з цялушкаю, схаваўшыся ад спякотнага сонца, падоўгу пралежвалі на адложыстым беразе канавы. Звычайна ў такія хвіліны і Янка, схаваўшыся ў цень, палуднаваў, седзячы дзе-небудзь непадалёку. Аднойчы, папалуднаваўшы, ён пачаў выціраць засаленыя рукі аб мяккую траву, што касмылямі расла побач з асакою. Раптам цялушка ці заўважыўшы, ці адчуўшы нюхам, паднялася на ногі, наблізілася да толькі што склычанае травы і, моцна чмыхнуўшы і абнюхаўшы касмыль, з прагнасцю выскубла яго падчыстую. Янку гэта ўразіла і здзівіла.

Назаўтра, адкройваючы ў кубельцы нажом скварку на полуднік, ён яшчэ зрэзаў з верху кавалка пакрыты соллю ладны шмат для сваіх падапечных. Удзень, калі карова з цялушкаю ляжалі на пакатым беразе канавы, хлопец перад імі пачаў нашмальцоўваць гэтым шматам касмылі травы. Спярша цялушка, а потым і каро-

ва з-пад ягоных рук скублі траву папоўніцы. Калі ўсе касмылі былі выскублены, Янка паспрабаваў намазаць гэтаю подмазкаю асаку. Яе таксама прагна ела жывёла. Не спяшаючыся, адзін за адным лажыў ён на далонь тоўстыя пасмы асакі і асцярожна, каб не парэзаць ёю рукі, знізу да верху праводзіў па траве шматам сала, нібы скрыпач праводзіць па смычку кавалкам каніфолі. Хлопец не паспяваў нашмальцоўваць асаку, так прагна хапала яе жывёла, як касою, нізка выкошваючы па дну канавы.

«Калі б я нашмальцаваў салёным салам перцавы драсён, можа, і яго скубла б жывёла? От мы з Вадзімам зварылі яго, нічым не запраўляючы, і, пасаліўшы, з'елі за мілую душу».

З напоўненым страўнікам Янку, як параю ў лазні, прыемна акаціла хваляю ўспамінаў. Разморваў салодкі сон. Паступова адольвала дрымота.

— Знайшлі ўцекачоў! — пачулася яму скрозь санлівае здранцвенне.

У такім стане хлопец не ўцяміў, што да чаго. Але гэтыя словы зноў паўтарыліся каля дзвярэй барака, як рукою знялі санлівасць, насцярожылі.

— Знайшлі ўсіх трох?

— Далёка яны ўцяклі? — трывожна перапытвалі галасы.

— Хіба ж ім па дарозе? Чаму яны павінны быць разам? У палонных з падзямелля свая дарога, а ў паліцая на паверхні свая. На вяршыні тэрыкона знайшлі толькі двух палонных,— гаварыў голас, які першы паведаміў навіну.

— Не вярзі лухту! Хіба яны ўцяклі з падзямелля для таго, каб узбірацца на тэрыкон?

— Яны мёртвыя. Выклікалі паліцая для апазнання.

— Якое можа быць апазнанне, калі на шыі ў іх жэтоны з нумарамі? — сам у сябе спытаўся Вадзім.

— Кажуць, дождж акрапляе падарожнікаў перад дарогаю на шчасце. Уначы ішоў дождж. За імі ён змываў бы іхнія сляды. А ён абмыў нябожчыкам твары, замурзаныя вугальным пылам,— тужлівым голасам сказаў хтосьці з ніжніх нараў.

Самотная вестка хутка распаўсюдзілася сярод палонных, засмучаючы і не пакідаючы раўнадушным нікога. Многія спадзяваліся, што смельчакі разведалі нейкі патаемны ход, па якім выбраліся з падзямелля

і вырваліся на волю. У думках зайздросцілі, зычылі ім поспеху, шчаслівае дарогі. Як-ніяк, гэта быў першы выпадак, калі палонныя тут рызыкнулі ўцячы з падзямелля. Таму цяпер шкадавалі, што ўсё закончылася гэтак трагічна. Мабыць, нехта з тых, хто здымаў з тэрыкона трупы, расказаў пра верагодныя абставіны смерці ўцекачоў. План уцёкаў быў наколькі просты, настолькі дзёрзкі.

Нехта знізу заўважыў нерухомых людзей на вяршыні тэрыкона, дзе ваганетка аўтаматычна выкульвае выбраную з шахты пароду. Калі ўзабраліся туды, дык непадалёку ад трупаў знайшлі яшчэ некалькі плашак верхняку і дзве стойкі з наўскос адпілаванымі канцамі. Мабыць, упоперак парожняй ваганеткі ўцекачы паклалі абедзве стойкі, зверху налажылі на іх верхняку, леглі самі на дно, а плашкі расправілі над сабою, як столь. Магчыма, хто-небудзь пабочны памог ім зрабіць гэта, а зверху яшчэ накідаў вялікіх кавалкаў пароды, каб у схованку пранікала паветра. Але дзе-небудзь па дарозе ў штрэку незапоўненую ваганетку маглі дашуфляваць дробнаю пародаю, якая засыпала ўсе адтуліны і шчыліны. Уцекачы затхнуліся без паветра. Захлынаючыся, у скурчаным ляжачым становішчы яны, канечне, не здолелі скінуць з сябе гэтакі цяжар.

Янка з Вадзімам успрынялі да сэрца трагічную вестку. Яна адразу ж змяніла іхні настрой. Абодва моўчкі ляжалі на верхатуры, перажываючы нечаканую смерць суседзяў. Для Янкі гэтая вестка была ўдарам перуна з яснага неба. Хлопцу стала ніякавата ад таго, што ён блага думаў пра ўцекачоў. Дарэмна западозрыў сумленных людзей у сувязях з прайдзісветам Гаўрыкам. Яшчэ добра, што пра сваё падазрэнне не прагаварыўся Вадзіму. Цяпер самому сорамна за свае недарэчныя меркаванні.

— Памерлі, як пакутнікі,— прашаптаў хлопец.

— У імя жыцця з апраметнай узнесліся на вяршыню тэрыкона,— удакладніў Вадзім.

## 20

З дазволу штайгера Хольц узяў Янку падручным, што з'явілася для хлопца нечаканасцю. Янка ж мінулы раз чуў на свае ўласныя вушы, як здаравяк казаў штайгеру, што ён не будзе рабіць за палонных і раіў, каб той расстаўляў у забоі іх асобна

ад шахцёраў. А цяпер сам, па сваёй ініцыятыве, узяў Янку падручным. Хлопца гэта насцярожыла. «Няйначай як у лесе нешта здохла. Каб гэтакі здаравяк, які смяртэльна ненавідзіць нас, ды браў сабе ў памагатыя кволага і лядашчага палоннага? У гэтым штосьці падазронае».

Хлопец чакаў, што Хольц адразу ж раскрычыцца, як тады, таму ўнутрана падрыхтаваўся да неспадзяванкі, уабраўшы галаву ў плечы. Але немец ішоў побач і ўсю дарогу маўчаў, а калі спыніўся ў забоі на адведзеным участку, нават усчаў гаворку.

— Ты рускі? — спытаўся ён па-нямецку, калі яны засталіся ўдвух.

Янка зразумеў, што Хольц баяўся пачынаць размову з палонным у прысутнасці іншых шахцёраў і адказаў:

— Вайсрусэ [1].

— О, белы — добра, чырвоны — дрэнна,— ажывіўся Хольц.

Хлопца рассмяшыла і тое, за каго прымае яго здаравяк, і тое, як ён пачынае лагодна падлабуньвацца сваім басам.

— Белорусэ я,— паспрабаваў растлумачыць Янка, каб расчараваць немца.

Але той, мабыць, не ведаў пра існаванне такога народа і па-нямецку цвярдзіў сваё:

— Усё роўна, белыя — добрыя, а чырвоныя — дрэнныя.

Янку здзівіла, што Хольц не загадаў яму ўзяць шахцёрскія прычындалы. «Цікава, што ён будзе рабіць далей? Можа, напераменку будзем працаваць ягоным рыштункам, адпачываючы па чарзе?» — з іроніяй падумаў хлопец.

Не спяшаючыся, Хольц зняў і павесіў свой пінжак. Хлопцу кінулася ў вочы, што на лацкане пінжака няма ўжо значка нацыянал-сацыялісцкай партыі. Значыць, Хольц спецыяльна зняў яго, каб прыкінуцца перад ім рахманаю авечкаю?

Вылоўліваючы з рыштока лесаматэрыял, скрозь тарахценне транспарцёра здаравяк па-нямецку пракатаў басам:

— Будзем працаваць разам.

---

[1] Беларус.

У Янкі гэта выклікала яшчэ большую няяснасць. Але хлопец нават не падаў выгляду, што зразумеў сказанае. Пакуль Хольц выкідваў з рыштока на дол вярхняк і стойкі, Янка ў душы рашыў, што займе абарончую пазіцыю і пры магчымасці паспрабуе пацяшацца з немца. Некалі яго аднакурснік Кныш, які дрэнна ведаў нямецкую мову, бо вывучаў яе ў падгрупе, што вяла непатрабавальная Кацярына Іванаўна, вось гэтак пацяшаўся з выкладчыцы. Яна прыехала аднекуль з глыбіні краіны і не ведала беларускай мовы. А Кныш, калі Кацярына Іванаўна выклікала яго адказваць, кожны раз апраўдваўся, што ўжо вывучыў зададзенае. Ён вымаўляў беларускія словы на нямецкі лад, абы-як змяняючы іх канчаткі, і гэтым самым яшчэ болей расчароўваў выкладчыцу і пацяшаў усю падгрупу. Янку цяпер захацелася пераймаць Кныша і дзеля забавы расчароўваць Хольца, пакепліваючы з яго.

Прымацаваўшы да трубы гумавы шланг і ўзяўшы адбойны малаток, немец дэманстратыўна памацаў свае мускулы і скрозь тарахценне транспарцёра зноў затакатаў па-нямецку:

— Вось таму сягоння я — забойшчык, а ты,— ён кісла перакрывіў твар, паказваючы рукою на Янкаў лядашчы выгляд,— мацавальшчык. Разумееш?

Янка адмоўна пакруціў галавою.

Тады Хольц жэстамі рук паказаў, што ён будзе малатком адбіваць вугаль і шуфлем перакідваць яго на транспарцёр, а Янка павінен пілою адразаць стойкі і кіркаю забіваць іх пад плашкі верхняку.

— Разумееш?

— Арцель? Брыгада? — запытаўся Янка, таксама стараючыся перакрычаць тарахценне транспарцёра і паказваючы рукою на немца і на сябе.

— О, дык ты гаворыш па-нямецку? — абрадаваўся Хольц.

Янка зноў адмоўна пакруціў галавою і прамовіў:

— Белорусіш.

— Але ж «артэль» і «брыгадэ» — нямецкія словы.

Янка толькі пацікнуў плячамі.

«Паддобрываешся, чалавеча? Цікава, што табе ўзамен трэба ад мяне? Калі б ты са мною ўпершыню, дык іншая справа. А я ж ужо ведаю, хто ты ў сапраўднасці. Адчуў і зразумеў гэта ў мінулы раз»,— думаў хлопец, калі немец загрукатаў адбойным малатком.

Працаваў ён роўна, як заведзены механізм, нібыта напаказ выстаўляючы сваю дужасць. Спрытна адвальваў са сцяны забоя глыбы, расколваў іх на меншыя кавалкі, якія лёгка перакульваў у транспарцёр, а дробны вугальны друз перакідваў шуфлем, усё роўна як гуляючы або забаўляючыся сваёю сілаю.

«Адчуваецца і сіла, і натрэніраванасць, і прывычка,— думаў Янка.— Працуе адзеты, на галаве — лёгкая каска — і не пацее. А мне, хоць нічога яшчэ не рабіў, ужо горача, як у лазні. Што значыць слабасць».

Хлопец зняў з сябе пінжак, кашулю і майку.

— Гатова! — выкрыкнуў Хольц, паспешліва вызваляючы для хлопца месца ў выбранай пячоры.

— Ніша? — спытаўся Янка.

— Ага, правільна, ніша,— пацвердзіў немец.— Цяпер умацоўвай!

Ён чакаў, пакуль Янка ставіў наўскасяк да столі кол і адмяраў вышыню. Калі хлопец адрэзаў лішку і калом пасярэдзіне падбіў да столі плашку, Хольц заўважыў бляшаны жэтон, які целяпаўся на ўпалых Янкавых грудзях, і здзіўлена тыцнуў у яго пальцам, маўляў, што гэта?

Адчуўшы ў здзіўленым тыцканні яшчэ і грэблівасць, Янка хацеў сказаць «бірка», але падумаў, што немец не так зразумее гэта слова, бо ў вясковым статку біркі насілі на шыі авечкі. Таму азартна казырнуў іншымі словамі, якія таксама ведаў немец:

— Талісман. Амулет. Метал з пфенінгаў,— і павярнуў жэтон нацельным бокам, з якога металічнае пакрыццё, падобнае колерам да нямецкіх манет, ад салёнага поту праела ржа.

Хольц успрыняў Янкаў адказ прасталінейна, не ўлавіўшы ў ім ніякага падтэксту. Ён задаволена паўтарыў вядомыя і яму словы: «талісман», «амулет», «металь», «пфенінг» і, узрадавана зазначыўшы, што Янкава мова падобная да нямецкай, зноў загрукатаў адбойным малатком.

Калі ніша падоўжылася ўсцяж забоя і за Хольцавай спінаю можна было замест кала ставіць дзве стойкі, а кол выбіваць і мацаваць ім наступную плашку, немец выключыў малаток і паказаў рукою, каб следам за ім хлопец хутчэй узводзіў мацаванне.

«От табе й здаравяк! А палахлівы! Баіцца, каб не абвалілася столь»,— падумаў кволы палонны, цяпер

абыякавы да страху, адчуваючы хоць у гэтым сваю перавагу перад здаравяком.

Кожны раз, калі можна было ўмацоўваць наступную плашку верхняку дзвюма стойкамі, Хольц выключаў адбойны малаток і жэстам рукі паказваў, каб Янка стаўляў мацаванне, а сам тым часам спрабаваў загаворваць з хлопцам. Янку здалося, што Хольц наўмысна ўзяў яго мацавальшчыкам, каб аблегчыць яму працу, задобрыць хлопца. А сам час ад часу выключае малаток, каб ягоны грукат не заглушаў слых і не перашкаджаў зрэдку перакідвацца словамі. Намерваецца штосьці выпытаць? Хлопец напружваў памяць, падбіраючы і вылоўліваючы з яе свае словы, якія ёсць і ў нямецкай мове, і вымаўляў іх Хольцу ўперамешку з беларускімі, невядомымі немцу, з іранічным або саркастычным сэнсам. Хольц абрадавана хапаўся за знаёмыя словы, спадзеючыся пачаць размову з палонным, але той жэстамі і мімікаю, як мог, паказваў яму, што не разумее нямецкай мовы, а размаўляе па-беларуску. Немца, мабыць, здзіўляла, што ў гэтай гаворцы столькі знаёмых слоў, і разам з тым злавала, што ён яе не разумее. Ад одуму Хольц ажно пацеў. Расчараваны, ён зноў уключаў адбойны малаток, фізічнаю сілай лёгка наганяючы хвіліны прастою.

А Янка тым часам усё азартней і азартней уцягваўся ў пацешную слоўную гульню. Гэтаму яшчэ спрыяла і значна лягчэйшая праца мацавальшчыка, які не затрачвае столькі сілы, як забойшчык, бо прастойвае, чакаючы, пакуль той адаб'е і перашуфлюе вугаль на транспарцёр.

Дзвюма стойкамі падпёршы пад столь плашку, Янка заўважыў, як задаволена аглядае Хольц даўгую нішу, што выдзеўбана ім усцяж забоя. Хлопец не ўстрымаўся і, праводзячы пальцамі па шчарбатай вугальнай сцяне, якая пры лямпах адсвечвала бліскучымі іскрынкамі, прамовіў:

— Галерэя ў апраметнай, адкуль высеклі мармур і выбралі перлы.

— Ага, сапраўды галерэя,— падтрымаў немец.— Мармур. Перлы.

— Арцель прабівае тунэль, у якім фундамент — бетон, а дах — руіна. Калі аварыя — гэта траса на той свет.

— Ты — агітатар-агент,— з іроніяй прамовіў па-

нямецку Хольц, канечне, не зразумеўшы сказанага Янкам.

— Аргумент? — таксама з іроніяй запытаўся хлопец і, не чакаючы адказу, заключыў: — Абсурд.

— А хто ты? — дапытваўся Хольц.

— Салдат, які пацярпеў фіяска, але якому яшчэ неабходны і рызыка і тактыка.

Хоць і ў забоі, але заняты не такою пякельнаю працаю і ўцягнуты ў пацешную слоўную гульню, Янка не прыкмеціў, як настаў полуднік. Мабыць, не заўважыў гэтага і Хольц, бо калі раптам заціхла тарахценне транспарцёра, ён недаверліва праверыў час, зірнуўшы на цыферблат гадзінніка, які выцягнуў за ланцужок з малой кішэнькі на пахвіне.

Калі немец пайшоў да свайго пінжака па полуднік, Янка хацеў пашыбаваць па забоі, каб адведаць знаёмых палонных, але Хольц вярнуў яго клічам і запрасіў сесці. А сам прынёс ладны пакунак, загорнуты ў газету, і вялікую жоўтую біклагу, значна большую, чым у Гільро і ў Швэрмера, і прымасціўся на глыбе вугалю насупраць хлопца, які сядзеў на краі рыштока.

«Такому здаравяку трэба добра паесці і папіць. Бач ты, полуднік трымаў у кішэні пінжака — і хоць бы што? Відаць, пацукі шныпараць толькі па штрэках? Мабыць, на той бок забоя, за драцяную сетку і ў драўляныя «кастры» смялейшыя трапляюць таксама. Там жа прыцемак дый ёсць дзе схавацца. А тут людна, грукочуць адбойныя малаткі, тарахціць транспарцёр. Ці мо пацукі наогул баяцца вібрацыі? Нездарма ж на такую глыбіню пазашываліся з паверхні, дзе робіцца чорт ведае што і дзе калатнеча яшчэ страшнейшая за вібрацыю».

Янку стала не па сабе, ён ледзьве стрымліваўся, каб не глытаць сліну, пасля таго, як Хольц кляцнуў зубамі, папоўніцы адкусіў бутэрброд, старанна пяражаваў кус і з прыцмокваннем прагнаў глытком кавы. Хлопцу не думалася, што Хольц наўмысна раздражняе галоднага палоннага. Янка разумеў, што пасля гэтакай працы апетыт у здаравяка адпавядае ягонай камплекцыі. «Але навошта ён аклікнуў мяне, вярнуў да сябе і прымасціўся насупраць? Толькі дзеля таго, каб я глядзеў, як ён апетытна есць?»

— Ну што, у Швэрмера працаваць лягчэй? — нечакана перарваў Хольц Янкавы думкі.

Знянацку захоплены пытаннем, хлопец не знайшоў нічога лепшага, як здзіўлена паціснуць плячамі і схітрыць:

— Шэрнер?

— Швэ-рмер,— выразна, па складах вымавіў незадаволены Хольц і, відаць, адчуў, што гэтага яшчэ недастаткова. Ён падняўся і, трымаючы ў нерухома апушчаных руках — у адной біклагу, а ў другой — полуднік, наспех загорнуты газетаю,— перадражніваючы, дакладна падрабіў смешнаватую грувасткую паходку старога мацавальшчыка, які нядаўна браў хлопца падручным.

Па ўсмешцы, якая міжвольна прамільгнула на Янкавым твары, Хольц, мабыць, адчуў, што хлопец нарэшце зразумеў, пра каго гутарка, бо зацікаўлена перапытаўся:

— Разумееш? Што вы рабілі з Швэрмерам?

— У штрэку рамантавалі дах,— адказаў хлопец па-беларуску.

— У Швэрмера — аўтарытэт, лёгкая праца. Добры чалавек Швэрмер?

Хлопец здзіўлена паціснуў плячамі.

— Пра што ён гаварыў? — зацікаўлена дапытваўся немец.

Янка нічога не адказаў, а, пераймаючы самога Хольца, які толькі што падрабляў смешнаватую паходку Швэрмера, таксама паспрабаваў скапіраваць пануры выгляд і маўкліва стуленыя губы старога мацавальшчыка.

Але Хольца гэта не задаволіла, бо ён не толькі не ўсміхнуўся, а яшчэ болей надзьмуў свой твар і замоўк. Праўда, калі даеў увесь полуднік, раптам раздобрыўся, працягнуў палоннаму біклагу і прапанаваў выпіць кавы. Янка, хоць ягоныя губы і сушыла смага, спачатку хацеў паказаць гонар і адмовіцца. Але ўспомніў павучанне Гільро, які раіў піць каву, казаў, што яна здымае стому, падбадзёрвае, і нерашуча ўзяў з рук Хольца посуд, адпіў з яго некалькі доўгіх, зацяжных глыткоў гаркаватага пітва, падзякаваў і вярнуў біклагу. Выліваючы з яе сабе на далонь рэшту бурай вадкасці, здаравяк старанна апалоскваў ёю ў біклазе рыла, з якога толькі што піў палонны.

«Бач ты, які культурны! Дэманстратыўна паказвае сваю гігіенічнасць, а, паўдня працуючы разам, звяр-

таецца на «ты», нават не пацікавіўся, якое імя ў чалавека? Значыць, ён толькі дзеля таго і браў мяне падручным, каб выведаць што-небудзь пра Швэрмера. Ну й бамбіза! Наіўны як дзіця! Па-лабавому выпытвае, пра што гаварыў Швэрмер. Відаць, раўнуе таго за лягчэйшую працу? А можа, сочыць за ім, каб падседзець і данесці на яго пры выпадку? Як брыдка і агідна бачыць такое сярод людзей! Толькі нікчэмнасці і мярзотнікі могуць займацца падобным!

## 21

Сярод палонных пранеслася вестка, нібыта немцы злавілі паліцая Гаўрыка і павінны вярнуць у лагер. Спачатку да яе аднесліся з недаверам. «Наўрад ці зловяць гэтага праныру?» — сумняваліся адны.

«За агароджаю ў яго трывалыя сувязі і, мабыць, падрыхтавана надзейная схованка»,— падтаквалі другія.

Але калі даведаліся, што гэтую навіну з паліцайскае штубы прынёс не хто іншы, як санінструктар Пятруша, погаласкі ад яе распаўсюдзіліся з хуткасцю гуку. Паступова яны выветрылі сумненне, як скразнякі развейваюць дым.

Праўда, некаторыя не верылі, што Гаўрыка вернуць у лагер. Звычайна лоўляю ўцекачоў займалася не лагерная ахова, а спецыяльныя службы. Злоўленых яны не вярталі на ранейшыя месцы працы, а пад узмоцненаю вартаю накіроўвалі ў канцлагеры або ў штрафныя каманды. А тут штосьці неверагоднае: Гаўрыка вяртаюць у лагер.

Можа, гэтага дамагліся ўладальнікі палонных Герберт, Фрэйвальд і іх кампанія? Пры іхнім становішчы ўсё магчыма. Яны ж, канечне, зацікаўлены, каб запалохаць усіх тых, хто нават у думках патаемна выношвае планы ўцёкаў. Каменданту таксама на руку такі паварот справы. Гаспадары даюць яму магчымасць хоць часткова рэабілітавац сябе перад імі, а заадно і расквітацца з няўдзячным земляком, які зганьбіў і абразіў яго разам з усёю світаю.

«Прыгрэў гадзюку на сваіх грудзях, дык яна ўкусіла»,— злаваўся Грышка. Каб адпомсціць за ганьбу і абразу, ён самачынна прыдумаў кару, якую назваў паказальнаю экзекуцыяй, і прызначыў на выхадны

дзень, калі ўсе палонныя ў лагеры. Хоць камендант быў не вялікі выдумшчык на забавы, але ў нядзелю ў лагеры адбыўся трагікамічны спектакль. Галоўную ролю ў ім сыграў паліцай Гаўрык, у якога хоць і не на лбе, але ўсё-такі было напісана, што ён адначасова і комік, і трагік. Удала сыграць ролю яму дапамог Кнот, які разам з другім канваірам прывёў Гаўрыка на апельпляц, дзе выстраілі палонных, каб тыя не толькі глядзелі, але, паводле задумы каменданта, і прымалі ўдзел у гэтым відовішчы.

— Ну, шкурадзёр, здымай апратку і лажыся на ўслон! Самога лупіць будзем! — загадаў камендант пасля таго, як паліцай Ляўшун прыгнаў ад кухні чатырох палонных з шырокаю лаваю.

Гаўрык нават не варухнуўся. Толькі моўчкі зіркнуў на Грышку прыпухлымі вачамі, пад якімі ўжо хтосьці падвесіў два цёмна-сінія ліхтары.

— Чаго зеўрыш зенкі?! — крыкнуў камендант.

Уся ягоная світа накінулася на Гаўрыка, быццам раз'юшаная воўчая гайня на ахвяру — пад гырканне ваўчыцы. У разнамасных пінжаках і фрэнчах паліцаі, як разнавідныя змеі, спляліся ў клубок, пакуль не вылузнулі Гаўрыка з пакамечанага зялёнага паліто і не завалілі ніцма на лаву.

Асабліва завіхаўся руды Ляўшун. Ён уласнаручна спусціў з Гаўрыка порткі. У параўнанні з белым задам, які выбліснуў з-пад іх, шырокі Леўшуноў твар, расчырванелы ад натугі і ўзбуджанасці, палымнеў, як надраены медны таз.

Якраз у той момант, калі надзьмуты, як індык, камендант наважваўся распачынаць паказальную экзекуцыю, бо леваю рукою прытрымліваў похву, а праваю ўзяўся за эфес шаблі, нечакана адбылася непрадбачаная затрымка.

— Што гэта? — здзіўлена запытаўся па-нямецку Кнот, тыцкаючы ствалом карабіна ў аголены Гаўрыкаў зад.

Гэтае запытанне заглушыў выбух рогату, што ўзнік пасярэдзіне павернутай тварамі да апельпляца калоны і, заціхаючы, хвалямі смеху пакаціўся ў абодва канцы.

Камендант таксама засмяяўся.

— Пастаўце ўцекача! — па-нямецку крыкнуў разлаваны Кнот.

Паліцаі кінуліся выконваць загад. А Грышка імгненна пасур'ёзнеў: на ягоным твары не засталося і следу ад усмешкі.

Пакуль паліцаі падымалі Гаўрыка з лавы, бліжэйшым палонным здалося, што ягоны аголены зад таксама расфарбаваны сінякамі. І раптам у Гаўрыка ссунуліся з ног сінія брыджы, глянцуючы халявы запыленых джымаў. Падхопліваючы порткі, паліцай нагнуўся — і многія ўбачылі, што на ягонай задніцы не сінякі, а вытатуіраваныя на адной палавінцы — кот, на другой — мыш.

— Правядзіце ўцекача! — зацікавіўся Кнот.

Паліцаі паслухмяна павалаклі Гаўрыка пад пахі, закасаўшы ззаду пінжак і кашулю, якія засланялі аголены зад. Гаўрык, нібы спутаны конь, перастаўляў ногі, рукамі трымаючы на сцёгнах спушчаныя порткі. Пры ягонай хадзьбе раптам ажылі вытатуіраваныя істоты. Калі ён ступаў крок адною нагою — кот працягваў лапу, каб схапіць мыш, але калі ступаў крок другою — мыш спрытна хавалася.

Вядома, камендант і паліцаі, мыючыся ў лазні, бачылі гэтую татуіроўку. Болей таго, яна выклікала ў іх бурнае захапленне. Праз яе ў іхнім уяўленні Гаўрык з аголеным задам, пакрытым вясёлкавымі пухірамі мыльнай пены, ахутваўся арэолам героя-пакутніка, абагатвараўся і непамерна вырастаў у іхніх вачах.

Але, як тады ад пругкіх струменяў вады лопаліся вясёлкавыя пухіры і змывалася мыльная пена, так цяпер ад іхняй злосці развеяўся абагатвораны арэол.

Кнот прымушаў іх вадзіць пад пахі голага караля, развенчанага шэльму.

Надрываючыся ад рогату, другі канваір стаяў на месцы і трымаўся рукамі за жывот. А Кнот пасоўваўся ўслед за Гаўрыкам, не зводзячы вачэй з татуіроўкі і сціскаючы падняты наперавес карабін, здаецца, шкадаваў, чаму ў ягоных руках зараз не аўтамат, з якога ён кароткаю чаргою адначасова спыніў бы рух абедзвюх вытатуіраваных істотаў.

З вартавых вышак зацікаўлена выглядвала ахова, мабыць, не разумеючы, што адбываецца на апельпляцы.

Камендант таксама не ведаў, што яму рабіць: смяяцца ці маўчаць? Ён нагадваў сабаку, які не разумее,

як паводзіць сябе перад гаспадаром — брахаць, падціснуўшы хвост, ці, віляючы ім, скуголіць?

З гэтага стану яго вывеў Кнот, які, мабыць, задаволіўшы сваю цікаўнасць, раптам крыкнуў:

— Генуг! Сакрамэнт! — і са злосці з агідаю плюнуў.

Каменданту хацелася вылаяцца па-свойму, трохпавярховым матам, але ён схамянуўся, пабаяўшыся, што Кнот не зразумее, каго лаюць. Грышку цяпер нялёгка ўзяць сябе ў рукі. Каб не лопнула ягонае цярпенне, ён павінен, бы лішнюю пару, як-небудзь выпусціць з сябе няўрымслівыя эмоцыі. А Кнот стрымлівае яго, не дае разгарнуцца як след.

Паліцаі зноў сілком завалілі ўцекача ніцма на лаву. Двое з іх моцна трымалі яго за плечы, а двое — навалілісь на ногі.

— Ах ты, шкура прадажная! Прывык скурамі гандляваць, дык і нас хацеў закласці?! Са мною гуляў у кошкі-мышкі? Я табе гэтага ката заганю туды, куды мыш хаваецца! — як заклінанне прамовіў камендант — і з усяе сілы пляснуў плазам аголенай шаблі па аголеным Гаўрыкавым задзе.

Увайшоўшы ў азарт, ён раз-пораз уздымаў угару шаблю і з размаху апускаў, паўтараючы ўдары. Хоць Грышка і ўвішна спаганяў сваю злосць, але адчувалася, што ў яго, камлюкаватага, адкормленага на дармовых харчах, атрымлівалася гэта не вельмі ўдала.

Як-ніяк, а ўдар шаблі плазам намнога слабейшы па сіле, чым удар яе лязом. Дый, б'ючы ёю плазам, нязручна трымаць у руцэ эфес. Мабыць, таму глухаватыя ўдары па гуку былі падобны да ўдараў нявопытнай маладухі, якая на кладцы выбівае пранікам тоўсты жмут бялізны. Пры кожным удары нельга было зразумець, ці гэта Грышка гахкае, як дрывасек, ці гэта, цярпліва прымаючы кару, стогне ад болю Гаўрык.

Нарэшце, задыханы, камендант спыніў біццё, даючы адпачыць правай руцэ. Ён памкнуўся зусім вызваліць яе, укладваючы ў похву шаблю. Але ад дрыжання рукі канец шаблі не трапляў у проразь. Бычыная камендантава шыя, шчыльна ахопленая стаячым каўняром фрэнча, налілася крывёю. На шчоках выступілі ружаватыя плямы, на якіх не так выразна бачны былі ямінкі, падзяўбаныя воспаю.

— Дзе дрын гэтага шкурніка? — запытаўся Грышка ў паліцаяў.

— Во ён, пане камендант,— падбег Ляўшун, паказваючы ў левай руцэ Гаўрыкаў кій, а праваю трымаючы свой.

— Браткі! Во што я вам скажу. Дзела е...— звярнуўся камендант да палонных.— Хто з вас адведаў гэтага дрына, цяпер можа адквітацца ім з ягоным уладальнікам! Даю такую магчымасць. Падыходзьце па чарзе!

Палонныя маўчалі, нібы набраўшы ў рот вады.

— Няма ахвотнікаў?! Баіцёся?!

— Не хочацца г... рукі пэцкаць,— нясмела вымавіў хтосьці ў калоне.

— Значыць, яно далося-такі ў знакі? Трэба было яму яшчэ болей вас дубасіць! — зларадна заключыў камендант і рукою даў знак паліцаю Леўшуну, каб той заняўся Гаўрыкам.

Руды з твару, з рыжаватаю чупрынаю, Ляўшун быў прыкметны ў лагеры. Не толькі ростам ды сілаю вылучаўся ён сярод паліцаяў. Перад імі была ў яго яшчэ адна перавага. Ляўшун з аднолькавым спрытам валодаў кіем і з правай, і з левай. Тыя, каму давялося некалькі разоў адведаць ягонага кія, прызнаваліся, што Леўшуновы ўдары леваю рукою мацнейшыя і болей балючыя, чым праваю. Санінструктар Пятруша па сакрэту расказаў, як Ляўшун у паліцайскай штубе выхваляўся калегам сілаю і спрытам левае рукі. Казаў, што яшчэ змалку пачаў актыўна трэніраваць яе, каб яна адпавядала ягонаму прозвішчу.

Але нягледзячы на сваю прыкметнасць, сілу і спрыт, Ляўшун сярод паліцаяў заўсёды быў на другім плане. Яму перайшоў дарогу, яго засланіў сабою камендантаў любімчык Гаўрык. Глыбока на дне, у пацёмках сваёй душы Ляўшун затаіў крыўду на гэтага шчаслівчыка і выскачку, які выпадкова, не па заслугах вёў рэй сярод паліцаяў лагера.

І вось, нарэшце, можна звесці з ім рахунак, спагнаць на ім сваю злосць. Дый якая яшчэ магчымасць! Пра яе Ляўшун у сне ніколі не сніў і нават не ўяўляў у марах. Ён выпрастаў плечы, ямчэй ашчаперыў абодва кіі і ляўшою з размаху лупцануў спачатку Гаўрыкавым, а потым, з правае рукі — сваім. Так і хвастаў імі напераменку, нібы дзейнічаў за двух. Атрымліва-

лася ў яго спрытна, артыстычна. Лупцаваў адзін, а па ўдарах здавалася, што на таку малоцяць збожжа ў два цапы.

Каменданту, мабыць, стала няёмка: ён быў трохі асаромлены і перад палоннымі, і перад канваірамі. Грышка спыніў Леўшуна з'едліваю рэплікаю:

— Куды спяшаешся? Дубась ягоным дрынам, які мадзее, сумуючы па працы. Сваім будзеш вучыць розуму іх,— паказаў ён рукою на палонных.

Ляўшун на імгненне разгубіўся і даў трымаць свой кій бліжэйшаму паліцаю. Але ў наступны момант ачомаўся і ляўшою ёмка хвастануў Гаўрыкавым кіем па ягоным аголеным задзе. Потым спрытна перахапіў кій і лупцануў ім з правае рукі. Нібы цыркач, ён па чарзе перакідваў з рукі ў руку, ловячы на ляту, кій і лупцаваў ім з усяе сілы, з адцяжкаю. Ягоны твар і Гаўрыкаў зад, якія адрозніваліся толькі памерамі, цяпер аднолькава палымнелі чырваннню.

У паказальнай экзекуцыі прынялі ўдзел усе паліцаі. Хоць яны і не стараліся так, як Ляўшун, але спаласавалі Гаўрыкаў зад, нібы агонь — печаны яблык.

— Нахтшыхт! — загадаў камендант, тыцнуўшы ў кірунку Гаўрыка канцом імгненна аголенай шаблі.— Змалку прывык лупіць кратоў... Цяпер сам, як крот, аслепнеш і згніеш у падземнай нары! — і кляцнуў, укладаючы яе назад у похву.

## 22

Дзесьці ўгары няшчадна паліла сонца. Добра яшчэ, што яго самога не відно праз густыя парасоны і пірамідальныя конусы волатаў-дрэваў. Паветра, прагрэтае вогненнымі промнямі, нават і тут, у засені, абдавала цеплынёю, дурманіла духмянаю парнасцю, што патыхала ад разнатраўя, смалістага голля і прэлае драўніны. Цёплы пот, сцякаючы ручаямі, казытаў цела. На вузкай сцяжыне, якая вяла да бруістае крыніцы, яны, голыя, капалі глыбокую яму. Людзі засумавалі па саладжавым сырым мясе. Прагаладаліся, жывячыся толькі адною травою ды лясным карэннем. Па сцяжыне досвіткам пройдуць на вадапой звяры, насельнікі навакольных лясоў. Людзі рыхтавалі для іх пастку. Яны працавалі з раніцы. Капалі невялікімі крамнёвымі лапаткамі і завостранымі драўлянымі кіямі. А глеба цвёрдая, камяністая, паддавалася марудна.

І ўсё-такі, абліваючыся потам, яны ўжо выкапалі яму амаль на патрэбную глыбіню, заставалася толькі замаскіраваць яе зверху галлём ды травою.

Раптам здалёк данёсся пагрозлівы рык і моцны трэск ламачча. Напалоханыя людзі, спяшаючыся, караскаліся на паверхню па прыстаўленых да сцен сукаватых камлях і хаваліся ў гушчары. Янка не паспеў хутка выбрацца і ўцячы, таму борздзенька прашмыгнуў у куст высокай папараці, што надзейна засланіла яго клінаватымі веерамі. Праз іх густую зялёную сетку ён убачыў, як па сцежцы грувастка ступаў вялікі нязграбны яшчар-дыназаўр з драконаваю пашчаю на высокай шыі, з зеленаватаю пласцінчастаю лускою на целе. Над ямаю ён прыпыніўся, сапучы і насцярожана прыглядаючыся навокала. Вочы злосна паблісквалі, успыхвалі, як ліхтары. Яшчар прынюхваўся, потым марудна павярнуўся магутным целам, узняў кароткія пярэднія лапы з кіпцюрамі і, разявіўшы пашчу, пагрозліва зарыкаў, выявіўшы прысутнасць чалавека.

Янка прачнуўся ў халодным поце, расплюшчыў заспаныя вочы і агледзеўся па баках. Спачатку падумалася: ці не прагучала сірэна паветранай трывогі? Але, калі ўбачыў, як неахвотна, пацягваючыся, злазілі з нараў палонныя, зразумеў, што ў бараку — ранішні пад'ём.

І за сняданнем, і па дарозе да шахты ён пасаромеўся расказаць Вадзіму пра гэты сон. Ці мала што вярзецца знясіленаму ды галоднаму? Прысніліся першабытныя людзі. Дык і самі ж яны цяпер падобны да першабытных людзей каменнага веку. Толькі што мяса ні ў якім выглядзе не спажываюць у ежу, а харчуюцца травою ды корпаюцца ў норах матыкамі.

Раней Янку ніколі не ўяўлялася, што знясіленыя пастаянным голадам і невыноснаю працаю людзі, якія асуджаны на пагібель, абыякавыя да ўсяго навакольнага. Сягоння ён сам нават не звярнуў увагі на тое, у якім месцы забоя яго паставіў штайгер. Якая яму да таго справа? Ад гэтага ж на душы не палягчэе.

Калі спускаліся па нахіле, штайгер, здаецца, спачатку адвёў участак сібіраку Лугавому, а далей за Янкам паставіў ленінградца Зараніна. Мабыць, і іншыя палонныя, гэтак як і Янка, не прыглядаліся, дзе хто пастаўлены працаваць.

Паветра ў забоі цёплае, нібыта ў выпаленай, але

трохі прастылай лазні. Янка зняў з сябе пінжак. Як толькі затарахцеў транспарцёр, адразу ж ледзь-ледзь пацягнула скразняком, як быццам хтосьці прыадчыніў дзверы ў прылазнік. Спачатку запахла жывіцаю, а потым па рыштоках, нібы па ручаіне, паплылі стойкі і плашкі. Вылоўліваючы іх, хлопец убачыў, што па суседстве злева — Лугавы, а справа — Заранін таксама скідваюць лесаматэрыял з рыштокаў.

Смалісты пах распаўсюджваўся і ўзмацняўся. Ад яго, нібыта ў сасновым бары, у знясіленага Янкі прыемна кружылася галава. Кожную раніцу ў такія хвіліны паўтаралася гэтае адчуванне. І тады хлопцу прыгадваўся родны край, знаёмыя сасновыя дзялянкі. Праўда, цяпер да іх ён не далятаў у летуценнях, бо летуценні абяскрылелі гэтак жа, як ад роспачы абвіслі рукі. Але ўсё-такі ж гэта не сон, а далёкая-далёкая, беззваротная ява. Янка ведае, што хутка грукат адбойных малаткоў пакрамсае і ўшчэнт раструшчыць густы смалісты настой, а пыл ад вугалю і ад пароды, узняты паветранаю вібрацыяй, ускаламуціць і развее гэты пах, асадзіць на падэшву забоя. Гэтак спорны дождж імгненна асаджвае і кроплямі, нібы цвікамі, прыбівае на дарозе пыл, узняты і ўзвіхраны парывістым ветрам.

Калі паглыбішся ў вугальную сцяну, выдзеўбаўшы нішу, у ёй так не адчуваецца смалісты пах, як тут, у праходзе, на ледзь-ледзь улоўным скразняку, па-над плынню лесаматэрыялу ў рыштоках. Але ж без справы нельга стаяць навідавоку, дзе ў смузе пункцірам цьмяна свеціцца бясконцая гірлянда шахцёрскіх лямпаў. Трэба выдзеўбаць нішу. У ёй, нібы ў акопе, і зацішна, і ўтульна.

Гэтыя кароткія, хуткаплынныя хвіліны штораніцы былі для хлопца аддушынаю ў беспрасветнай падземнай нары. Яму здавалася, што, на запас надыхаўшыся густым духмяным настоем, ягоныя лёгкія потым па кроплі асвяжаюць застаялую кроў, прыліваючы ў знясіленае цела кволую жыццядзейнасць, паніжаны тонус якой на працягу ўсяго рабочага дня патрошку падтрымліваецца смалістым пахам жывіцы, выціснутай са стоек навіслым цяжарам кіламетровых тоўшчаў.

Янка прыкруціў да паветранай трубы гумавы шланг, узяў у рукі адбойны малаток і ўнізе, прыставіўшы вастрыё пад вострым вуглом да сценкі, з грукатам пачаў адколваць скрылі вугалю. Гэтак паўтарыў

некалькі заходаў, паступова паглыбляючыся ўгару і ўшыркі, пакуль не атрымалася ладная пячурка, у якой можна было схавацца. У яе зацішку паветра не прадзімалася, нават не адчувалася подыху скразняку. Шуфлем адкідаючы на рышток выдзеўбаны вугаль, што замінаў пад нагамі, хлопец добра ўвагрэўся, ажно ўспацеў. Ён вымушаны быў зняць з сябе кашулю, майку і порткі. Застаўся толькі ў чаравіках, у трусах і ў шапцы. Яе таксама хацелася скінуць з галавы. Але ён ведаў, што макавыя зярняткі пароды і вугалю, якія наб'юцца ў валасы, не вымываюцца мылам-эрзацам. «От цяпер можна і адпачыць, схаваўшыся ад пабочных вачэй. Я ж не наймаўся на працу да чорта лысага. Патроху кешкайся, як раіў Гільро, дзейнічай у залежнасці ад абставін».

Ведама, паднявольная праца. Хто будзе рабіць на ворагаў? Калі б і пажадаў працаваць, дык не здолеў бы на такіх харчах. Дый якія з іх шахцёры, калі ні вопыту, ні навыкаў. Добра яшчэ, што падганятых і наглядчыкаў няма паблізу. Замест іх — штайгер і ягоны памочнік. Дык яны павінны гойсаць па ўсёй шахце, бо трэба ж пабываць каля ствалоў і каля клецяў, у забоях і ў штрэках. Хоць адзін раз на дні хто-небудзь з іх наведваецца і сюды. Штайгер крычыць, лаецца, пагражае. А ў наступ пайсці баіцца, бо палонныя могуць контратакаваць кайлом ці шуфлем.

Перамінаючыся з нагі на нагу, Янка, нарэшце, зноў заварушыўся. Спачатку ўхаластую грукатаў адбойным малатком. Потым углыб рашаціў бакі пячуркі. Упоравень з грудзьмі ўздымаў малаток і насторч утыркнуўшы ў вугальную сцяну, прабіваў яе да тае пары, пакуль не закліноўвалася ў тоўшчах вастрыё, захлынаючыся глухімі перабоямі.

Хлопцу здалося, што ў забоі захістаўся цень. Няйначай як хтосьці ішоў праз транспарцёр, засланяючы постаццю святло лямпаў.

Насцярожаны, хлопец, касавурачыся на праход, пачаў адколваць малатком вугаль пасярэдзіне квадрата, толькі што зрашэчанага прабоінамі. Амаль адначасова паспеў заўважыць адным вокам, як міма прамільгнуў Заранін, а другім — прыкмеціў пад адколатым скрылём незвычайную матавую пляму.

«Што гэта? — наблізіўся ён да яе тварам — і адчуў, як у нос востра патыхнула затхлым.— Ого, як ты-

сячагоддзі кіламетровымі тоўшчамі спрасавалі затхласць!»

Падобны пах, бывала, распаўсюджваўся па хаце, калі адчынялі века бабулінага куфра, да якога дзесяцігоддзямі ніхто не дакранаўся.

Янка аслупянеў ад здзіўлення. Няўмольны час, як невядомы мастак на скале, пакінуў на вугальнай паверхні малюнак: адбітак вялікага ліста незнаёмага дрэва. За тысячагоддзі ліст сатлеў без доступу паветра.

Хлопец узяў лямпу, асвяціў і пачаў уважліва разглядаць адбітак. Паверхня яго не ззяла, як пабліскваў шурпаты вугаль. На яе краях выразна адлюстраваліся зубчастыя контуры, а ўсярэдзіне — жылы і пражылкі. Маршчыны і зморшчынкі, што засталіся на іх месцы, Янка асцярожна абмацаў кончыкамі дрыготкіх пальцаў. Прыклаўшы да аксамітнае паверхні адбітка тыльны бок цёплае далоні, ён навобмацак нібыта адчуў прахалоду тысячагоддзяў — і не ўстрымаўся, прыпаў да яе потнаю скроняю, увесь ператварыўшыся ў слых. Яму здалося, што ён адчувае, як жылкі, якія пульсуюць у ягонай скроні, асвяжаюць кроў тысячагодняю прахалодаю.

Заняты самім сабою, хлопец не адчуў, што ён даўгавата прастояў і нават не заўважыў пагойдвання ценю ў забоі.

Зараніна ён убачыў толькі тады, калі той прашмыгнуў у ягоную нішу. Збянтэжаны нечаканым з'яўленнем суседа, каб неяк здзівіць таго, Янка ўказальным пальцам выцягнутай правае рукі тыцнуў у адбітак і асвяціў яго лямпаю, якую падняў і прытрымаў сагнутаю леваю рукою.

Заранін абыякава глянуў туды, але нічога не адказаў. Наадварот, адчувалася, што ён спяшаецца і заклапочаны нечым іншым.

— Я па справе! — павысіўшы голас, прамовіў задыханы сусед, імкнучыся перакрычаць тарахценне транспарцёра і стук адбойных малаткоў.

— Што такое?

— Аказваецца, не ўсіх палонных штайгер паставіў сягоння ўперамешку з шахцёрамі. Мы, трынаццаць чалавек, працуем побач, адзін каля аднаго.

— Ну дык што?

— Ёсць рацыяналізатарская прапанова.

— Якая? — спытаўся хлопец, нічога не разумеючы.

— Працаваць, не ўмацоўваючы столі і, па магчымасці, не шуфлюючы вугаль. Разумееш?.. Я ўжо ўсіх апытаў. Яны згодны.

У Янкі ажно перахапіла дыханне. Зразумеўшы суседа, ён здзіўлена паглядзеў на яго і, нібы жадаючы праверыць сваю здагадку, перапытаўся:

— Паказаць немцам, на што мы здатны?

— Ага. Ну, што? Рабатнём?..

— Калі талакою, дык можна... За кампанію і цыган павесіўся.

— Тады вось што... Напалавіну ўкараці свой участак. Усе ўжо зрабілі гэтак. Каб управіцца да полудніка. Наглядчыкі з надзорскімі лямпамі раней не паявяцца. Праўда, нас чортаў тузін. А гэта — дрэнная прыкмета для тых, хто верыць у прымхі. Таму двух крайніх чапаць не будзем. Яны працуюць побач з шахцёрамі. Для адводу вачэй няхай сабе ўмацоўваюць столь як належыць.

Янка нерашуча, але паслухмяна пакінуў утульную нішу. Так пакідае абжыты акоп салдат, якому загадалі зрабіць рывок наперад і замацавацца на наступным агнявым рубяжы. Хлопец зрабіў гэтак жа і настойліва пачаў замацоўвацца ў іншым пункце. Адсюль, падхоплены агульным парывам, адначасова з іншымі, ён ужо рашуча пойдзе напралом.

Дзейнічаў ён напралом, асабліва не раздумваючы. Але гэта была не адчайная ўдаласць аднаго чалавека. Янку падхапіў самаадданы парыў купкі людзей, даведзеных да адчаю безвыходным становішчам. Аднаму ў аднаго ім не пазычаць адвагі і не пераймаць смеласці, бо яны ўсе ў аднолькавай меры пазбаўлены пачуцця страху, даўно асуджаны на верную смерць.

Іншага выбару ў іх не было. Ім нічога не заставалася, як пайсці на такі ўчынак, бо нічога лепшага прыдумаць яны не маглі.

Янка не адчуваў аніякага страху. Нават здзіўляўся, што ў чалавека ў пэўным стане можа быць такое самаадчуванне.

Калі б раней прапанавалі зрабіць гэта, наўрад бы ці згадзіўся, асабліва не вагаючыся. А цяпер зусім проста, без развагі пайсці на гэтакі ўчынак. Чалавеку, які жыве ў нармальных умовах, мабыць, не зразумець гэт-

кага душэўнага стану. Некалі ж і ён не верыў Арсеню, які расказваў, што некаторыя палонныя, змардаваныя і даведзеныя да адчаю, хаваюць сябе жыўцом у падзямеллі. А цяпер сам за кампанію гатоў налажыць на сябе рукі.

Ён не губляў нічога, акрамя жыцця, якое і без таго ўжо было загублена. Думкі, нібы патрывожаныя ў вуллі пчолы, роіліся ў ягонай галаве. Душа не знаходзіла ў целе прыстанішча. У ёй зларадна варочалася і неўтаймавана бурліла лютая нянавісць да Герберта з Фрэйвальдам, памножаная на зацятую злосць на штайгера з памочнікам, на канваіраў з паліцаямі.

Мы вам пакажам, як можам працаваць! Навекі запомніце! Касцьмі ляжам, але завалім чортаў лаз! Закаркуем праклятую нару!

У ягоных учэпістых, чорных, як у камінара, руках безупынку ходырам хадзіў адбойны малаток, ад вібрацыі якога ажно мітусілася ўваччу.

Ён уяўляў сябе вязнем, што ў адчаі нястомна адвальвае глыбы ад таўшчэзнае сцяны ў пячоры, у якую яго заняволілі. Адна за адною глыбы падалі да ног, а ён упарта пераступаў як найзручней, часамі нават узбіраўся на іх — і ўсё адколваў і адколваў іншыя, наступныя. Адваленыя ад сцяны, яны займалі значна болей месца, чым спрасаваныя ў ёй, таму загароджвалі шлях, грувасціліся ўгару. Тады ён часова адрываўся ад малатка і проста рукамі перакульваў на рышток тыя, што, наваліўшыся збоку, маглі не ў пару спыніць транспарсцёр, і тыя, якія заміналі пад нагамі. Таўшчэзная сцяна паступова танчэла, праз яе ўжо ён, здаецца, усёю істотаю адчуваў глухаваты стук адбойнага малатка, якім сусед у сваёй пячоры таксама адвальваў глыбы ад наступнае перамычкі. Падахвочаны ім, быццам прылівам свежае сілы, хлопец зноў учэпіста браў у рукі адбойны малаток і паступова паглыбляўся ў тоўшчы, якія цяпер здаваліся болей падатлівымі, не такімі закамянелымі.

На нейкі момант яму нават здалося, што ён з нявялічкаю групкаю байцоў зноў прабіваецца з варожага акружэння. Правая рука ўсё роўна як прыкіпела не да ручкі адбойнага малатка, а да ручкі станкача, які безупынку грукатаў доўгімі чэргамі. З-пад малатка ажно курыўся пыл, нібыта пара ад закіпаючай вады ў кожусе «максіма». Ледзь не закранаючы яго самога,

на дол падалі плоскія скрылі, шчарбатыя камлыгі і груваcткія глыбы, завальваючы стойкі, што ляжалі збоку ўсцяж транспарцёра. Спачувальнымі развітальнымі позіркамі Янка праводзіў у нябыт сваіх землячак і верных абаронцаў. Ім ужо не падняцца на ўвесь рост, каб засцерагчы яго ад смерці, а самім загінуць стоячы, як паміраюць дрэвы ў лесе. Стойкі паляглі ў беспарадку, як салдаты на полі бою. Гэтак паляглі і многія ягоныя аднапалчане, калі пад кінжальным кулямётным агнём ворага прабіваліся з апошняга акружэння.

Здалося, што ён адчуў прытарны пах свежае крыві. Бывала, так пахла ў фанерным цэху, дзе працаваў стрыечны брат. Каб неяк пазбавіцца ад гэтага адчування, хлопец, напружваючыся ўсім целам, налёг на адбойны малаток, як быццам баючыся, што адстане ад Заранiна, які ідзе напралом наперадзе яго ў забоі.

І раптам яму стала зразумела, што яны прабіваюцца ў невядомасць, ідуць напралом у нікуды, ірвуцца з агню ў полымя. Ён адчуў, як расслабляецца ўсё цела, абвісаюць рукі, падкошваюцца ногі. «Толькі не здаць! Толькі б вытрымаць!» — у думках загадваў ён сам сабе, хаця не было нічыйго загаду на злом галавы ісці ў невядомасць праз гэтыя тоўшчы. Але ён разумеў, што слова пра ўзаемавыручку і ўзаемападтрымку, дадзенае пры таварыскай дамоўленасці, павінна быць няўхільным, як загад, і цвёрдым, як гэтыя закамянелыя глыбы. Іначай ён падвядзе таварышаў. Што яны пра яго падумаюць?

Чорнае як вугаль Янкава цела было спярэшчана мурзатымі прадольнымі пісягамі. Па іх сцякаў брудны пот. Ён збіраўся ў брывах, збягаў на вейкі, ад чаго соль пякуча шчыпала ў вачах ды то дваіўся, то траіўся агеньчык шахцёрскае лямпы.

Хлопец нарэшце скінуў з галавы шапку. Ён ужо не клапаціўся пра тое, што макавыя зярняты вугалю і пароды наб'юцца ў валасы. Цяпер вымываць іх не спатрэбіцца. Яму прыгадалася, як хтосьці ў бараку гаварыў пра нябожчыкаў-уцекачоў, якім на вяршыні тэрыкона дождж абмыў твары, замурзаныя вугальным пылам. Тут, у падзямеллі, брудны пот не абмые, а яшчэ болей замурзае не толькі твар, але і ўсё цела.

Цяпер хлопец цвяроза ўсведамляў, што вядзе гульню са смерцю, але, увайшоўшы ў азарт, не збіраўся

пакідаць гэтае гульні. Ён разумеў, што смерць спаткае яго не ва ўпор, спераду, а зверху аглушыць выбухам і захлісне цяжкою каменнаю хваляю ззаду. Узмакрэлаю патыліцаю, успатнелымі плячамі і разгарачанаю спінаю ў цёплым забоі ён інстынктыўна адчуваў, як ледзь-ледзь стрымлівае сябе гэтая настылая хваля. Ён толькі не ведаў, ці яна будзе захліствацць іх па адным, на выбар, ці дзевяцібальным штормам абрынецца на ўсіх адначасова.

Знясільвала праца і стамлялі пакутлівыя хвіліны маруднага чакання, хаця час да полудніка на гэты раз прамінуў значна хутчэй, чым звычайна.

Янка зруйнаваў прасценак сваёй нішы амаль аднačасова з Заранінам. Сусед у гэты момант абрушыў рэшту перамычкі, што аддзяляла ягоную нячору ад кануры пярэдняга палоннага. Пакінуўшы свае адбойныя малаткі, яны ўтрох кінуліся ўверх па нахілу забоя, каб памагчы таварышам, калі хто-небудзь з іх яшчэ не ўправіўся. Але дапамога нікому не спатрэбілася. Адбойныя малаткі астатніх палонных спынілі свой грукат раней, чым заціхла тарахценне транспарцёра.

Хлопца аглушыла трывожная ціша. У яго ажно перахапіла дыханне, калі ён убачыў, як наскрозь жахліва ззяла доўгая галерэя, навіслыя тоўшчы якой не падтрымлівала ніводная перамычка, не падпірала ніводная стойка, а на доле адна на адной і старчма нагрувасціліся, нібы пасля жудаснага землятрасення, скрылі, глыбы, камлыгі.

Давала сябе адчуць фізічнае перанапружанне. Хлопца пакідалі апошнія сілы. Закружылася галава, і ўсё кругом пайшло кругам. Нечалавечым здаўся ўскрык памочніка штайгера, які з кіркай у руках невядома адкуль паўстаў перад Заранінам. І сам немец чамусьці ўявіўся хлопцу крыжаносцам у касцы, з пражэктарам на грудзях. Як быццам ён хацеў ахрысціць крыжам, у якім ужо адламаліся два канцы, голага, бруднага дзікуна, што, напэўна, вылузнуўся са сваіх даспехаў ды адбіваўся і засланяўся нібыта не шуфлем, а дапатопным шчытом.

Рукі і ногі ў Янкі наліваліся расплаўленым свінцом, а твар паступова абдавала халодным потам. Хлопец пахіснуўся, страціў прытомнасць і насторч галавою нырнуў у бяздонную прорву. Ён ужо не чуў, як сюды збегліся з усяго забоя перапалоханыя шахцёры,

і не бачыў, як яны таропка адкопвалі прыкіданыя вугалем стойкі і плашкі ды баязліва ўмацоўвалі імі пагрозліва навіслыя тоўшчы. Апрытомнеў Янка праз некалькі хвілін. Скурчанаму, у ляжачым стане, яму нязручна было дыхаць. Хлопец выпрастаўся, падняўся, але ў яго зноў закружылася ўсё перад вачамі. Каб утрымацца, ён, з пахіленаю на грудзі галавою, прысланіўся спінаю да стойкі і раскрыжаванымі рукамі наўсцяж абхапіў падпёртую ёю да столі плашку верхняку. У такім ненатуральным стане яго, вядома, не маглі не заўважыць навакольныя шахцёры. Адным з іх ён нагадаў атланта, які падтрымлівае плячамі гэтае скляпенне. Толькі ён быў худы, з запалымі грудзьмі і быццам так напружыў сілы, што з-пад скуры ажно выпіраліся рэбры. Другім ён здаваўся распятым на крыжы змардаваным пакутнікам.

Спадылба Янка не мог бачыць іхніх позіркаў, у якіх адлюстраваліся і жах, і спачуванне.

З распяцця хлопца зняў Гільро. Ён узяў палоннага пад пахі і пасадзіў на вугальную глыбу. Потым сілком улажыў у руку біклажку, памог Янку асвяжыць каваю закарэлыя губы і адпіць некалькі глыткоў, каб яна зняла стому і хоць трошкі падбадзёрыла.

Чутка пра самаахвярны ўчынак адзінаццаці палонных распаўсюдзілася пасля змены па раздзявальні і перакінулася ў лагер. Многія дзіву даваліся, як гэта навіслыя, зусім неўмацаваныя тоўшчы не пахавалі пад сабою жыўцом дзёрзкіх небаракаў? Але ўсе былі задаволены, што страшная адысея закончылася такім зыходам. Шахцёры прыйшлі да высновы, што ў забоі аказаўся надзіва трывалы дах. А палонныя рашылі, што іхнім таварышам яшчэ не прыйшла пара паміраць. І хаця, канечне, ніхто з удзельнікаў учынку не задумваўся над тым, у імя чаго ён ахвяраваў сабою, але ўсё-такі яны, як згаварыўшыся, дружна ўрэзалі адзінаццаць звонкіх аплявухаў па мордзе самаўпэўненага, фанабэрыстага ворага. Гэта быў дзёрзкі выклік, кінуты жменькаю фізічна знясіленых, але моцных духам і воляю людзей.

## 23

Толькі пасля змены Янка ўздыхнуў з палёгкаю: заканчвалася катаржная праца, іх падымалі з падзямелля на паверхню, дзе можна было ўбачыць дзённае святло, дыхнуць на поўныя грудзі.

Праўда, сонца тут рэдка выглядвала дый паветра было не надта чыстае. Часцей небасхіл завалакваліі свінцовыя хмары. Праплывалі яны нізка-нізка над зямлёю і нібы прыгняталі цяжарам усё жывое. У хлопца часамі было такое адчуванне, што ўгары праплываюць не хмары, а суцэльныя воблакі атрутнага дыму і сажы.

Здавалася б, вынырнеш з падзямелля на паверхню — і трапіш з пекла ў рай. У раздзявальні вылузвайся з зашмальцаванай спяцоўкі, у душавой змывай з сябе бруд і вугальны пыл. Кажуць, вада асвяжае цела, здымае стому. Недарэмна ж чалавек змалку боўтаецца ў ночвах, у сталым узросце плёскаецца ў рэчцы або ў возеры, да старасці парыцца ў лазні. Праўда, тут ніхто не адчуваў, што вада асвяжае цела, а тым болей здымае стому. Кожны станавіўся пад душ, каб хутчэй змыць з сябе бруд. А бруд, як назло, не змываўся мылам-эрзацам. Яго невялікія брусы нагадвалі шызавата-блакітнаватыя пліткі спрасаванага глею, якія, бывала, яны, хлапчукі, выразалі на мелкаводным беразе сажалкі і шаравалі імі рукі. Мыла не мылілася гэтак жа, як і той глей. Масляністыя крапінкі вугалю і пароды ўядаліся ў скуру. Каб павымываць іх, яе трэба было настойліва шараваць гумавай губкаю з паташом. А паташ раз'ядаў цела. Яно смылела ад шаравання. Дый па-сапраўднаму шараваць яго перашкаджалі косці ключыц, пярэдніх плечавых суставаў і бядровых сачляненняў, якія тырчэлі, выпіраючыся з-пад скуры. Ніводзін палонны пасля шахты самастойна не мог як след памыцца. Каб вымыцца па-сапраўднаму, трэба было дапамагаць адзін аднаму. Пакуль чалавек мыецца сам, ён яшчэ не ў стане акінуць усяго сябе позіркам так, як бачыць збоку таварыша, якому шаруе мачалкаю спіну.

Звычайна ў такія хвіліны Янка перажываў душэўную раздвоенасць, ад якой ніяк не мог пазбавіцца. Трэба было чыста вымыць бруднае цела, а зрабіць гэта як след самому немагчыма. Хлопцу заўсёды было ніякавата прасіць каго-небудзь, каб той пашараваў яму спіну. Бо і самому было непрыемна шараваць плечы таварышу і на свае вочы бачыць, што з ім зрабілі фашысты ў няволі. Калі хлопец упершыню з'явіўся ў душавой, Арсень памог яму адмыць плечы. Янка тады таксама ледзь адшараваў паташом чорную землякову спіну. Ён мыў яе, а сэрца скаланалася ад болю. У Ар-

сеня тырчэлі вострыя лапаткі, нібы складзеныя крыльцы ў голага птушаняці. А верхнія пазванкі хрыбта вытыркаліся, як сукі ссечаных галін на камлі елкі. Замест клубоў выступалі плоскія маслакі. Спалосквающы Арсеневу спіну, Янка выпадкова слізгануў даланёю па боку земляка — і ажно ўздрыгнуў ад непрыемнага адчування. Навобмацак яму здалося, што ён правёў пальцамі па хвалістай пральнай дошцы, на якой маці мыла бялізну. Пальцы не адчулі мякаці, бо дакраналіся да сухіх рэбраў. Арсеневы рукі паабвісалі. У яго не было ніякіх біцэпсаў. Тады Янка яшчэ не ведаў, што яны павыбіваны ад вібрацыі адбойнага малатка.

З таго часу ў душавой яны мылі адзін аднаму спіны. Янка адчуваў, як ён сам убывае ў целе, якое раставала, нібы воск. Хлопец разумеў, што зямляк таксама заўважае гэта ўвачавідкі. Ад таго было непрыемнае адчуванне. Яно яшчэ болей прыгнятала, калі Янка пачынаў мыць Арсеневу спіну. Зямляк ужо дайшоў, як кажуць, да ручкі. Асабліва гэта кідалася ў вочы пасля таго, як Арсень абмываў з сябе ўвесь бруд. Аказваецца, на замурзаным чарнамазым целе не так выразна заўважаецца худзізна. З раздзявальні ўваходзілі худыя-худыя, чорныя, як негры, істоты, якія пад душам пераўвасабляліся, мяняючы скуру. Па душавой снўдалі чалавечыя шкілеты, абцягнутыя скураю, ды рухаліся жывыя мошчы, у якіх яшчэ цеплілася жыццё, бо ў лагеры іх шпігавалі шпінатам.

Калі Янка збольшага абмываў Арсеневу спіну, у яго самога было такое адчуванне, нібыта перад ім не цела, а мех з чалавечай скуры, напакаваны касцямі. Пакутуючы, ён асцярожна і нясмела шараваў мачалкаю земляковы плечы. Яму здавалася, што ён пратрэ тонкую, як папера, раз'едзеную паташом скуру — і з яе пасыплюцца косці. Сэрца ажно заходзілася, абліваючыся крывёю, так балюча было глядзець, як нелюдзі фізічна знявечылі чалавека.

Аднойчы ў такія хвіліны хлопец чамусьці падумаў пра Надзею. Гэткім жа знявечаным раптам уявілася яму і яе цела. На душы зрабілася непрыемна і сорамна, як быццам у думках ён дапусціў нейкі грэх. І адразу ж чамусьці ўспомнілася падобнае сарамлівае пачуццё, калі ён саграшыў не ў думках, а ў паводзінах. Але тады, наадварот, усю ягоную істоту напаўняла невядомая загадкава-таямнічая млявасць.

Адбылося гэта зусім выпадкова і неспадзявана, калі Янка быў падлеткам. У абагуленым Сідаравым гумне, якое даўно пуставала, завёўся тхор. Ён смела рабіў начныя вылазкі на бліжэйшыя седалы, дзе адгрызаў галовы маладому курынаму патомству.

З вялікімі цяжкасцямі Янку ўдалося раздабыць пастку. Летнім адвячоркам ён прывалок яе ў гумно і пачаў прыладжваць у прысценку за ёўняю. Задаволены знаходкаю і прадчуваннем удачы, хлопец так захапіўся, што нават не пачуў, як хтосьці пялёскаўся ў вадзе. Гумно стаяла на беразе сажалкі, над якою раслі высокія алешыны і кусты крушыны. Каб астудзіць гарачае цела, напаленае за дзень спякотным сонцам, адвячоркам сюды прыходзілі купацца вясковыя жанчыны і дзяўчаты. Па няпісаных мясцовых законах гэтае зацішнае вадасховішча лічылася іхняю вотчынаю. Мужчынская палавіна вяскоўцаў карысталася другою сажалкаю, якая была ўся навідавоку, трошкі далей, каля самае дарогі.

Янка прымацаваў у сярэдзіне скрынкі прынаду і прыладзіў пастку. За сцяною пачуўся жаночы віск. Хлопец прыхінуўся да бярвення, пакрытага тоўстым слоем пылу, глянуў у шчыліну — і ледзь не абамлеў.

З вады вынырнула, як русалка, вясковая прыгажуня Насця. Дзяўчына неяк спрактыкавана страсянула галавою, ад чаго бялявыя густыя валасы рассыпаліся і, нібы шацёр, прыкрылі плечы і грудзі. Яна хуценька разабрала на лбе прабор, праз які выглянуў загарэлы прыгожы твар, і паволі рушыла да берага, гулліва распраўляючы канцы пераблытаных валасоў, што расплываліся на вадзяной паверхні. Калі яны ўжо не дакраналіся да вады, Насця боўтнула ўглыб перад сабою абедзве рукі і паспешліва пайшла проста на Янку, трымаючы ніжэй жывата складзеныя крыж-накрыж далоні, пацепваючыся ўсім целам, як быццам саромеючыся сонца і дзённага святла. Ад гэтага пацепвання хлопца таксама ажно скаланула. Збянтэжаны, ён толькі і разгледзеў белыя, як вата, вузкія дзявочыя клубы ды паўкруглыя калені.

Не паспеў хлопец апамятацца, як да берага падплыла Лявонішына Зося, якая толькі нядаўна выйшла замуж. Стоячы да паясніцы ў вадзе і выціраючы далонямі твар, яна спачатку злёгку паварочвала пакатымі, паўкруглымі плячамі, а потым ашчаперыла галаву

паднятымі, выстаўленымі наперад локцямі, на патыліцы збіраючы ў жмут валасы. Янка ажно залыпаў вачамі: яго асляпілі, як фары, белыя грудзі маладухі. Іх белізну адцянялі чорныя як смоль валасы і пунсовая чырвань загару, што ахоплівала шыю. Выціскаючы з валасоў ваду, Зося развяла ўшыркі паднятыя локці, ад чаго развінуліся ў бакі яе грудзі, на адной з якіх, быццам пераспелую росную суніцу, сонечныя промні асвятлялі сасок.

Пазней, у юнацкім узросце, Янка падоўгу прастойваў у музеях перад карцінамі і скульптурамі, у якіх натхнёныя мастакі ўслаўлялі прыгажосць чалавечага цела. А цяпер усё гэта топчуць падкаванымі ботамі армады фашысцкіх варвараў. Нелюдзі і маральныя вылюдкі, яны не толькі знішчаюць чалавечую культуру, але яшчэ і фізічна нявечаць саміх людзей.

Калі б не пабачыў на свае вочы і не адчуў сам, хлопец ніколі б не паверыў раней, што да такога непрыглядна-жахлівага стану можна фізічна давесці жывога чалавека, гэтак звузіць яго духоўны свет і да такога ўбоства абмежаваць ягоныя патрэбы. Выродлівы, жудасны выгляд небаракаў быў варты жалю, выклікаў спачуванне ў палонных з кожнага новага папаўнення. Але яны спачувалі небаракам да тае пары, пакуль самі не ператвараліся ў фізічна знявечаных і вартых жалю шкілетаў. Іхнія пачуцці паступова прытупляліся, дый самім ім ужо неабходны былі спагада і спачуванне іншых.

Кожны з іх паасобку выглядаў фізічна надломленым і аслабелым. А ўся стракатая маса кіцеляў, фрэнчаў і шынялёў здавалася Янку шэрым натоўпам з аднастайнымі пакутніцкімі тварамі. Гэты натоўп чуйна рэагаваў на праяўленне гвалту і насілля, з перапуду шарахаючыся ў бакі ад прыкладаў канваіраў і кіёў паліцаяў. Хлопец збольшага ведаў у ім толькі Вадзіма, дзядзьку Тараса і Арсеня. Нават суседзі па ўзгалоўі засталіся для яго загадкаю.

А ўсё, мусіць, таму, што бяссільныя людзі болей запалоханыя і асцярожныя. У такіх абставінах яны дзеляцца сваімі запаветнымі тайнамі толькі з сябрамі ды з блізкімі таварышамі. Гэта зусім не тое, што было сярод студэнтаў у інстытуце або салдат у арміі. Там народ навідавоку. І людзі разнастайныя, з адкрытымі тварамі і шчырымі размовамі... Яны гаваркія, болей

расказвалі пра сябе, не хаваліся ў сваю шкарлупіну, нібы малюскі ў ракавіны, не цураліся адно аднаго. Таму ў Янкі было нямала прыяцеляў і знаёмых, ад якіх ён шмат чаго чуў і пра якіх многае ведаў.

Янка заўважаў і адчуваў, як адпаведна мяняліся іх мары, размовы і патрэбы. Многія палонныя, якія разам з ім прыбылі сюды са шталага, спачатку ўспаміналі сваіх мацярок і жонак, бедавалі пра іхнюю гаротную долю. Хлопец тады таксама часта думаў пра Волю. Убачыўшы у лямпавай Надзю, якая нагадала яму Волю — і адразу ж пачаў пісаць ёй лісты. Пазней ён ужо зусім не думаў пра яе, нават саромеўся ўспамінаць. Праўда, бывалі хвіліны, калі ўспамінаў Волю. Але толькі настройваўся на гэты лад, як думкі незаўважна адляталі, як пара эфіру. Іх выцяснялі клопаты пра ежу, непакой пра тое, як набіць чым-небудзь жывот. Толькі пра гэта і чуваць былі размовы на нарах. Адны ўспаміналі ўслых смачныя хатнія стравы, другія клялі Герберта з Фрэйвальдам за нішчымны рацыён.

Янку і без іхніх размоў мроіліся то пульхныя лусты бабкі з дранай бульбы, запечанай у макатры з драбочкамі чырвонай вяндліны, то чыгунок ружаватае ад бураковага расолу мачанкі з парэбрынамі, скваркамі сала і канчурамі сялянскае каўбасы. А калі ўсё гэта здавалася далёкім-далёкім і зусім недасяжным, ён гатоў быў задаволіцца ў думках міскаю саладжавае кулагі ці талеркаю рэзкага журу з падсмажанай у алеі цыбуляю, якія ў маленстве гатавала бабуля.

Боль галавы і слабасць развейвалі думкі, паралізавалі і без таго кволае цела.

Пасля таго як Арсеня ўзялі на этап і пагналі ў шахцёрскі шталаг, у душавой мылі адзін аднаму спіны Янка з Вадзімам. Спачатку Янка пакутаваў, бо саромеўся прасіць суседа пашараваць плечы. Хлопец бачыў, што Вадзіму не трэба нічыя дапамога пры мыцці. На паверхні цела не забруджвалася, паколькі сусед працаваў заўсёды апрануты. Калі ад слабасці і пацеў, дык пот змываўся пругкімі струменямі цёплае вады, і плечы не трэба было шараваць мачалкаю з паташом. Тыя, хто працаваў на паверхні, наогул не ўжывалі паташу пры мыцці. Яны абмяжоўваліся толькі мыламэрзацам, дый то карысталіся ім зрэдку. Навошта ашукваць самога сябе, калі гэтае мыла не мыліцца? Неза-

бруджанае цела пры штодзённым мыцці пад душам і без яго лёгка адмывалася ад поту. Янка не напружваўся і не затрачваў сілу, мыючы Вадзімаву спіну. Шараваць яе гумаваю губкаю таксама не трэба. Дастаткова было некалькі разоў правесці па ёй Вадзімавай мачалкаю з пакулля, як спіна ружавела і пот з яе змываўся. Праўда, неўзабаве яна зноў станавілася бледнаю. Нават праз худое цела, наскрозь прагрэтае цёплымі струменямі вады, да скуры не магла прабіцца чырвань, настолькі мала было ў ім крыві і гэтак слаба пульсавала яна ў жылах.

І ўсё-такі, нягледзячы на гэта, Вадзім трымаўся і не здаваў у целе. Ці таму, што ён быў болей загартаваны жыццёвымі выпрабаваннямі, ці, можа, таму, што ўвесь час знаходзіўся на паветры, яго яшчэ пачварна не знявечыла худзізна. Янка зайздросціў суседу. Хлопцу не было брыдка мыць і апалоскваць Вадзімавы плечы і спіну. Наадварот, у такія хвіліны Янка супакойваўся, паддаваўся самападману. Яму здавалася, што і сам ён яшчэ трымаецца ў целе. Хлопец стараўся асабліва не прыглядацца навокала да іншых палонных, абрысы якіх, як у крывых люстрах, абманліва пераламляліся, атуленыя нібыта іскрыстымі шклянымі каўпакамі, суцэльнымі шатрамі душавых струменяў. Толькі як пачынаў мыцца самастойна і далоняю праводзіў па сваіх баках, тады зноў адчуваў і пераконваўся, наколькі блага ён выглядае. Бо па рэбрах, што вытыркаліся з-пад напятай скуры, кончыкі пальцаў пераскоквалі, нібы па рабрыстым праніку, якім маці качала высушаную бялізну.

Хлопец саромеўся свайго агіднага выгляду. Яму здавалася, што суседу брыдка мыць ягоную спіну. Ён не разумеў, што сусед таксама глыбока перажывае за знявечаны Янкаў выгляд. Як быццам сам Вадзім вінаваты ў тым, што над ім яшчэ злітаваўся лёс і пакінуў яго на паверхні, а хлопца доля загнала ў падзямелле. У душы Вадзім, канечне, спагадаў суседу. Але ў роспачы нічым не мог дапамагчы яму, а спачуваць услых лічыў нетактоўным. Таму, каб як-небудзь дагадзіць Янку і хоць на кароткі час суцешыць яго, штодня старанна шараваў паташом хлопцавы плечы і спіну, выдзіраючы вострыя зярняткі вугалю і пароды, якія густа паўядаліся ў скуру.

## 24

Пасля няўдалых спробаў вырвацца на волю ў пачатку паветраных налётаў Янку ўсё часцей і часцей апаноўвала роспач. Ён разумеў, што з-пад ног уцякае трывалы грунт. Хлопец адчуваў, што тое ж самае перажывае і Вадзім. Але сусед яшчэ можа спадзявацца на выпадковасць, у яго ёсць нейкія шанцы на паратунак. Усё-такі ж ён ходзіць па цвёрдай зямлі пры дзённым святле, у той час як Янку наканавана поўзаць і блукаць у падзямеллі ўпоцемку. Хлопец ведаў, што, нягледзячы на трагедыю Сіваліна з Дробатам, сусед гатоў лепей загінуць вольным, чым паміраць нявольнікам. Не стане ж ён сядзець і чакаць пагібелі толькі з-за таго, што яму немагчыма ўцячы разам з Янкам. Вадзім абавязкова паспрабуе знайсці сваё шчасце адзін. Хлопец пазайздросціць яму, але не будзе асуджаць за такі ўчынак. Не гінуць жа марна чалавеку за кампанію, толькі ў імя паказной салідарнасці.

Янка не ўяўляў, што Вадзім таксама працуе на паверхні разам з немцамі, якія не зводзяць з яго вачэй і ні на крок не адпускаюць. Як ні стараецца сусед заспакоіць іх пільнасць, як ні спрабуе адлучыцца ўбок — нічога з гэтага не выходзіць. Немцы ўжо ведаюць, на што здатныя палонныя з кляймом «SU». Ад іх можна ўсяго чакаць. Нават адзін на адзін заставацца асцерагаюцца. Працуюць па некалькі чалавек разам.

А праклятае кляймо ўсё роўна як бяльмо на воку. Ад яго ніяк не пазбавішся. Дзве чужыя літары, велічынёю па аршыну, на плячах Вадзімавага шыняля і брызентавай робы відаць здалёку. З імі кроку не ступіш па густа населенаму Руру. Асабліва без ведання мовы. Нямым не прыкінешся, не будзеш трымаць язык за зубамі. Гэтым яшчэ большую падазронасць на сябе наклічаш.

Цяпер, прыходзячы з шахты ў раздзявальню, Янка перш-наперш акідваў насцярожаным позіркам Вадзімаву вешалку, з дня на дзень чакаючы, што да яе ўжо не вернецца гаспадар. Але пасля кароткіх хвілін трывожнага чакання сусед вяртаўся ў раздзявальню, а часам з'яўляўся раней за Янку. На гэты раз Вадзім увайшоў амаль адначасова з суседам.

— Сягоння паласуемся падножным кормам,— не без гонару паведаміў ён, здымаючы з плячэй і лагодна пагладжваючы далоняю туга напакаваную супрацьгазавую торбу.

Калі б сусед не заінтрыгаваў Янку падножным кормам, хлопцу лягчэй бы было пераносіць голад. А так Янка пачаў глытаць слінку, пакуль мыліся ў душавой. Ці то напамінак пра ежу абудзіў рэфлекс, ці то адмытае ад бруду і разморанае цёплаю вадою цела патрабавала кампенсацыі, але па дарозе да лагера хлопец адчуваў, як у жываце падцягнула кішкі.

Пакуль суседзі пачалі перабіраць і мыць прынесеную Вадзімам траву, Янка ледзь стрымліваў сябе, каб не праглынуць хоць некалькі лыжак толькі што атрыманай баланды. Вадзім адразу ж адчуў гэта і дапамог суседу ўстрымацца ад спакусы.

— Замары чарвяка, пакуль што-небудзь скамбінуем. Для цябе пакінуў. Па-мойму, нічога расліна,— і ён працягнуў Янку два карані, а адзін пакінуў сабе.

Хлопец старанна вымыў і апаласнуў іх вадою, каб на зубах не хрумсцеў пясок. Адкусіў кавалачак і пачаў разжоўваць.

— На выгляд, як танклявыя карані хрэну,— заначыў ён, разглядаючы надкусаны белы канчур з ледзь прыкметнаю жаўцізною, які па смаку нагадваў несалодкую моркву, з нязвычным і нейкім спецыфічным пахам.

Гэтак жа пахла і лапушыстая, сакавітая зелень, якую яны абодва таропка перабіралі, папоўніцы ўмінаючы карані.

— Хрэн не саладзейшы за рэдзьку,— з'едліва пажартаваў Вадзім.— Але я не ўтрымаўся і крадком ад немцаў згрыз тры карані.

— Дзе ты выкапаў гэтае дзіва? — спытаўся задаволены Янка.

— На шахтавым двары. У канцы змены расчышчалі самы далёкі захламлены куток.

У адно імгненне суседзі згрызлі і праглынулі карані. Але не замарылі, а толькі разварушылі чарвяка голаду, які патрабавальна засмактаў пад лыжачкаю. Ледзьве дачакаліся, пакуль на чыгуннай печцы закіпела ў Янкавай бляшанцы прамытая трава. Доўга не гатавалі яе, а паспешліва сцадзілі цёмна-зялёны ўзвар і змяшалі гушчу з баландаю.

Цяпер баланда са шпінату. Сезон сушанай бручкі закончыўся. Не падсольваючы, яны апетытна елі густое травяністае варыва. Па колеры яно нагадвала Янку шчаўе, якое варылі ў акружэнні, а па смаку — кра-

піву, што некалі гатавала бабуля. Шчаўе таксама было несалёнае, але затое — кіслае, а крапіва — у меру падсоленая. Суседзям жа не было чым падсаліць сваё камбінаванае варыва. Высушаная ружовая соль са сталактытаў, якую прынёс Янка, даўно скончылася. Яны і так надоўга расцягнулі яе, кожны раз ашчадна падсольваючы саладжавую баланду.

Травою набілі страўнікі і, задаволеныя, расцягнуліся на ўвесь рост у сваіх логавах. Янку апаноўвала санлівая млявасць. Тупа ныла натруджанае цела. Хацелася ляжаць моўчкі і адпачываць. Агорнуты дрымотаю, ён не зразумеў, колькі часу быў у здранцвенні, якое раптам Вадзім абудзіў песняю. Сусед паціху спяваў сам сабе. Якая-небудзь вядомая песня, мабыць, не ўзрушыла б цяпер Янку так, як гэтая. Аднойчы ён чуў яе ў маленстве, калі з іхняй мясцовасці хлопцы ездзілі ў заработкі на Данбас. Яны расказвалі пра саначнікаў, якія ў драўляных скрынках, абабітых жалезам, валаклі на сабе вугаль, ды пра жанчын-адкатчыц, што, грызучы семкі, плячамі падштурхоўвалі пад вугальны вадаспад парожнія ваганеткі.

На радзіме арэол рамантыкі ахутваў тыя загадкава-таямнічыя расказы. Цяпер Янка ведае, што такое «падоўжная каранная», «ствалавы» і «Маруся-лямпавая», якія ўпамінаюцца ў песні. І ўяўляе саначнікаў і адкатчыц, а канагона, пра якога самотна спявае сусед, яшчэ ніяк не можа ўявіць. Але песня ўсё роўна пранікае ў душу, кранае за сэрца. Хлопец нават не разумее: чаму яна гэтак уздзейнічае? Мабыць, таму, што тут спалучыліся ў адзінае цэлае матыў, трагічная доля чалавека і драматычны Вадзімаў голас. А можа, таму, што канагон гэтакі ж малады, як Янка.

А коногона молодого
Несли с разбитой головой.

Хлопец уважліва даслухаў песню да канца, трохі памаўчаў і саркастычна прамовіў:

— Калі жывот напоўнены, дык і пяецца.

— Не кожны вясёлы, хто пяе. І за песняй плачацца,— павучальна адказаў Вадзім і пасля некаторага роздуму дадаў: — Не ад радасці і птушка ў клетцы спявае.

Суседзі вылежаліся і трохі адпачылі. Абодвум не хацелася заставацца ў бараку. Янку як магнітам пры-

цягвалі на двор сонечныя праменні. Сягоння дзень на рэдкасць пагодлівы. Небасхіл ачысціўся ад воблакаў і як быццам вышэй падняўся над зямлёю. Праўда, ён нейкі пабляклы, не такі блакітны, як на радзіме. Але дыхаецца лягчэй, ды пасля падзямелля хочацца выграцца на сонцы. Янку здаецца, што ён ужо даўнымдаўно не бачыў сонца. Хлопец нават не ведае: чаму ў яго такое адчуванне? Ці таму, што сонца тут сапраўды рэдка выглядае з-за хмар, ці таму, што ён толькі кароткі час бывае ўдзень на паверхні? Яшчэ добра, што не бачыць сам сябе ў люстры. Ён, цыбаты, выцягнуўся і зрабіўся белы-белы, як тонкі бульбяны парастак у цёмным пограбе.

А ўвечары яны адчулі сябе ніякавата. Янка пра гэта не намякаў. Але сусед першы паскардзіўся:

— Штосьці блага стала... Як быццам муціць усяго... Моташна... Нудзіць... Як ты адчуваеш сябе?

— Усё роўна як прастыў... Баліць у скронях. Нібыта агнём паляць шчокі.

— А тваё шчокі сапраўды заліла чырвань,— заначыў Вадзім, аглядаючы Янкаў твар.

Але мінуў час, а ніводнаму з іх не зрабілася горай. З такім самаадчуваннем, якое як быццам не пагоршылася і не палепшылася, яны і ўлягліся нанач.

Давала сябе знаць фізічная стомленасць: ажно ламала суставы ў руках. Калі боль у іх прытупляўся, цела абдавала жарам. «Мабыць, лішне перагрэўся на сонцы»,— думаў хлопец і не разумеў, ці пастунова зморвае сон, ці адольвае стома. Неўзабаве ён заснуў. Спаў настолькі моцна, што нават не чуў, як побач усю ноч з боку на бок варочаўся Вадзім.

Прачнуўся Янка ад глухіх стрэлаў, што прагучалі дзесьці непадалёку, і ад шумлівага ажыўлення, якое працяжным водгуллем пракацілася па бараку. Хлопца ўразіла адсутнасць суседа. Дзе ён? Занепакоены і ўстрывожаны, Янка выбег на двор і далучыўся да купкі палонных. Яны то спалохана сціхалі, то бурна рэагавалі пры кожным стрэле канваіра каля лагернае брамы.

Ад яе подбегам аддаляўся чалавек. Янка адразу ж пазнаў у ім Вадзіма. Ад нечаканасці ў хлопца нібыта спынілася сэрца. Па Вадзіму раз-пораз страляў з вінтоўкі Кнот. Пры кожным стрэле хлопец заплюшчваў вочы, чакаючы, што сусед упадзе, падкошаны куляю.

Расплюшчваў іх і зноў бачыў, што Вадзім аддаляецца подбегам як ні ў чым не бывала.

— Упусціў зайца? Не пацэліш у жывую мішэнь? — у перапынках паміж стрэламі па-нямецку ўголас пакпіў з Кнота вартавы на бліжэйшай вышцы.

Абняслаўлены, Кнот замітусіўся і пачаў страляць з калена. Вадзім не рэагаваў на стрэлы, не азіраўся і не пятляў, а па-ранейшаму аддаляўся подбегам.

Мяркуючы па тым, як ён абыякава трымаўся і як расслаблена бег, адчувалася, што чалавек або знаходзіцца ў ненармальным стане, або з ім здарылася штосьці неверагоднае. Ці таму, што ўцякач аддаляўся, ці таму, што вартавы на вышцы ўжо здзекліва рагатаў, Кнот пачаў даўжэй прыцэльвацца і страляў радзей.

Вадзім паспеў ускочыць у азярцо, вада ў якім была яму ніжэй каленяў. Ён, канечне, не шукаў у малюсенькім азярцы ратунку. Яно перагароджвала яму шлях. І раптам грымнуў чарговы стрэл.

Вадзім на імгненне застыў, як быццам спатыкнуўся і ўсё яшчэ не хацеў падаць.

На Янкавы вочы накаціліся слёзы. Праз іх, як праз шкелцы, ён бачыў, як Вадзімава цела рэзка скасабочылася, нібы надламалася, і нязграбна асунулася, але зусім не пагрузілася ў ваду.

З барака выбеглі іншыя палонныя, распытваючыся, што за страляніна ўсчалася ў такую рань.

Тыя, хто назіраў за здарэннем з самага пачатку, расказалі, як у той час, калі ў лагер заязджала аўтамашына з прадуктамі, міма яе, не звяртаючы ні на каго ўвагі, у браму прашмыгнуў апантаны палонны і, не паскараючы кроку, трушком пабег не па дарозе, а нацянькі праз утравянелую пустку. Збянтэжаны, Кнот ці ўбачыў, што адбылося штосьці ненатуральнае, ці перапалохаўся ад нечаканага ўчынку палоннага і спачатку зрабіў некалькі папераджальных стрэлаў угару. Толькі калі палонны пачаў аддаляцца, Кнот схамянуўся і стаў страляць па ім.

Гэты выпадак узбударажыў Янку. Здарэнне адбылося ў выхадны дзень. Хлопец не знаходзіў сабе прыстанішча і паўдня сланяўся па лагеры як непрыкаяны. Успамінаў то Арсеня, то дзядзьку Тараса. І чамусьці ўяўляў сябе адзінокаю галінкаю на кволай дзічцы, з якой буран у чыстым полі паабломліваў усё вецце, а вецер, нарэшце, зламаў і вяршалінку. Даўкі горкі

камяк засеў у горле, як заткала ў гляку. Зрабілася маркотна-маркотна. Янка шкадаваў Вадзіма. Быў адзін сябар, на якога хлопец ускладаў вялікія надзеі, і таго раптам не стала. І трэба ж так недарэчна загінуць чалавеку? Хлопец не сумняваўся, што ў Вадзімавай смерці вінаваты карані невядомай расліны. Ад іх ім абодвум зрабілася кепска. Вадзім жа з'еў іх болей за Янку. Іхні ядавіты сок, мабыць, затлуміў ягоную галаву, і чалавек у стане поўнай прастрацыі, не ўсведамляючы, што робіць, сярод белага дня трушком пабег з расчыненай брамы на вачах у лагернай аховы. «Якая ж гэта трава? Цыкута? Блёкат? Чэмер?»

З Вадзімам хлопец адчуваў сябе ямчэй і надзейней. Цяпер ён застанецца на верхатуры адзін, як палец, у незапоўненай пустэчы. Месцы дзядзькі Тараса, Дробата і Сіваліна па-ранейшаму пустуюць. Замест суседзяў чамусьці так нікога і не прыслалі з шахцёрскага шталага. Мабыць, з яго таксама няма каго браць узамен тых, якіх этапам вывозяць з шахты?

Перад сняданнем, стоячы ў калоне, палонныя перадавалі адзін аднаму ранішняе здарэнне. Ніхто з іх толкам не мог зразумець, як усё адбылося і чаму. Многія са спачуваннем у вачах паглядалі на Вадзімава цела, якое ляжала ў азярцы. Палонным таксама было відаць, што на яго час ад часу паглядае і вартавы з вышкі. Мабыць, баіцца, каб Вадзім не ажыў і не ўцёк.

Немцам даспадобы ўсялякія пастраенні. Гэта заўсёды лішняя магчымасць памуштраваць людзей. Пасля снядання на апельпляцы зноў выстраілі палонных, цяпер ужо для выдачы зарплаты. Немцы прыдбалі дармовую рабсілу — і перад усім светам прыкідваюцца дабрадзеямі. Маўляў, нявольнікам спяцоўкі выдалі, зарплату выплочваем, нават піва завозім у лагер. А на тую месячную зарплату толькі і можна купіць піва, дый таго не болей чатырох-пяці місак, па цане адпаведна гатунку.

Але затое з якім урачыстым цырыманіялам яны выдаюць зарплату і як балюча абражаюць і прыніжаюць чалавечую годнасць!

За сталом, які стаяў у расчыненых насцеж дзвярах капцёркі, сядзелі Герберт і Фрэйвальд. Герберт, гледзячы ў ведамасць, выкрыкваў лагерны нумар палоннага.

Той, каго ён выклікаў, падыходзіў, схіляўся над сталом, паказваючы на шыі свой жэтон з лічбамі, распісваўся і атрымліваў маркі, якія выдаваў Фрэйвальд. Потым палонны ўжо не станавіўся ў строй, а вяртаўся ў барак або ішоў да кухні, дзе браў міску і купляў піва.

У шахцёрскім лагеры маркі не мелі ніякай каштоўнасці. На чорным рынку праводзіўся толькі натуральны абмен. Дзённую пайку хлеба можна было выменяць за порцыю баланды, а тое ці другое — за восем цыгарэт, якія невядома адкуль і якім чынам траплялі з-за дроту. Таму ўсе палонныя куплялі безалкагольнае піва, што спецыяльна завозілася ў лагер толькі ў дзень палучкі. Сягоння яны, як заўсёды, накіроўваліся туды проста ад капцёркі. Праўда, многія яшчэ са строю заўважылі, што на гэты раз каля кухні пануе незвычайнае ажыўленне. І кожны, атрымаўшы грошы, хутчэй спяшаўся туды.

Гледзячы ў ведамасць, Герберт выкрыкнуў чарговы нумар, але на яго крык ніхто не выйшаў са строю. Янка ведаў, што немец назваў Вадзімаў лагерны нумар. Хлопец зацята маўчаў. Герберт гучней паўтарыў лічбу, аднак усё роўна ніхто не падышоў да стала.

— Мажа, гэта лагерны нумар таго вар'ята, што сягоння спрабаваў нырнуць у падводнае царства? — панямецку спытаўся збянтэжаны Фрэйвальд.

— Не хацеў піць нямецкае піва, дык нахлёбаецца ўдосталь азёрнай вады,— пасля некаторага чакання задаволена адказаў па-нямецку Герберт, адзначаючы штосьці ў ведамасці.

От нарэшце ён ставіць там крыжык ці птушку, якія некалі яму раіў паставіць Вадзім, атрымліваючы спяцоўку. Тады Герберт кіем паставіў птушку на Вадзімавым крыжы, за што ў сваю чаргу сусед трапна ахрысціў немца «кондарам». А ён і сапраўды падобны на кондара з аголенай доўгай шыяй. І гэтак жа хціва накідваецца на здабычу.

Хтосьці з палонных у свой час параіў Янку абмяняць пінжак з прагрызенай кішэняю. Хлопец паслухаў не так гэтай парады, як не забываўся Вадзімавых слоў адносна уніформы без кляйма. Таму, вяртаючыся з шахты ў лагер, часта апранаў пад шынель спяцоўку, спадзеючыся на ўцёкі. Аднойчы ён паспрабаваў замяніць пінжак. Дзяжурыў у капцёрцы Герберт. Калі Ян-

ка растлумачыў, чаго ён прыйшоў, немец загадаў зняць шынель.

— Зачем попрогрызал пустой карман? Разве он жиром пропитан? — зларадна зарагатаў Герберт і катэгарычна дадаў, як адрэзаў: — Спецовку меняем только через полгода.

— Няўжо яшчэ шэсць месяцаў давядзецца прабыць тут? — дзёрзка запытаўся Янка.

— Ты в пререкания вступать?! — раззлаваўся Герберт, хапаючы кій.

Хлопец кінуўся наўцёкі, ускідваючы на плечы шынель, па якім Герберт усё-такі дапяў кіем.

— Пробудешь, сколько выдержишь! — пачулася наўздагон.

Цяпер Янка горка ўхмыльнуўся. Пакуль ён засведчваў сваю асобу, паказваючы нагрудны жэтон, ды пакуль распісваўся ў ведамасці, яна чамусьці здалася яму табліцаю бяспройгрышнай латарэі. У гэтай табліцы пяцізначныя і шасцізначныя лічбы таксама прастаўлены па ўзрастаючым парадку. Але на ўсе выпадаюць амаль аднолькавыя выйгрышы, з розніцаю ў адну марку або некалькі пфенінгаў. Праўда, у Вадзіма смерць выйграла пяць марак. Янка паспеў заўважыць гэтую суму ў прагале насупраць суседавага лагернага нумара, дзе замест Вадзімавага подпісу стаяў знак плюс. Значыць, Герберт ужо прыплюсаваў пяць марак у карысць акцыянернага таварыства. Калі б яно ведала загадзя, што палонны загіне, дык налічыла б яму большую суму.

Янка атрымаў сем марак. Хлопцу таксама рупіла пайсці да кухні, каб узяць міску дый хутчэй напоўніць парожні страўнік. Калі ён падышоў і ўбачыў, як ажыўлена вядзецца там гандаль, дык разгубіўся, ажно вочы разбегліся. На гэты раз прадавалі не толькі піва, але яшчэ і нейкія невядомыя заморскія саленні. Хлопец не ведаў, што яму рабіць. Бегчы ў барак па бляшанку альбо браць адразу дзве міскі было рызыкоўна: Ляўшун сваім кіем паперабівае рукі. Ён цяпер стараецца, лютуе як звер. Хлопец рашыў спачатку ўзяць піва. Яго і вып'еш імгненна, і міску не трэба спалоскваць. Так і зрабіў.

Далёка не адыходзячыся, таропка цадзіў набгом трошачкі саладкаватае пітво. Ад яго па целе разлівалася свежасць і прахалода. Успомніў пра Вадзі-

ма — і падумаў пра салодкую сыту, якую ядуць на памінках. Паспрабаваў адагнаць гэтую думку. «Яшчэ добра, што піва безалкагольнае. А то на галодны страўнік зусім ахмялеў бы. У гэтай жа місе паўтара літра». Смакуючы, апрастаў посуд і зноў прыстроіўся да невялікае чаргі, якая стаяла ўжо каля другога акна.

— Што гэта за скаромніна? — ні да каго не звяртаючыся, пацікавіўся палонны, за якім стаяў Янка.

— А чорт яе ведае,— адказаў пярэдні, што рушыў ад акна з напоўненаю міскаю.— Нейкія заморскія смаўжы.

— Не смаўжы, а вустрыцы,— удакладніў хтосьці ў чарзе.

— Якая розніца? Абы жратва,— апраўдваўся той, што адыходзіў.

Янка ведаў, што вустрыцы — далікатэс. Таму ўсумніўся. Іх не прывезлі б для палонных. Хіба якія-небудзь сапсаваныя, з захопленых чужых складаў? Калі наблізіўся да акна, убачыў, як гандляр чэрпае іх з бочкі вялікім апалонікам і выкульвае ў міску, якую палонны паставіў на вагу. Нават разгледзеў, што заморскі прадукт не трымаецца ў апалоніку з каптуром, а саслізгвае і ўтрымліваецца толькі роўна з краямі. «Мог бы і не ўзважваць. Нябось, вымераў жа, колькі апалонікаў у місе. Дык не, і тут выяўляецца нямецкая дакладнасць».

Хлопец нават не звярнуў увагі на тое, колькі заважыла ягоная напоўненая міска. Гандляр узяў з яго дзве маркі.

«Вустрыц наўрад ці нарыхтоўваюць у бочках. Хутчэй за ўсё гэта сапраўды нейкія ўліткі ці малюскі. Некалі ж я чытаў, што іх разводзяць і ўжываюць у ежу. А немцы ж асабліва майстры на ўсялякія эрзацы,— думаў Янка, зручней улягаючыся на верхатуры.— Вядома, такі харч лепей есці ўпрыкуску з хлебам. Але што ты зробіш? Трэба жыць, як набяжыць. Голад не цётка».

Хлопец зачэрпнуў лыжкаю і пакаштаваў невядомую страву. Па смаку яна як быццам нагадвала недасоленыя марынаваныя грыбы без вострых спецый. Здаецца, нават і не заўважыў, як яны лыжка за лыжкаю самі слізгалі ў рот, нібыта папіскваючы. Успенены расол, як іржавы селядцовы лёк, пакрываў бурыя долькі, што былі падобныя на прадаўгавата нарэзаныя

марынаваныя махавікі. Болей інтуіцыяй, чым смакам і нюхам, Янка нібыта адчуў у іх нейкую прыправу. Але ўжо не давяраў свайму адчуванню, бо хлопцу здавалася, што ў яго дарэшты прытупіўся і атрафіраваўся і нюх, і смак. Дый, нюхаючы, не пад'ясі.

Калі зусім апаражніў міску, злез з нараў, апаласнуў яе вадою і аднёс да кухні. Выпітае піва таксама не давала ўжо спакою. Яно доўга не ўтрымлівалася ў арганізме. Хлопец вярнуўся назад на верхатуру. Страўнік у яго напоўніўся, а настрой не змяніўся. Ні на хвіліну не пакідала пачуццё адзіноты. Міжвольна слізгануў самотным позіркам па напакаванай супрацьгазавай торбе суседа. Машынальна працягнуў да яе руку — і абмацаў парожні Вадзімаў кацялок. Пасля вялікага паста толькі на адзін дзень увялі мясаед — і то чалавеку не далі разгавецца скаромнінаю. У Янкі перад вачамі стаяў, а ў памяці жыў застрэлены таварыш. Хлопцу не хацелася з ім развітвацца і заставацца сам-насам. Ён ведаў, што месца адсутнага сябра немінуча запоўніць безнадзейнасць. Таму ў думках не разлучаючыся з Вадзімам, так і праляжаў да таго часу, пакуль не абвясцілі пастраенне на абед.

Хлопец перажываў нейкую раздвоенасць усяе істоты. З аднаго боку яго мучыў жалобны настрой, а з другога — жорстка мардавала фізічнае адчуванне голаду. Яны былі не ў сілах пераадолець адзін аднаго і існавалі як быццам незалежна. Не спяшаючыся, Янка лыжкаю вывудзіў з баланды зялёны шпінат, а потым, каб трошкі абагрэць астылае цела, набгом выпіў цёплы недасолены ўзвар. Ухмыляючыся, успомніў прымаўку: «Сёрбай юшку, на дне гушча». А тут аніякае гушчы. Апетыт, як назло, разгараўся. Спакушала дзённая чацвярцінка хлеба з невялічкім квадратным брусочкам павідла. Каб адцягнуць ад яе ўвагу і чым-небудзь заняцца, ён пайшоў мыць посуд, марудзячы, пакуль ручайком не выцеча міма кухоннага акна і адзінокімі кроплямі дарэшты не знікне ў бараку выстраеная калона.

У абедзенную пару каля кухні часова прыпыніўся гандаль півам і заморскаю стравою. Ён, вядома, мог бы па-ранейшаму прадаўжацца, калі б толькі руплівыя паліцаі з кіямі ў руках не стаялі на варце ўстаноўленага парадку, без якога яны не маглі пэўна прасачыць

за тым, хто атрымаў, а хто яшчэ не атрымліваў ніішчымны рацыён.

Як толькі гандаль зноў забруіў крыніцаю, якая хлынула ў посуд палонных півам і невядомымі малюскамі, Янка яшчэ раз напоўніў міску заморскаю стравою. Седзячы на нарах, нетаропка еў яе ўжо ўпрыкуску з хлебам, скарынку ад якога адламаў і з порцыяй павідла пакінуў на трэцяе. Ён не проста еў, а нібыта свяшчэннадзейнічаў, з такою годнасцю, як некалі дзядзька Тарас. Ад гэтага самому зрабілася ажно прыкра. Здавалася, што ён ніколі не насыціцца, бо ад сістэматычнага недаядання ў яго зменшыўся страўнік, які пастаянна патрабаваў каларыйнага напаўнення. Цяпер хлопец так натрамбаваў яго трывалаю ежаю, што цяжкавата было злазіць з нараў, каб аднесці міску. Калі вярнуўся назад, дык ледзь-ледзь узабраўся на верхатуру, бо немагчыма было сагнуцца. Янка разлёгся ў сваім логаве і ўжо не мог ні здыхацца, ні скурчыць выпрастаныя ногі.

Па ўсім целе разлівалася прыемная цеплыня. Хлопца павольна адольвала дрымота. Спавіты ёю, ён заснуў, як дзіця. У сне чуў у падстрэшшы бацькоўскай хаты галубінае буркаванне, ад якога, бывала, прачынаўся ранкам. Цяпер прачнуўся на лагерных нарах і спрасонку не мог уцяміць, ці буркуюць галубы, ці бурчыць у ягоным жываце. Нейкі час нават не разумеў, што гэта — сон ці ява?

— Нарэшце канваіры выцягнулі небараку з азярца,— пачулася з ніжніх нараў.

— Баяцца, што прытварыўся забітым ды яшчэ ўцячэ ўначы,— азваўся другі голас.

Янка разумеў, што гавораць пра Вадзіма. Але не мог падняцца і злезці з нараў. У яго пачалося няведама што: жывот успучыўся, у ім штосьці булькатала. «Мабыць, заварот кішок? Я ж некалі чытаў, што вустрыцы захоўваюцца жывымі на працягу двух тыдняў,— думаў ён, ужо асабліва не прыслухоўваючыся да таямнічых гукаў у жываце.— Няйначай, як у цёплай баландзе ажылі заморскія малюскі?»

Яму ўжо ўсё роўна. Болей няма на каго спадзявацца, няма ад каго чакаць паратунку. Наадварот, можа, і добра, што ён не застанецца ў няволі, а вызваліцца з яе аднačасова са сваім сябрам. Яму здалося, што ў жываце кішкі ўжо граюць па ім жалобны марш.

# 25

Пры выхадзе з галоўнай клеці на каранную падоўжную палонныя спыняліся ў чаканні ранішняга распараджэння начальства. Аднойчы Янка быў сведкаю, як штайгер прыпыніў тут Швэрмера, які ішоў з купкаю шахцёраў, і па-нямецку папрасіў:

— Швэрмер, будзь ласкавы, перавязі адсюль на першы гарызонт у трэці адкатачны тую лябёдку, што без патрэбы стаіць у закінутым штрэку. Толькі вазьмі сабе памочніка. Бо ўчора я даручыў гэтую справу Хольцу, але ён адзін нічога не здолеў зрабіць.

Швэрмер выслухаў штайгера і нічога не адказаў, хоць па выразу твару было відно, з якою годнасцю чалавек успрыняў тое, што менавіта без ягонай дапамогі не можа абысціся начальства. Ён, відаць, хацеў пайсці, але штосьці ўспомніў, на імгненне затрымаўся, акідваючы позіркам палонных, сярод якіх стаяў Янка.

— Ёган, комм,— абыякава прамовіў мацавальшчык, нязграбна павярнуўся і з незалежнасцю павольна рушыў далей.

Янка пайшоў услед без асаблівага парывання, хоць і прадчуваў, што мацавальшчык дасць паблажку, яшчэ на дзень зробіць аддушыну ў яго беспрасветным жыцці.

«Што прынясе такая палёгка? Толькі на кароткі час адтэрмінуе пагібель?»

Калісьці ў маленстве Янка, завіхаючыся, таропка прасякаў у лёдзе пельку, каб выратаваць процьму рыбы, што без корму і без паветра загрувасціла мелкаводную прадуху. Палонныя ў падзямеллі цяпер нагадвалі яму тую рыбу, асуджаную на немінучую пагібель.

У хлопца, вядома, не было ніякай падставы крыўдзіцца на Швэрмера. Але ён ужо з усёю выразнасцю разумеў безвыходнасць і безнадзейнасць свайго становішча, якому адпавядаў кепскі настрой.

Янка бачыў, як наперадзе па асветленай каранной падоўжнай, смешнавата пагойдваючыся, крочыў мацавальшчык. Хлопец рухаўся ўслед за ім, бы ягоны цень. Гэтак яны прайшлі кіламетры два. Янка ўжо прызвычаіўся да такой хады. Таму, абмінаючы нерухомы паражняк і «козы», нагружаныя плашкамі і стойкамі, нават не заўважыў, як у галаве саставу Швэрмер нечакана спыніўся каля машыніста лакаматыва. Калі Янка наблізіўся да іх, мацавальшчык ужо адчапіў ад

саставу лакаматыў, які машыніст пагнаў далей. Хлопец прыпыніўся і са здзіўленнем чакаў, што збіраецца рабіць Швэрмер. А той перайшоў на супрацьлеглы бок каранной падоўжнай, дзе на крайняй чыгуначнай каляі стаяў састаў ваганетак з вугалем, і ў самым пачатку яго аблюбаваў пустую пляцоўку. З нагружанай «казы» перанёс на яе дзве плашкі верхняку і дзве тонкія стойкі і, не спяшаючыся, разам з трыма першымі ваганеткамі адчапіў пляцоўку ад саставу і штосьці прасігналіў паднятаю ўгару лямпаю. Машыніст падагнаў сюды лакаматыў, да якога Швэрмер прычапіў адчэпленыя ваганеткі, сеў ззаду на пляцоўку і запрасіў Янку сядаць таксама. Калі хлопец паслухмяна ўсеўся, мацавальшчык памахаў лямпаю і крыкнуў: «Абфарэн!» Лакаматыў адвёз іх на ладную адлегласць. Спыніўся ён за разгалінаваннем чыгуначных ліній. Швэрмер адчапіў пляцоўку ад ваганетак і, падштурхоўваючы, падаў яе трохі назад. Потым перавёў стрэлку і скіраваў пляцоўку на адгалінаваную ўправа чыгуначную каляю. Машыніст пачакаў, пакуль мацавальчык зноў перавёў стрэлку, пачціва памахаў Швэрмеру рукою і задам лакаматыва пагнаў тры ваганеткі на ранейшае месца.

«Бач, да яго не толькі штайгер пачціва ставіцца, але і машыніст лакаматыва адносіцца з павагаю. Каму-небудзь іншаму ён не зрабіў бы такой паслугі. Машыністаў абавязак падаваць з каранной падоўжнай крапёж ды паражняк, а сюды — прывозіць саставы, нагружаныя вугалем. Тым болей што наогул не ў характары немца манеўраваць з лакаматывам упустую, толькі дзеля таго, каб па прыхамаці дзівакаватага старога дастаць з саставу, які падрыхтаваны да адпраўкі, пустую пляцоўку. Дык такую ж пляцоўку мацавальшчык знайшоў бы ў штрэку пасля выгрузкі якіх-небудзь матэрыялаў. А можа, проста хоча выйграць час, каб не прастойваць без працы? Бо пазней жа чыгуначныя пуці ў штрэках будуць заняты паражняком. Праз яго нікуды не праб'ешся з пляцоўкаю, якую дзе-небудзь вызваляць ад грузу. Усё-такі хто гэты Швэрмер? Чаму да яго адносяцца з пашанаю? Ці ў гэтым звычайная павага да старэйшага?»

А Швэрмер паставіў на бліжэйшы край пляцоўкі лямпу і жэстам рукі параіў Янку зрабіць гэтак жа. Хлопец таксама вызваліў занятую руку, і яны абодва

пакацілі пляцоўку перад сабою. Ідучы побач, кацілі яе моўчкі, спачатку па асветленым штрэку, дзе Янка адчуваў сябе няўтульна і няёмка ад таго, што Швэрмер пры святле мог выразна бачыць зблізку, які жудасны выгляд у ягонага падручнага. Потым кацілі цёмнымі тунелямі, некалькі разоў спыняючыся і падоўгу чакаючы, пакуль наперадзе вызваляць шлях саставы парожніх ваганетак. У тунелях ад святла іхніх лямпаў спераду пляцоўкі іскрыліся два промні, што ўдалечыні набліжаліся адзін да аднаго. Гэта паблісквалі рэйкі, раз'езджаныя і накатаныя коламі ваганетак. Янку здавалася, што дзесьці там, дзе яны звужаліся, пляцоўка, нарэшце, сыдзе з іх — і тады прыйдзецца з ёю валаводзіцца, падымаць або падважваць. Так не хацелася гэтым займацца. Лепш нічога не рабіць, а толькі каціць яе парожнюю.

Мінуў час, праз пэўныя інтэрвалы колы мерна і аднатонна пастуквалі на стыках рэек, а пляцоўка па-ранейшаму няспынна кацілася ўдалечыню. Паступова Янка зусім прызвычаіўся да гэтага. Усё-такі лепей на пару з гэтым маўчуном каціць у невядомасць пляцоўку, чым аднаму ў забоі адбіваць малатком вугаль і шуфлем адкідаць яго на транспарцёр. Заспакойвала цішыня, якая пахла прэлаю драўнінаю і неабжытым цяплом.

Хаця час поўз марудней, чым каціліся колы пляцоўкі, аднак яго мінула ўжо нямала. Пасля некалькіх заблытаных калідораў іх разам з пляцоўкаю праглынула разяўленая пашча змрочнага штрэка, у якім удалечыні ўжо не іскрыліся два промні. Янка палічыў, што далей чыгункі няма. Але, на здзіўленне, праваю нагою на хаду абмацаў рэйку, дый пляцоўка па-ранейшаму кацілася наперад. Па гэтым штрэку, відаць, не адкатвалі вугаль і не падавалі паражняк, таму рэйкі пацьмянелі і заржавелі.

Яны пракацілі пляцоўку метраў трыста і нечакана вымушаны былі спыніцца. Далей шлях перагарадзіла абваленая парода, кучу якой зблізку заўважылі наперадзе.

— Донэрвэтэр, гот фэрдамт нох маль! — вылаяўся Швэрмер, асвятляючы сваёю лямпаю спачатку конус абвалу, а потым дзюрку ў столі.— Юнгэ, юнгэ, заўсёды, калі хочаш выйграць хвіліны, абавязкова прайграеш гадзіны. Спяшаючыся, не ўлічыў, што гэта можа

напаткаць,— па-нямецку сказаў ён паспакайнелым голасам і наважыўся некуды ісці. Але раптам схамянуўся, нібы перадумаў пакідаць аднаго палоннага, і прамовіў: — Ёган, бяры лямпу, пойдзем.

Янка яшчэ не ведаў, што яны дабраліся ў закінуты штрэк, дзе тая лябёдка, якую неабходна пагрузіць на пляцоўку і некуды перавезці. Яму ўсё роўна, куды вядзе яго Швармер. Хлопец гатоў хадзіць увесь дзень, абы толькі не займацца цяжкою працаю.

Спачатку яны падышлі да лябёдкі, што адзінока стаяла пад сцяною штрэка. Швармер з лямпаю ў руках уважліва агледзеў яе з усіх бакоў. На барабане лябёдкі быў намотаны металічны трос, нібы провад сувязі на шпулі. «Тэлефонны кабель, які злучае пекла з раем,— з'едліва падумаў Янка. Ён прыкмеціў, што лябёдка зрушана з месца, на якім была ўмацавана.— Калі ў здаравяка Хольца не хапіла сілы, каб перавезці яе адсюль, дык мы і пагатоў нічога не зробім. Не разумею, на што спадзяецца Швармер?»

Па бясконцых змрочных штрэках — па тых, дзе ўжо, напэўна, кацілі пляцоўку, і па тых, якімі яшчэ не крочылі сягоння, яны сходзілі да драўлянае скрыні са Швармеравым рыштункам, узялі шуфель, пілу з кіркаю, разводны ключ і вярнуліся назад. Янку здалося, што ў абодва канцы яны прайшлі не меней шасці кіламетраў, бо затрацілі нямала часу. Хлопца ўразіла і здзівіла тое, што мацавальшчык арыентуецца ў змрочных лабірынтах, нібы ў сваёй кватэры. Янка заблытаўся б тут, як у дрымучым лесе.

Швармер падаў рукою знак, каб Янка адышоў убок, падалей ад дзюркі ў столі, а сам шуфлем пачаў нетаропка зразаць конус абвалу. «Бач ты, а ён, як і ў мінулы раз, клапоціцца пра маю бяспеку,— думаў хлопец, гледзячы, як немец спачатку раскідаў вяршыню і бакі конуса, па-майстэрску арудуючы шуфлем, а потым наском яго скрыгочучы па рэйках, над імі пачаў праворваць канаўку.— Нічога не скажаш, стары — чалавечны, мяне надта не турбуе».

Па глыбокіх разорах, што Швармер праараў шуфлем над рэйкамі, яны ўдвух без перашкоды пракацілі пляцоўку і прыпынілі насупраць лябёдкі. Калі сціх металічны шоргат колаў, Янку здалося, што паблізу штосьці прашамацела. На поўныя грудзі ён удыхнуў паветра. Яно пахла мышамі і запусценнем. «Няўжо

прашамацелі пацукі? Быць не можа, каб яны тут знаходзілі прытулак. Чым жа яны жывяцца ў такім запусценні?»

Але гэтыя пытанні адразу ж адпалі самі сабою, калі Швэрмер прымацаваў у штрэку пінжак, дастаў з кішэні пакунак, загорнуты газетаю, і падвесіў на чырвоным провадзе так, каб ён вісеў далей ад сцяны.

Немец адключыў ад лябёдкі клему сілавога кабеля, пахадзіў навокала і прывалок аднекуль ладны кавалак пароды. У падэшве штрэка, пад самым краем непадатлівага механізма ён выдзеўб кіркаю адтуліну, паўзверх прынесенага кавалка пароды прасунуў у яе стойку і, налягаючы цяжарам усяго цела, нібы вагаром, падважыў лябёдку. Жэстам рукі паказаў, каб Янка паклаў паабапал вагара, як латы, абедзве плашкі — адным канцом пад лябёдку, а другім — на край платформы.

Але далей у іх справа не рушыла, хоць яны і праваладзіліся нямала часу. Рычаг, якім падважвалася лябёдка, нельга было выкарыстаць для перасоўвання яе ад сценкі штрэка. Калі яны абодва ўпіралі ў сценку канцы стоек паабапал лябёдкі, намагаючыся імі, нібы рычагамі, зрушыць яе з месца, яна ледзь-ледзь паддавалася, краталася, але адначасова ссоўвала на пляцоўку латы. А калі Янка падтрымліваў латы рукамі, Швэрмер ледзьве зрушваў лябёдку, якая пасоўвалася наўскасяк, скасабочваючыся.

Янка, канечне, надта не прыкладваў сілу, бо бачыў, што выходзіць з іхніх намаганняў. Швэрмер жа, надрываючыся, яшчэ доўга і настойліва марна завіхаўся, а потым нарэшце зразумеў, што нічога не зробіць сілаю. Але ён ужо не адыходзіў ад лябёдкі. Нібы забаўляючыся з ёю, адною рукою цягнуў за крук, адмотваючы металічны трос, а другою злёгку пакручваў назад барабан, ад чаго трос зноў намотваўся. Раптам Швэрмераў твар на імгненне асвяціла нейкая здагадка, ад якой хітравата бліснулі зрэнкі глыбока пасаджаных вачэй. Па-ранейшаму не выпускаючы з аднае рукі крук, пальцамі другой ён абмацваў трос, як быццам навобмацак пераконваючыся ў яго трываласці — і ўжо заклапочанасць зацьміла прасветленае аблічча. Але па тым, як Швэрмер пачаў уважліва аглядаць бэлькі пад столлю, адчувалася, што яго непакоіць нейкая здагадка. Калі немец пераканаўся ў тым, што каля

лябёдкі ладны канец кабелю ні да чаго не прымацаваны, ён зноў падключыў клему. Янка падумаў, што на гэтым і закончылася сённяшняя адысея. Хлопец не ведаў, што Швэрмер зусім не той чалавек, які так проста кіне пачатую справу.

Мацавальшчык падкаціў пляцоўку, стаў на яе і, адмотваючы з барабана трос, прасунуў яго праз чыгунныя бэлькі, а крук зачапіў за металічную планку лябёдкі. Адштурхоўваючы назад пляцоўку, жэстам рукі ён паказаў, каб Янка адышоў далей, а сам асцярожна тузануў за рычаг лябёдкі. Пачулася вуркатанне. Тужэй і тужэй напінаўся трос, ад натужлівага скрыгатання якога ўздрыгнулі і скалануліся бэлькі — і лябёдка, нібы жывое страшыдла, адварочваючы ад сцяны хвост кабелю, павольна папаўзла, рыючы перад сабою падэшву штрэка. Калі яна валюхнулася праз рэйку і ссунулася на сярэдзіну чыгуначнай каляі, Швэрмер зноў тузануў за рычаг і спыніў яе рух. Ягоны твар асвяціўся ад задавальнення, што ён дадумаўся прымусіць лябёдку цягнуць самую сябе. Цяпер, мабыць, па ягонай задуме яна павінна была падымаць сябе ўгару. Але Швэрмер, відаць, сумняваўся, ці вытрымае вялікі цяжар металічны трос, таму даў яму перадышку, а сам тым часам жэстам паказаў Янку, каб той адразу ж падкаціў пляцоўку, як толькі лябёдка павісне ў паветры. Мацавальшчык зноў тузануў за рычаг і, ужо не адыходзячы, насцярожана сачыў, як груvасткая металічная істота, гыркаючы, натужліва падымалася ўгару, адхіляючы хвост да сценкі штрэка. Калі Янка зрабіў тое, што ад яго патрабавалася, Швэрмер павярнуў рычаг — і лябёдка на імгненне затрымалася, пагойдваючыся ў паветры, а потым, скіраваная ягонымі рукамі, важка асела на сярэдзіну пляцоўкі.

— Юнгэ, юнгэ, калі не хапае сілы, трэба ўжыць хітрасць,— па-нямецку прамовіў сам сабе Швэрмер — і, нібы вызваляючы рукі, якія ўтрымлівалі непасільную ношу, уздыхнуў.

«Трэба розумам надтачыць, дзе сіла не возьме,— кажа народная прымаўка.— У здаравяка Хольца вунь колькі сілы, дый хітрасці яму не пазычаць, а што з гэтага?» — думаў хлопец, пераконваючыся ў тым, што стары мацавальшчык не толькі з вопытам, але і з розумам.

Задаволены, Швэрмер памкнуўся быў збіраць рыштунак, відаць, наважваючыся рушыць адсюль з пляцоўкаю. Але выцягнуў з кішэнькі на пахвіне штаноў гадзіннік, зірнуў на цыферблат і, не верачы сваім вачам, здзівіўся:

— О, дык ужо абед?! Юнгэ, юнгэ, змарнаваць гэтулькі часу! — расчаравана прамовіў ён па-нямецку, на хаду кладучы ў кішэньку гадзіннік і адвязваючы загорнуты газетаю пакунак.

Швэрмер дастаў з кішэні пінжака біклажку, наблізіўся да пляцоўкі і, сядаючы на яе край, прапанаваў Янку сесці таксама. Хлопец сеў на другі край, каб не глядзець, як немец будзе палуднаваць. Але Швэрмер запрасіў сесці побач. Янка неахвотна перасеў, не ведаючы, куды падзець вочы і як сябе паводзіць у такім стане.

Мацавальшчык прыхінуў да жывата біклажку, на ўлонні разгарнуў пакунак, разарваў на два кавалкі газету і пароўну раздзяліў бутэрброды. Адзін з іх на газеце моўчкі працягнуў Янку.

— Дзякуй! — адказаў хлопец, стараючыся спакойна браць бутэрброд, але адчуў, як да горла імгненна падкаціўся даўкі камяк, які перашкодзіў бы з нармальнай інтанацыяй вымавіць яшчэ хоць слова.

«Аказваецца, пачуццё чуласці яшчэ не зусім прытупілася ў змардаванага і да ўсяго абыякавага чалавека. Добра, што яно толькі прытаілася, а ў хвіліны праяўлення чалавечнасці іншымі абуджаецца дзесьці на дне душы. Хай бы гэтак прытойвалася пачуццё голаду. Дык не, яно не дае спакою ні на хвіліну. Мучыць з раніцы да начы. Яшчэ добра, што сон яго адымае часова»,— думаў Янка, раз-пораз стрымана адкусваючы кавалкі бутэрброда і час ад часу ўпотайкі касавурачыся на суседа, каб прагна не абганяць яго з ядою. На імгненне ў хлопца ўзнікла жаданне загаварыць з немцам. Янка ўсё болей пераконваўся, што мацавальшчык някепскі чалавек. Дый што ён можа зрабіць палоннаму? Няма чаго асцерагацца таму, хто ўжо нічога не губляе ў жыцці. Але хлопец яшчэ ўстрымліваўся, бо яму здавалася, што калі ён зараз загаворыць па-нямецку, дык немец ад нечаканасці і здзіўлення папярхнецца кавалкам неразжаванага бутэрброда. Дый не да размоў, калі ў носе спакусліва казыча хлебны пах, ад якога, здаецца, вось-вось закру-

жыцца галава. А хлеб пульхны, не такі эрзац, які выдаюць палонным. Гэты, мабыць, выпякаюць у мясцовай пякарні? Янка адкусваў кавалкі бутэрброда і разглядаў дзве лусты, кожная з якіх таўшчынёю ў мезенец. Усярэдзіне яны намазаны маслам. Скоса зіркаючы, хлопец бачыў і на слых адчуваў, як спакойна палуднаваў Швэрмер, не спяшаючыся разжоўваў кожны кус, запіваючы глытком кавы.

Янку падганяў голад. Як на добры лад, дык гэты бутэрброд хлопец праглынуў бы імгненна. Але ён сарамліва стрымліваў апетыт, каб не закончыць полуднік раней за немца. Нарэшце Швэрмер працяглым глытком кавы запіў даедзены бутэрброд і моўчкі перадаў біклажку Янку. Сягоння хлопец не пакутаваў ад смагі, бо не адчуваў фізічнае стомы. Але ўсё-такі ўзяў біклажку, прагнаў каваю апошні разжаваны кус бутэрброда і для выгляду адпіў яшчэ пару глыткоў гаркавай вадкасці.

— Данке! — прамовіў ён і, працягваючы біклажку Швэрмеру, нерашуча пацікавіўся: — Загэн зі, шцімт'с, дас але ін Дойчланд кайнэн зюсэн кафэ трынкэн, одэр зінд дэсэн нур берглёйтэ гевёнт? [1]

Біклажка так і засталася ў працягнутай Янкавай руцэ, бо немец ад нечаканасці ажно падхапіўся з пляцоўкі.

— Юнгэ, юнгэ, дык ты разумееш і размаўляеш панямецку?! Бог з табою! Так, так! Бог не толькі з намі, але і бог з табою! Юнгэ, юнгэ, які ты скрытны чалавек! — з палагоднелай інтанацыяй па-нямецку прамовіў ён апошнюю фразу, беручы з Янкавай рукі біклажку.

— Міжволі будзеш скрытны. Не толькі анямееш, а, здзічэлы, ад жудасці завыеш зверам,— як мага спакайней паспрабаваў вымавіць па-нямецку Янка, але ў ягоным голасе ўсё-такі прагучэлі ноткі іроніі і сарказму.

Замест таго каб што-небудзь прамовіць у адказ, Швэрмер толькі разгублена паціснуў плячамі, як быццам не знаходзячы, што сказаць, і пачаў нетаропка збіраць рыштунак.

Яны пакацілі перад сабою пляцоўку з лябёдкаю.

---

[1] Дзякуй! Скажыце, калі ласка, у Германіі ўсе п'юць несаложджаную каву ці гэта толькі прывычка ў шахцёраў?

Янка не разумеў, чаму, нагружаная, яна рухалася гэтак жа, як і парожняя — ці таму, што колы лёгка каціліся па рэйках, ці таму, што сам ён падсілкаваўся. Усё-такі бутэрброд ладны памерам, дый галоўнае — каларыйны. Бо і гэты хлеб — не эрзац, і масла — не маргарын.

Цяпер, ідучы побач, яны размаўлялі між сабою. На Швэрмерава запытанне, кім працаваў да вайны Янка, хлопец адказаў, што ён студэнт. У сваю чаргу Янка даведаўся, што Швэрмер усё жыццё працаваў у гэтай шахце. Найболей — у забоях. Потым некаторы час быў стваламым. Цяпер ходзіць у мацавальшчыках.

А калі Швэрмер пацікавіўся, на каго вучыўся Янка, і хлопец прызнаўся, што на настаўніка, дык немец шматзначна прыцмокнуў губамі. У гэтым прыцмокванні адчувалася ягоная глыбокая павага да настаўніцкай прафесіі.

«Але ж звычайны забойшчык або мацавальшчык наўрад ці здолеў бы гэтак, як ён, разбірацца ў тэхніцы? А ў яго бач як варыць галава! Прымусіў лябёдку рухацца па падэшве штрэка, падняцца ў паветра, пагрузіцца на пляцоўку. Напэўна, вось таму ўсе ў шахце гэтак пачціва да яго ставяцца»,— падумаў Янка.

Хлопец яшчэ болей пераканаўся ў гэтым, калі ў штрэках пачалі сустракацца на шляху саставы ваганетак. Швэрмер спачатку ўважліва аглядаў іх, прымяраючыся, якія карацейшы, а які даўжэйшы, і штосьці прыкідваў у думках. Потым, як вопытны дыспетчар, то пераводзіў стрэлку і, адганяючы пляцоўку на бакавую каляю, даваў зялёную вуліцу саставу паражняка, то прыстройваўся ў хвост цуга, нагружанага вугалем — і яны з пляцоўкаю рухаліся далей.

## 26

Спачатку Швэрмер узяў Янку падручным, таму што злітаваўся над ім, пашкадаваў цыбатага юнака, змардаваны выгляд якога выклікаў спачуванне. Янка быў наймалодшы сярод палонных ранішняй змены. У перасыльных лагерах і ў апошнім шталагу ягоных аднагодкаў настолькі ператасавалі за калючаю агароджаю паасобных блокаў і ізалятараў, што яны, нібы валеты паміж казыроў, тузоў ды каралёў, толькі зрэдку мільгалі сярод старэйшых і пажылых палонных, пакуль, нарэшце, зусім не зніклі, як вынятыя з калоды малодкі.

Янка і ў студэнцкую пару быў хударлявы. Але цяпер ягоная худзізна выступала з усёю жахліваю акрэсленасцю і не магла не кінуцца ў вочы пажылому чалавеку, у якога не ачарсцвела душа.

Аднак пасля таго як мацавальшчык даведаўся, што Янка ведае нямецкую мову, у Швэрмера ўзнікла павышаная цікаўнасць да чужога юнака, які быў для немца жыхаром зусім іншага, невядомага свету. А старога не магло не спакушаць тое, што з гэтым юнаком можна пагаварыць. Да таго ж мацавальшчыку надакучыла штодзённая адзінота пад зямлёю, дый будучая Янкава прафесія таксама выклікала павагу з боку кемлівага чалавека працы.

У забоі, навідавоку ў іншых суайчыннікаў, Швэрмер наўрад ці ўзяў бы палоннага падручным. А ў штрэках ён адчуваў сябе паўнапраўным гаспадаром становішча. Канечне, калі б мацавальшчык узяў памочнікам пажылога палоннага, дык гэта магло б выклікаць пакепліванне з боку нямецкіх шахцёраў дый незадаволенасць з боку штайгера. А так — якое патрабаванне з дзівакаватага саманадзейнага старога ды з гэтага лядашчага, непрыгляднага хлопца, якому толькі і месца ў падручных?

Магчыма, штайгер паглядзеў бы на Швэрмера скоса за тое, што мацавальшчык узяў у памочнікі палоннага юнака, калі б сярод нямецкіх шахцёраў ранішняй змены працавала моладзь. Але ж яе Янка не заўважаў. Ён не разумеў, ці то нямецкіх юнакоў падчыстую заграбала армія, ці то гітлерюнг не лічыў за гонар пастаўляць іх на шахты?

Як бы там ні было, але Швэрмер ужо месяц узапар штодзённа браў Янку падручным. Калі б хлопец не запісаў у блакноце, які некалі падараваў Вадзім, дату суседавай смерці, ён не паверыў бы, што з тае пары мінула гэтулькі часу. Янка заглядваў у блакнот, каб не прапусціць Вадзімавы сарачыны. Хлопец добра памятаў, што яны са Швэрмерам перавозілі лябёдку якраз на другі дзень пасля суседавай смерці.

І трэба ж так здарыцца, што менавіта назаўтра пасля таго трагічнага дня, у які недарэчна загінуў Вадзім і ледзьве не аддаў богу душу ён сам, Янку, нарэшце, пашанцавала, нібы ў азартнай карцёжнай гульні. Хлопец ужо не думаў і не спадзяваўся, што выпадак можа перайначыць ягоны лёс. Тым болей ён не

чакаў, што галоўную ролю ў гэтых зменах адыграе немец, стары мацавальшчык, які намнога аблегчыць яго паднявольнае існаванне.

Работа ў падзямеллі цяпер не была для Янкі невыноснай, бо тое, што ён памагаў мацавальшчыку ў штрэках, не ішло ні ў якое параўнанне з працаю ў забоях. Не напружваючы сілы, прастойваць з расслабленым целам і толькі час ад часу падаваць Швэрмеру паленцы ці кавалкі пароды — гэта зусім не тое, што адколваць адбойным малатком глыбы вугалю і шуфляваць іх на канвеер. Хоць «каржы» ды «слоеныя пірагі», якія ён падаваў мацавальшчыку, нельга было ўгрызці, затое яму перападала сёе-тое. Швэрмер штодня частаваў Янку якім-небудзь ласункам. Першыя дні ён пароўну дзяліў на двух свой полуднік.

Аднойчы моўчкі працягнуў дзве лусты хлеба, намазаныя ў сярэдзіне ружаватым тлушчам. Хлопец еў смачны пачастунак, але не мог вызначыць, з чым бутэрброд. Па колеру скаромніна трошкі нагадвала масла, а па смаку была падобна да топленага свінога тлушчу. Янкава маці калісьці намазвала яму скібкі хлеба топленым свіным тлушчам, які чамусьці называла шмальцам. Хлопец сказаў пра гэта Швэрмеру. Мацавальшчык растлумачыў, што бутэрброд не са шпікам, а з паштэтам, і здзівіўся, чаму Янкава маці называла шмальцам топлены свіны тлушч. Янка ведаў, што слова «шмальц» па-нямецку азначае сала, а топлены свіны тлушч — «шпік». І гэтае слова сустракалася ў іхняй вёсцы, пра што ён таксама сказаў Швэрмеру. Палуднуючы, яны выказвалі здагадкі наконт таго, якім чынам гэтыя словы маглі трапіць у Янкавы мясціны — з панскага маёнтка ці ў сусветную вайну — праз кайзераўскіх салдат?

Затое Янка не ўяўляў паштэта. Швэрмер растлумачыў, што паштэт шырока распаўсюджаны ў Германіі. Яго робяць з сырога свінога мяса і абваранага сала, якія прапушчаны праз мясарубку і перамешаны ў пэўных суадносінах.

— А з чым у вас найболей распаўсюджаны бутэрброды? — пацікавіўся Швэрмер.

Янка прызнаўся, што ў яго на радзіме няма завядзёнкі рабіць бутэрброды. Касцы, аратыя, лесарубы і людзі іншай цяжкой працы звычайна бяруць на полуднік добры кавалак хлеба і ладны шмат сала.

Назаўтра ў пачатку абедзеннага перапынку Швэрмер нетаропка разгарнуў газету, у якую быў загорнуты полуднік, і, працягваючы Янку асобны пакуначак, што таксама ляжаў там, нібы між іншым, удакладніў:

— Ёган, гэта перадалі табе мая жонка і дачка.

У пакуначку быў бутэрброд, загорнуты палавінаю роўна адарванай газетнай старонкі: дзве лусты, акуратна адрэзаныя ад квадратнага бохана, перакладзеныя тонкімі скваркамі сала.

З тае пары ў пачатку абедзеннага перапынку мацавальшчык штодзённа разгортваў газету са сваім полуднікам, у якой быў яшчэ прыхаваны асобны пакуначак, і аддаваў яго падручнаму. У пакуначку хлопец заўсёды знаходзіў ладны бутэрброд: зрэдку — з каўбасою, часамі — намазаны маслам, а найчасцей — са скваркамі сала.

Спачатку Янка прыкмеціў, што ў ягоным бутэрбродзе лусты таўшчынёю ў вялікі палец, у той час як у Швэрмера яны тонкія, як мезенец. Потым хлопец таксама заўважыў, што найчасцей яму перападае полуднік са скваркамі. Янка здагадаўся, што сваю гаворку з немцам пра бутэрброды мацавальшчык пераказаў дома.

Праўда, Швэрмер ніколі не паўтараў і не напамінаў болей, што гэта ягоная жонка з дачкою перадаюць Янку полуднік. Толькі аднойчы мацавальшчык паспешліва закончыў змену і, не затрымліваючыся, але нібыта між іншым, даверліва сказаў, што на паверхні яго павінны чакаць жонка і дачка.

У той дзень Янка бачыў іх таксама. Здарылася так, што нямецкія шахцёры, якія падняліся на паверхню, чакалі, пакуль канваіры выстраяць і адвядуць з праходу палонных.

Хлопец павярнуў галаву і спераду натоўпу пазнаў мацавальшчыка. Побач з ім былі дзве жанчыны. Крокаў за дваццаць ад іх Янка стаяў бокам, крайні ў калоне. У ягонай сярэдзіне варухнулася пачуццё ўдзячнасці да гэтых жанчын. Адна з іх, бялявая і маладая, была даволі мілавідная. Але хлопец асабліва не прыглядаўся, бо паспеў заўважыць, што абедзве яны разглядаюць яго самога. Янка імгненна павярнуў галаву, утаропіў позірк у спіну пярэдняга палоннага і адчуў, як да твару прылівае кроў і ўспыхваюць полымем вушы. Засаромеўся ён не жанчын. Яму стала сорамна за

сябе, за сваю долю, за тое, што дзве гэтыя жанчыны перадаюць яму, маладому, міласціну, а ён нават не можа сказаць ім слова падзякі.

«Добра ўжо і тое, што ты нарэшце гэта адчуваеш і разумееш,— суцяшаў ён сябе, калі калона рушыла ў бок пасадачнай пляцоўкі.— Значыць, у тваёй галаве наступае празарэнне, а ўсярэдзіне прачынаюцца і ажываюць чалавечыя якасці, якія выцясняюць жывёльнае атупенне... Але хто ж сюды загнаў нас? Фашысты. Суайчыннікі Швэрмера. Суайчыннікі ягонай жонкі і дачкі...»

Назаўтра ў часе полудніка Швэрмер не прамінуў, каб не сказаць, што ўся ягоная сям'я ўчора бачыла Янку.

— Юнгэ, юнгэ. Мая жонка смяялася дома, што наш цыбаты Ёган на галаву ўзвышаецца над калонаю...

Янка не паспеў азірнуцца, як праляцеў месяц. Непрыкметна міналі дзень за днём, і здавалася, што кожны з іх — карацейшы за папярэдні. Мабыць, такое адчуванне было выклікана тым, што малады арганізм цяпер не знясільваўся працаю дый у дадатак пастаянна падмацоўваўся каларыйнаю стравою, якая ніколі не перападала ў палоне. За час блукання па перасыльных лагерах і шталагах Янка ў вочы не бачыў ніякага тлушчу.

Упершыню ў няволі хлопцу прыгадалася мудрае выслоўе: «Быццё вызначае свядомасць», якім ён, бывала, іранічна казыраў, перабіваючыся нішчымніцаю ў студэнцкую пару, і сэнс якога цяпер па-свойму адчуў усёю істотаю.

Хлопец невыразна ўсведамляў, што з ім нешта адбываецца, але менавіта што — яшчэ не мог як след асэнсаваць. У маленстве ён перажываў два падобныя выпадкі. Адзін, як хлапчуком абмарозіў на руках пальцы і маці сілком доўга-доўга трымала іх у халоднай вадзе, а другі, калі праяўляў негатыў пасля нявопытнага фатаграфавання.

Пры першым выпадку дзесяткі вострых іголак пакалвалі пальцы, ад чаго жарам абдавала ўсё цела, але ён цярпліва чакаў, што ўсё-такі ж павінна настаць паляпшэнне.

А пры другім — у праявіцелі на негатыве марудна і паволі штосьці вымалёўвалася, але не акрэслівалася выразна.

Цяпер Янка адчуваў, як у падзямеллі, сагрэтая Швэрмеравай цеплынёю, адтайвала ягоная настылая душа, прагна ўбіраючы ў сябе прарошчаныя зярняткі дабрыні і спагады.

Пасля таго як з палёў сыдзе снег, нават змрочнымі вясновымі начамі гэтак адтайвае глеба ў прадчуванні сяўбы.

Янка зноў пачаў думаць пра Волю. Яна ўспаміналася яму ўсё часцей і часцей.

Хлопец упершыню ўбачыў яе гразкай вясною. І чамусьці адразу звярнуў увагу на танклявую дзяўчыну ў цёмна-сінім паліто з моднымі паўкруглымі штрыфелямі. Статная, яна прайшла такою паходкаю, што ў ягоных вачах ажно замільгалі сонечныя зайчыкі ад яе высокіх бліщчастых боцікаў.

Праз некалькі дзён Янка быў прыемна здзіўлены, убачыўшы яе ў чарзе за кіпенем. На гэты раз яна была ў шэрай шаўковай кофтачцы і ў зеленаватым вельветавым сарафане. Хлопец адразу ж пазнаў дзяўчыну. Пакуль яна налівала з крана ў чайнік кіпень, яго самога як быццам абдавала варам.

Адкуль яна прыехала ўвесну? І як гэта ён не заўважаў яе ў інтэрнаце?

Можа, яшчэ не хутка пазнаёміліся б яны, калі б неўзабаве гэтаму не паспрыяў смешнаваты выпадак.

Аднойчы раніцаю, калі студэнты былі на занятках, а Янка, выкарыстаўшы сваё права вольнага наведвання лекцый, у інтэрнаце рыхтаваў семінарскі даклад, у дзверы хтосьці нясмела пастукаў.

— Заходзьце,— незадаволена буркнуў хлопец і ажно асекся на слове, калі ў прыадчыненыя дзверы прасунуўся яе твар.

— Там просяць да тэлефона каго-небудзь з вашага пакоя.

Тэлефонны апарат вісеў на сцяне калідора, каля століка дзяжурнага. Ідучы туды, Янка заўважыў праз прыадчыненыя дзверы, што дзяўчына ў пакоі падмятае падлогу.

З інстытута пазваніў сусед па ложку. Ён прасіў, каб Янка прынёс у чытальню пакінутыя на тумбачцы канспекты.

Вяртаючыся ў свой пакой, хлопец зразумеў, што

для знаёмства з дзяўчынаю наўрад ці будзе лепшы выпадак.

Ён шырэй адчыніў прыадчыненыя дзверы, нерашуча спыніўся і падзякаваў дзяўчыне за тое, што яна паклікала яго да тэлефона.

— Няма за што дзякаваць двойчы,— разгублена адказала тая, выпростваючыся.— Вы ж падзякавалі, яшчэ не ўстаючы з-за стала.

Збянтэжаны, хлопец не знаходзіў слоў для гаворкі, але ўсё роўна не крануўся з месца. Дзяўчына, відаць, таксама не ведала, што ёй рабіць, стоячы з венікам у руцэ пасярэдзіне пакоя. Не будзе ж яна вымятаць смецце да парога, на якім стаіць незнаёмы госць, хай сабе і няпрошаны.

— То, можа, уваходзьце,— няўпэўнена запрасіла дзяўчына пасля прыкрага маўчання і, разгубленая, прыставіла да сценкі венік.

Янка нерашуча ўвайшоў у пакой. Пры расчыненых дзвярах так і прастаялі яны тады ўсяго некалькі хвілін, насілу знаходзячы словы для недарэчнай гаворкі. Янка даведаўся, што пасля новага закона аб стыпендыях Воля пакінула вучобу ў Ленінградзе і паступіла на дзесяцімесячныя настаўніцкія курсы пры іх інстытуце.

З таго разу хлопец пачаў наведвацца ў пакой, дзе жыло чацвёра студэнтак. Але хутка трое з іх зразумелі, чаму зачасціў сюды цыбаты юнак, і стараліся не замінаць сваёй новай суседцы, затрымліваючыся ў інстытуцкай чытальні.

Янка з Воляй таксама не надта заседжваліся ў пакоі. Іх вабіла вясна. Студэнцкая вуліца была на ўскраіне горада. Далей распасціраліся зялёныя палі. Аднойчы ўвесь выхадны дзень яны абое праблукалі па наваколлі. Адчувалася стома. Янка, вядома, не выдаваў гэтага перад дзяўчынаю. А Воля некалькі разоў парывалася была сесці, але нічога ў яе не атрымлівалася. Як толькі яна спрабавала прысесці, на яе карычневай сукенцы веерам развіналіся частыя вузкія складкі, нібы расцягнутыя мяхі гармоніка. Дзяўчына, мусіць, пабойвалася, што яны пакамечацца. Янка прыкмеціў, як раззлаваная Воля міла прыкусвала спакуслівыя губы. І собіла ж ёй на доўгачасовы шпацыр адзець такую сукенку. Затое тады непрыкметна хлопец зірнуў на Воліны ногі. На іх, як улітыя, сядзелі адкрытыя туфель-

кі. Такія ногі нягожа было хаваць у высокія халявы гумовых боцікаў.

Калі Воля ўсміхалася, на абедзвюх шчоках з'яўляліся ямінкі, прыдаючы яе твару яшчэ больш сімпатычны выгляд. Вечарамі Янка прагна цалаваў яе шчокі. Потым схамянуўся, каб сваімі пацалункамі не павыраўніваць на іх ямінкі, і вясновымі начамі так прыпадаў да дзявочых губ, што тыя назаўтра былі прыпухлыя і чырванелі макавым цветам.

Усё роўна як пасля зацятай непрабуднай дрымоты, у ім абвострана абудзілася сумленне, якое настойліва непакоіла юнацкія думкі. У душы хлопец пачаў дакараць сябе за тое, што не па-людску ўспрыняў і перажыў Вадзімаву смерць. Яму было сорамна за свой тагачасны жывёльны стан з раўнадушнаю чэрствасцю.

Да вайны Янка бачыў, як у застоллі спраўлялі памінкі па нябожчыку. Ён ведаў, што пасля смерці блізкага адзначалі спачатку дзевяць, потым сорак дзён і, нарэшце, угодкі. Тады ён не надаваў сур'ёзнага значэння гэтаму звычаю, нават лічыў такі абрад перажыткам мінулага. А цяпер самому захацелася хоць сімвалічна адзначыць Вадзімавы сарачыны, каб як-небудзь апраўдацца перад суседавай памяццю. Усё-такі ж Вадзім быў самым блізкім чалавекам у няволі. Чаго толькі яны не перадумалі разам і чаго толькі не перагаварылі ўдвух?

На працягу месяца Янка нямала чаго паспеў перагаварыць ужо і са Швэрмерам. У першыя тыдні іхняй сумеснай працы размовы насілі павярхоўны характар. Звычайна гэтак заўсёды адбываецца пры сустрэчы незнаёмых людзей, якія хоць і хочуць пагаварыць, але спачатку як быццам прыглядаюцца і навобмацак вывучаюць адзін аднаго, каб мець пэўнае ўзаемнае ўяўленне. Гэтак і яны абодва ўважліва прыглядаліся адзін да аднаго.

Стары мацавальшчык, аказваецца, не такі маўчун, якім ён здаваўся спачатку. Маўклівы ён быў толькі таму, што яму не было з кім пагаварыць. Не стане ж чалавек размаўляць сам з сабою ў прысутнасці маладзнаёмага, які пра яго няведама што можа падумаць.

Швэрмер ахвочы да гаворкі, але разам з тым ён — асцярожны. Янка зразумеў гэта на другі ж дзень пасля

таго, як яны перавозілі лябёдку. Назаўтра, калі трэба было залатваць дзюркі ў столі закінутага штрэка, Швэрмер зноў узяў Янку падручным. На парожняй «казе» яны ўдвух вазілі туды і прывозілі адтуль Швэрмераву сталюгу і ўвесь неабходны рыштунак. Па дарозе і за працаю мацавальшчык увесь час не змаўкаў. Ён быў настолькі гаваркі, што Янку здавалася, нібыта немец ніяк не можа выгаварыцца за ранейшае доўгае маўчанне. Але часам Швэрмер прыкметна мяняўся, станавіўся маўклівы і зусім не размаўляў з палонным. Асабліва гэта кідалася ў вочы ў тыя хвіліны, калі яны набліжаліся да ягоных суайчыннікаў, якія ў штрэках лябёдкамі адцягвалі саставы ваганетак.

Швэрмераву недружалюбнасць да Хольца Янка адчуў адразу ж. Стары мацавальшчык, мабыць, добра ведаў, як адносіцца да яго здаравяк-забойшчык, і таму ўзаемна тым жа адплочваў Хольцу.

Як толькі Швэрмер з Янкам перавезлі ў іншае месца лябёдку, задаволены мацавальшчык з іроніяй за вочы пачаў абгаворваць Хольца. Маўляў, у здаравяка сілы хоць адбаўляй, а розуму не хапіла на тое, каб зрушыць лябёдку з месца.

Хлопец таксама не ўстрымаўся і падрабязна расказаў, як Хольц браў яго падручным і настойліва выпытваў, пра што гаварыў Швэрмер з Янкам, калі яны працавалі разам. Янка прызнаўся, як ён разыгрываў Хольца сваім няведаннем нямецкай мовы. Швэрмер задаволена смяяўся. Праўда, адчувалася, што гэта навіна яго ніколькі не здзівіла. Можа, Янку і не варта было расказваць пра Хольцавы роспыты, але ўспаміны пра тое, як Хольц бессаромна, па-лабавому выпытваў тады ў яго пра Швэрмера, зноў выклікалі прыліў абурэння. Янка адчуваў, што ён не мае права маўчаць.

Хлопец, вядома, не мог прадбачыць, што ягоныя словы, нібы драбочкі замаруджанага ўзгаральнага рэчыва, упадуць на прыхаваны агонь узаемнай непрыязнасці паміж абодвума немцамі, які ў далейшым успыхне хіжым полымем, што ледзь не апаліць Янку.

## 27

Швэрмер па-ранейшаму штодзённа браў Янку падручным. Абодва яны прывыклі адзін да аднаго і адчувалі сябе, як знаёмыя. Стары мацавальшчык дзяліўся з юнаком сваімі бутэрбродамі і

думкамі, і Янка ад яго таксама нічога не ўтойваў. Паступова перад хлопцам раскрываліся разнастайныя рысы Швэрмеравага характару. То немец здаваўся надзвычай простым, то здзіўляў цвярозымі разважаннямі.

У першыя дні іхняй сумеснай працы, у часе ўзаемнай размовы, уражаны прастатою і шчырасцю мацавальшчыка, Янка ўжыў зварот «геноссэ» [1]. Швэрмер з абыякавым выглядам прапусціў гэта міма вушэй. Але пасля таго як Янка звярнуўся гэтак да яго яшчэ некалькі разоў, мацавальшчык разгублена сказаў, што ў іх няма завядзёнкі ўжываць такі зварот. Маўляў, гэтак звяртаюцца толькі да партыйных таварышаў.

Янка збянтэжыўся, бо ў школе і ў інстытуце, вывучаючы нямецкую мову, яны карысталіся толькі гэтым словам.

— Значыць, да Хольца можна гэтак звяртацца, а да вас — нельга? — паціскаючы плячамі, запытаўся ён са здзіўленнем.

Швэрмер адчуў, што хлопец няправільна зразумеў яго, і засмяяўся. Ён растлумачыў, што пад партыйнымі таварышамі падразумеваюцца нацыянал-сацыялісцкія босы. А Хольц хоць і бывае на зборышчах, арганізаваных імі, але ён жа сядзіць у зале, у той час як яны, нібыта багі, узвышаюцца на сцэне.

— Іх раздзяляе глыбокая яма, хаця ў ёй аркестр іграе туш або бравурны марш,— па-філасофску зазначыў Швэрмер.

Янка ўсё роўна адчуваў сябе ніякавата з-за таго, што не ведаў, як ужываецца ў Германіі слова «геноссэ».

Але пры чым жа ён, што простае і такое звычайнае слова страціла тут сваё першапачатковае значэнне, набыло інакшы сэнс і зусім новы змест, чаго па-ранейшаму ніхто нават не падазрае ў яго на радзіме, вывучаючы нямецкую мову?

Пасля гэтага выпадку Янка не ведаў, як яму звяртацца да Швэрмера. Называць яго гэр — пан — у хлопца не паварочваўся язык, бо гэтае слова ў Янкавым разуменні даўным-даўно аджыло сябе, было нейкім нязвычным і чужародным. Ну які з мацавальшчыка пан? Смех, дый годзе!

---

[1] Таварыш.

Некаторы час пры размовах падручны звяртаўся да Швэрмера са словам «камарад» [1]. Але пазней, усё болей прывыкаючы да мацавальшчыка, расчулены ягонаю пастаяннаю падтрымкаю і спагадаю, Янка незаўважна для сябе пачаў называць старога «фатэрам» [2]. Па ўзросце пяцідзесяцідвухгадовы Швэрмер, вядома, падыходзіў хлопцу ў бацькі, але на самой справе не выглядаў такім старым, якім здаваўся Янку. Юнакам пажылыя людзі заўсёды ўяўляюцца старымі.

Часамі Янку здзіўляла Швэрмерава наіўнасць. Аднойчы мацавальшчык рассмяшыў ёю падручнага. Цікавячыся жыццём Янкавых суайчыннікаў, Швэрмер з сур'ёзным выглядам на твары нечакана спытаўся ў хлопца, ці праўда, што ў іхніх вёсках абагулены не толькі маёмасць і прылады працы, але і людзі ў калектыўнай гаспадарцы ўначы спяць супольна, пад аднюю суцэльнаю коўдраю.

Рагочучы, Янка ледзь вымавіў, што гэта несусветная хлусня. Хлопец расказаў пра сапраўдны стан рэчаў і спытаўся, адкуль у Швэрмера такія звесткі. Мацавальшчык адказаў, што ён вычытаў пра гэта ў кнізе. Янку чамусьці таксама прыгадалася сенсацыйнае паведамленне нейкага замежнага агенцтва пра спецыяльныя злучныя пункты, на якіх адабраныя эсэсаўцы чыстакроўнай арыйскай расы абслугоўваюць незамужніх жанчын і ўдоў, і хлопец у сваю чаргу пацікавіўся, ці праўда гэта.

Ад здзіўлення Швэрмер ажно разявіў рот і толькі збянтэжана пацінуў плячамі.

— А я пра гэта таксама чытаў,— засмяяўся Янка.

Друкарскія машыны ўявіліся хлопцу малатарнямі, якія з грукатам вымалочваюць людзям навіны. Як тыя падавальшчыкі няспынна падаюць у цапы малатарняў развязаныя снапы, гэтак і ў друкарскія машыны карэспандэнты бясконца падкідваюць інфармацыю. А ў выніку ў грудах намалочанай мякіны і аціры паспрабуй адшукаць ды вылушчыць зярняткі праўды. Дык ці ж можна вінаваціць старога мацавальшчыка за ягоную наіўнасць і недасведчанасць?

Аднойчы Швэрмер расхвальваў адвагу і вынослівасць рускіх салдат і пашкадаваў толькі, што рускія афіцэры хварэюць некаторымі хібамі.

---

[1] Таварыш.

[2] Бацькам.

— Якімі? — запытаўся Янка.

— Гульнёю ў карты, схільнасцю да спіртнога і слабасцю да жаночага полу.

Янка здзівіўся, наколькі жывучыя ў Германіі адгалоскі кайзераўскага часу. Хлопец чыстасардэчна прызнаўся, што ён зроду не чуў у арміі пра карты і не бачыў іх там у вочы. Тым болей на фронце не сустракаў жанчын. А што датычыцца спіртнога, дык узімку штодзённа і яму старшына выдаваў законных сто грамаў. І ў заключэнне звёў размову на нявінны жарт: спытаўся, ці набраў ужо Гітлер для асабістай аховы цяжкую кавалерыю?

Швэрмер, не разумеючы, пацікавіўся, што гэта такое.

— На вялізных конях высокія бамбізы з доўгімі шаблямі і яшчэ даўжэйшымі пікамі,— адказаў Янка.

Немец здзіўлена, але недаверліва ўспрыняў гэты жарт.

Мацавальшчык і падручны дастаткова прыгледзеліся адзін да аднаго і збольшага ўжо разумелі, хто з іх чаго варты.

Цяпер у канцы полудніка Швэрмер заўсёды выключаў святло сваёй лямпы і раіў Янку рабіць тое ж самае. Яны падоўгу ціха размаўлялі адзін з адным або моўчкі праседжвалі ў цемрадзі, час ад часу насцярожана паглядаючы ў абодва канцы штрэка, каб своечасова здалёку заўважыць агеньчык надзорскае лямпы штайгера ці ягонага памочніка.

Праўда, кожны раз пасля полудніка, калі яны абодва падоўгу маўчалі, хлопца ў цеплыні разморвала санлівасць, і ён драмаў. Але ў вільготных штрэках не давалі заснуць кроплі, якія час ад часу зляталі са столі і, нібыта сляпні, тыцкаліся ў голае цела. Яны казыталі плечы, спаўзаючы на спіну, ад чаго там смылелі болькі, параз'яданыя салёнаю вадою. Калі хлопец працаваў у сухім забоі, іх не было на спіне. А цяпер яна пасечана ранкамі.

Швэрмер прывык працаваць у адзенні, а Янка паранейшаму здымаў кашулю і майку. На працы ён ужо не пацеў, як раней. Аднойчы нават паспрабаваў не распранацца. Але адчуў сябе нязручна ў вымаклай за дзень кашулі, ад якой намокла і майка. Хлопец лічыў за лепшае здымаць іх з сябе.

«Калі б цела было пакрыта густою шэрсцю, як у

звера, дык яно адчувала б сябе па-іншаму нават і пад вымаклаю вопраткаю,— падумаў ён аднойчы.— Шапка ж вунь як намакае, але валасы засцерагаюць галаву ад вады. А што спіна смыліць ад салёных кропляў, дык гэта нічога. Затое ж і праца такая... Дый полуднік не абы-які!»

Калі яны працавалі ў сухіх штрэках і падоўгу маўчалі, седзячы пасля полудніка з выключанымі лямпамі, Янка часамі не толькі драмаў, але і засынаў. У такія хвіліны мацавальшчык па-бацькоўску ахоўваў глыбокі сон падручнага. Хлопец спаў бяспечна, бесклапотна. Аднойчы Швэрмер насілу раскатурхаў яго, калі ўдалечыні трывожна замільгаў агеньчык надзорскае лямпы.

Здавалася б, жыццёвыя абставіны толькі спрыялі Янкаваму лёсу. Але раптам адна непрадбачная акалічнасць аглушыла хлопца, як удар перуна з яснага неба, перавярнула і ўскаламуціла ўсё ў ягонай душы. Ужо некалькі дзён узнятая каламуць не асядала і не адстойвалася, вярэдзіла нутро і выклікала памутненне ў галаве.

На мінулым тыдні мацавальшчык нечакана задаў падручнаму такую задачу, на якую хлопцу не проста было знайсці адказ. Швэрмер бачыў, што Янка рашае яе няўпэўнена, таму параіў не спяшацца, а добра падумаць.

Некалькі дзён таму назад мацавальшчык і падручны з выключанымі лямпамі сядзелі пасля полудніка ў вільготным штрэку. Гаварылі пра жыццё-быццё, прыгадвалі мірны даваенны час. У цішы стаяў затхлы пах заржавелага жалеза і салёнай вільгаці. Калі яны абодва змоўклі, было чутно, як непадалёку, мабыць, дзесьці паміж зацяжкамі прабег пацук, рассыпаючы нагамі друз, ды са столі на падэшву ўпалі драбкі намоклай пароды.

Янка ўважліва прыслухаўся да таямнічых гукаў і насцярожана паглядзеў у абодва канцы штрэка, зрокам намагаючыся працяць цемрадзь. Хлопца хіліла на сон, адольвала дрымота.

— Юнгэ, юнгэ, павінна ж, нарэшце, заціхнуць гэтая калатнеча,— парушыў маўчанне Швэрмер.— Уціхамірыцца свет, усё стане на сваё месца. Застанешся ў нас жыць і працаваць.

— Які з мяне шахцёр? — пазяхаючы, запытаўся

падручны, спрабуючы ўхіліцца ад мацавальшчыкавай прапановы.

— Абы рукі ды галава на плячах, а праца знойдзецца і на паверхні,— працягваў сваю думку Швэрмер.— Жыві сабе ў мяне. Будзеш за гаспадара. Мая дачка, Ільза, на чатыры гады малодшая за цябе.

Янка ажно анямеў. Як рукою зняло санлівасць. Усяго пару хвілін таму назад ён асабліва не зважаў на кроплі, што час ад часу злядалі са столі на цела. А цяпер яны, быццам мурашкі, казыталі плечы і спаўзалі па спіне.

І Швэрмерава прапанова нечакана насцярожыла, і кроплі назойліва раздражнялі, і спіна пякуча смылела. У цемрадзі Янка не бачыў выразу мацавальшчыкавага твару, таму дапусціў кволае спадзяванне, што Швэрмер пакеплівае. Хлопец не збіраўся яго запалохваць, а толькі паспрабаваў важкім аргументам засланіць сябе ад Швэрмеравай прапановы. Янка спаслаўся на строгі нацысцкі закон наконт забруджвання расы і расказаў пра сустрэтую немку з выстрыжанаю на галаве палосаю. Расказаў і адразу ж адумаўся, што дапусціў нетактоўнасць. Ажно самому стала няёмка.

Наступіла прыкрае маўчанне. «Як ён штодзённа прыносіў полуднік, які перадавалі жонка з дачкою, дык ты маўчаў, разжоўваючы бутэрброды. А як немец прапаноўвае табе застацца тут, дык ты яго запалохваеш? Добра яшчэ, што ў змроку ён не бачыць тваіх вачэй. А то ад сораму ты пачырванеў бы, як вараны рак».

— Юнгэ, юнгэ, на зямлі нішто не вечнае,— абарваў Янкаву думку Швэрмер.— Дзікунскія законы адмяняюцца людзьмі. А ты, Ёган, усё-такі падумай.

Хлопец адчуў, як яму жарам абдало твар і адначасова з сярэдзіны грудзі захліснула цёплая хваля жаласлівасці да мацавальшчыка і да ягонай жонкі з дачкою. Янка ўдзячны ім за тое, што яны, рызыкуючы сабою, не толькі аблегчылі ягонае паднявольнае існаванне, але фактычна выратавалі яму жыццё.

«Праявіць няўдзячнасць і пакрыўдзіць людзей за іхнюю дабрыню і спагаду? Прыняць мацавальшчыкаву прапанову?»

Каб Швэрмер звярнуўся з ёю раней, калі Янка быў змардаваны, знясілены, з прытупленымі пачуццямі, магчыма, адказаць на яе хлопцу было б трохі лягчэй. Тады яна, можа, і спакусіла б юнака. Паслухаўся ж ён

прапановы Зараніна і, не раздумваючы, разам з адзінаццаццю таварышамі высякаў у забоі вугаль, не ўмацоўваючы столі. У адчаі і роспачы яны свядома ішлі на самаахвярны ўчынак, хоць і разумелі, што ён вядзе да самагубства.

Цяпер Янка наўрад ці паўтарыў бы такое. Калі хлопец пачаў адчуваць, што цела не растрачвае сілы, а галава праясняецца, яго акрыліла надзея на паратунак, яму зноў захацелася жыць.

Але як ні намагаўся Янка ўявіць мілавідную белявую дзяўчыну, што стаяла побач з бацькамі пры выхадзе з шахты, аблічча яе расплывалася, і замест яго паўставаў у памяці вобраз Волі. За тысячы кіламетраў адгэтуль яна ўяўлялася яму выразна-выразна, блізкая і незабыўная, хаця ба́чыў ён яе апошні раз даўно. Тады, летнім днём, Воля са сваёй вёскі праводзіла яго за суседняе сяло.

На пагорку адзінокі вятрак паспешліва адлічваў крыламі хвіліны іхняга развітання. У паднябессі за сялом тады распачаўся паветраны бой, зрокава падобны да гіганцкае каруселі. Сухі трэск кулямётных чэргаў і воплескі хуткастрэльных гармат заглушалі рокат і натужлівае выццё матораў. Самалёты луналі ў вар'яцкіх віражах і час ад часу то перакрэслівалі небасхіл вогненнымі знічкамі, то цягнулі за сабою ўдалечыню дымныя шлейфы. У паветры пахла гарам. Пры такім відовішчы недарэчы было даваць клятвы на вернасць або прысягаць у каханні. Развітваючыся, Воля сарамліва прызналася Янку, што будзе яго чакаць.

Хлопец не сумняваўся ў тым, што яна занесла ягонай маці ліст, які ён тады пакінуў. У душы Янка быў бязмежна ўдзячны дзяўчыне за тое, што яна ў такі трывожны і небяспечны час перадала маці першую вестку ад сына. Хоць трохі маці супакоілася, даведаўшыся, што ён жывы, цэлы і здаровы выйшаў з-пад варожых бомбаў у Мінску і пайшоў на ўсход, у глыб краіны. Але хто ведае, дзе цяпер Воля? Можа, як паланянка, вывезена на чужыну? Ці мо даўным-даўно яе ўжо няма на свеце?

А Ільза — тут блізка. Якое нязвычнае імя! Ты да яго прывыкнеш. Будзеш вымаўляць па-свойму — Ліза. Але ці прывыкнеш да яе самой? Дык ты ж нават не разгледзеў яе па-сапраўднаму. А як жа некалі за вочы сваталі маладую? Або ішлі ў прымы? Ты таксама

пойдзеш у прымы? А на радзіме ж нават прымаўкі бывалі: «Прымачы хлеб — сабачы», «Не дай, доля, у прымах жыць і на чужой зямлі загінуць».

Але ж Ільза і яе маці перадаюць табе полуднікі, клапоцяцца пра цябе.

Ільза — ніякая не Ліза! Сам ты падліза!

Воліна ж маці таксама табе на дарогу туга напакавала торбу кавалкамі сала і скрылямі мёду. Помніш сонечныя соты і тое ружаватае сала з дзвюма мяснымі прорасцямі?

Хлопцу раптам прыгадаліся гарачыя Воліны губы з прысмакам горычы.

Ад ценю ветраковых крыл, што, круцячыся, засланялі промні сонца, тады ўздрыгвалі, як пчаліныя лапкі, Воліны вейкі, пад якімі, нібы ў іскрыстых сотах, то святлелі, то цямнелі зрэнкі — дзве паўнюткія кроплiны мёду.

Янка пайшоў на ўсход. Увушшу стаяў звон, як пчаліны гуд. Хлопцу здавалася, што ўвесь свет навокала настояўся на гары. На полі гаркавым мёдам прапахлі разлівы паружавелай белай грэчкі, а ў лясах — верасовыя паляны.

Сонца скрозь зялёнае вецце, як з горана, абпырсквала золатам меднаствольныя камлі і, нібы на струнах, грала на іх наканіфоленымі смыкамі промняў. Бор заблытваў ногі верасам, рассцілаў пад падэшвы то зялёныя, аксамітныя, то белыя, зрэбныя, дываны моху.

І ўсё гэта цяпер дзесьці далёка-далёка, у вірлівым акіяне полымя. Здаецца, апынуўся б там, змарнелы,— і адразу ж акрыяў бы духам і зноў укараніўся на жыватворнай зямлі. А што, калі ад цябе сапраўды адракліся там і праклялі навечна, як сказаў камендант Грышка? Ён сам адшчапенец, дык і іншых запалохвае, каб як-небудзь утрымаць. Маці не адрачэцца ад няшчаснага сына, а сёстры не адракуцца ад гаротнага брата. Не можа быць, каб радзіма безразважна пракляла таго, хто ў пекле прымае за яе пакуты.

А калі нават і так, дык няхай лепей сэрца адразу ж разарвецца дома, чым марнець дрэўцам, якое на радзіме вырваў з карэннем ураган і закінуў на чужыну. Калі цябе і ўкараніць тут, ты не прымешся на гэтай глебе, дзе ад сажы і ад дыму зачэзнеш, як пакарэжаныя хвойкі на ўзгорку за лагернаю агароджаю.

## 28

Толькі ў лагеры камендант распараджаўся, як у сваёй вотчыне. Яе тэрыторыю гаспадары абмежавалі калючым дротам, за якім знаходзіліся ўжо не яго ныя ўладанні. Таму пра тое, што рабілася ў падзямеллі, Грышка ўяўляў цьмяна.

Не зліта ваўся ж ён і не збіраўся праявіць міласэрнасць, пасылаючы Гаўрыка ў начную змену. Бо недарэмна выкрыкнуў тады: «Цяпер сам, як крот, аслепнеш і згніеш у падземнай нары!»

Камендант, мабыць, лічыў, што асабліва цяжка таму, хто ўначы не спіць, а вымушаны працаваць у змрочным падзямеллі. Сам не ведаючы таго, Грышка трохі аблягчыў становішча былога краталова, даў яму магчымасць паспрабаваць яшчэ раз разгарнуць сваю дзейнасць, тым болей што для яе былі не толькі зручныя ўмовы, але і даволі спрыяльныя абставіны.

Начная змена не займалася здабычаю вугалю, а выконвала ўсялякую падсобную працу. Перасоўваць у забоях рыштокі канвеера ці пераносіць секцыі металічных трубаў, па якіх падаецца сціснутае паветра, вядома, лягчэй, чым адколваць адбойным малатком вугаль і перакідаць яго шуфлем. Ва ўсякім разе, пры падсобнай працы чалавек меней затрачвае фізічнай сілы і не надрываецца.

Праходзячы начнымі штрэкамі і няспынна сноўдаючы па забоі, то пераносячы драцяную сетку, то ўзводзячы кастровае мацаванне, былы краталоў спрактыкаваным нюхам, мусіць, хутка адчуў прысутнасць у падзямеллі насельнікаў пацучынага царства. Напэўна, у ім абудзілася прага да юнацкага занятку, што абяцаў не нарыхтоўку мізэрных шкурак, а нават патаемны гандаль мясам. Таму ў Гаўрыкавай галаве і выспявалі планы, на якія ў дадзеных умовах былі няздатны іншыя.

Вядома, ніхто навокал і падазраваць не мог пра гэтую задуму былога паліцая. А тое, што ўсе палонныя абыходзілі яго бокам, было толькі на руку яму, бо не перашкаджала на адзіноце цалкам прысвяціць сябе любімаму занятку. Хтосьці бачыў, як Гаўрык у бараку важдаўся з дротам. Той, хто змалку меў справу з прымітыўнымі краталоўкамі і добра асвойтаўся з імі, без цяжкасці сам здолее іх змайстраваць. Тым болей што дрот у шахце пры жаданні можна было знайсці.

Праўда, у далейшым Гаўрыкавы планы, відаць, су-

тыкнуліся з перашкодаю. Краталоўкі ён калісьці ўмацоўваў у засыпанай нары — і ахвяры, зноў расчышчаючы яе, сослепу ў іх траплялі. Сабакам ён спрытна накідваў на шыю і зашморгваў драцяную пятлю, прымацаваную да канца тонкай жэрдкі. Дык сабакі ж — прыручаныя, яны блукаюць каля чалавека. А пацукі не паказваюцца на вочы, бо надта асцярожныя. Ім не накінеш на шыю пятлі. У штрэках іхніх нораў нідзе не відно. Як ні прымацоўвай мышалоўкі, а без прынады не абыдзешся. Без яе ніякага пацука не ашукаеш. А дзе ж ты возьмеш тую прынаду? Змяніўся час, змяніліся і ўмовы. У паліцайскай штубе, вядома, знайшлося б што-небудзь, дык жа яму цяпер туды няма ходу.

Былы паліцай са злосці праклінаў нямецкі эрзацхлеб. Як ні спрабаваў на скарынку прынадзіць пацукоў, нічога не атрымлівалася. Хітрыя, яны раскрышвалі яе так, што нават не заставалася ніякіх крошак. Цяпер ён разумеў, што для іх бы такога мяса, каб не ўгрызлі... Калі б які-небудзь храсток з косткаю... Каб у каго-небудзь на руках ці нагах пальцы адбіла тут... Во на што прынадзіў бы пацукоў...

Гаўрык зычыў няшчасця іншым, наклікаючы на іх бяду, а яна яго самога падпільноўвала. Напэўна, толькі дарэмна стаўляў ён у штрэках мышалоўкі на пацукоў. Сам як ні асцерагаўся, поўзаючы па падземных норах, а ў адной з іх доля падрыхтавала на яго пастку. Праўда, відаць, нараканні на долю марныя. Хутчэй за ўсё не лёс падрыхтаваў тую пастку, а людзі. Бо ў забоі, дзе Гаўрык пераносіў драцяную сетку і рабіў кастровае мацаванне, яго жыўцом забуціла абваленая парода. Адзінаццаць палонных выбралі за сабою вугаль, не ставячы стоек,— і на іх не абвалілася столь, а яго аднаго, ва ўмацаваным забоі, таямніча пахавала. Загадкавым быў гэты выпадак. Калі яго выявілі пазней, палонныя пасля патрабавання штайгера адмовіліся адкопваць паліцая. Штайгер спрабаваў тлумачыць, што з Гаўрыкавай шыі неабходна зняць жэтон дзеля справаздачы вышэйшым інстанцыям. А палонныя спасаліся на тое, што, маўляў, а як бы знайшлі немцы яго жэтон, калі б наогул не злавілі паліцая.

У лагеры яны расказвалі, як нямецкія шахцёры моўчкі назіралі за гэтым, але не сталі ўмешвацца ў спрэчку.

Мабыць, недарэмна ж у народзе кажуць, што для

халуя і ката адна падрыхтавана плата. Змалку чалавек праваждаўся з жывёламі і сам ператварыўся ў звяругу. Дажыўся, што нават пахаваны не па-людску.

## 29

Уважліва прыглядаючыся да мацавальшчыка, падручны ўсё болей пераконваўся, што Швэрмер не такі просты, якім здаваўся спачатку, і не ўсе рысы ягонага характару дастаткова выпукла асвятляюцца ўнутранай дабрынёю. Янка хоць і адчуваў шчырасць старога, але да тае пары, пакуль не ўсміхаўся Швэрмераў рот, прыадкрываючы прыгожыя зубы, хлопец ніяк не мог прачытаць, што напісана на вастраносым мацавальшчыкавым твары, у зеленаватых, глыбока пасаджаных вачах якога заўсёды прытойвалася загадкавая хітрынка.

Часам сваімі паводзінамі Швэрмер збіваў Янку з панталыку, а нечаканымі ўчынкамі выклікаў у хлопца супярэчлівыя думкі і развагі. Некалькі дзён пасля зададзенай ім задачы, згінаючыся пад цяжкою ношаю думак, падручны няўпэўнена ступаў следам за мацавальшчыкам па змрочных штрэках. У абедзенны перапынак, беручы са Швэрмеравых рук пакуначак з бутэрбродам або палуднуючы побач, ён кожны раз насцярожана чакаў, што мацавальшчык нарэшце спытаецца, што рашыў рабіць хлопец. Але Швэрмер як быццам ужо не цікавіўся гэтым пытаннем, пра якое нават і не напамінаў. Спытаўся ён пра яго ў Янкі зусім зняпацку, неспадзявана, калі моўчкі перакрываў у столі адтуліну абвалу.

Стоячы на прыступках сталюгі, мацавальшчык дзвюма зацяжкамі асцярожна зацыраваў дзюрку і, як быццам баючыся, што гаворкаю выкліча вывяржэнне вулкана, жэстамі рук паказаў, каб хлопец хутчэй падаў «каржы». Калі Янка выканаў просьбу і Швэрмер надзейней перакрыў кратэр, задаволены, ён паціху папрасіў:

— Ёган, цяпер падавай кавалкі пароды.

Падручны ведаў, што ў такіх выпадках запас бяды не чыніць, бо самому тым часам можна будзе даўжэй пастаяць, таму падаваў іх да тае пары, пакуль мацавальшчык не залажыў імі ўвесь памост сталюгі і не сказаў «генуг». Швэрмер аблюбоўваў неабходныя

кавалкі і прасоўваў паміж «каржамі», забутоўваючы над імі пустату.

Янка расслабіў цела і без усялякага занятку стаяў значна вальней, чым салдат у страі па камандзе «вольна!».

— Ну, Ёган, дык як ты вырашыў? Застанешся ў мяне жыць і працаваць? — раптам спытаўся зверху мацавальшчык.

Швэрмеравага пытання хлопец зусім не чакаў у гэты момант. Захоплены знянацку, Янка збянтэжана глянуў на мацавальшчыка, які па-ранейшаму корпаўся пад столлю і нават не глядзеў на падручнага. Гэта ў нейкай меры трохі падбадзёрыла Янку. Ён разумеў, што маўчаць зараз недарэчы. І хлопец, нібы змораны плывец, які сумняваецца, што пераплыве водную перашкоду, пачаў няўмела выбірацца да бліжэйшага берага.

— Фатэр, я не здолею знайсці ў нямецкай мове такія словы, якімі мог бы спаўна выказаць вам сваю глыбокую ўдзячнасць. Вы зрабілі для мяне ўсё, што маглі, і нават болей... Я рад, што яшчэ хоць тут, пад зямлёю, адзін на адзін магу вам гэта сказаць. Перадайце маю шчырую падзяку вашай жонцы і вашай дачцэ. Мне сорамна перад імі за тое, што я, на жаль, не маю магчымасці сказаць ім гэта асабіста. На чужой зямлі, дзе мяне зневажалі, я быў забыты богам і людзьмі. А дзякуючы вам я зноў адчуў сябе чалавекам. Прабачце, што я называю вас бацькам. На радзіме ў мяне ёсць бацькі. Праўда, я не ведаю, ці жывыя яны. Дзесьці мая маці чакае сына. А ад яго ні слыху ні дыху. Яна прагледзела вочы. Ніхто не ўмее чакаць гэтак, як маці. Забыць яе — грэх...— і ён змоўк, нібы выбіўся з сіл.

— Ага, ага, юнгэ. Радзіма ёсць радзіма. Нездарма ж яе называюць бацькаўшчынаю,— падтакнуў мацавальшчык.

Ён імгненна перапыніў працу і з лямпаю ў руцэ злез па прыступках на дол. Калі б ён пры гэтым гаварыў што-небудзь іншае, хлопец мог бы дапусціць, што Швэрмер пакрыўдзіўся або разззлаваўся. Але ж мацавальшчык адобрыў і падтрымаў Янкаву думку, калі яшчэ працягваў далей:

— Юнгэ, юнгэ, ты — малайчына, правільна. Гэта добра, калі радзіма — маці. Тады і жыць лягчэй і пра-

цаваць хочацца. Горш, калі яна нібыта мачаха. А што чужына — мачаха, дык гэта не дзіўна.

Ён адышоў, сеў пад сцяною штрэка, паклікаў да сябе падручнага, і абодва яны, як па камандзе, выключылі свае лямпы.

Часам гэтак дзіўнавата паводзіў сябе Швэрмер і раней. Бывала, зацята ўцягнецца ў працу, увесь памост сталюгі заложыць кавалкамі пароды, якую падаў падручны, і безупынку корпаецца і корпаецца, нібы заведзены механізм. А падручнаму моташна глядзець на мацавальшчыкавы рукі, на ягоную напружаную шыю, на якіх ад натугі ажно набрынялі жылы. Хлопцу надакучыць стаяць у чаканні, ён ледзьве трывае, настолькі абрыдне яму Швэрмерава праца.

І раптам у мацавальшчыка нечакана спыняцца і абвіснуць расслабленыя рукі, і ён, маўклівы, злазіць са сталюгі на дол. Менавіта ў такія хвіліны і пачаў Швэрмер прысаджвацца пад сцяною штрэка, выключаючы лямпу і клічучы да сябе падручнага, якому раіў рабіць тое ж самае. Пазней вось так яны абодва падоўжвалі час абедзеннага перапынку.

Швэрмерава праца асабліва не навідавоку. Зробленае ім не ўлічыш дакладна і збоку не змераеш. Тым болей што зробленае чалавекам, які сумленна прапрацаваў жыццё, не выклікае падазронасці ў начальства.

Падручны бачыў, што з мацавальшчыкам штосьці адбываецца, але менавіта што — не ведаў. Калі яны прысаджваліся ў штрэку адразу ж пасля такога загадкава-меланхалічнага стану Швэрмера і распачыналі гаворку, мацавальшчык першыя хвіліны адказваў неяк неўпапад, адчувалася, што ён як быццам думае пра нешта зусім іншае.

Сягоння тое ж самае зноў адбылося са Швэрмерам. Праўда, на гэты раз у падручнага ўзнікла цьмяная здагадка наконт таго, чым выкліканы незразумеладзіўнаваты стан мацавальшчыка.

Ён толькі што сказаў: «Гэта добра, калі радзіма — маці. Тады і жыць лягчэй і працаваць хочацца. Горш, калі яна нібыта мачаха». Відаць, ён меў на ўвазе сябе? Выходзіць, што для яго радзіма — нібыта мачаха? Значыць, вось чаму ў рабочага чалавека, які ўсё жыццё прывык сумленна працаваць на радзіме, цяпер, у хвіліны роздуму, становяцца бяссільнымі і апускаюцца рукі. Мабыць, Швэрмеру цяжка прызнацца ў гэтым

чужому чалавеку. Таму ён і ўхіляецца ад пэўнага адказу.

Успомнілася, як яны аднойчы гаварылі пра вайну, і Янка сказаў, што Германія прайграла яе, а мацавальшчык унікліва і разам з тым неяк няўпэўнена адказаў: «Не ведаю, Ёган, не ведаю».

Але раптам Янка схамянуўся. Ён быў задаволены, што ўсё больш-менш гладка абышлося з рашэннем Швэрмеравай задачы. Каб не даць мацавальшчыку ачомацца і зноў вярнуцца да яе, хлопец пачаў гаворку зусім пра іншае. Яму даўно карцела даведацца, ці праўда, што канваір Кнот патомны шахцёр і кім ён працаваў на шахце.

— Фатэр, а канваір Кнот таксама шахцёр? — спытаўся падручны.

— Чаго ты раптам успомніў пра Кнота? — здзівіўся Швэрмер.— Ці не абразіў ён цябе часам?

— Кнот не толькі абражае, але і ствалом вінтоўкі штурхае нашага брата. Ды яшчэ выхваляецца, што ён патомны шахцёр.

— Шахцёр? На паверхні ён быў ствалавым галоўнай клеці.

— А дзе працаваў ягоны бацька?

— Канторскім службоўцам акцыянернага таварыства. Праўда, Кнот у вайну добраахвотна пайшоў у армію. Яго паранілі на фронце,— растлумачыў Швэрмер.

— Можа, таму і пайшоў добраахвотна, што ведаў, куды ідзе? — загадкава спытаўся падручны.

— Куды? — здзіўлена перапытаўся мацавальшчык.

— У арганізацыю «Тодт»,— адказаў Янка і, каб яшчэ болей заінтрыгаваць Швэрмера, удакладніў: — Паранілі яго не на фронце.

— А дзе? І адкуль ты ведаеш? — насцярожыўся той.

— Ён параніў сам сябе на маіх вачах.

— Якім чынам? — недаверліва спытаўся Швэрмер.

Янка, не спяшаючыся, расказаў, як гэта адбылося.

Пад наглядам дарожных майстроў-немцаў палонныя рамантавалі шашу. Каля яе стаяла пакінутая чырвонаармейцамі лёгкая гармата. Хобат яе быў задраны ўгару, а станіна ўпёрта ў кювет. Побач валяліся скрынкі са снарадамі. У гармаце было вынята ўдарнае прыстасаванне.

Кнот, які быў канваірам, уважліва агледзеў гармату. Спачатку няўпэўнена адкрываў і закрываў затвор, пакуль нарэшце не пераканаўся, што з гарматы можна паспрабаваць стрэліць.

У абедзенны перапынак, калі палонныя, сагнаныя ў гурт, сядзелі і ляжалі на абочыне, а канваіры палуднавалі, Кнот паспешліва даеў бутэрброды, закінуў за плечы вінтоўку і рашыў апрабаваць трафейную зброю. Ён падняў двух палонных — аднаго з кіркаю, а другога з молатам, якім драбілі каменне, падвёў да гарматы і паказаў, як адкрываецца і закрываецца ў ёй затвор. Потым узяў молат з рук палоннага і загадаў таму зарадзіць гармату, а другому — праз адтуліну, у якой змяшчалася ўдарнае прыстасаванне, прыставіць да капсуля гільзы завостраную дзюбку кіркі. Калі палонныя нерашуча выканалі ягоны загад, Кнот з размаху стукнуў молатам па пляскатым канцы кіркі. Грымнуў стрэл і прасвістаў снарад, ад палёту якога па высокай траекторыі нязвычна зашастала шапялявае водгулле.

Гурт панурых палонных маўчаў. Канваіры прыкметна ажывіліся. Задаволены Кнот палічыў, што ў іхніх вачах імгненна ўзрастае ягоны аўтарытэт і словамі «абэр шнэль!» падганяў памагатых. Тыя паспешліва выконвалі ягоныя загады. Праз няпэўныя інтэрвалы, адзін за адным са свістам ляцелі снарады ў бок возера. На беразе яго былі нямецкія доты. Мабыць, там узнялася паніка: з тылу ўдарыла варожая артылерыя, бо ўгару ўзляцела сігнальная ракета.

І тут адбылася непрадбачаная затрымка. Ці таму, што гармата без ударнага прыстасавання хутка выйшла са строю, ці таму, што палонны быў не артылерыст і ў спешцы не закрыў як след затвор, але на шостым ці сёмым выбуху парахавыя газы паперлі ў абодва канцы. Грымнуў стрэл, пасля якога па кароткім сіпатым свісце снарада адчувалася, што ён зрабіў недалёт. З рук палоннага выбухам вырвала кірку, а Кнот сам выпусціў молат і з пабялелым як палатно тварам сутаргава замахаў акрываўленаю пяцярнёю. Пазней ён вярнуўся са шпіталя ў лагер з забінтаваным куртатым пальцам, які, напэўна, пакалечыў вырваны з гільзы капсуль.

— Я потым пакепліваў з абодвух палонных, што яны далі прыкурыць канваіру, высекшы крэсівам іскру, якой прыпалілі кнот. Па-беларуску кнот — дохт.

Не перабіваючы, Швэрмер зацікаўлена слухаў Янку. Але не паспеў нічога спытацца, бо ўдалечыні трывожна замільгаў агеньчык надзоркі. Мацавальшчык і падручны адразу ж усхапіліся і амаль адначасова ўключылі свае лямпы. Швэрмер па прыступках узабраўся на сталюгу і з памоста спрытна ссунуў, скідваючы на дол, нарыхтаваныя кавалкі пароды.

— Ёган, будзеш падаваць іх па адным,— пціху папярэдзіў ён падручнага і пачаў корпацца пад столлю.

Неўзабаве ў штрэку з'явіўся штайгер.

— Глюкаўф, Швэрмер! — прывітаў ён мацавальшчыка, спыняючыся далей ад сталюгі і, як быццам не заўважаючы палоннага, па-нямецку спытаўся:

— Як ідуць у цябе справы?

— Глюкаўф, Генрых! — не спяшаючыся адказаў Швэрмер, беручы пададзены Янкам кавалак пароды і, прасоўваючы яго між «каржамі», не гледзячы на штайгера, па-нямецку працягваў: — Ледзь утаймую адзін кратэр, як пачынае дзейнічаць другі. Не паспяваю цыраваць дзюркі. Іх тут нібы зорак на небе.

— А Хольц кажа, што Швэрмеру аднаму няма чаго рабіць. Можа, табе і сапраўды няварта штодня браць падручнага?

— Хоць Хольц малодшы за мяне, але няхай паспрабуе адзін палазіць то ўверх, то ўніз па гэтых прыступках! — ускіпеў мацавальшчык, але не злез са сталюгі, а па-ранейшаму браў з Янкавых рук кавалкі пароды і забутоўваў імі дзюрку ў столі.

Штайгер ці то надта спяшаўся, ці то не захацеў уступаць у спрэчкі са Швэрмерам, а толькі моўчкі паківаў галавою, гледзячы на яго, ды калюча зіркнуў вачамі на Янку і пайшоў сваёю дарогаю.

Хоць мацавальшчык моўчкі корпаўся пад столлю, але падручны, падаючы яму кавалкі пароды, прыкмеціў, што Швэрмер пільнымі паглядамі праводзіў пучок промняў штайгерскае надзоркі, пакуль тая не аслепла ў цемрадзі.

— Юнгэ, юнгэ, дык значыць Кнот зусім не ваяваў, а толькі нёс каравульную службу? — разгублена запытаўся мацавальшчык.

— Канечне,— пацвердзіў Янка і, адчуваючы, што Швэрмер думае зараз не пра Кнота, а пра Хольца, з іроніяй таксама спытаўся: — Як жа ён мог ваяваць,

калі служыў у тыле і нават не насіў вайсковай формы? Праўда, Хольц таксама ваюе ў шахцёрскай спяцоўцы. А яны абодва, дарэчы, у чымсьці падобны адзін да аднаго,— асцярожна скіраваў ён гаворку ў іншае рэчышча.

— Ага, ага, юнгэ. Лепей, Ёган, не звязвацца з імі. Лепей іх не чапаць.

— Чапайце ці не чапайце Хольца, а ён усё роўна будзе пад вас падкопвацца.

— Юнгэ, юнгэ, нічога! Хольц, хоць і дужы, але ён бяззбройны. А Кнот — кволы, таму і з вінтоўкаю...— неяк няпэўна адказаў Швэрмер.

Пры святле абедзвюх лямпаў падручны прыкмеціў, як у глыбокіх мацавальшчыкавых вачах бліснулі і пагаслі два іскрыстыя зайчыкі.

Янка ўздыхнуў з палёгкаю, задаволены, што так проста рашылася Швэрмерава задача. Хлопец усё роўна як скінуў з сябе празмерны цяжар. Атрымалася ўсё гэтак звычайна. Усё-такі ён чалавечны, гэты мацавальшчык! Як цвяроза глядзіць ён на рэчы!

А што, калі Швэрмер зрабіў толькі высакародны жэст? Яшчэ невядома, як паставяцца да тваёй адмовы ягоная жонка і дачка. Ну што яны табе зробяць? Не стануць перадаваць полуднікі, дый толькі... Пра якія полуднікі ты яшчэ думаеш, калі невядома, ці застанешся падручным у мацавальшчыка? Чуў жа, пра што намякаў штайгер? Хольц падкопваецца не толькі пад Швэрмера, ён і на цябе зубы вострыць. Ты ж сам бачыў аднойчы, як скоса паглядзеў ён у твой бок.

Але што зробіш? Не ўсё ж быць улюбёнцам шчасця. Табе і так пашанцавала. Гэтулькі часу не растрачваў сілы, не згінаўся ў крук ды яшчэ, як вярблюд, штосьці-калечы назапасіў у гарбе. Іншыя вунь якія пакуты цярпяць! Многія даўным-даўно загінулі.

Аказваецца, з Янкавай галавы хоць і вылецеў цэлы рой думак, але процьма іх па-ранейшаму раілася ў ёй і не давала хлопцу спакою.

## 30

Спачатку Янка нават не зразумеў, якія змены адбудуцца ў ягоным лёсе. Ён толькі адчуў, што наконт яго мацавальшчык наважыўся ўжыць нейкія захады.

Калі з гуртам палонных хлопец выйшаў з клеці ў

падзямелле, ён заспеў Швэрмера са штайгерам, якога мацавальшчык у нечым настойліва пераконваў. Па тым, як яны абодва змоўклі, калі ўбачылі Янку, і па штайгеравым жэсце, якім ён даў маўклівую згоду Швэрмеру, хлопец здагадаўся, што гаварылі яны пра яго.

Неўзабаве Швэрмер пацвердзіў Янкаву здагадку.

— Ну, Еган, цяпер будзеш памагаць двум,— загадкава прамовіў ён, калі яны пайшлі па каранной падоўжнай і нікога не было паблізу.

«Хольц дамогся-такі свайго,— падумаў незадаволены Янка, але змоўчаў, стрымліваючы злосць.— Значыць, зноў давядзецца быць памочнікам у здаравяка. Але ж у забоях нямецкія шахцёры звычайна працуюць па адным, без падручных. Толькі палонных з новага папаўнення яны навучаюць шахцёрскаму рамяству».

У хлопца сапсаваўся настрой. Адчувалася, што ён не лепшы і ў Швэрмера. Бо нават ідучы па бязлюдных штрэках мацавальшчык увесь час маўчаў. Толькі адзін раз, нібыта дзеля таго, каб заспакоіць Янку, удакладніў:

— Юнгэ, юнгэ, часова яму таксама трэба памагчы...

«Не загаворвай зубы. Я ўжо і сам бачу, што справа — швах. Нябось пакрыўдзіліся на мяне і дома супольна, па-сямейнаму, вырашылі мой лёс? — зажурыўся і панікнуў хлопец.— Ну што ж! У забой дык у забой. І так пашчаслівілася як нікому іншаму. Вунь колькі часу пракантаваўся прывольна ў штрэках, не трацячы сілы ды зберагаючы здароўе».

Яму зараз таксама не хацелася пачынаць гаворку. Абодва яны ішлі моўчкі.

Але калі крокамі перамералі нямала мудрагелістых лабірынтаў і апынуліся перад невялікаю клеццю, якая падымала са дна апраметнай на вышэйшыя кругі пекла, хлопец толькі тады зразумеў, што мацавальшчык вядзе яго некуды ў іншае месца.

— Глюкаўф! Глюкаўф! — амаль адначасова абодва яны прывіталі ствалавога, які заганяў у клець парожнія ваганеткі і, не азіраючыся, таксама адказаў на прывітанне.

— Альфрэд, падымі нас,— папрасіў Швэрмер.

«Усіх ён ведае, з кожным за панібрата!» — здзівіўся Янка.

Калі парожняя клець вярнулася зверху, ствалавы паслухмяна выканаў Швэрмераву просьбу.

Падымаліся яны нядоўга. Але ў клець з абодвух бакоў зацякалі струмені вады. Як ні імкнуўся ўхіліцца ад іх Янка, як ні засцерагаўся, а ўсё роўна адчуваў прысмак салёных пырскаў на стуленых губах і смыленне між сплюшчанымі павекамі. Выходзячы з клеці, хлопец яшчэ не pралупіў зенкі, таму не паспеў разгледзець ствалавога на другім гарызонце і не павітаўся з ім.

— Глюкаўф, юнгэ! Вось табе памочнік, якога штайгер прыслаў канагонам,— вітаючыся, прамовіў Швэрмер.

— Які конь, такі і канагон,— дабрадушна пажартаваў ствалавы.

Янка прадраў вочы і ўбачыў перад сабою Тадэвуша, таго самага Тадэвуша, якога некалі ў ягонай прысутнасці з прыхільнасцю вітаў Гільро. Хлопец адчуў сябе няёмка. Не за Тадэвушаў жарт, а за тое, што не павітаўся з палякам.

«У ствалавога ды памагаты з канём?..— нічога не цяміў Янка.— Што можа рабіць канагон пры клеці?»

Але Швэрмер толькі на момант прыпыніўся каля Тадэвуша. Ён абвёў Янку ўзбоч клеці і па штрэку, які прымыкае да яе супрацьлеглага боку, яны абодва рушылі далей.

«Відаць, стары пакепліваў наконт памочніка, дык у адказ і Тадэвуш пажартаваў таксама,— рашыў Янка.— Бо іначай жа мы не пакінулі б ствалавога».

Калі яны адышлі ад клеці метраў трыста, Янка заўважыў, што далей не пракладзены рэйкі і не адчуваецца подыху скразняку, як быццам у штрэку няма вентыляцыі. Спачатку хлопец насцярожыўся, не давяраючы свайму адчуванню. Ды неўзабаве пераканаўся, што яно яго не ашукала, бо ў носе моцна заказытаў знаёмы змалку пах. Але ж у маленстве яму не даводзілася бываць у шахце, таму ён ніяк не мог здагадацца, што ў ёй магло гэтак пахнуць. Толькі калі перад ім, як прывід, узнік з цемры конь, які спакойна стаяў у адгароджаным закутку, хлопец зразумеў, што навокала ўсё прапахла конскім потам і гноем.

Янка ажно сумеўся ад неспадзяванкі, што не ў

стайні, прапахлай духмяным сенам ды канюшынаю, куды праз зашклёнае акенца ўначы заглядвае месяц і зранку пранікае дзённае святло, а глыбока ў падзямеллі, у вечным мораку знаходзіцца гэтая рахманая свойская жывёліна. Пры святле дзвюх шахцёрскіх лямпаў хлопец разгледзеў, што яна гнядой масці. Побач са стойлам штрэк заканчваўся тупіком.

— Што гэта? Канец пекла? — з іроніяй спытаўся Янка, паказваючы рукою на камяністую сцяну ў цёмна-шэрых і попельных плямах.

— Сляпы штрэк,— растлумачыў Швэрмер і, рукою пяшчотна паляпваючы па шыі каня, дадаў: — А гэта, Ёган, твой напарнік — Тойфель [1].

Мацавальшчык расчыніў невялікую скрыню і дастаў з яе немудрагелістую збрую. Мусіць, каб яе не згрызлі пацукі, хтосьці прадбачліва абабіў скрыню бляхаю.

— Юнгэ, юнгэ, вось як запрагаць Тойфеля,— павучаў Швэрмер, прасоўваючы праз галаву каня лямку і перакідваючы праз тулава пастронкі з кароткім ворчыкам, пасярэдзіне якога — вялікі крук. Простая і зручная вупраж была як быццам суцэльная.

На галаву каня мацавальшчык надзеў аброць і ўжо збіраўся павесці Тойфеля, але раптам схамянуўся, дастаў з кішэні пінжака скрутак, абгорнуты газетаю, трохі разгарнуў яе, узяў другі пакуначак, меншы памерам і, працягваючы яго хлопцу, прамовіў:

— Ёган, вазьмі. Толькі схавай.

Янка разумеў: Швэрмер не хоча, каб хто-небудзь бачыў, што ён перадае палоннаму полуднік. Крый божа, даведаюцца ды данясуць начальству, дык бяды не абярэцца. Не пагладзяць па галаве — адсякуць яе, а не толькі валасы выстрыгуць, як у тае жанчыны. Нацысцкія законы жорсткія.

Хлопец схаваў у кішэню пакуначак, а самому зрабілася сорамна. «Як ты мог кепска думаць пра добрых людзей? Яны памагаюць табе ў бядзе, а ты рашыў, што шукаюць нейкую выгаду. Сам сабе цану набіваеш. Падумаеш, як быццам у іх на табе свет клінам сышоўся».

Тым часам мацавальшчык павёў за повад каня, і Янка таксама моўчкі паваloкся ўслед. Яны зноў мінулі клець, на якой толькі што падымаліся.

---

[1] Чорт.

Узбоч правай чыгуначнай каляі Швэрмер з канём абмінуў цуг паражняка, да якога ззаду, ад клеці, час ад часу далучаліся іншыя ваганеткі, і спыніўся ў самым яго пачатку.

— Еган, гэтая праца таксама толькі для падручнага. Звычайна яе сумяшчаў тут сквалавы. Але яго надта загрузілі. Вось што ты будзеш рабіць,— звярнуўся ён і, нібы счэпшчык, пачаў счэпліваць між сабою ваганеткі, а потым за борт другой ад пачатку зачапіў крук каромысла. Пасля ўзяў повад і павёў Тойфеля ўперад узбок пярэдняй ваганеткі. Янка таксама рушыў услед.

Ззаду спачатку мерна заляскаталі, а потым на стыках рэек з паскарэннем затарахцелі колы састава, які крануўся з месца.

— Еган, наперадзе ёсць невялічкі пад'ём. Як толькі мінеш яго, будзь уважлівы! — загадзя папярэджваючы, на хаду павысіў голас Швэрмер.

Сапраўды, метраў праз трыста, калі большая частка ваганетак, пераваліваючы пад'ём, пацягнула за сабою астатнія і ўвесь састаў сам па сабе пачаў рухацца наперад, мацавальшчык выкрыкнуў:

— Еган, вось тут не зявай! — ён выпусціў з рук кароткі повад, прапусціў міма сябе каня і спрытна адчапіў з барта ваганеткі крук каромысла.

Паступова набіраючы хуткасць, цуг паражняка па інерцыі рухаўся далей з нахілу.

— Юнгэ, юнгэ, ну вось і ўсё. Прывыкай працаваць самастойна,— паспачуваў Швэрмер.— Вядзі Тойфеля назад і чакайце, пакуль зноў збярэцца састаў паражняка. Еган, толькі не забывайся счэпліваць ваганеткі ды на пад'ёме не зазявайся,— павучальна дадаў ён, перш чым пайсці да клеці.

Янка вярнуўся з канём да дзвюх парожніх ваганетак, якія павольна прыкаціліся ад Тадэвуша. Адгэтуль была відаць клець, асветленая ліхтаром, перад якой Швэрмер трохі затрымаўся каля ствалавога. Яны размаўлялі між сабою. Потым мацавальшчык увайшоў у клець, якая на момант усярэдзіне асвятлілася ягонаю лямпаю і адразу ж пагасла, бо нырнула ў прадонне.

Янку не цярпелася дазнацца, ці зможа ён абыходзіцца з канём, які яго трошкі збянтэжыў. Калі хлопец паварочваў Тойфеля, скранаў і пераводзіў на іншае месца, на якім потым спыняў і зноў паварочваў, ён адчуў, што конь не рэагуе на ноканне і тпруканне. Спа-

чатку Янка падумаў, што чужамоўныя выклічнікі «но!» і «тпру!» невядомы Тойфелю, бо ён іх ніколі не чуў. А як па-свойму паганяюць і спыняюць коней немцы, хлопец не ведаў. Швэрмер пры ім не сказаў Тойфелю ні слова.

Саромеючыся Тадэвуша і каб не быць асабліва навідавоку ў яго, хлопец павесіў сваю лямпу на борт у сярэдзіну ваганеткі, з глыбіні якой яна асвятляла толькі столь штрэка, і ў прыцемку нерашуча падышоў да каня. Прыхінуўся да яго, аберуч ашчаперыў конскую галаву і, гладзячы далонямі аксаміцістую скуру, не па-свойму, а каб жывёліна хоць што-небудзь зразумела, на мове яе гаспадароў, ціха загаварыў да каня, як да чалавека:

— Ну што, таварыш па няшчасці? Я — нявольнік і ты — таксама, хоць і чортам завешся. А ні паскардзіцца адзін аднаму, ні суцешыць адзін аднаго не можам.

Конь стаяў як укопаны і не шманаў. Ён не стрыг вушамі, не ўстрэсваў грываю і не пераступаў з нагі на нагу.

«Ці ты наравісты, ці прывык да ранейшага гаспадара і не хочаш слухаць незнаёмага? — працягваў Янка, але яму здалося, што па целе Тойфеля прабеглі дрыжыкі.— Не бойся»,— і хлопец прайшоўся збоку, злёгку праводзячы даланёю па грыве, па спіне і па крыжы.

Увагрэтага, Янку здзівіла халоднае Тойфелева цела. У маленстве хлопцу здавалася, што ўсе коні гарачыя і няўрымслівыя. Чаму ж Тойфель такі флегматычны і млявы? Янка зняў з сябе пінжак і памкнуўся павесіць дзе-небудзь на сцяне. Але схамянуўся, бо пабаяўся, што пацукі зноў зжаруць полуднік і прагрызуць другую кішэню. Пастаяў, раздумваючы, і па-гаспадарску накрыў пінжаком Тойфелеву спіну. А сам прыхінуўся грудзьмі да ваганеткі, павіснуў абедзвюма рукамі на бакавым борце.

Аднойчы юнакі, якія абганялі калгасную бульбу, даверылі яму вадзіць каня. Як назло, конь трапіў шкадлівы. Праз кожныя сем-восем крокаў ён наравіў на хаду скубануць папоўніцы сакавітага бульбоўніку, прычым так моцна тузаў Янку, які ўчэпіста трымаў рукою аброць, што хлопец ляцеў потырч. Пазней Янку

прыемна было ісці ў спёку басанож па ўзрыхленай баразне, пры кожным кроку спачатку пятою, а потым ступнёю і пальцамі нагі адчуваючы халадок урадлівае зямлі, ад якой цела напаўнялася свежасцю. Рукі ўладна кіравалі абганялкаю, абодва лемяшы якой абапал баразны раўнамерна акучвалі рады кусцістага бульбоўніку. Збруя дома амаль не адрознівалася ад гэтай. Толькі конь запрагаўся не ў лямку, а ў хамут і за гужы завязваліся пастронкі. Ворчык быў даўжэйшы, але затое крук на ім — значна меншы.

Невядома, колькі яшчэ прастаяў бы ў задуменні хлопец, калі б ад настылае ваганеткі не адчуў, што яму халаднавата. «Здзіўляўся, чаму ў Тойфеля астылае цела і чаму каня калоціць? Так пастаіш, дык і самога праймуць дрыжыкі»,— і ён паспрабаваў варушыцца.

Рабіць яшчэ не было чаго. Парожнія ваганеткі падкочваліся не часта. Хлопцу было відно, як не спяшаючыся, нібыта наўмысна марудзячы, выбівае іх з клеці Тадэвуш. Працуе ствалавы так, як некалі ў шталагу Янка з суседам пілавалі «па-польску» дровы. Перамагаючы нерашучасць, хлопец надумаў прайсці да Тадэвуша. Вядома, калі б Янка не ведаў, што Тадэвуш — паляк, або не бачыў, як дружалюбна вітаў ствалавога Гільро і як проста трымаўся з ім Швэрмер, ён наўрад ці адважыўся б на такі крок. З канём не пагаварыў, дык хлопца пацягнула да чалавека, які таксама пазбаўлены бацькаўшчыны.

Для пэўнасці, на ўсялякі выпадак Янка прывязаў Тойфеля за повад да бакавой металічнай стойкі, надзеў пінжак і накіраваўся да клеці.

Ствалавы, відаць, заўважыў агеньчык ягонай лямпы, бо спачатку прыкметна заварушыўся, але потым, калі ўбачыў, што набліжаецца палонны, адразу ж збавіў тэмп і наадварот быццам паказваў перад хлопцам, як варта працаваць.

— Што, хлопец?! — гучна спытаўся ён і пры дапамозе рухомай механічнай лапы, нібы затворам вінтоўкі, што заганяе ў патроннік патрон, з моцным ляцаннем, загнаў у клець ваганетку з вуглем, якая сілай свайго ўдару выштурхнула адтуль парожнюю і заняла яе месца.— Непакоіць, што няма працы? Адпачывай! Цябе змардавалі швабы!

Янка нічога не адказаў, праводзячы позіркам па-

рожнюю ваганетку, што выскачыла на другі бок, замарудзіла рух, потым спынілася і па каляі, якая адгаліноўваецца назад, міма клеці і яго самога павольна пакацілася туды, дзе стаяў прывязаны Тойфель.

Гэтак жа Тадэвуш загнаў на другі паверх клеці яшчэ адну гружаную ваганетку, якая таксама выштурхнула адтуль парожнюю, і нетаропка тузануў за ручку, што звісала ўверсе збоку. У апраметнай глуха блямкнулі сігналы, пасля якіх клець уздрыгнула і нерашуча нырнула ўніз.

У рухах ствалавога і ва ўсім, што ён рабіў, адчувалася замаруджанасць і павольнасць.

— Як тваё імя? — спытаўся Тадэвуш.

— Янка.

— Даўно ў няволі?

— Хутка два гады.

— Два гады ў капальні? — недаверлівым позіркам акінуў хлопца Тадэвуш.

— Не. Болей палавіны з іх адбыў у перасыльных лагерах і ў шталазе.

— Гэта іншая рэч.

— А ты таксама палонны?

— З войска польскага. Але мы ўжо без варты. Усе мае таварышы па нядолі — на паверхні. Да вайны я працаваў гарняком у Сьлёнску. Таму і трапіў сюды. Трэба ашчаджаць сілы. Яны яшчэ спатрэбяцца. Няхай самі швабы працуюць у сваім рэйху. Для іх, можа, ён і рай, але нам — не айчына. А табе, хлопец, пашанцавала. Ці сам лёс над табою зліставаўся, ці зміласаваўся хтосьці. Тут не ў забоі. Калі вытрымаеш, можна выжыць.

Нягледзячы на тое, што клець увесь час пампавала са ствала ў штрэк свежасць, навокала патыхала мокраю ржою і салёнаю вільгаццю. Янка яшчэ ў большай меры адчуў зябкасць і, нарэшце, зразумеў, чаму яму, нерухомаму, было холадна каля ваганеткі. Але цяпер зябкасць нібыта ўзбадзёрыла і працверазіла.

«Як тут пры клеці і як у душныя забоі і штрэкі прасочваюцца свяжэйшыя струмені паветра, гэтак у падзямеллі і на паверхні зрэдку трапляе сёй-той з чалавечым сэрцам. Свет не без добрых людзей»,— думаў ён, вяртаючыся да Тойфеля.

Паражняку трохі набралася. Саграваючыся размінкаю, Янка нагінаўся і ўнізе счэпліваў ваганеткі. По-

тым нетаропка зачапіў крук з ворчыкам за пярэдні кут другой з іх, узяў повад і рэзка зрушыў Тойфеля з месца. Пярэднія ваганеткі бразнулі адна аб адну, але састаў не крануўся, хоць конь напінаўся. Хлопец нічога не разумеў. Толькі як асвятліў лямпаю рэйкі, дык убачыў, што здарылася. Відаць, ад рэзкага рыўка Тойфеля другая ваганетка, за кут якой быў зачэплены крук, трошкі хіснулася наперад, бо заднія колы яе саскочылі з каляі на падэшву штрэка.

Янка прыхінуўся да задняга канта, усім целам і рукамі намагаючыся падважыць ваганетку, але яна, як назло, не падымалася. Злуючы невядома на каго, ён адышоў да сцяны штрэка і, не ведаючы, што рабіць, ад крыўды і злосці грызануў зубамі драўляную зацяжку між двума металічнымі стойкамі. Хацеў паклікаць на дапамогу Тадэвуша, але пасаромеўся і ўстрымаўся. «Яшчэ не пачаў працаваць, а ўжо кліча на дапамогу другога. Разява!»

А калі адышоў ад злосці і ўляглося хваляванне, спакойна разважыў: спачатку адпрог Тойфеля, каб той, крый божа, не тузануў і не пакалечыў, потым адчапіў другую ваганетку ад астатніх і, асабліва не затрачваючы сілы, прыўзняў і паставіў на рэйкі яе заднія колы. «Паспех — людзям на смех! Стары мацавальшчык не спяшаецца, а кеміць ды разважае розумам. Але чаму ён таксама прыпрагаў каня да другой ваганеткі і вёў яго ўзбоч пярэдняй, якая злева церла Тойфелеў бок? Ці не лепей прыпрэгчы каня да пярэдняй за крук, якім ваганеткі счэпліваюцца між сабою, каб Тойфель ішоў пасярод каляі і адчуваў сябе вальней?» — думаў хлопец, прыкідваючы, як бы зноў не саскочылі колы з рэек.

Памеркаваў-памеркаваў дый як надумаўся, так і зрабіў. Затое калі павольна зрушыў Тойфеля, састаў лёгка крануўся з месца і плаўна пакаціўся ўслед за канём, які ішоў у запрэжцы надта не натужваючыся. Ні па ягонай хадзе, ні па ягонай пастаcredit корпуса немагчыма было здагадацца, у якім месцы штрэка пачынаецца той невялічкі пад'ём, наконт якога перасцерагаў Швэрмер, і дзе — пакатасць. Таму хлопец, падсвечваючы лямпаю, азіраўся і сачыў за пастронкамі, бо ведаў, што гэта можна больш-менш дакладна вызначыць толькі па тым, як яны напяты. Калі раптам пастронкі аслаблі, ён пацягнуў за повад, намерваючыся

вывесці каня з сярэдзіны каляі, але Тойфель упінаўся і не слухаў. Збянтэжаны, Янка схапіў рукою за аброць, тузануў на сябе і насілу выцягнуў каня на абочыну. У спешцы хлопец кінуў повад, мітусліва павесіў лямпу на пярэдні борт першай ваганеткі, на хаду адчапіў крук ворчыка і ўжо ледзь-ледзь ухіліўся ад саставу, які сам рухаўся па пакатай чыгуначнай каляі. Янка прабег трушком, каб нагнаць пярэднюю ваганетку і на хаду адчапіць сваю лямпу.

«Гора-камбінатар! Скамбінаваў такую запрэжку, што мог пакалечыць і сябе і каня! Ледзь не застаўся без лямпы ў цёмным штрэку!» — дакараў у думках сам сябе Янка, адначасова крыўдуючы і на Тойфеля.

— Няхай я няўклюдны і няўмека! — спрабаваў апраўдацца хлопец, кудлацячы конскую грыву.— Ну а цябе ж прывучылі тут хадзіць у любой неверагоднай і самай недарэчнай запрэжцы. Чаго ты раптам занараўіўся і ўпарта ўпінаўся? Састаў хоць і парожні, а мог падмяць абодвух.

Тойфель стаяў як адзеравянелы, ніводным рухам, ніводным мускулам не рэагуючы ні на ласкавае кудлачанне, ні на пяшчотную Янкаву інтанацыю, быццам да яго звяртаўся не чалавек на мове, якую конь чуў штодзённа, а жыхар іншай планеты спрабаваў штосьці растлумачыць па-свойму.

— Ну, як табе не сорамна? Паглядзі мне ў вочы! — працягваў хлопец, заходзячы спераду Тойфеля і асвятляючы лямпаю конскую галаву.

Уважліва зазірнуў у вочы — і сустрэў невідушчы позірк, ад якога ажно разгубіўся. Яшчэ нічога не разумеючы, памахаў лямпаю перад грыўкаю — і ўбачыў, як агеньчык халоднаю іскраю ўспыхвае па чарзе то ў адным, то ў другім воку. Хлопец жахнуўся ад таго, што Тойфель не сплюшчваў павек і ягоныя вочы не міргалі ад мітуслівага святла перад імі. Конь быў сляпы! Разгублены, Янка адхіснуўся, не апускаючы лямпы, але ўсё роўна бачыў у абодвух конскіх вачах адбітак свайго твару з яе агеньчыкам.

Хлопца ахапіла жудасць. «Хір іст дэр Тойфель!» [1] — вымавіў ён нямецкае выслоўе. Як быццам яго абдало ледзяною вадою і ён адубеў. А як трохі пачаў адыходзіць ад здранцвення, адразу ж у галаву па-

---

[1] Тут сапраўднае пекла.

лезлі змрочныя думкі. Асабліва ад аднае ніяк не мог адкараскацца. Яму здавалася, што і яго чакае гэтакая ж доля. «Фрыцы і сляпога будуць апускаць у шахту. Тойфель нічога не бачыць, а яго не падымаюць на паверхню. Няўжо і каня не адпусціць падзямелле?»

Крыўда на Тойфеля змянілася жалем. Хлопцу стала шкада каня. Пагібель на чужыне земляка Гаўрыка не выклікала ў Янкі ні спачування, ні жалю. А сляпую жывёліну, нямецкага каня хлопец шкадуе. Тойфель абудзіў у ім спагадлівасць. Сыты галоднаму не спагадае. А лядашчы спачувае недалужнаму. Ну, які напарнік са сляпога небаракі?

Расчулены, Янка пакінуў Тойфеля ў спакоі: прывязаў за повад да металічнай стойкі. Навошта гвалтоўна валтузіць сляпую жывёлу? Нелюдзі і так папаздзекаваліся з яе.

Не здымаючы пінжака, хлопец бавіў час, на адзіноце праседжваючы ў штрэку. «Значыць, Швэрмер прыпрагаў каня да другой ваганеткі, каб Тойфель не трапіў пад састаў. Цікава, чаму стары не папярэдзіў мяне, што конь сляпы? Не хацеў бянтэжыць? А сляпы Тойфель, мусіць, прывык хадзіць толькі па абочыне, таму і заўпарціўся, калі я спрабаваў вывесці яго з каляі. Ён не зразумеў мяне».

Калі збіралася сем-восем парожніх ваганетак, Янка, не спяшаючыся, счэпліваў іх і, падштурхоўваючы ззаду, павольна адкочваў на пад'ём, па нахілу з якога яны ўжо самі каціліся далей. Праца не вымагала вялікага напружання. Парожнія ваганеткі лёгка каціліся па каляі, аднастайна і манатонна пастукваючы коламі на стыках рэек. Хлопец адкаціў некалькі кароткіх саставаў, пасля зразумеў, што чым лішні раз хадзіць услед за імі, лепей даўжэй пасядзець у штрэку. Таму пачаў счэпліваць іх больш, каб толькі радзей адкочваць.

Заседзеўся, адпачываючы, і нарэшце насчапляў такі састаў, што калі скрануў з месца, дык ужо адчуў ягоны груз. Але адчэпліваць лішніх ваганетак не стаў, а так і пакаціў усе. Лямпу павесіў поруч на борце задняй ваганеткі, якую падштурхоўваў. Спачатку ад гэтага падштурхоўвання састаў набраў патрэбны разбег і з невялікай хуткасцю каціўся наперад. Аднак пасля, чым болей ён набліжаўся да пад'ёма, тым хуткасць змяншалася, і хлопец вымушаны быў усё мацней

надштурхоўваць ваганеткі, неймаверна напружваючыся.

«Відаць, не разлічыў свае сілы. Няўжо яны пакідаюць мяне ў адзінаборстве з саставам, які зусім прыпыняецца?» — мільгнула ў свядомасці, і ён прыўзняўся, разглядаючы ў прыцемку, ці не пераваліліі цераз пад'ём пярэднія ваганеткі.

І якраз у гэты момант адбылося непрадбачанае: састаў спыніўся, скрыгатнуў счапленнямі, урассыпную загрукатаў ваганеткамі і павольна-павольна рушыў назад. Ваганетка, над бортам якой хлопец прыўзняўся, штурхнула яго ў грудзі і так прыціснула патыліцу да бэлькі штрэка, што Янка целам адчуў вострыя шчарбіны металу. Моц напору зменшылі ягоныя спружыністыя рукі, якімі ён на імгненне спыніў націск саставу, са страху знайшоў у сабе сілы, каб адштурхнуць яго і, як з пятлі, выхапіў галаву. Бяссільны, хлопец ухіліўся з каляі на абочыну.

Міма яго састаў папоўз назад, павольна набіраючы хуткасць. Балела патыліца, мабыць, не столькі ад глыбіні раны, колькі ад іржы, якая туды трапіла. Хлопец памацаў рану і ў змроку адчуў, што далонь — мокрая.

Яшчэ лёгка адкруціўся, калі абышлося толькі драпінаю... Магло раструшчыць галаву!

«А коногона молодого несли с разбитой головой»,— міжвольна ўспомнілася песня, якую спяваў на нарах Вадзім.— Тады ты не ўяўляў сабе, а цяпер нарэшце ўяўляеш канагона, бо паспрабаваў і ягонай працы,— з прыкрасцю думаў ён, нібы пабіты, навобмацак валочачыся па штрэку ўслед за паражняком, які з ягонаю лямпаю, што цяпер аказалася на борце пярэдняй ваганеткі, увачавідкі знікаў з-пад носа.

Да канца змены хлопец ужо не збіраў гэтулькі ваганетак разам, а адкочваў іх адным заходам не болей як па дзесятку. Але Тойфеля ўсё роўна па-ранейшаму не запрагаў. Калі стваладвы спыніў клець і пачаў палуднаваць, канагон таксама павёў каня ў стойла. Хлопец разумеў, што ў сляпым штрэку ўтульней не толькі сляпому каню, але і яму самому будзе зручней. Ва ўсякім разе, там няма адкуль знянацку з'явіцца непажаданаму чужаку, які можа ўбачыць, што палонны таксама палуднуе. Дый рупіла разняволіць сляпую жывёліну. Цеплілася спадзяванне, што, можа, там знойдзецца чым пакарміць або напаіць выпражанага каня.

Вільготная свежасць пампавалася клеццю са ствала і прадзімалася далей ледзь улоўным скразняком. А ў сляпым штрэку настоялася густое затхлае паветра. Калі Янка наблізіўся да стойла, якое прасмярдзела конскім потам і гноем, да ягонага слыху данеслася нейкая мітусня і ў нос моцна патыхнула нейкім смуродам. Хлопец асвятліў лямпаю стойла — і яму здалося, што спецыфічны смурод адразу ж прапаў. Насцярожаным позіркам канагон абмацаў усе куткі, але нічога падазронага не заўважыў. Нідзе не відно было ні жмені сена. Хлопец распрог каня і, кладучы ў скрыню збрую, знайшоў брызентавае вядро, на дне якога ляжала некалькі аўсяных зярнят. Адно нават раскусіў і доўга-доўга разжоўваў, адчуваючы ў роце даўно забыты мучністы прысмак. У акружэнні яны елі забітых коней, потым таўклі на муку авёс і дабаўлялі ў рэдкі салдацкі крупнік.

Астатнія зярняты Янка старанна згроб са дна вядра кончыкамі пальцаў, зачэрпнуў жменяю і паднёс да конскага рота. Стаяў і цярпліва чакаў, пакуль Тойфель аксаміцістымі губамі нетаропка, быццам па адным, выбіраў іх з далоні.

Потым хлопец адышоў у кут і прымасціўся на ніжнім прасле агароджы. Дастаў з кішэні пакуначак, на каленях разгарнуў газету і, перш чым палуднаваць, выключыў лямпу. Не спяшаючыся адкусваў кавалкі, старанна разжоўваў і, глытаючы кожны кус, адчуваў смак сала. Калі з'еў болей палавіны бутэрброда, пачулася ў цемры нейкая таемная мітусня. Хлопец спачатку палічыў, што гэта ён сам упоцемку зашамацеў газетаю, таму перастаў жаваць і прыслухаўся. Але ніякія шорахі не парушалі цішыні. Праніклівым слыхам Янка ўлоўліваў толькі раўнамернае Тойфелева дыханне.

«Сляпы небарака, відаць, і ў цемры адчувае, што побач з ім палуднуюць. Трэба пакінуць яму скарынку»,— думаў хлопец, разжоўваючы і глытаючы рэшту бутэрброда. Толькі наважыўся адкусіць яшчэ кавалачак мякіша, як выразна пачуў непадалёку падазроную валтузню, нават смурод. У цемрадзі Янка скіраваў туды праніклівы позірк, асцярожна намацаў і хуценька павярнуў каўпачок лямпы. Успыхнула святло. Хлопец паспеў разгледзець чараду пацукоў, якія імгненна шмыгнулі ўрассыпную.

«Бессаромнае племя! Абкрадаюць сляпога старца! — устаючы, абурыўся хлопец.— Небарака, мусіць, і спіць стоячы. Бо калі засне лежачы, дык яны ў сляпога ды соннага, нібы галодныя ваўкі, жыўцом павыгрызаюць мякаць».

Хлопец спераду падышоў да Тойфеля і паднёс да ягонага рота хлебную скарынку з рэштаю недаедзенага мякіша. Прынюхваючыся, конь спачатку глыбока ўцягнуў ноздрамі паветра, а потым цёплымі губамі асцярожна ўзяў хлеб, мякка захопліваючы яго разам з кончыкамі Янкавых пальцаў.

Янка ўзняў лямпу і зазірнуў у Тойфелевы вочы. Яны не міргалі, а, павільгатнелыя, слязіліся. Па чарзе, то ў адным, то ў другім збіралася буйная слязіна і з пярэдняга куточка вока падала на дол. Хлопец прыгледзеўся — і заўважыў, што, сцякаючы з вачэй, слёзы павыпальвалі варсістую поўсць і пакінулі на скуры дзве прыкметныя разоркі, падобныя па колеры да плям, якія на конскіх персях намуліла лямка.

У Янкі таксама павільгатнелі вочы. Ён адвёў убок затуманены позірк, каб самому не праслязіцца. Але ў насцярожанай цішыні ўсё роўна адчуваў, як буйныя Тойфелевы слязіны раз-пораз стукаюць па подсціле стойла, быццам дзяўбуць па цемю самога хлопца.

## 31

Янкава становішча няпэўнае. Хлопец ведае, што яно часовае і пераменлівае, але ён разумее: у такую часіну няма чаго крыўдаваць на лёс. Лепшым ён не стане, а пагоршыцца можа з дня на дзень. Ягоны лёс ад яго самога ўжо не залежыць. Зараз хлопец, нібы механічная лялька, існуе дзякуючы віртуознаму ўмельству ўладара. Гэтакага ўладара нагадвае стары мацавальшчык, хаця падземныя штрэкі, нават з гірляндамі шахцёрскіх лямпаў, не падобны да асветленай рампы тэатра.

У сваіх мэтах Швэрмер умела дзейнічае любымі рычагамі і непрыкметнымі спружынкамі. Хоць ён і не чмут, а хітра ачмурыў штайгера. Менавіта штайгер быў для яго такім рычагом, а Тадэвуш — такой непрыкметнаю спружынкаю. Янка зразумеў гэта пасля размовы з палякам. Польскія палонныя цяпер без аховы і працуюць на паверхні, як вольнанаёмныя. Тадэвуш хадайнічае, каб і яго перавялі да іх таксама.

Швэрмер выкарыстаў сітуацыю і ўвёў у вушы штайгеру, што паляк празмерна загружаны, таму і хоча перайсці на паверхню. Маўляў, няхай замест яго парожнія ваганеткі адкочвае з Тойфелем лядашчы палонны. Тады і Тадэвуш не будзе рвацца на паверхню.

Тойфель у падзямеллі таксама адпрацаваў сваё і цяпер дажывае век. На справе, без яго, нават каб і відушчага, тут можна абыходзіцца. Да вайны ён падвозіў са штрэка да клеці ваганеткі, нагружаныя вугалем, а назад адвозіў парожняк. Пазней адну каляю выраўнялі, зрэзаўшы пад'ём. З тае пары ваганеткі з вугалем самі падкочваюцца да клеці. Толькі з адкатачнага штрэка іх вывалакваюць лябёдкамі. А другую каляю не паспелі своечасова перарабіць, бо пачалася вайна. Вось таму па гэтай каляі па-ранейшаму трэба перакочваць парожняк цераз пад'ём. Але Тадэвуш таксама адкочваў яго сам, бо шкадаваў сляпога каня і лічыў лішнім клопатам важданіну з небаракам. Немцы ў кожнай справе акуратныя і педантычныя. Таму і трымаюць Тойфеля пад зямлёю. Яны лічаць, што сляпы ён ці відушчы, а пад наглядам чалавека сваю працу выконваць здатны.

Час ад часу Швэрмер таксама бярэ Янку падручным, асабліва пасля абедзеннага перапынку, калі парожняк падаецца радзей. Мацавальшчык робіць паказны выгляд, нібыта ў яго прыбавілася працы і яму аднаму з ёю не справіцца. На самай жа справе — Янка бачыць, якая праца ў Швэрмера. Мог бы ён і сам кешкацца патроху. Стары, відаць, прывык да хлопца. Яму хочацца пагаварыць з ім, адвесці душу. Швэрмер па-ранейшаму прыносіць Янку і ўмудраецца ўпотайкі перадаваць полуднікі. То ў паўнюсенькай клеці, якая апускае раніцай шахцёраў і палонных, незаўважна перакладзе пакуначак са сваёй кішэні ў Янкаву, то нечакана прыйдзе ў той штрэк, дзе хлопец адкочвае ваганеткі. А часцей за ўсё падпільноўвае Янку каля галоўнай клеці, дзе то са штайгерам затрымаецца, то з кім-небудзь з нямецкіх шахцёраў пагаворыць. Потым, пакуль на працягу двух-трох кіламетраў ідзе назіркам за хлопцам па каранной падоўжнай, пры зручным моманце сплаўляе пакуначак. Аднойчы навідавоку ў іншых ніяк не мог перадаць, дык запаволіў крок, пакуль многія абмінулі, а хлопец наблізіўся ззаду. Тады Швэрмер перахапіў лямпу ў правую руку, а Янку шап-

нуў, каб ён узяў сваю ў левую і на хаду сам дастаў з ягонай кішэні полуднік. У прыцемку, ззаду, трошкі засланяючы сабою левы Швэрмераў бок, хлопец ледзьве злаўчыўся зладзеявата правесці такую нязвычную аперацыю.

З Тадэвушам у Янкі склаліся прыяцельскія адносіны. Праўда, не адразу, а пакрысе. Наадварот, спачатку паміж імі штосьці не ладзілася. І, відаць, не толькі таму, што сваіх пакпіў, упершыню ўбачыўшы Янку. Прычынаю першых сутычак паміж імі, мусіць, быў трошкі старэйшы Тадэвушаў узрост, а магчыма, і яршысты, няўступчывы характар.

У часе адной з першых размоў Тадэвуш паблажліва спытаўся ў Янкі:

— Ты крэсовяк, што гаворыш не чыста па-польску?

Янка не ведаў слова «крэсовяк», таму спачатку не зразумеў сэнсу Тадэвушавага запытання.

— Я з Беларусі, з Мінска. І размаўляю па-беларуску,— адказаў ён стрымана.

— Што гэта — Бяла Русь? Так гавораць на крэсах і ў Расіі,— іранічна прамовіў Тадэвуш, яўна падкольваючы Янку.

— У нас гэтак гавораць спакон вякоў. Калісьці было Вялікае княства Літоўскае, якое потым аб'ядналася з Польшчай. Дык у ім законы ў той час пісаліся нашаю моваю. Калі цяпер няма польскай дзяржавы, гэта яшчэ не значыць, што загінула польская мова. Палякі ж не знішчаны? — у сваю чаргу не пагладзіў па шэрсці Янка.

Тадэвуш прамаўчаў.

А калі злосць адлягла, Янка ў душы пашкадаваў, што з гарачкі пакрыўдзіў Тадэвуша. «Не трэба было гаварыць, што цяпер няма Польшчы. Хіба ж у гэтым паляк вінаваты?.. Але не я першы пачаў,— у думках апраўдваў сябе хлопец.— Хай ведае, што не загінуў і мой народ. Ён таксама захаваў сваю мову, нягледзячы на тое, што яго вякамі цары русіфікавалі, а каралі — апалячвалі. А можа, не варта крыўдаваць на простага чалавека? Яму ўсё жыццё ўдзёўбвалі ў галаву лухту. На працягу стагоддзяў розныя кацярыны, францыосіфы, вільгельмы, аляксандры, напалеоны, мікалаі і пілсудскія супольна і паасобку, як хацелі, на свой лад перакройвалі нашы землі, называючы іх то Паўночна-Заходнім краем, то пратэктаратам, то генерал-губерна-

тарствам, то «ўсходнімі крэсамі». Яны прызначалі сюды сваіх намеснікаў, якія, нібы ў карты, гулялі лёсам нашых продкаў. Сілком рабілі іх то уніятамі, то каталікамі, то праваслаўнымі. Як толькі не дадумаліся яшчэ пераатварацьу лютэран або ў кальвіністаў? Затое Гітлер пераканаўся, што гэтага недастаткова. Таму ён дарэшты зруйнаваў нашы сталіцы і рашыў пад корань вынішчыць нашы народы».

Тадэвуш адчуў, а з цягам часу зразумеў і зміryўся з тым, што Янка, хоць і маладзейшы за яго, але таксама сталы і трымаецца незалежна.

У падзямеллі, па суседстве, часта сустракаючыся на адзіноце, людзі, пазбаўленыя радзімы, міжволі збліжаюцца. А той, хто прайшоў па ўсіх кругах пекла, зведаў няшчасце і яшчэ не выкараскаўся з бяды, не можа не спачуваць таму, хто таксама трапіў у апраметную.

Янка і Тадэвуш збольшага разумелі адзін аднаго. А калі падчас і ўзнікалі пры гаворцы якія-небудзь цяжкасці, дык, перапытваючы і замяняючы незразумелыя словы, суседзі па магчымасці прыходзілі да згоды.

Янка добра помніў, што Тадэвуш у Сілезіі таксама працаваў у капальні. А хлопцу даўно карцела разведаць пра тое, пра што ён асцерагаўся гаварыць са Швэрмерам, каб не напалохаць і не насцярожыць мацавальшчыка.

Калі паміж беларусам і палякам устанавіліся суседскія адносіны, Янка, нібыта між іншым, пацікавіўся, ці ёсць у шахтах запасны выхад на выпадак няшчасця: выбуху або абвалу?

— Вылезці можна. Але не на волю. А ў лапы вахманаў,— адказаў паляк, зразумеўшы, куды хіліць Янка. Потым павучальным тонам растлумачыў, што на паверхню выводзіць вертыкальны лаз, па якім метраў сто пяцьдзесят ідзе лесвіца. У шахцёраў ён завецца шурфам і знаходзіцца кіламетраў за пяць ад пад'ёмнай клеці.— Але незаўважна з яго не вылезеш. Швабы пільна сцерагуць шурф.

Ад гэтага хлопец забедаваў. Цяпер ён канчаткова зразумеў, што з падзямелля самому ніколі не выбрацца.

Спачатку Янку здавалася, што калі Швэрмер забірае яго да сябе, дык Тадэвуш крыўдуе. Усё-такі ў такіх выпадках паляку прыбаўляецца працы, бо па-ранейшаму ён павінен адкочваць паражняк. Але аднойчы

Тадэвуш прызнаўся, што ён усё роўна не застанецца пад зямлёю — нават калі яго і зусім вызваляць ад абавязкаў канагона.

Пазней Янка даведаўся, што былыя польскія ваеннапалонныя сустракаюцца на паверхні з нашымі цывільнымі, якія вывезены на чужыну, дзе працуюць рабочымі і жывуць у спецыяльным лагеры. Пра гэты лагер хлопцу ў свой час пісала ў лісце Надзея. Цяпер трапіў зручны выпадак: Янку хацелася дазнацца, што ж усё-такі здарылася з дзяўчынаю? Куды яна знікла? Ён папрасіў Тадэвуша, каб той ці сам дазнаўся, ці высветліў пра лёс Надзеі праз каго-небудзь з землякоў.

Праз некалькі дзён Тадэвуш прынёс жахлівую вестку. Аказваецца, Надзею перавялі ў начную змену. Разам з дзвюма жанчынамі яна трагічна загінула ў часе таго налёту, калі, як сцвярджалі немцы, была скінута паветраная тарпеда, якая трапіла ў акумулятарную і пашкодзіла лямпавую. Адначасова выбухам параніла яшчэ дзвюх жанчын. «Дарэмна Вадзім гаварыў тады, што ў страху вочы вялікія,— успомніў Янка.— Дыму без агню не бывае. Відаць, нехта з іх сапраўды дзейнічаў на свой страх і рызыку і падаў сігнал самалётам?»

Сумная навіна глыбока ўразіла хлопца. На недарэчную смерць ягонае сэрца адазвалася шчымлівым болем і запозненаю жалобаю.

Янка бачыў, што паляк па-чалавечы шкадуе яго і не толькі спачувае, але і ў меру сваіх сіл стараецца памагчы. То надавуміць парадаю, то падбадзёрыць шчырым словам, то прынясе кавалак хлеба. Хоць картачная сістэма строга абмяжоўвала хлебны рацыён, але, мабыць, на свеце яшчэ не было такіх законаў, якіх не абыходзілі б людзі. Калі ў лагеры вёўся бойкі тавараабмен, дык Янка ўяўляў сабе, што робіцца па другі бок калючае агароджы, асабліва там, дзе пераварочваецца не якая-небудзь пфенінгавая дробязь, а цэлыя стосы марак.

У Тадэвуша, мусіць, ад прыроды пульсавала гандлёвая жылка. Аднойчы ён расказаў, як былыя польскія палонныя за маркі набываюць на паверхні цыгарэты, і падрадзіўся прынесці іх.

Янка аднекваўся. Маўляў, навошта яны яму, калі ён даўно кінуў курыць? Хлопец саромеўся прызнацца, што ён наогул не курыў ніколі пасля таго недарэчнага

выпадку, калі пакутліва ванітаваў, насмактаўшыся «бычкоў» у Сідаравай хаце. У палоне ён гэта ўспамінаў неаднойчы, кожны раз пераконваючыся ў правільнасці мудрага выслоўя: «Няма ліха без дабра». Бо невядома, што магло здарыцца з ім тут, у шахцёрскім лагеры, калі б ён курыў. Хіба ж у яго хапіла б сілы волі, каб не абменьваць ежу на тытунь? Хлопец, можа, цяпер не адмаўляўся б ад Тадэвушавых цыгарэт, калі б не пабойваўся, што ў лагеры не выцерпіць і з гора прыахвоціцца да курэння. Бо калі няма чаго курыць, дык і дурань адвыкне ад курэння. А паспрабуй устрымацца і не курыць, калі цыгарэты ляжаць у кішэні. На сілу волі Янка, мабыць, не надта спадзяваўся. Калі паабапал на нарах знаходзіліся Вадзім і дзядзька Тарас, тады яна была ў яго мацнейшая. Старэйшыя ва ўсім падавалі прыклад, і хлопец па іх раўняўся.

— Таму швабы і называюць пенёндзы райхсмаркамі, што яны годны толькі ў іх раі. У пекле маркі нічога не варты. Яны не патрэбны ні грэшным, ні д'яблам. А гэта ж усё-такі амаль паўбуханкі хлеба,— аднойчы прачытаў натацыю Тадэвуш, сілком запіхваючы ў Янкаву кішэню пачак цыгарэт.

Хлопец разумеў, што на волі гэтая нікчэмная рэч, шкодная для арганізма, трапляючы ў няволю, робіцца каштоўным набыткам, становіцца неацэнным скарбам, дзякуючы якому пранырлівыя дзялкі, атручваючы іншых, падтрымліваюць сваё здароўе. Пасля працы пачак, усё роўна як заразную забаронную рэч, што валодае зачараванаю сілаю, ён грэбліва перакінуў з кішэні ў рэчмяшок, які вісеў на вешалцы пад столлю раздзявальні. Пакінуў цыгарэты ў надзейнай схованцы, каб яны не спакушалі і не прываблівалі ў лагеры, і думаў, што пра іх забудзецца. Лёгка падумаць, што забудзешся, але як на іх забыцца, калі штодзень на праходзе паміж нарамі пасля снядання хто-небудзь выкрыквае: «За цыгарэты аддаю баланду!» — а пасля абеду чуваць: «Каму хлеб за цыгарэты?!»

Хоць ты вушы затыкай, каб не чуць гэтага. Хлопец стараўся не звяртаць увагі на тых, хто выкрыквае, але ўсё роўна міжволі ў думках вяртаўся да схаванага пачка. «У ім — два дзесяткі цыгарэт. А за восем штук аддаюць дзённы паёк хлеба. Лічы, што ў маім рэчмяшку — дзве з палавінаю пайкі. Калі яшчэ даць Тадэвушу маркі з палучкі, дык ён прынясе цэлы блок пачак.

За яго выменяеш гэтулькі буханак, што яны і ў рэчмяшок не ўлезуць».

Мабыць, калі б цыгарэты былі пры ім, дык ён, лежачы на нарах, ад злосці і прыкрасці ўзацяжку выкурыў бы іх за дзень. Даведзены да адчаю, хлопец наважыўся быў прынесці цыгарэты ў лагер і абмяняць на хлеб. Каб такім чынам раз і назаўсёды пазбавіцца ад іх. Але калі супакоіўся і ўявіў, як зрабіць гэта, дык адразу ж спасаваў перад непрадбачнымі цяжкасцямі. «Хіба ж ты, непаваротлівы і непрактычны, зможаш сноўдаць па бараках, выкрыкваючы: «Каму цыгарэты на хлеб?» Але ж можна паціху паклікаць мяняльшчыка і ўзяць з ягоных рук пайку, аддаючы яму цыгарэты. Сярод белага дня адабраць у чалавека хлеб, хай сабе і эрзац, а яму бессаромна ўперці нікацін, каб хутчэй атручваўся? Ты, як лагерныя прыдуркі, хочаш выратаваць сваю шкуру? Шчасліўчык! Малі бога, што табе самому пашанцавала. На няшчасці гаротнікаў грэх нажывацца. Шкурнік!» Гэтым словам Вадзім ахрысціў калісьці паліцая Гаўрыка. Хлопец падумаў пра Вадзіма, Арсеня і дзядзьку Тараса. Якімі вачамі яны цяпер паглядзелі б на яго? Што яны сказалі б? Янку зрабілася сорамна. Вядома, не перад нябожчыкамі. Мёртвыя нічога не адчуваюць. Яму стала сорамна перад сваёй памяццю пра іх.

Раззлаваны, Янка цвёрда наважыўся выкінуць прэч вядзьмарскі пачак. Але назаўтра пасля працы, як толькі развязаў рэчмяшок, з яго патыхнула такім духмяным водарам, які хлопец з асалодаю ўдыхнуў на поўныя грудзі, адчуваючы, як размякае ягонае сэрца і разліваецца млявасць па ўсёй істоце. Падобны саладжава-прытарны пах развейвала кадзіла, якім некалі размахваў поп, калі па бабулінай просьбе памінаў душы сваякоў-нябожчыкаў.

Янка не ўстрымаўся, выняў з рэчмяшка зачараваны пачак, асцярожна раскрыў зверху, панюхаў, акуратна закрыў і пераклаў у нагрудную кішэню фрэнча.

У лагеры, прагна глытаючы з Вадзімавага кацялка цёплую баланду, ён адчуваў, як духмяны пах ад пачка прыемна перабівае яе нішчымны смак. А калі папоўніцы дарэшты ўмяў пайку хлеба і на ўвесь рост выпрастаўся на нарах, у яго ўзнікла недарэчнае і неадольнае жаданне. Чамусьці захацелася, каб цяпер былыя суседзі з'явіліся з-пад зямлі і ўлягліся паабапал. Ён

урачыста пачаставаў бы іх цыгарэтамі. Разам яны моўчкі ляжалі б на верхатуры і, каб адвесці душу, ад прыкрасці папыхвалі б духмяным дымам, падсалоджваючы ім сваю горкую долю. У такім настроі Янка ў думках даў сабе зарок не запляміць памяць аб суседзях і ў далейшым самому быць вартым іх.

Толькі трохі супакоіўся і шчасліва заціх, разморany вялаю дрымотаю, як у сне пачуў: «Мяняю хлеб на цыгарэты!» Янка прачнуўся, кончыкамі пальцаў працёр вочы і лянiва павярнуўся на правы бок. Неўзабаве крык паўтарыўся бліжэй. Хлопец неахвотна падняўся, каб разгледзець таго, хто шукае курыць.

Трымаючы ў абедзвюх руках пайку, па праходу павольна ішоў малады палонны з вялізнымі вачамі.

— Хадзі сюды! — азваўся Янка, калі палонны параўняўся з ягонымі нарамі.

Пакуль той узбіраўся на верхатуру, трымаючы перад сабою пайку, і Янка глядзеў на яе, у ягонай сярэдзіне варухнуўся дакор самому сабе. Сёння ён ужо з'еў амаль трайную норму хлеба: сваю, кавалак, якім пачаставаў Тадэвуш, і мацавальшчыкаў бутэрброд. Хлопцу стала сорамна. Ён разгубіўся і не ведаючы, што гаварыць палоннаму з глыбока ўпалымі шчокамі, які ўсеўся на нарах, звесіўшы ногі, чамусьці ні з таго ні з сяго спытаўся:

— Запалкі ёсць?

— Для добрага чалавека знойдуцца,— нараспеў прагугнявіў незнаёмец.

Ён паклаў на калені пайку, нетаропка дастаў з кішэні капшук і ў два прыёмы важна выцягнуў з яго спачатку ладнае крэсіва, а потым — крэмень з кавалкам сухой губы.

— О, баявая кацюша! З такімі прычындаламі не толькі прыкурваць, а кадзіць можна! — сказаў Янка, відаць, пад уражаннем гугнявасці незнаёмца і яго дапатопнага, але практычнага прыстасавання.

Хлопец чамусьці адразу ж уявіў, як палонны з напеўным голасам дае прыкурваць другім, а потым, нібы поп дары, збірае ад іх недакуркі. Гэтае ўяўленне навяло хлопца на дзівацкую думку. Ён усунуў тры пальцы ў нагрудную кішэню фрэнча, пакорпаўся там і падаў палоннаму цыгарэту.

— Закурвай.

Незнаёмец нерашуча ўзяў яе і, не выпускаючы з ле-

вае рукі, у якую прыхапіў яшчэ крэмень з прыкладзенаю да яго губаю, і цвёрда трымаючы ў правай крэсіва, спрактыкаваным рухам красануў і з першага разу выкрасаў іскру. Ад яе спачатку затлеў, потым задыміўся і, нарэшце, успыхнуў жарам краёчак губы. Палонны старанна раздзьмуў жар і, спяшаючыся, прыпаліў ім цыгарэту.

Назіраючы, як ён прагна зацягваецца ёю, Янка нетаропка дастаў з кішэні другую і таксама прыкурыў ад ягонай цыгарэты.

— Ну, добры чалавек,— пыхкнуўшы, прамовіў хлопец.— Давай з гэтай верхатуры, як з амбона, памянём нябожчыкаў Вадзіма, Арсеня, Тараса і Надзею. Ды пакадзім дымам за спакой іхніх душ.

Нічога не разумеючы, палонны здзіўлена паглядзеў на Янку. Бяздонныя вялізныя вочы незнаёмца да краёў былі запоўнены журбою.

Абодва яны — Янка падкрэслена ўрачыста, а незнаёмец трохі скавана — праседзелі маўкліва, пакуль не выкурылі цыгарэты. Палонны затушыў слінаю недакурак і ашчадна паклаў у капшук. Не спяшаючыся, ён сабраў і схаваў сваё начынне. Узяў з улоння пайку і, ужо нібыта баючыся парушыць усталяванае маўчанне, жэстам другой рукі падаў Янку невыразны знак: ці то «вазьмі і сам адрэж сабе скібку», ці то «дай чым-небудзь адрэзаць».

— Не трэба. Еш на здароўе,— сказаў Янка.

Палонны недаўменна паглядзеў на хлопца, нерашуча злез на дол і няўпэўнена рушыў да выхаду. Адыходзячы, азірнуўся.

Затое ў Янкі нібыта палегчала на душы. Бабуля, бывала, прызнавалася, што пасля споведзі ёй робіцца лёгка-лёгка.

З тае пары пасля абеду хлопец выкідваў свае дзівацкія конікі. Пачаты пачак ён аднёс назад у рэчмяшок. А ў лагер штодня прыносіў у кішэні дзве цыгарэты, якімі на нарах, пасля абвяшчэння памінальнага рытуалу на пару з кожным новым мяняльшчыкам яны моўчкі кадзілі за спачын мёртвых душ нявольнікаў. Праўда, Янка не курыў у зацяжку. Не толькі таму, каб не ўцягнуцца ў курэнне. Ён адчуў, што цыгарэтны дым горкі і без духмянага водару, якім пахнуць цыгарэты. Хлопец пабойваўся, што калі зацягнецца, дык зноў, як у маленстве, пачне пакутліва ванітаваць.

Звычайна падазваны заядлы курэц, што мяняў хлеб на тытунь, не меў запалак. Янка частаваў мяняльшчыка цыгарэтаю, прасіў прыпаліць яе дзе-небудзь і вярнуцца, каб яму самому ад яе прыкурыць. Вядома, кожны з ахвотай выконваў такую просьбу. Лацвей атрымаць авансам цыгарэту, а там бог бацька. Тым болей што гэта не самакрутка з тытуню, якую палонныя сціпла прыкурвалі каля распаленай буржуйкі. Цыгарэтаю не сорамна казырнуць і перад лагерным прыдуркам, які, каб не прынізіць пачуццё ўласнай годнасці, вымушаны дзеля форсу хвацка пстрыкнуць заморскаю запальнічкаю.

За ўвесь час толькі адзін з мяняльшчыкаў, недаростак Хомка, з прадаўгаватым, як у неандэртальца, чэрапам, па клічцы «Шакал», збіў Янку з панталыку. Ён чамусьці як пайшоў з цыгарэтаю, дык так і не вярнуўся назад, каб даць прыкурыць ад яе Янку. Відаць, палічыў, што ў хлопца здарылася штосьці з галавою і яму шкодна курыць.

А нейкі ціхмяны дзядзька, мабыць, падумаў, што Янка з'ехаў з глузду, бо, збянтэжана злазячы з нараў пасля выкуранай цыгарэты, увачавідкі жахнуўся і перахрысціў рукою спачатку хлопца, а потым — сябе. Пазней гэта здагадка, відаць, разышлася па лагеры. Янка неаднойчы прыкмячаў, як з бакоў употайкі назіраюць за ім палонныя: большасць — спагадліва, спачуваючы, а сёй-той — з пустою цікавасцю.

Але гэта не крыўдзіла хлопца і не абражала ягонай годнасці. Наадварот, у паднявольным жыцці для яго была аддушынай нявінная гульня ў жмуркі. Хлопцу было радасна, што ў яго ўсё болей абуджаюцца чалавечыя якасці, якія перамагаюць жывёльныя інстынкты. Асаблівую асалоду выклікала тое, што успамінае сваіх былых сяброў і суседзяў. Хлопца таксама забаўлялі і смяшылі разгубленыя і збянтэжаныя твары кожнага з мяняльшчыкаў. Янка разумеў, што гэтакім быў бы і ён сам, калі б апынуўся на іх месцы.

Малады арганізм ненасытны. У лагерах Янка ніколі не наядаўся ўдосталь. Хлопец адчуваў, што дзякуючы Швэрмеравай дапамозе ён зусім перарадзіўся і духоўна, і фізічна. Гэтаму спрыяла таксама і штодзённае суседства з Тадэвушам. Хлопца радавала, што ён прыносіць хоць кароткую ўцеху сваім таварышам. Ён чакаў палучкі, каб даць паляку марак, за якія той

прынёс бы цэлы блок пачак з цыгарэтамі. Нецярпліва чакаў і непакоіўся, што Тадэвуш з дня на дзень можа пакінуць падзямелле, бо паляк даверліва паведаміў яму, што неўзабаве пяройдзе на паверхню.

## 32

Янка адвёў у стойла Тойфеля і, седзячы каля клеці, гаварыў з Тадэвушам. Мінула болей палавіны абедзеннага перапынку. Звычайна ў такі час пад'ёмная клець вісіць нерухома. А тут раптам яна зашастала ў студні ствала пасля таго, як там глуха блямкнулі сігнальныя ўдары і натужліва зарыпеў сталёвы трос. Неўзабаве клець вынырнула з глыбіні і, уздрыгнуўшы, плаўна павісла над прадоннем. З сярэдзіны яе асвятляў сваёй лямпаю Швэрмер. Тадэвуш устаў, адсунуў перад ім пруцяную металічную агароджу — і мацавальшчык, адчыніўшы крацістыя палавінкі дзвярэй, уцягваючы галаву ў плечы пад цуркамі вады, таропка выйшаў на цвёрдую падэшву штрэка.

— Глюкаўф! — прывітаўся ён, не прыпыняючыся.— Ёган, хадзем у адкатачны штрэк. Штайгер паслаў высветліць, што за чартаўшчына там адбываецца.

Хлопец нехаця падняўся і моўчкі пайшоў следам. У Янкі не было ніякае ахвоты ў полуднік некуды ісці. Але і адмовіцца не выпадала. Ідучы, мацавальшчык бубніў сабе:

— Нейкае страхоцце там узбударажыла ўвесь забой, а Швэрмер ідзі разбірайся. Без Швэрмера нідзе не абыдуцца!

На месцы іх чакала неапісальнае відовішча.

Каля забоя, паабапал саставу паражняка, людзі запрудзілі адкатачны штрэк. Натоўп то сціхаў, то размахваў лямпамі. Калі Швэрмер з Янкам наблізіліся, гул сціхнуў.

— Што тут здарылася? — нягучна запытаўся панямецку мацавальшчык, ні да каго канкрэтна не звяртаючыся.

Але ягоны голас пачулі ўсе ў насцярожанай цішыні.

— Зараз дазнаешся. Пацярпі,— іранічна сказаў парыску замурзаны вугальным пылам адкатчык, што, звесіўшы ногі ў ваганетку, сядзеў на латку рыштока, з якога звычайна вадаспадам сыплецца вугаль.

«Сціхніце!», «Не перашкаджайце!» — жэстыкуляцыяй прасігналіла некалькі лямпаў.

І нібыта ў адказ на гэтыя светасігналы ў цемрадзі, далей за рыштокам, пачулася перарывістае не то мяўканне, не то бляянне, якое імгненна захліснула крутая хваля шматгалосага людскога спалоху. Калі яна адхлынула, змяўшы разрозненыя ўздыхі і выкрыкі, відаць, нейкі чужаземец на свой лад па-нямецку вымавіў:

— Тойфельс місгэбурт! [1]

— Тойфель жа — конь, а не кабыла. Дый гэта ж не жарабячае ржанне,— па-нямецку прагучаў у натоўпе Хольцаў бас.

Некаторыя неўпапад пырснулі смехам, другія на іх злосна зацыкалі. Праз момант нетрывалая цішыня зноў была парушана немым бляяннем. Дрыготна-жаласнае, яно прасіла ратунку і не магло не адгукнуцца ў чалавечым сэрцы. Пярэднія інстынктыўна памкнуліся на ягоны кліч, але, збянтэжаныя, спыніліся, пачуўшы ў цемрадзі пагрозлівы барабанны пошчак з металічным брынчаннем, ад якога натоўп спалохана адхлынуў назад.

— Нячысціка не адолееш! — глыбакадумна растлумачыў з рыштока адкатчык, які ўзвышаўся над натоўпам, нібы суддзя над ігракамі на валейбольнай пляцоўцы, і, хітравата ўхмыляючыся, падліваў у агонь масла: — Яго адпудзіш толькі замоваю або закляццем!

Янка разумеў, што змардаваных палонных нікольечкі не палохае гэтае страхоцце. Ім абы толькі не працаваць. Яны строяць кпіны, падражніваючы немцаў.

— Без хітрасці і ўмельства нічога не атрымаецца,— па-нямецку зазначыў хтосьці з шахцёраў.

— Можа, таму і прыслалі сюды Швэрмера? — яўна падкалупліваючы, голасна запытаўся па-нямецку Хольц.

Палонныя, вядома, не разумелі сэнсу сказанага. Праўда, Янка заўважыў, як Швэрмераў твар перасмыкнуўся, але потым зноў стаў ранейшы і на ім адлюстравалася пачуццё ўласнае годнасці.

І якраз у гэты момант з цемрадзі зноў даляцела бляянне з металічным грукатам і брынчэннем.

Пад шматгалосы ўздых-выкрык, які заглушыў та-

[1] Чортаў вырадак!

ямнічыя гукі, мацавальшчык з узнятаю ўгару лямпаю дэманстратыўна рушыў праз натоўп.

Па Янкавай спіне прабеглі мурашкі. Людзі таксама анямелі, калі ўбачылі, што Швэрмер з незалежным выглядам адзін пайшоў у наступ на пагрозлівы бразгат з бляяннем. З затоеным дыханнем усе насцярожана сачылі за кожным крокам старога. Асабліва не зводзіў вачэй са Швэрмера адкатчык. Ён усёю паставаю ажно падаўся ўслед за мацавальшчыкам і здавалася, што не ўтрымае раўнавагі і вось-вось зваліцца з латка рыштока.

А Швэрмер нетаропкаю хадою наблізіўся да першай парожняй ваганеткі, якая была за латком рыштока, і, асвятляючы лямпаю, зазірнуў у яе сярэдзіну. Гэткім жа чынам агледзеў яшчэ дзве. Каля самай апошняй, у якую зазірнуў таксама, ён чамусьці затрымаўся, нібыта пераводзячы дух. Потым праз борт глыбока нагнуўся з лямпаю ўсярэдзіну — і ў той жа момант, быццам па яго загаду, адразу ж заціх пагрозлівы грукат з бляяннем.

Усе прасвідроўвалі позіркамі прыцемак, але нічога не маглі разгледзець: Швэрмерава лямпа з дна ваганеткі асвятляла толькі пляму на столі штрэка.

Ніхто не заўважыў, як адкатчык імгненна пакінуў свой назіральны пункт і непрыкметна растварыўся ў натоўпе.

Людзі ўжо ледзь стрымлівалі нецярплівасць, а Швэрмер па-ранейшаму бавіўся. Нарэшце ён выпрастаўся і, як нічога і не было, нетаропка пайшоў назад. Пры святле лямпы ўсе ўбачылі, што ён нясе на руках жывую белую істоту, якая лянiва перабірае ножкамі.

«Дык гэта яна грукатала капытамі па дне ваганеткі»,— падумаў Янка.

— Агнец! — няпэўна сказаў нейкі палонны.

— Адкуль ягня трапіць у шахту? — з'едліва перадражніў адкатчык, які апынуўся паблізу.

— Сапраўды, знак божы. І Хрыстос нарадзіўся ў яслях, дзе знаходзіўся агнец. Агнец — святы сімвал пакорлівасці і лагоднасці,— настойваў на сваім і, кашляючы, нават перахрысціўся той самы палонны.

Янка пазнаў у ім маладжавага мужчыну, які мяняў пайку на цыгарэты. Хлопец даў яму тады цыгарэту, адмовіўшыся ад ягонага хлеба, дык мужчына перахрысціў спачатку Янку, потым — сябе.

Калі Швэрмер падышоў да натоўпу, людзі разгледзелі на ягоных руках невялічкае казлянё, якое, мусіць, ад мігцення многіх лямпаў палахліва тулілася да мацавальшчыкавых грудзей.

— Дальбог, д'яблік! — усклікнуў набожны палонны і замахаў рукамі.— Казёл заўсёды прыносіць ліха!

— А ты чакаў ад немцаў дабра? — з ironіяй запытаўся адкатчык.— І трэба наклікаць кару боскую. У людзей не засталося нічога святога. З-пад самага носа бязбожна ўзялі жывую свежаніну! Святым жа духам сыты не будзеш! А паспрабуй дзень паадштурхвай гружаныя ваганеткі! Можна было яшчэ павалаводзіцца, дык аднекуль прынесла гэтага старога.

Нібы лязом па сэрцы паласнулі Янку гэтыя словы. Яму стала шкада мацавальшчыка, які не па сваёй віне трапіў, як лісіца ў саладуху. У казках сапраўды казёл заўсёды прыносіць людзям няшчасце. Дабрадушны стары, які на руках вынес з цемрадзі маленькае сімвалічнае ліха, абудзіў у хлопца жаль.

Але разам з тым у словах адкатчыка Янка адчуў і нейкі намёк на гэтую загадкавую прыгоду.

Шыла ў мяшку не ўтоіш. Хоць і хавала змрочнае падзямелле канцы гэтай загадкі, але яе пачатак заставаўся на паверхні. У лагеры ўсё высветлілася.

Калі ранкам вялі палонных ад вуглярак да шахты, праз іхнюю калону прашмыгнула некалькі коз з казлянятамі, што папасваліся каля шахтавага двара. Канваіры не здолелі затрымаць настырных бяскрыўдных жывёлін.

Два адкатчыкі, якія ішлі побач у сярэдзіне рада, дурэючы, спрытна ўхапілі малое казляня. Нявіннага свавольства не заўважылі і паліцаі. А як толькі хлопцы прапусцілі момант — палічылі, што няварта ўжо адпускаць жывую істоту: здабыча ж сама ў рукі трапіла. Хоць з гарачкі добра не ўяўлялі, як будуць яе спажываць, але выпускаць пашкадавалі. Сам не гам і другому не дам. Травы — і той для варыва не перападала, а тут раптам — мяса, дый не якая-небудзь дзічына, а маладое, малочнае казляня.

Адкатчыкі прыйшлі з казлянём у раздзявальню. Жывое ў рэчмяшку не паднялі на вешалку: яшчэ пачне бляяць, дык шахцёры ўстановяць, хто ўкраў нямецкую жывёліну. А задушыць і падвесіць мяса таксама пабаяліся: за дзень сапсуецца ў гарачыні. Пад

спяцоўкаю пранеслі малую істоту на рабочае месца. Але загадзя рабіць свежаніны не сталі, бо ведалі, што ў цемрадзі яе развалакуць пацукі. Да канца змены рашылі прыхаваць казляня жывым у парожняй ваганетцы, якую трымалі паблізу.

Калі тарахцеў транспарцёр і грукаталі малаткі, не было чутно ніякага бляяння. А ў часе полудніка нязвычныя для падзямелля гукі выклікалі такую паніку, што ўсе з забоя павылазілі ў адкатачны штрэк.

## 33

Начныя паветраныя налёты пачасціліся, сталі звычайным з'явішчам і ў палонных не выклікалі ўжо страху. Напэўна, самалёты праляталі цэлымі касякамі, бо гудзенне матораў, у якое ўпляталіся разрозненыя стрэлы зенітак і глухаватыя воплескі разрываў, то ўзмацнялася, то зноў заціхала. Але па-ранейшаму ў наваколлі не чутно было выбухаў авіябомбаў.

Таму з кожным разам пасля сірэны паветранай трывогі паліцаям было цяжэй будзіць і выганяць палонных у бункеры. Знясіленыя голадам і змораныя працаю, людзі спалі як забітыя. Яны лепей засталіся б спаць навекі ці згарэлі б у драўляных бараках, чым хацелі падымацца і перабягаць у вільготныя бамбасховішчы. Раскатурханыя крыкамі і штурханінаю, яны неахвотна пакідалі ўвагрэтыя логавішчы. Падганяў не страх перад начною трывогаю, а кіі паліцаяў.

Паветраныя налёты не выклікалі боязі не таму, што не было пагрозы жыццю. У стане псіхалагічнага адчаю і фізічнай знямогі людзі зрабіліся раўнадушныя да жыцця і абыякавыя да смерці.

Перад іншымі Янка адчуваў сябе няёмка ў такія моманты. Не сказаць, што хлопца апаноўваў страх, але ўсё-такі ён трохі пабойваўся. Мабыць, прычынаю таго быў юнацкі ўзрост і неабстрэлены прывілеяваны род войск, у якім ён служыў на фронце. А можа, гэтаму спрыяла тое, што хлопец ужо даўно не знясільваўся цяжкою працаю і па-ранейшаму штодня падсілкоўваўся каларыйнымі полуднікамі. Калі б тады, як ён працаваў у забоі, хто-небудзь сказаў, што ў яго будзе такое самаадчуванне, Янка ніколі гэтаму не паверыў бы.

Хлопцу хацелася жыць, таму ён і пабойваўся смерці.

А сягоння паветраны налёт быў нязвычны — ён цягнуўся амаль усю ноч. Па магутным гуле, які то заціхаў на некаторы час, то зноў узмацняўся — ажно стагнала зямля і вібрыраваў увесь бункер — адчувалася, што гулі цэлыя паветраныя армады і што іх паасобныя эшалоны ішлі з інтэрваламі. Некалькі гадзін Янка перадрыжаў у бамбасховішчы. У штрэках побач са Швэрмерам яму было куды спакайней. Адбой паветранай трывогі прагучаў тады, калі пачало днець.

Палонныя толькі заснулі, як іх зноў паднялі. У такім стане спрасонку не разбярэшся, што да чаго. Думаеш, што зноў сірэна абвясціла начны налёт. Але кіі паліцаяў, нібы з сеннікоў, выбіваюць з людзей санлівасць.

Нявыспаныя паліцаі і канваіры сягоння асабліва раз'юшаныя і таму сваю злосць спаганяюць на палонных. На кім жа яшчэ яе спагнаць? На тых самалётах, што ўсю ноч ляцелі? Кіёў у паліцаяў не хопіць, дый рукі кароткія. А вінтоўкамі канваіры таксама не дастануць. Нябось сядзелі ў бункерах, прытаіўшыся, нібы пацукі ў норах. А цяпер спрыт паказваюць.

Паліцаі могуць раніцаю вызначыцца тройчы: у бараках у часе пад'ёму, каля кухні, дзе выдаюць ежу, і на пастраенні, перад выхадам з лагера. Калі ў якім адным з гэтых выпадкаў не паспеюць паказаць спрыт, вызначацца ў двух астатніх, хоць і ўзброены толькі кіямі.

У канваіраў зброя агнястрэльная, але затое разгону меней. Толькі калі выстройваецца калона перад выхадам з лагера, яны могуць пусціць у ход ствалы ды прыклады. Але часу малавата. Сягоння яны злосныя-злосныя. Ім таксама выспацца не далі. І, мабыць, усё навокала злуе і трывожыць. Спаганяюць злосць на палонных, хочуць іх запалохаць, каб тыя з-за страху нічога не заўважылі. Але як прымусіш чалавека не заўважаць таго, што кідаецца яму ў вочы нават і тады, калі прыплюшчваюцца павекі ад кожнага штуршка ствалом і кожнага ўдару прыкладам? Калі б завязаў яму вочы, дык ён жа нагамі адчуе, што шамаціць штосьці пад імі, і слыхам уловіць гэтае таямнічае шалясценне.

Дахі баракаў і пограбы бункераў нібыта густа пабелены інеем. Усё аплецена папяровымі істужкамі. Як серпанцін, яны звісаюць з калючае агароджы каля іза-

лятараў і лямпачак. Імі пакрыта ўсё наваколле, дзе калону вялі з лагера, везлі ў вуглярках, гналі да шахтавага двара. Гэтыя істужкі, нібы разнастайныя каснікі, шырокія і вузкія. Невядома толькі, з чаго яны — з фальгі ці са станіёлю або з навошчанай паперы? Куды ні глянеш — імі аблытана ўся зямля.

Да гэтага Янку за кратамі і ў квадратах лагерных блокаў з драцянымі агароджамі здавалася, што зямлю, як валейбольны мяч, малпападобныя фашысцкія бамбізы пад гіканне і свіст забілі ў сетку з калючага дроту. А цяпер на самай справе яе абвілі гіганцкімі сецямі, якія ўначы цягнулі і скінулі з вышыняў паветраныя армады. Хай сабе гэтыя сеці кволыя і нетрывалыя, але ж яны сімвалічныя, таямнічыя і загадкавыя. Ні канваіры, ні палонныя не ведаюць, што гэта такое. Але ўсё роўна, у першых сеці выклікаюць трывогу і насцярожанасць, а ў другіх — яхідную зларадмасць. «За адну летнюю ноч зазімак прыцярушыў інеем патыліцу Германіі. А як жа будуць выглядаць яе скроні і ўся чупрына, калі з усходу дастануць траскучыя маразы і падзьмуць сіберныя вятры?» — думае Янка. Перад вачамі паўстае тая жанчына, на галаве ў якой ад ілба да патыліцы выстрыжана палоса. Ці адраслі на ёй валасы? Яму чамусьці ўяўляецца, што іх за гэты час таксама густа пасерабрыў зазімак.

А вынік начной трывогі відаць не толькі па нервовай узбуджанасці Фрэйвальда перад лямпавай. Каля пад'ёмнай клеці і на каранной падоўжнай гэта адчуваецца як па нервознасці штайгера, так і па надзьмутасці нямецкіх шахцёраў, якія стараюцца не прыкмячаць палонных, вітаюцца халаднавата, адказваюць на прывітанні стрымана, адводзячы ўбок свае позіркі. Яны трымаюцца купкамі, адасоблена. Сягоння гэта асабліва кідаецца ў вочы, здзіўляе і ўражвае Янку.

«Напалоханыя,— думае ён.— Самі ж заварылі гэтую кашу, дык няхай самі і расхлёбваюць яе. Няхай пазнаюць, пачым фунт ліха. Пачакайце, гэта яшчэ толькі кветачкі, а ягадкі наперадзе».

У Руры шахцёры пры сустрэчы замест «добры дзень!» або «добрага ранку!» кажуць «глюкаўф!» — «шчаслівага падняцца!». Такая форма прывітання ў шахце захоўваецца і ў адносінах да іншаземцаў, а таксама да савецкіх палонных. Па інтанацыі, з якой сустрэчны вымаўляе прывітанне або адказвае на яго, ці

па спачувальным, крадком кінутым позірку можна меркаваць, як гэты чалавек да цябе адносіцца.

Звычайна палонныя ўсміхаліся і пакеплівалі, калі штайгер, у душы не жадаючы гаварыць «глюкаўф!», на іхнія прывітальныя воклічы вымушаны быў толькі адбрэхвацца кароткім «аўф!» ці па-сабачы злосна гаўкаць кожнаму, замест таго, каб вітацца, праходзячы міма.

Хольц, пераймаючы начальства, таксама капіраваў штайгера, толькі ў адрозненне, замест «глюкаўф!», раўнадушна гаўкаў, а ў адказ на прывітанні палонных абыякава адбрэхваўся. А сягоння ў штайгера атрымліваецца «гаў!» — дый зубы сцяў. Сягоння яны абодва ўсё роўна як памяняліся ролямі: штайгер гаўкае і адбрэхваецца цішэй, уяўна спакойным голасам, а Хольц — злосна, надрываючы бас.

Пакольхі яны трымаюцца адчужана, ідуць, унурыўшы галовы і не звяртаючы ўвагі на палонных, дык і тыя без усялякага нагляду адчуваюць сябе вальней.

У ціхіх размовах, таямнічых меркаваннях і няпэўных здагадках пачаўся гэты дзень, прыносячы радасныя весткі і добрыя спадзяванні.

Першы паведаміў навіну Гільро. Мабыць, спецыяльна чакаючы Янку, ён стаяў на ростанях двух штрэкаў. Набліжаючыся, хлопец заўважыў, што француз узбуджаны і нешта важнае ведае. Ягоны твар свяціўся, як шахцёрская лямпа.

— Жан, у Гільро вялікая радасць! — таямніча прамовіў ён, прыпыняючы Янку.— Столькі радасці, што Гільро не можа не падзяліцца ёю! У Францыі высадзіліся англічане з амерыканцамі. Будзьце здаровы! Віват Францыя!

Хаця іхнія дарогі адгэтуль разыходзіліся і кожны з іх нырнуў у іншы тунель, але хлопцу імгненна перадалася французава ўзбуджанасць. Ад радасці, якой падзяліўся Гільро, нібы пацяплела на душы і пасвятлела ў змрочным штрэку.

Сенсацыйная навіна, канечне, не магла не ўсхваляваць Янку. Нарэшце-такі саюзнікі адкрылі доўгачаканы другі фронт! Хлопец разумеў, што цяпер, калі лёс шматпакутнай Беларусі вырашаецца дзесьці далёка на ўсходзе, ягоная доля можа вырашыцца паблізу, на захадзе. Бо ўсё-такі ад Беларусі да Рура — тысячы кіламетраў, а Францыя — непадалёку, побач.

Уражаны пачутаю весткаю, Янка акрыяў, адчуваючы, як невядомае пачуццё перапаўняе ягоную істоту, распірае грудзі. Калі б зверху не прыгнятала навіслая столь, ён цяпер, здаецца, не ішоў бы, а ляцеў на крылах. Каб суцешыць і падтрымаць іншых палонных, якія ішлі па штрэку, яму зарупіла як мага хутчэй перадаць ім гэтую навіну. Вачамі ён выбіраў разрозненыя купкі суайчыннікаў, абмінаў іх, на хаду таямніча абвяшчаючы: «Адкрыўся другі фронт!» — і зноў паскараў крокі, каб дагнаць іншых і паведаміць, што ў Францыі высадзіліся саюзнікі.

Але чамусьці ягонае паведамленне не выклікала ў палонных бурнага ажыўлення. Чаму яно ўспрымаецца абыякава? Ці, можа, ён, апантаны, выглядае перад імі дзівакавата? Ці яны такія абыякавыя да жыцця? Хлопцу здаецца, што некаторыя з іх па-ранейшаму глядзяць на яго, як на вар'ята, у якога што ў галаве, тое і на языку. Гэта не толькі крыўдзіць, але і злуе хлопца, падаграваючы ягоны запал.

Нібы няўрымслівы ганец, ён утрапёна нёс далей па падзямеллі перададзеную з паверхні вестку.

У гурце палонных выйшаў з клеці на другім гарызонце — і ўбачыў, што замест Тадэвуша на месцы ствалавога завіхаецца зусім іншы чалавек — мажны белабрысы мужчына, сярэдняга росту, апрануты ў цыратавую куртку. Тадэвуша ўжо не было... Хлопец адчуў сябе сіратліва. Ён упаў духам і адразу ж панікнуў.

Спачатку памкнуўся быў разам з палоннымі ісці проста да паражняка, але схамянуўся і адзін накіраваўся ў супрацьлеглы бок — да стойла.

Калі палонныя купкаю выходзілі з клеці, Тадэвушаў пераемнік маўчаў нібы набраўшы ў рот вады. А як толькі Янка з'явіўся каля яго з Тойфелем, ствалавы ўсхадзіўся і закіпеў быццам гарачы самавар.

— Ах ты, руская свіння! Хто табе нямецкага каня даверыў? Каб ён убрыкнуў цябе ды высадзіў зубы і звярнуў набок лыч! — па-нямецку крычаў ён на Янку.

Відаць, жадаючы напалохаць палоннага, немец ступіў да яго некалькі крокаў, але, здзіўлены, спыніўся як укопаны. Янка таксама разгубіўся і толькі на ўсялякі выпадак інстынктыўна ўзяў у левую руку повад, а правай перахапіў крук важкае акумулятарнае лямпы.

«Ты разумнейшы за свайго суайчынніка,— думаў хлопец пра каня, адыходзячы ад клеці.— Ён хоць і мажны, а баіцца купкі палонных! Супраць аднаго лядашчага лацвей паказваць смеласць!»

З раніцы Янка ні разу не прыпрог каня да парожніх ваганетак. Ён сам перакочваў іх цераз пад'ём.

Таму, калі ў штрэку нечакана з'явіўся Швэрмер і таямніча параіў Янку адкаціць Тойфелем новую партыю паражняка, хлопцу таксама не вельмі хацелася важдацца з канём. Але Янка выканаў параду старога, які чамусьці адразу ж пашыбаваў да адкатачнага штрэка. Хлопец упрог Тойфеля і павалок ім да пад'ёму невялікі цуг парожніх ваганетак.

«Бач ты, сягоння і стары не такі, як звычайна. Нават і ён ні на хвіліну не затрымліваецца, а хутчэй знікае»,— думаў хлопец, здзіўлены Швэрмеравымі паводзінамі.

Але Янка схамянуўся, што састаў, рухаючыся па пакатасці з пад'ёму, можа павалачы за сабою і яго з канём,— і пачаў азірацца, сочачы за напятасцю пастронкаў.

Толькі адчапіў ад барта ваганеткі крук ворчыка, як перад вачамі, нібы прывід, узнік з цемры Швэрмер з выключанаю лямпаю. Мабыць, мацавальшчык баяўся, каб хлопец знянацку не спалохаўся, таму пачакаў, пакуль ён адпражэ Тойфеля.

— Еган, на досвітку на ўзбярэжжы высадзіліся англічане і амерыканцы,— таямніча паведаміў ён, аддаючы хлопцу полуднік і з апаскаю пазіраючы на каня, як быццам баючыся, што той заўважыць пакуначак або зразумее сакрэтнае паведамленне.— Усю ноч іх караблі з авіяцыяй дэманстратыўна дзейнічалі паміж Гаўрам, Булонню і Шэрбурам. Каб адцягнуць увагу вермахта, самалёты нават выкінулі на парашутах чучалы. Заблыталі ўсю Германію сецямі з палос металізаванай паперы, а дэсант высадзілі ў Нармандыі.

У ягоным голасе не адчувалася ні радасці, ні страху.

Янку чамусьці стала шкада старога. «Ці ж гэты немец вінаваты, што ў яго такая радзіма? Калі б многія жыхары яе былі такія, як Швэрмер, дык, можа, і Германія была б інакшая».

— А навошта яны скідвалі палоскі паперы? — па-

цікавіўся Янка, адганяючы прэч сентыментальныя думкі.

— Хто іх ведае? — таксама запытаўся Швэрмер.— Можа, каб адцягнуць увагу ад сваіх самалётаў? — і, трохі памаўчаўшы, ужо лагоднай інтанацыяй пачаў павучаць: — Ёган, ты адкочвай ваганеткі канём.

— Якая розніца, хто іх адвалоквае — я ці Тойфель? — не разумеў хлопец.

— Новаму стваламому не падабаецца, што замест каня ты сам адкочваеш паражняк.

Янку здалася педантычнай прыдзірка стваловага, але хлопец з іроніяй запытаўся:

— Адкуль ён узяўся, гэты дабрадзей?

— Вярнуўся з усходняга фронту пасля ранення,— растлумачыў Швэрмер.

— Штосьці не адчуваецца,— няпэўна заключыў хлопец, мяркуючы, што задзірлівы мажны тып яшчэ не трапляў у сапраўднае пекла, калі з яго не сагналі лішні тлушч і не выбілі пыхі.

Янка хутка даведаўся, што новы стваловы надта абураўся, чаму не нямецкаму юнаку, а савецкаму палоннаму далі аблегчаную працу. Праўда, калі Швэрмер запытаўся ў суайчынніка, адкуль набраць у шахту нямецкіх юнакоў, якіх не хапае для фронту, стваловы са злосцю плюнуў і незразумела вылаяўся.

Аднак Янка ўсё роўна адчуў, што ў яго лёсе пачынае нешта мяняцца. Яму здавалася, што цяпер адцягнуць на сябе разрады навальніцы могуць толькі бліскучыя сеці, якімі аблыталі Германію.

## 34

Усё гэта здарылася з Янкам нібыта ў сне. Ад першага ўдару кія ён прачнуўся і ўсхапіўся, аднак другі ўдар адразу ж улажыў яго на ранейшае месца.

Першы ўдар сапраўды разбудзіў, але на самай справе хлопец усхапіўся з гарачкі. І назад яго ўлажыў не кій: Янка чмякнуўся на нары пад цяжарам уласнага цела, якое не здолеў утрымаць з-за фізічнае слабасці. Галава расколвалася ад шчымлівага болю.

У такім стане хлопец не паспеў адчуць усяе сілы абодвух удараў і не разгледзеў, з якой рукі апераза́ў яго Ляўшун.

Пазней Пятруша насілу справадзіў Янку ў сан-

часць. Недаростку наогул нязручна ўзяць цыбатага, а тым болей калі ён не трымаецца на нагах, а яго трэба весці пад пахі.

У другой палавіне дня Янку стала лепей: суціхла балець галава і панізілася тэмпература. Ён не помніў, як з ім саўладаў Пятруша. Хлопец не ведаў, што санінструктар клапаціўся не так пра хворага, як пра сябе самога, бо баяўся, каб не страціць наседжанае месца. Паколькі ягоная рэзідэнцыя найчасцей пустуе, дык многія пакепліваюць, што санінструктар ужо дыскваліфікаваўся і яго даўно пара накіроўваць у забой.

Лекар не па ведах, а па абавязку, Пятруша, вядома, не мог паставіць дыягназ або вызначыць Янкаву хваробу. Ён толькі расказаў хлопцу, як той, непрытомны, ляжаў раніцаю ў гарачцы, і выказаў думку, што ў Янкі малакроўе і недамаганне.

У пачатку абеду санінструктар прынёс з кухні Янкаву порцыю баланды разам са сваёй пайкаю хлеба, якая ляжала зверху на накрыўцы ягонай бодні. Гэтыя ёмістыя дзюралевыя пасудзіны разнастайнай і мудрагелістай формы, зробленыя саматужнымі бляхарамі па заказу лагерных прыдуркаў, Янка бачыў ва ўсіх ранейшых перасыльных лагерах і ў шталагу. Але ў шахцёрскім лагеры палонныя чамусьці называюць іх спецыфічным гарняцкім тэрмінам — «бодня».

— У рэвіры заведзена, што кранкам хлеб не належыць,— як бы сарамліва растлумачыў Пятруша і, мабыць, каб ягоная пайка не спакушала хлопца, накіраваўся з ёю да паліцайскае штубы.

Янку не здзівіла, што ён не атрымаў пайкі. Яшчэ ад Арсеня хлопец чуў, што хворым у лагернай санчасці не выдаюць хлеб. Мусіць, горнае акцыянернае таварыства прытрымліваецца правіла: хто не працуе, той не есць. Аднак хлопца трохі рассмяшыла, як недарэчы Пятруша пнецца казыраць іншамоўнымі тэрмінамі. Янка ведае, што слова «рэвір» па-нямецку азначае — бальнічны барак. А самазваны санінструктар называе гэтым словам малюсенькую лагерную санчасць. Няйначай як хоча ўласную персону ўзвысіць у вачах іншых да звання ўрача.

На тапчане хлопец падсеў бліжэй да шафкі, на якой Пятруша паставіў міску, нетаропка дастаў з бакавой кішэні лыжку, што заўсёды знаходзіцца пры ім, нібы пры курцы — люлька,— і ўзбоўтнуў ёю варыва. Упер-

шыню яму дасталася такая порцыя. У баландзе ледзьве праварочвалася густая зеляніна шпінату.

Відаць, кухар, ведаючы, што ў хворага не будзе хлеба, злітаваўся над ім і са дна катла зачэрпнуў аднае гушчы. Але ж і на паверхні плаваюць скалкі нейкага тлушчу. А Янку не хочацца есці. Аказваецца, Румега пры выдачы ежы нездарма лез напралом праз кії паліцаяў, выгадваючы, каб аднаму з першых апынуцца перад акенцам кухні. Не дзіўна, што перад раздачай баланды кухар перш-наперш напаўняе ёю, неперабоўтанаю, падрыхтаваныя бодні паліцаяў.

Так і не пакаштаваўшы ежы, Янка і ўстаў і падышоў да кратаў расчыненага насцеж акна. Насупраць палонныя выцягваюцца ў шарэнгу па адным і шыбуюць да сталоў, на якіх стосамі стаяць пераверНутыя парожнія міскі і раскладзены роўнымі радамі пайкі хлеба.

— Нарэшце-такі гэтага небараку з хворая галавою ўладзілі куды трэба,— прамовіў суседзям шакал Хомка, які стаяў перад самым акном з краю калоны.

Янку заела крыўда. Аднойчы Хомка мяняў хлеб на тытунь, а Янка пачаставаў яго цыгарэтаю. Дык ён тады нават не прынёс хлопцу прыкурыць ад яе.

А тут яшчэ «неандэрталец», ці то жадаючы падражніць Янку, ці то з сур'ёзнымі намерамі, паказаў жэстам, што хоча выменяць за хлеб цыгарэты. Янка ўскіпеў. Але гаварыць яму не хацелася, і ён прыставіў да скроняў вытыркнутыя, нібы рогі, указальныя пальцы і прамыкаў:

— Му-у-у!

Хомка гучна зарагатаў. А ягоныя суседзі незадаволена ўхмыльнуліся, відаць, асуджаючы ўчынак «неандэртальца» і спачуваючы хвораму.

Аднекуль з-за сцяны адразу падышоў Ляўшун і, гнеўна зіркнуўшы і па-жанглёрску перакінуўшы з аднае рукі ў другую кій, папераджальнымі словамі астудзіў Янкаў запал.

— Калі агрэю, як вала доўбняю паміж рогаў, дык па-іншаму замыкаеш!

«Я ўжо ведаю, што ты не адрозніваеш хворых ад здаровых, ды толькі краты не праломіш»,— падумаў хлопец, але на ўсялякі выпадак адышоў ад аконнага праёма, баючыся, каб Ляўшун не парнуў кіем насторч.

Янка вымушаны адбываць дзень за днём на адзіноце. Санінструктар прынясе з кухні баланду, дасць нейкія таблеткі, а сам бавіцца ў паліцайскай штубе.

Хлопец трапіў у санчасць нечакана. У першы дзень, пасля паніжэння тэмпературы, ён яшчэ цярпліва пераносіў сваё адзіночнае зняволенне. Спачатку яму падабалася супакаенне і бесклапотны адпачынак. А самае галоўнае, хлопец часова пазбыўся задзірлівага фанабэрыстага сгвалавога, які змяніў Тадэвуша.

Янка не ўяўляў, як ён будзе па суседстве з гэтым тыпам, бо разумеў, што паміж імі непазбежны сутычкі. У думках хлопец параўноўваў ствалавога з мацавальшчыкам і пранікаўся павагаю да Швэрмера, яшчэ глыбей адчуваючы цану і меру яго дабрыні і спагадлівасці. Хлопец шкадаваў, што мацавальшчык дзесьці непакоіцца, не ведаючы, куды знік канагон. «Калі ачуняю, можа, ён яшчэ адшукае мяне ў падзямеллі?»

Паступова адзінота надакучыла. З кожным днём хлопца ўсё болей трывожыла яго становішча.

Чамусьці ўсё часцей ён думаў пра Арсеня. З землякова вопыту хлопец ужо ведаў, што хворага ў санчасці доўга не пратрымаюць, а хутчэй збудуць у шахцёрскі шталаг. Праўда, апошні этап гаротнікаў рушыў туды з лагера зусім нядаўна. Можа, Янка як-небудзь выкараскаецца адгэтуль.

Немцам жа нявыгадна адпраўляць адзінокага хворага: прыстаўляй да яго канваіра. А тут яшчэ Янка ўсумніўся ў Пятрушавым дыягназе. Бо ў дадатак да ўсяго ў хлопца пачало часта пяршыць у горле, а потым пачынаўся кашаль.

Асаблівым здароўем Янка не мог пахваліцца. Яшчэ ў студэнцкую пару ўрачы папярэджвалі, што ў хлопца малакроўе. У сярэдняй школе пры адборы камсамольцаў у ваеннае авіяцыйнае вучылішча яго двойчы забракоўвала медыцынская камісія. Бывала, пройдзе агляды і абследаванні ўрачоў, а як толькі пасадзяць у спецыяльнае крэсла і крутануць некалькі разоў, дык адразу ж пацямнее ў вачах, закружыцца галава, пабялее твар, нібы ў мерцвяка, і хлопца ванітуе.

Цяпер Пятруша знаходзіць у яго недамаганне. Калі недамаганне не зваліла на нішчымніцы пры цяжкай працы ў забоі, дык пасля палёгкі ў штрэках, дзе рэгулярна перападалі полуднікі, яно тым болей мала-

вераготнае. Хіба, можа, дае сябе знаць недахоп паветра ў падзямеллі.

Але як бы там ні было, а пад вечар у Янкі павышалася тэмпература. Часам уначы балела галава і мучыла бяссонніца. Праўда, удзень гарачка праходзіла. І тады хлопца насцярожвала і непакоіла тое, што ў яго прапаў апетыт, адварочвала ад яды. Якога-небудзь крупніку ці заціркі або бульбянога ці макароннага супу, можа, і паеў бы. Але ж хцівыя гаспадары эканомяць і на харчах. Яны ўхітрыліся знайсці простае і выгданае выйсце. Усе стравы назаўсёды выцеснены нязменным і універсальным замяніцелем — баландаю. Увесну і ўлетку яна са шпінату, а ўвосень і ўзімку — з сушанай бручкі. І заўсёды недасоленая.

Янка, канечне, разумее, што для таго, каб ачуняць, хвораму абавязкова трэба есці. Але як ні прымушае сябе, а нясмачная і аднастайная ежа, якая ўжо абрыдла, не лезе ў рот.

Дый лякарня такая ж, як сам лекар. Паветра ў ёй затхлае, нібы ў падзямеллі. Удзень яно не асвяжаецца ад насцеж расчыненага акна, бо з бакоўкі моцна патыхае ёдам і карболкаю.

Якраз праз тыдзень апоўначы ў санчасці так разбалелася Янкава галава, што ён не мог заснуць і не знаходзіў сабе месца ў смуродным закутку. А тут і на дварэ ўсхадзілася няведама што: як быццам настаў канец свету.

З магутным ракатаннем, нібыта распорваючы ўсцяж увесь небасхіл, высока ўгары ў адным і тым жа напрамку зрэдку праплывала загадкавая зорка. Янка праціраў вочы, не разумеючы, ява гэта ці сон. Але таямнічае відовішча паўтаралася. І кожны раз хлопцу здавалася, што ў яго расколваецца галава ад гэтага магутнага ракатання ў сусвеце.

Праз акно было відаць, як на вартаўнічай вышцы перапалоханы вахман біўнем пражэктара пачаў хаатычна распаласоўваць і малаціць змрок.

Назаўтра ў другой палавіне дня Пятруша паведаміў яму, што гэта адбылося ўначы. Хоць Янка адчуваў сябе і няважна пасля бяссонніцы, але ўсё роўна вестка ўразіла і ашаламіла. Аказваецца, вермахт ужыў нейкую новую звышсакрэтную зброю. Самалётамі-снарадамі немцы абстрэльвалі Лондан. Пятруша кажа, што канваіры ўзнялі галовы і паліцаі ажывіліся.

«Перад каварным драпежнікам заўсёды трымай вуха востра. На здабычу ён выходзіць уначы. А як параняць — асабліва раз'юшаны і небяспечны».

Аднак даведацца пра падрабязнасці абстрэлу не давялося, бо на другі дзень Янку адаслалі ў шахцёрскі шталаг.

Напярэдадні ўвечары ў хлопца ўзнялася тэмпература. А раніцай Пятруша сказаў, што яна зноў панізілася. Санінструктар узяў ключ ад Янкавай вешалкі ў раздзявальні і папярэдзіў, каб хлопец збіраўся ў дарогу.

Праз пару гадзін, калі Пятруша прынёс Янкаву спяцоўку і шынель, у санчасць прыйшоў Фрэйвальд з сынам Германам. Гэтага адкормленага пятнаццацігадовага байбуса, якому на выгляд можна было даць не меней семнаццаці год, часта бачылі палонныя, а паліцаі прымалі за панібрата. Час ад часу ён прыходзіў з Фрэйвальдам у лагер, назіраючы за цырымоніяй пастраення палонных на абед. Мабыць, загадзя прымяраўся да бацькавай пасады. Некаторыя палонныя пагаворвалі, што ў юнака фіктыўна збаўлены гады, каб не трапіў на фронт.

Па тым, як лісліва Фрэйвальд спытаўся ў Янкі, які яго асабісты лагерны нумар, адчувалася, што бацька і сын у настроі.

«Няйначай як падбадзёрыла пазаўчарашняя ноч»,— рашыў хлопец, паказваючы лічбу свайго нагруднага жэтона.

— Герман, забяры яго спяцоўку,— па-нямецку буркнуў сабе пад нос Фрэйвальд, сеўшы за шафку і нахіліўшыся над гросбухам.

Герман грэбліва глянуў на брудныя лахманы, што ляжалі на тапчане, скрывіў твар, але не разгубіўся, а ўладарным жэстам рукі моўчкі загадаў Пятрушу, каб той узяў спяцоўку.

Санінструктар паслухмяна выканаў загад.

— Распишись в том, что ты ее сдал,— па-руску сказаў Фрэйвальд, працягваючы Янку аловак і тыцкаючы пальцам у калонку лічбаў насупраць яго лагернага нумару.

Янка паставіў крыжык, не схіляючыся над шафкаю.

— Взрослый, а расписываться не научился! В бога небось не веруешь, а крестик ставишь?

— А навошта ж распісвацца там, дзе няма прозвішча.

— Во всем должен быть порядок... Распишись ты за неграмотного,— звярнуўся Фрэйвальд да Пятрушы.

Недаростку не спатрэбілася нахіляцца. Адною рукою прыціснуўшы да боку і ўзваліўшы на шафку брудную спяцоўку, другою ён пачаў распісвацца.

— Осторожнее, ведомость вымажешь,— незадаволена вымавіў Фрэйвальд, але, убачыўшы ў спяцоўцы прагрызеную кішэню, пачаў пра іншае: — Три месяца в употреблении, а уже испорчена.

— А колькі ж яна павінна адслужыць? — нібыта не ведаючы, наіўна спытаўся Янка.

— Шесть месяцев.

— Ого! Гэтулькі мы ў палоне не прабудзем.

— Вот сметем в море огненным смерчем англичан с американцами, вернешься со шталага — и получишь ее обратно.

«Бач ты, якія ўпэўненыя сталі. Няўжо і сапраўды адчулі сілу?..»

Янкавы меркаванні спраўдзіліся. У лагеры не здолелі набраць бедалагаў на этап, але і аднаго хворага не адправілі: знайшлі яму напарніка. Ім аказаўся набожны мужчына, які ў часе перапалоху ў адкатачным штрэку сцвярджаў, што агнец — знак божы, і хрысціўся, памылкова палічыўшы ягнём няшчаснае казляня.

Кожнаму з іх выдалі пайку хлеба і, нібы ўкарочаны пачак запалак, даважку малясу.

«Значыць, на месцы хочуць утаіць сваю самаўпраўнасць, калі пры адпраўцы ў шталаг і хворым з санчасці выдаюць хлеб,— падумаў Янка, зразумеўшы, што мае быць вялікая дарога.— Глядзі, яшчэ адзін знаёмы твар!» — паспрабаваў ён усміхнуцца, калі канваір Кнот выводзіў іх абодвух з брамы.

Хлопец пакінуў у санчасці сваю нягеглую бляшанку, а ў дадатак да асабістых рэчаў на ўспамін пра сябра ўзяў Вадзімаву супрацьгазавую торбу з ягоным капялком. Яна і зручная, і практычная: заўсёды не замінае на плячы пры баку.

Ад лагера да вакзала не болей трох кіламетраў. Але Янка ажно ўспацеў, пакуль прайшлі гэтую адлегласць. Ці то ад сядзення і ляжання ў санчасці, ці то таму, што давала сябе знаць скрытная хвароба, цела ныла ад слабасці, кружылася галава. Толькі калі селі

ў вагон і праехалі з паўгадзіны, слабасць адчувалася менш. Змяніліся абставіны, і ў Янкі змяніўся настрой. Хлопца нават рассмяшыла, што Кнот вымушаны везці іх, як паноў, у пасажырскім вагоне.

Канечне, Янка не ведае, можа, іх вязе які-небудзь прыгарадны цягнік. Але ж гэты вагон не таварны, у якіх немцы возяць палонных. Праўда, ён таксама нязвычны. Хлопец змалку прывык бачыць у прыгарадных і ў пасажырскіх цягніках аднолькавыя вагоны, з адасобленымі закануркамі, у кожным з якіх з двух бакоў уздымаюцца трохярусныя груваcткія лаўкі, а пры акне прымацаваны невялічкі столік.

«Дык немцы ж — народ практычны. Навошта ім плацкартныя лаўкі? — у думках схамянуўся хлопец і ўсміхнуўся сам сабе: — Уляжашся на яе, дык яшчэ праспіш Германію... Прачнешся дзе-небудзь у Францыі або ў Польшчы».

Гэты вагон падобны да трамвайнага. Ён праглядаецца навылёт.

За вокнамі на капрах колы намотваюць сталёвыя тросы, мільгаюць конусы тэрыконаў, тлеюць свечкі заводскіх камiноў.

У Янкі такі стан, што яму не да гаворкі. З суседам ён, можа, і перакінуўся б параю слоў, каб хоць трохі таго падтрымаць. Небарака зусім звесіў нос. Напарочыла-такі ліха злашчаснае казляня. Тут ужо нікому не прапануеш хлеб за цыгарэты, бо не дамовішся: не зразумеюць.

Хлопец адчувае, што без дай прычыны вытыркацца нявартa. Чаго добрага, звернуць увагу на чужую гаворку, якая можа выклікаць падазронасць і цікаўнасць.

Мусіць, наўмысна, каб яны былі навідавоку, Кнот пасадзіў іх абодвух на падоўжную бакавую лаўку, а сам усеўся на папярочнай, тварам па ходу цягніка. Але ён не ўлічыў, што ягоная хітрая прадбачлівасць ім толькі на руку.

Канечне, седзячы бокам па руху вагона, ехаць не надта зручна. Але затое ў іх ёсць свае перавагі. Па-першае, ніхто не турбуе, паколькі лаўка іхняя двухмесная. Па-другое, перад імі як на далоні усе пасажыры. Янка моўчкі назірае ў вагоне за разнамаснай Германіяй. Незаўважна прыслухоўваецца збоку, пра што гавораць паміж сабою цывільныя немцы. Фактыч-

на ж ён упершыню апынуўся ў такой сітуацыі ў Германіі.

Ніхто з пасажыраў, відаць, не звяртаў бы на іх ніякае ўвагі, калі б не іхні часты кашаль. Асабліва ён падазроны ў суседа. У ягоных грудзях грыміць, як у парожняй бочцы, па якой грукаюць кіем. Старанна прыкрываючы даланёю рот, сусед гулка адбабахае, як цяжкая дальнабойная гармата, і на змену яму, нібы аўтамат, пачынае дробна страчыць Янка.

Бліжэйшыя пасажыры зрэдку паглядваюць у іхні бок. Але наўрад ці здагадваюцца, хто гэтыя двое. Бо сядзяць палонныя спінамі да сцяны. Нікому не відно аршыннае кляймо «SU». А па нязвычным і дзіўнаватым адзенні не вызначыш, хто ў яго апрануты. Іхнія непрыглядныя гарнітуры адрозніваюцца адзін ад аднаго толькі колерам. Праўда, у Янкавым, цёмна-зялёным — штаны-клёш, а ў жоўтым, суседавым — калошы ўнізе перахоплены вузкаю манжэтаю.

Калі яны самі, былыя салдаты, не ведаюць, якіх армій уніформу носяць, дык адкуль жа здагадацца пра гэта цывільным людзям?

— О, гэта не прастудны кашаль,— па-нямецку зазначыў Кноту ягоны сусед пасля таго, як акінуў пранклівым позіркам абодвух палонных, якія толькі што закончылі перастрэлку.

— Безумоўна. Таму я і пасадзіў іх асобна. Каб не заразілі іншых.

— А хто яны?

— Савецкія ваеннапалонныя.

— Дык чаму ж у такой форме?

— Вялікая Германія перамагла ўсе арміі Еўропы. Іхняю разнастайнаю формаю цяпер яна адзяе палонных галадранцаў.

— Адкуль вы вязеце іх?

— З шахты. Сваё адпрацавалі. Едуць на спачын.

— Зразумела,— падтакнуў Кнотаў субяседнік і зусім нечакана перавёў гаворку на іншае: — Ну што, цяпер, мабыць, на чарзе Англія?

— Але. Брытанскія астравы будуць патоплены. Фаў-адзін — звышмагутная зброя,— па-нямецку катэгарычна адрэзаў Кнот.

Янку стала агідна ад гэтага самаўпэўненага выхвалянне. Каб вызваліцца ад навязанай думкі і настроіцца на іншую хвалю, ён перавёў позірк на сямейную па-

ру, што сядзела на лаўцы, якую ад Кнота і яго субяседніка раздзяляў праход. Калі Янку чутно (а ён знаходзіцца на такой жа адлегласці), дык яна таксама не можа не чуць гаворкі, якую вядуць амаль побач два субяседнікі. Аднак на абліччах сямейнае пары — адлучанасць і непранікнёнасць. І мужчына, і жанчына, што апранута ў чорную сукенку, з чорнаю хусцінаю на галаве, настолькі засяроджаныя і паглыбленыя ў сябе, што не рэагуюць на навакольнае. Нібыта знаходзяцца на тым свеце. Толькі па тым, як яны шчыльна прыхінуліся адно да аднаго і застылі ў нерухомасці, яшчэ адчуваецца, што гэта жывыя істоты.

Русавалосы мужчына, скроні якога злёгку пасярэбраны, сядзіць, трошкі павярнуўшыся да жанчыны і абедзвюма рукамі падтрымлівае яе за локаць, нібыта баючыся, што яна можа ўпасці ад рэзкага штуршка лакаматыва. На ягоным рукаве Янка не адразу разгледзеў чорную павязку, якая не вельмі кідаецца ў вочы, бо зліваецца з цёмным колерам пінжака.

Летась у перасыльным лагеры ўсе нямецкія канваіры насілі на рукавах такія павязкі. Палонныя тады даведаліся, што савецкія войскі пад Сталінградам захапілі ў палон нямецкую армію. Праўда, тая жалоба хоць і выглядала калектыўнаю, але Янку не здавалася пранікнёнаю. Відаць, далі каманду правесці яе. Мабыць, калі яны і ўрачыстасць арганізоўваюць па загаду, дык яна ў іх таксама казённая і паказная.

Мімаволі Янкаў позірк слізгануў паміж Кнотам і ягоным суседам і за іх спінамі затрымаўся на наступнай лаўцы. Хлопцу раптам здалося, што перад ім, як у крывым люстры, траіцца адно і тое ж аблічча. Ён здзіўлена працёр вочы, але ўсё роўна не пазбавіўся праявы, якая прымусіла ўхмыльнуцца. На лаўцы сядзелі тры жанчыны, твары якіх настолькі падобны, што кожнаю паасобнаю рыскаю да драбніц паўтаралі адна адну. Яны нагадвалі тры матрошкі, якія выняты адна з аднае і адрозніваюцца паміж сабою толькі камплекцыяй, адпаведна свайму ўзросту.

Бялявая бестыя год семнаццаці, без фарбы на губах і без тынку на шчоках, якая сядзела пасярэдзіне, не вельмі гарманіравала дзвюм астатнім, бо супрацьпастаўляла, а не згладжвала ўражанне ад іхняга ўзросту і выгляду. Адчувалася, што абедзве крайнія — адна, мажная паставаю і шаноўная ўзростам, а

другая, што ў меру падмалявана, але па выгляду ўжо адрозніваецца ад наймалодшае — трохі заклапочаны.

Янкаў слых улоўліваў паасобныя абрыўкі нямецкіх сказаў:

— Усё-такі не блізкі свет.

— Дый на чужых людзях.

Але наймалодшая, на твары якой задавальненне, што хутка яна вырвецца з-пад апекі абедзвюх, ласкава шчабеча па-нямецку:

— Бабуся і матуля, я пастараюся пісаць вам часцей.

Якраз у гэты момант цягнік павольна замарудзіў ход і спыніўся. Праз некалькі хвілін, калі ён плаўна крануўся з месца, у вагон увайшоў малады салдат, разгублена трымаючы ў руцэ туга напакаваны ранец. Жанчына з размаляваным, як у лялькі, тварам паспешлівым жэстам рукі запрасіла яго сядаць побач з ёю на вольнае месца. Салдат пачціва схіліў галаву ў знак падзякі і пакуль нерашуча сеў, сонца, якое раптам выглянула з-за кучаравых воблакаў, ярка асвятліла надпіс «Gott mit uns» [1] на спражцы яго папругі.

«Немцы ўсё-такі абачлівыя. Нябось напісалі свой свяшчэнны дэвіз не на лбе, а на жываце,— мільганула ў хлопцавай галаве.— Калі напоўнена пуза, дык усё астатняе можна рабіць і з пустою галавою».

Янка схамянуўся ад святатацкай думкі і з апаскаю глянуў на свайго набожнага суседа. Але той, цяжка сапучы, спаў бесклапотным сном.

Супакоіўшыся, яшчэ працяглы час хлопец назіраў за марным заляцаннем расфуфыранае асобы да маладога салдата, які не толькі не адказваў узаемнасцю, а наадварот, на ягоным твары ўсё болей згушчаўся цень смутку.

Цяпер Янка прыкмеціў, што калі з пахмурнага неба зрэдку выглядвае сонца, ягоныя промні ўжо не заглядваюць у вагон, а слізгаюць з абодвух бакоў паўз вокны. «Значыць, цягнік ідзе на паўднёвы ўсход, углыб Германіі»,— зразумеў ён.

Хмурнейшаю за гэтае неба ўявілася яму ягоная доля. На працягу апошніх двух гадоў толькі лічаныя разы сонца крадком глянула на яе скупымі промнямі. За гэты час, нібы праблескі надзеі, прамільгнулі ў яго

---

[1] Бог з намі.

жыцці Вадзім, Швэрмер і Тадэвуш. Наперадзе зноў невядомасць.

Які лёс напаткае яго цяпер? Ранейшыя перасыльныя лагеры і апошні шталаг нічым не адрозніваліся адзін ад аднаго і не прынеслі ніякіх змен у Янкавым жыцці. Калі хлопец трапіў на шахту, дык зусім спалохаўся, думаў, што ўжо загіне. Ажно там знайшліся добрыя людзі, падтрымалі ў бядзе, выручылі.

Дык ён жа тады не быў хворы. А можа, у шахцёрскім шталагу яшчэ вылечаць? Дык чаму ж апошнім часам ачунялыя не вяртаюцца адтуль назад на шахты? Мабыць, іх там не лечаць? Немцы не стануць лячыць палонных. Цяпер у іх сваіх параненых з кожным днём прыбывае ўсё болей.

«Кнот сказаў свайму суседу, што мы едзем на спачын. Цікава, які спачын ён меў на ўвазе? Можа, вечны спакой?»

Пад мернае пагойдванне вагона хлопец доўга думаў пра сваю гаротную долю.

Калі не турбаваць аслабелага чалавека, яго арганізм паступова прыстасоўваецца да абставін і фізічна расслабляецца, як быццам размагнічваецца. Рассейваецца ўвага, прытупляецца зрок, млявасць паралізуе цела. А калі яшчэ плаўна пакалыхвае вагон, дык міжвольна адольвае санлівасць.

Яна асіліла набожнага суседа, і яе магічным чарам, нарэшце, пачаў паддавацца Янка. Спачатку ён толькі чуйна драмаў, прачынаючыся ад рэзкіх штуршкоў лакаматыва ў часе супынкаў і пры кратанні з месца. Потым праспаў, мабыць, доўга, бо, двойчы прачынаючыся, заўважыў, што побач з канваірам змяніўся ўжо трэці сусед. І нарэшце заснуў так моцна, што іх абодвух насілу раскатурхаў раззлаваны Кнот.

— Як працаваць, дык ледзь варушацца! А як жэрці ды спаць, дык здатныя. Гэта ж трэба ўмець праспаць чатыры гадзіны сярод белага дня! — крычаў ён.

Выйшлі яны на паўстанку, у баку ад якога было відаць нейкае паселішча. Калі падышлі бліжэй, Янка здагадаўся, што гэта шталаг. Ад чыгункі яго засланялі высокія зялёныя дрэвы. За імі вынырнуў барачны гарадок, аточаны агароджаю. Наводшыбе ўздымаліся двухпавярховыя цагляныя дамы з чырвонымі чарапічнымі дахамі. У тым шталагу, з якога хлопец трапіў на шахты, у гэтакіх дамах размяшчалася лагерная ахова.

Пасля працяглага сну ў зацішным вагоне ветраная пагода на дварэ зноў выклікала ў палонных кашаль, які чамусьці пачаў раздражняць Кнота.

Перадаючы суправаджальную паперу двум канваірам, якія выйшлі з прахадной шталага, ён нецярпліва выпаліў па-нямецку:

— Яшчэ дзве заразныя свінні!

Пакуль яны чакалі некага з начальства, надрыўным гулкім бухканнем ягоную характарыстыку пацвердзіў набожны палонны. Янка ўдушліва і дрыготка закырхаў.

— Кырхае, як паршывая авечка,— з веданнем справы па-нямецку ўдакладніў круглатвары прысадзісты вахман.

— Гэта ўсё роўна,— абыякава адказаў Кнот, бяспечна ўскідваючы на плячо карабін, рамень якога прытрымліваў спераду растапыранай праваю пяцярнёю.

«Адразу відаць баўэр»,— падумаў Янка пра прысадзістага вахмана і ўспомніў, што сапраўды падобным дрыготкім кырханнем кашляюць хворыя матыліцаю авечкі.

Хлопца абдала балючая крыўда. Аднекуль з сярэдзіны да грудзей падкочвалася лютая злосць. Ён, відаць, не змоўчаў бы, калі б яго не апярэдзіў прысадзісты вахман, які прыкмеціў на Кнотавай пяцярні куртаты ўказальны палец.

— Не перашкаджае трапна страляць? — наіўнавата запытаўся ён у Кнота.

— У мяне рука цвёрдая і вока напрактыкаванае.

— Да хабэн вір дэн шарфшюцэ! Хэтэ ман дір бэфолен дамальс цу шысэн, вюрдэст ду ін фюнф мэтэр, абштанд ніхт маль ді маус гэтрофэн хабэн, ді ам аршэ дэс паліцыстэн тэтовірт вар, дэн ду ім лягэр аўсшпотэс,[1] — дзёрзка ўставіў Янка.

Для канваіраў гэта было нечаканым выбухам бомбы.

— Што? Што ён кажа? — нічога не разумеючы, па-нямецку запытаўся прысадзісты вахман, мабыць, асабліва здзіўлены тым, што палонны раптам загаварыў на іхняй мове.

---

[1] Знайшоўся снайпер! Калі б тады загадалі выстраліць, дык за пяць крокаў не патрапіў бы ў тую мыш, што была вытатуіраваная на голай задніцы паліцая, якога ганяў у лагеры.

— У яго клёпкі ў галаве не стае,— паспешліва растлумачыў па-нямецку збянтэжаны Кнот, імкнучыся замяць гаворку і згладзіць непрыемнае ўражанне.

— Пакуль што ў мяне цвярозы розум. А от калі памутнела ў галаве ў майго сябра і ён выбег з лагернае брамы, дык ты ж ледзь трапіў у яго,— па-нямецку пalаснуў Янка і, мабыць, ад хвалявання зайшоўся кашлем.

Набожны палонны спачатку стаяў, нібы аслупянелы, нічога не разумеючы. Але потым, відаць, адчуў, што адбываецца сварка, бо спалохана перахрысціўся і таксама надрыўна закашляў.

Як тапелец, які хапаецца і за саломінку, сканфужаны Кнот убачыў паратунак у тым, што чалавек перахрысціўся, бо задаволена пралапатаў па-нямецку:

— Так! Так! А ён — вар'ят! Сапраўдны звар'яцелы! — і паказаў пальцам на Янку.

Фельдфебель, што набліжаўся да брамы ад каравульнага памяшкання, здалёк, напэўна, выразна не расслухаў сваркі, а толькі пачуў заразлівы кашаль палонных, бо, нават нічога не высвятляючы, з ходу па-нямецку загадаў:

— Абодвух — у трынаццаты блок! Нечага тут спрачацца. Усё ясна!

## 35

Трынаццаты блок аказаўся своеасаблівым лепразорыем у шахцёрскім шталагу. Нават лагернае начальства баялася яго, як зачумленага, і абыходзіла міма. Самі палонныя казалі, што нездарма ж ягоны парадкавы нумар — чортаў тузін.

Калі ў тых блоках, дзе ачуньвалі, ці ў штрафным назіралася перамяшчэнне палонных, дык з трынаццатага патыхала мярцвячынай, нібы з пярэдняй моргу. З шахтаў у яго трапляла большасць хворых. Аднак рэдка каго з іх адсюль перапраўлялі. Яны самі знаходзілі тут вечны спакой. Некаторых, хто не спяшаўся на той свет, з трынаццатага блока этапам адсылалі «спачываць» у лагер 6 «Ц». Пад такім кодавым абазначэннем існаваў лагер смерці дзесьці каля галандскай граніцы.

Янка змалку быў абыякавы да забабонных прыкметаў. Не сказаць, што ён не верыў у прымхі. Проста не задумваўся над імі. Таму яшчэ ў падзямеллі ўспрыняў

як дзівацтва прапанову Заранiна, каб забой штурмаваў не чортаў тузін, а адзінаццаць палонных. Праўда, пазней Янка так і не зразумеў, пашанцавала ім тады ці не.

У трынаццатым блоку самотныя думкі зноў навялі на ўспамін пра гэты пракляты чортаў тузін. Але цяпер хлопец зразумеў, што лёс жорстка насмяяўся з яго і зачараванае кола нарэшце самкнулася назаўсёды.

Янкава здароўе не паляпшалася. А калі ад суседзяў па нарах ён даведаўся, што іхні блок туберкулёзны, хлопцу зрабілася яшчэ горай. То яму здавалася, што сюды яго загнаў падазроны кашаль. То ўяўлялася, што ў вільготным падзямеллі ён сапраўды захварэў на скарацечныя сухоты. Чамусьці Янка лічыў, што гэтую хваробу асабліва цяжка распазнаць. Ён не разумеў, галава баліць ад яе ці распухае ад здагадак і меркаванняў.

У роспачы ад тужлівых думак і маркотных перажыванняў хлопец злаваў сам на сябе, што не можа зноў вярнуцца ў той жывёльны стан і зрабіцца абыякавым да ўсяго, якім быў некалі ў забоі. Але, мабыць, ягоны арганізм яшчэ не настолькі знясіліўся ад хваробы і супраціўляўся ёй.

Няёмка было і перад сваім суседам па нарах. Ім аказаўся набожны мужчына, разам з якім іх прывёз Кнот. Здавалася б, суседства магло задавальняць: усётакі палонны з аднаго лагера, таму прасцей з ім сысціся. Дый размясцілі іх на ніжнім ярусе, што таксама трохі зручней, бо хвораму не трэба натужыцца, падымаючыся на верхатуру.

Але хлопец пакутліва перажываў, што менавіта сварка з Кнотам, якую чулі вахманы і фельдфебель, вырашыла ягоны далейшы лёс. Яму было няёмка і сорамна перад суседам за тое, што сваёй нявытрыманасцю ён падштурхнуў у заразную загарадзь невінаватага чалавека. Канечне, сусед не зразумеў Янкавай спрэчкі з Кнотам, хаця па яе запалу і інтанацыі не мог не адчуць, што паміж палонным і канваірам адбылася сварка.

«Цяпер, нябось, лічыць, што ўсё гэта напрарочыла злашчаснае казляня ў адкатачным штрэку»,— думаў хлопец.

Даведаўшыся, што сусед — селянін з-пад Пінска,

Янка здзівіўся, адкуль у земляка замкнёнасць і анёльская пакорлівасць і чаму замест слова «ягнё» ён кажа «агнец»? Але дастаткова было суседу назваць сваё імя — Дамінік і імя па бацьку — Францыскавіч, як гэтыя імёны ад назваў двух манашскіх ордэнаў у Янкавым уяўленні азарыліся нейкімі боскімі аэроламі і пралілі святло на ягоную зацікаўленасць. А калі неўзабаве сусед яшчэ прызнаўся, што пры калектывізацыі ўсёй сям'ёю ўступіў не ў калгас, а ў секту, Янка зразумеў, дзе зямляк начытаўся свяшчэннага пісання і адкуль засвоіў рэлігійную тэрміналогію.

Але ў лагеры суседзяў не выбіраюць, а жыць жа неяк трэба. Землякі збольшага асвойталіся і на нарах упрытык паступова прыціраліся адзін да аднаго. Прыцірацца даводзілася мімаволі. Прычым калі не ў сне, дык яшчэ акуратна і старанна, каб не трывожыць адзін аднаго. А ў сне на голых нарах надта не ўлежыш у адным становішчы: мулка. Пры такіх умовах у чалавека з нармальным целам на мякаці, мусіць, утварыліся б пролежні. А ў іх абодвух пры іхняй худзізне ад цвёрдых дошак толькі мулелі лапаткі ды на клубах шчымелі маслакі. Гэтае тупое ныццё добра знаёма Янку па перасыльных лагерах і па ранейшым шталагу. Дык там жа на голых нарах паспаць выпадала толькі кароткую ноч. У той час як палонных трынаццатага блока не падымаюць на працу. Многія з іх толькі і здатны на тое, каб ляжаць. Не толькі дні, але і ночы ім здаюцца доўгімі-доўгімі, хаця жыццё суджана кароткае.

Пасля шахтаў Янка западозрыў, што ў немцаў толькі ў ведамасных лагерах на нарах — сеннікі. Мабыць, кожнае ведамства жадае, каб рабочая сіла на ягоным прадпрыемстве працавала лепш. Таму і хоча паказаць, што клапоціцца пра яе дабрабыт. Кажуць, што і ў гэтым шталагу ў іншых блоках на нарах таксама ёсць сеннікі. Толькі ў штрафным ды ў трынаццатым — нары голыя.

У штрафным вымагаюць умовы. Строгі рэжым — заўсёды пакаранне за правіннасць. А чаму тут няма сеннікоў? Можа, з прычыны эканоміі? Каб не траціць дарэмна сродкаў? Насельнікі трынаццатага ўжо не жыхары. Ва ўсякім разе яны — не рабочая сіла. Ці мо ў прафілактычна-санітарных мэтах? Каб праз сеннікі не перадавалася зараза...

Хлопец не сумняваўся ў тым, што яны з суседам кінуты на волю лёсу і ўжо няма ад каго ім чакаць паратунку.

А паколькі побач быў рахманы агнец, пра якога забыўся ягоны духоўны пастыр, хлопца таксама не здзіўляла тое, што сам ён забыты людзьмі: паблізу не было ні сяброў, ні прыяцеляў. Звычайна ў такім стане чалавек псіхалагічна падрыхтаваны прыняць наканаваную яму долю і, нібы асуджаны на смерць, гатоў прымірыцца з лёсам. Таму нават нязначны пробліск надзеі на ратунак ён успрымае, як золак яшчэ аднаго сонечнага дня, які падаравала жыццё. Менавіта штосьці падобнае адчуў Янка, калі неўзабаве з'явіўся нечаканы-негаданы пасланец ад невядомых дабрадзеяў.

Высокі малады чалавек, худзізна якога не надта кідалася ў вочы з-за ягонага скуластага твару, плячыстасці і шырокіх кісцяў рук, выкрыкваючы лагерныя нумары Янкі і Дамініка, у бараку знайшоў абодвух палонных.

Ён назваў сябе санітарам і спачатку па лічбах іхніх нагрудных жэтонаў упэўніўся, што гэта сапраўды тыя асобы, якіх ён расшуквае. Потым пакінуў Янку сцерагчы суседавы рэчы, а сам некуды павёў земляка.

«Каму раптам мы спатрэбіліся, што нас расшукалі? — насцярожыўся хлопец.— Няўжо мне адрыгнецца сварка з Кнотам?.. Гэты незнаёмец падобны на вышыбалу. Чаму ён павёў аднаго суседа? Можа, хочуць ведаць, які з двух палонных уступіў у спрэчкі з немцам? Ну і што з таго? Страшнейшага блока не знойдуць! А калі зробяць перакладчыкам? Тады, талмач, што ты ніякі не вярблюд — тлумач,— успомніў ён словы незнаёмага дзядзькі, які ў ранейшым шталагу раіў яму не выстаўляцца з веданнем нямецкай мовы.

З-за трывожных, супярэчлівых думак хлопец не заўважыў, колькі часу праляжаў на нарах, пакуль санітар прывёў назад суседа і адразу ж забраў яго самога.

«Чаму бываць, таго не мінаваць! — спрабаваў супакоіць сябе Янка.— На месцы ўсё высветліцца... Няма чаго загадзя варажыць!»

Але санітар не вывеў яго з трынаццатага блока, а прывёў у самы канец суседняга барака і ўпусціў папераду сябе ў дзверы, якія следам за ім акуратна прычыніў.

Янка апынуўся ў пакоі, пасярэдзіне якога за сталом сядзелі дзве жанчыны ў белых халатах, паміж вокнамі стаяў тапчан і на сцяне вісела невялікая шкляная шафка.

— Праходзьце, калі ласка, сядайце вось тут,— па-руску запрасіла старэйшая, паказваючы рукою на табурэт каля папярочнага боку стала.

Янка падзякаваў за запрашэнне і паслухмяна сеў, трошкі збянтэжаны тым, што ўпершыню ў палоне гэтак блізка бачыць перад сабою жанчын. Яшчэ болей разгубіўся, калі старэйшая, назваўшы ягоны лагерны нумар, раптам спыталася:

— Як ваша прозвішча, імя і імя па бацьку?

Ён нетаропка назваў. І потым пацікавіўся:

— А навошта нагрудны жэтон з нумарам? Тут жа людзі без прозвішчаў...

— Лічбы безаблічныя. У кожнага чалавека ёсць прозвішча, імя і імя па бацьку,— стрымана, але павучальна растлумачыла па-руску жанчына.

Потым яна распытвалася, якога ён года нараджэння, які яго хатні адрас, з якога часу ён у палоне, колькі быў на шахтах і на што скардзіцца? Жанчына паводзіла сябе па-свойску і прывабным выглядам і прыемным голасам выклікала прыхільнасць.

Паступова Янка супакоіўся. Ён нетаропка адказваў на пытанні, бачачы, як малодшая паспешліва запісвае яго адказы. А сам крадком разглядваў абедзвюх.

Галаву старэйшай, з профілем грэчаскага носа, увенчвала раскошная карона чорных валасоў. У малодшай, трошкі кірпатай, але сімпатычнай, русыя валасы на патыліцы былі звязаны вузлом, нібы пасма расчасанага лёну. Ад іхніх халатаў, акуратна зашпіленых да самае шыі, патыхала знаёмай змалку вільгатнаватай свежасцю адпрасаванай бялізны.

Старэйшая папрасіла хлопца распрануцца да пояса і ўстаць. А малодшая прыставіла да яго грудзей стэтаскоп і пачала ўважліва выслухоўваць Янкава дыханне.

Ці то ад фізічнай слабасці, ці то ад нязвыклай блізкасці жанчыны і выгляду яе валасоў, што нагадаў палойкі лёну, якія бывала ляжалі на палацях пры печы, у хлопца закружылася галава. Ён прыплюшчыў вейкі і затаіў дыханне. Жанчына, мусіць, адчула гэта, бо хуценька абышла яго, падтрымліваючы за плячо, і, вы-

слухваючы дыханне на спіне, па-руску пяшчотна папрасіла:

— Дыхайце, калі ласка, вальней.

Потым яе змяніла старэйшая. Як толькі са стэтаскопам яна прыхінулася да Янкавых грудзей, ягоны твар абдало не то водарам рамонкаў, не то азонам дажджавое вады. Хлопец стараўся дыхаць глыбей, а сэрца замірала. Жанчына кончыкамі пальцаў пачала злёгку пастукваць па выпуклых рэбрах ягонае груднoе клеткі, быццам пераконваючыся, наколькі яны трывалыя і ці вытрымаюць тугую напятасць скуры. Ён засаромеўся сваёй брыдкай худзізны. Калі гэтую працэдуру яшчэ паўтарыла малодшая, Янка адчуў, як у яго чырванеюць вушы.

Добра, што жанчыны, раячыся між сабою, нарэшце спынілі выстукванне і выслухванне. Янка не ўсё разумеў у іхняй гаворцы, перасыпанай медыцынскімі тэрмінамі.

— У вас востры катар верхніх дыхальных шляхоў,— растлумачыла старэйшая.— Нічога іншага пакуль што мы не знаходзім.

Яна падышла да насценнае шафкі, узяла адтуль малюсенькі пакецік і, працягваючы, параіла:

— Тры разы ў дзень папрымайце па адной таблетцы.

Янка выходзіў трошкі збянтэжаны і здзіўлены тым, што ўпершыню ў палоне яго аглядалі і ўважліва выслухоўвалі ўрачы ды яшчэ далі нейкія таблеткі. На ганку чакаў санітар, які адвёў хлопца назад на нары.

Жанчыны абнадзеілі Янку і ўзнялі ягоны настрой. Хлопец вярнуўся ў барак заспакоены, з палепшаным самаадчуваннем. А калі неўзабаве санітар звадзіў земляка на рэнтген, пакінуўшы Янку ў спакоі, хлопец канчаткова паверыў дыягназу жанчын. Ва ўмовах туберкулёзнага блока ў ягоных вачах яны асвятляліся незаплямленаю белізною халатаў.

Земляку на рэнтгене не сказалі нічога пэўнага. Па дарозе ён толькі даведаўся ад маладога мужчыны, што той таксама палонны з трынаццатага блока і па сумяшчэнні выконвае абавязкі санітара.

Але ў той час, як Янка па-ранейшаму адчуваў слабасць і цэлымі гадзінамі пралежваў на нарах, сусед і тут пачаў сноўдаць па бараку, шукаючы, у каго выме-

няць за хлеб цыгарэты. «Сектанты ж, мусіць, не кураць. Цікава, якім чынам ён прыахвоціўся да курэння?»

— Гэтак абыходзіцца з хлебам — грэх! Пры нашым становішчы ён адзіная падтрымка. Можна сказаць, апошні шанц на паратунак,— аднойчы паспрабаваў Янка чытаць натацыю суседу, калі той аддаў за цыгарэты ўсю дзённую пайку.

— Грэх раскідвацца хлебам надзённым. А гэта ж — эрзац! Падман! А падман не выратуе з бяды.

— Мала таго, што вас не лечаць, дык вы яшчэ курыце,— працягваў дакараць хлопец.

— Спакон веку абкурваннем вытраўлялі заразу. Мікроба з нутра толькі дымам і выкурыш.

Янка не зразумеў, што ў суседавым голасе — блазенства ці дзівацтва? Аднак успомніў, як сам у шахцёрскім лагеры прапаноўваў гэтаму чалавеку памянуць нябожчыкаў-сяброў ды пакадзіць дымам за спачын іхніх душ — і таму не стаў болей увязвацца ў размову.

Хлопцу чамусьці здалося, што зямляк не так набожны, як практычны. У імя гэтай практычнасці ён абавязкова павінен у што-небудзь верыць.

Янку зрабілася прыкра, што ягонае заспакаенне развейваецца, як туман ад кволага павеву ветру. Нібы кінутая снежка, якая ў адлігу коціцца з пагорка і ўсё болей абрастае снегам, у ягонай сярэдзіне абарвалася і заварочалася штосьці халоднае.

«Калі ў мяне сапраўды не знаходзяць нічога падазронага, дык чаму ж не пераводзяць у іншы блок? Канечне, хворымі распараджаюцца немцы, а не гэтыя дзве жанчыны. Цікава, а хто яны? Можа, такія ж самазваныя ўрачы, як Пятруша-санінструктар? А гэты вышыбала — санітар? Нябось прадаліся ворагу за чачавічную паліўку. Сапраўдны ўрач не пойдзе да яго на службу».

Незаплямленая чысціня жаночых халатаў цяпер здавалася яму беласнежна-халоднаю.

А на двары стаяла цёплае чужое лета. Дзесьці далёка быў пахмурны Рур. Праўда, уладары гэтай краіны ўсюды строга прытрымліваюцца сваіх законаў. Ва ўсім у іх заведзены акуратнасць і парадак. Дзень пры дні свеціць з нябёсаў сонца. Хаця яно раўнамерна рассейвае зыркія промні, але плён ад іх навокала неад-

нолькавы. Удалечыні, як ахоплівае позірк, на выгодзе красуюць прамавугольнікі салатавай і цёмнай зеляніны. Пышна лапушацца купчастыя кроны дрэваў. А тут, у няволі, дзе зямля вытаптана тысячамі ног і ўтрамбавана,— нібы ток, на якім ні каліва ніякай травінкі. Многія з тых, што ступалі па ёй, самі даўно сталі тленам.

Янку не радуюць сонечныя промні. Колькі ён ні спрабаваў адагрэць імі сваю настылую душу, але не вытрымліваў і некалькі хвілін: кружылася галава, цямнела ўваччу. У бараку на нарах яму лепей. Мабыць, гэтак адчувае сябе на святле выняты з цёмнага склепа бульбяны парастак, які марнее ад сонечных промняў.

Праўда, хоць хлопец і не выгрэўся як след на санцапёку, але праз пару тыдняў ён перастаў кашляць. Невядома, ці паспрыялі сонечныя промні, ці памаглі таблеткі. «Нарэшце мінула ліха,— з палёгкаю ўздыхнуў хлопец.— Можа, яшчэ як-небудзь выкараскаюся з бяды».

У ягоных вачах зноў узрастаў аўтарытэт абедзвюх жанчын. «Можа, яны таксама палонныя з нашага медыцынскага персаналу? — супакойваў ён сам сябе.— Хай сабе яны служаць у ворагаў, а лечаць жа ўсё-такі сваіх. Дый не баяцца, што самі могуць заразіцца ад хворых. Прыходзяць у туберкулёзны блок».

Янку як падмянілі. Падбадзёраны, ён як быццам памяняўся ролямі са сваім суседам. Часцей выходзіў на свежае паветра, хаваючыся ад сонца пад ценявою сценкаю барака, у той час як зямляк ужо амаль не пакідаў нараў. Праўда, паступова Янку таксама пачала непакоіць адна дзіўная акалічнасць. Лета ўвайшло ў самы зеніт, стаяла спякота, а яму, як на злосць, пад вечар станавілася зябка. Звычайна ў такія хвіліны ён вяртаўся ў барак і лажыўся на нары. Але і тут адбывалася штосьці неверагоднае. Усё-такі ў бараку не так душна, як на дварэ. І нягледзячы на гэта, зябкасць у хлопца хутка змянялася гарачкаю. Янка разумеў, што ў яго паступова павышаецца тэмпература, бо адчуваў, як агнём паліць твар і як цяжка і часта ён пачынае дыхаць. Мінала ноч — і назаўтра зранку ён зноў быў нібы здаровы.

«От табе і востры катар верхніх дыхальных шля-

хоў»,— думаў ён пра дыягназ абедзвюх жанчын, як толькі ў яго паніжалася тэмпература.

Атрымлівалася так, нібыта кашаль прытаіўся і ўсярэдзіне адбываецца нейкі запаленчы працэс. Таксама бянтэжыла і тое, што не паляпшаецца апетыт. У санчасці шахцёрскага лагера хлопец думаў, што яму абрыдла аднастайная ежа і таму яна не лезла ў рот. Тады здавалася, што замест нясмачнай баланды з ахвотаю паеў бы якога-небудзь крупніку. А тут даюць не толькі чачавічную поліўку, але і неблагія супы з гародніны, а таксама крупнікі з гароху, фасолі і пярлоўкі, якія нават запраўлены мучною падліўкаю.

Нябось горнае акцыянернае таварыства напалохана цякучасцю дармовай рабочай сілы. Баіцца, што як перамруць палонныя, дык не будзе каму працаваць на шахтах. Бо чым жа іначай вытлумачыць тое, што ў шахцёрскім шталагу кормяць лепей, чым у лагеры? Вядома ж, не медыцынскі кантроль прымушае гэта рабіць.

Але Янка пабоўтае-пабоўтае лыжку ў Вадзімавым кацялку, сілком з'есць трошкі варыва, а ўсё астатняе аддае суседу. Той цяпер не злазіць з нараў. Знясілеў і схуднеў. Ужо не мяняе хлеб на цыгарэты і не курыць, а небараку ўсё часцей душыць кашаль, пасля якога ён рукою падоўгу трымаецца за грудзіну. Мабыць, пакутуе ад болю. Яго твар прыкметна завастрыўся. Са шчокаў не сыходзіць хваравіты румянец. У суседа таксама прапаў апетыт. Небарака адмаўляецца ад Янкавага супу і свайго ўжо не з'ядае. Хаця, кашляючы, ён акуратна прыкрывае рот, але хлопец заўважыў, што хворы харкае крывёю. Янку балюча бачыць, як, пакутуючы, увачавідкі чэзне зямляк, і крыўдна, што па-суседску нічым не можа яму памагчы.

Цяпер трынаццаты блок у шахцёрскім шталагу здаецца Янку цэхам смяротнікаў на рабаўласніцкай фабрыцы. Толькі ў ім паганятых меней, і яны не такія заядлыя. Хаця прызначаюцца імі здаравейшыя палонныя, але яны не надта імкнуцца падганяць на той свет іншых, бо баяцца, што самі апынуцца там раней часу. Як усе астатнія хворыя, паганятыя таксама змірыліся з наканаваным лёсам і толькі дакладна не ведаюць, калі прыйдзе іхняя чарга. У хворых на сухоты вонкавы выгляд падманлівы, і давяраць яму рызыкоўна. Барацьба за існаванне вылучае тут своеасаблівых лагер-

ных прыдуркаў. Яны каршунамі не накідваюцца на жывыя ахвяры, бо ведаюць, што рана ці позна самі таксама не ўратуюцца ад пагібелі.

Янку брыдка глядзець, як людзі тут з нецярплівасцю чакаюць смерці чалавека, а пасля, нібы груганы, хутчэй злятаюцца да нябожчыка, каб каля яго чымнебудзь пажывіцца. Наперабой, бяссільна адштурхоўваючы адзін аднаго, пад выглядам правяральшчыкаў або санітараў ці насільшчыкаў яны збягаюцца да цёплага цела. Сярод іх трапляюць такія, што нават называюць сябе трунарамі або далакопамі, хаця ў палоне наогул ніхто ў вочы не бачыў дамавінаў, дый у шахцёрскім шталагу нябожчыкаў не закопваюць у зямлю, а спальваюць у крэматорыі. Некаторыя сноўдаюць па бараках, высочваючы найболей аслабелыя ахвяры, якіх ужо не выпускаюць з поля зроку.

Апошнім часам Янка звярнуў увагу на падазронага тыпа з чорнаю барадаўкаю на лбе, які часта снуе паўз нары, штосьці выглядваючы і вынюхваючы. Спачатку ён праходжваўся адзін, а пазаўчора прывалок цыбатага напарніка. Яны супыніліся насупраць і цыбаты, уважліва прыглядаючыся, звярнуўся да Янкавага суседа, маўляў, ці не ён хацеў змяняць хлеб на цыгарэты. Дамінік ужо не здолеў нічога сказаць, а толькі адмоўна паківаў галавою.

Янка неспадзявана пазнаў у цыбатым Вадзімавага земляка Румегу. Хлопец збянтэжана абрадаваўся і нясмела прамовіў:

— Мы з аднаго лагера. Свайго земляка Вадзіма помніш? Я ж яго сусед.

— Штосьці не ўспамінаю,— абыякава адказаў Румега.

— Тады вас пагналі адным этапам: дзядзьку Тараса і майго земляка Арсеня. Што з імі?

— Знайшоў пра што пытаць, дзівак,— сказаў раздражнёны Румега і цынічна прысвіснуў, зрабіўшы рукою мудрагелісты жэст, перш чым пайсці з напарнікам прэч.

Янка не зразумеў, што ён хацеў гэтым сказаць: вылецелі дымам праз комін ці ўзнесліся на неба? Хлопец застаўся ні з чым, нібыта праглынуў пілюлю, ад якой зрабілася прыкра. Але калі ўспомніў, што Румега гэтак жа пакрыўдзіў Вадзіма, навязаўшыся ў земляні,— без-

надзейна махнуў рукою і падумаў: «Гарбатага магіла выправіць».

Учора звечара Янку стала зябка. Пазней яго пранялі дрыжыкі. Яны змяніліся гарачкаю. Галава трашчала ад болю. Хлопец варочаўся і доўга не мог заснуць. Заснуў толькі пад раніцу. Невядома, колькі праспаў бы яшчэ, калі б у сне спінаю не адчуў непрывычны халадок. Спрасонку мацнуў адубелае цела суседа — і санлівасць як рукою зняло. Хлопец спалохана ўсхапіўся і зразумеў, што ўжо раніца. А як пабачыў у суседавых нагах Румегу з напарнікам, засаромеўся і, нібы апраўдваючыся, што праспаў, збянтэжана прамовіў:

— Мабыць, ноччу аддаў богу душу, небарака.

— Душа бязважкая. Лепш бы яна засталася, а цела ўзнеслася. Нам вот яго валачы,— незадаволена прамармытаў Румега.— Які яго лагерны нумар? — і, праціскаючыся па нарах да ўзгалоўя нябожчыка, злараднa зазначыў Янку: — Праспаў суседаву смерць, а цяпер яшчэ снеданне праваронііш. Не блытаўся б пад рукамі.

Янка толькі цяпер схамянуўся і разгледзеў, што на нарах навокала пуста.

Беручы з узгалоўя Вадзімаў кацялок, разгублены, ён скасавурыўся на суседа, у думках развітваючыся з ім, і пад галавою, каля рэчмяшка, заўважыў некранутую пайку хлеба.

Хлопец нерашуча злез з нараў і з непрыемным адчуваннем пакінуў барак.

На дварэ была ясная раніца. Сонца шчодра распырскала святло. Прыжмурыўшыся, Янка спрабаваў разгледзець на ўсходзе рунеючыя палеткі. Але зыркія промні асляплялі вочы і ярка асвятлялі сумежнасць. Далячынь здавалася ахутаная смугою. Як быццам прырода наўмысна зацямняла прыволле, асвятляючы вытаптаную гаротнымі нагамі пустку, якая і ўдоўж і ўпоперак была аблытана павуціннем калючага дроту.

Грудзі вальней удыхалі ранішняе паветра. Яно асвяжала і бадзёрыла. Аднак настрой не паляпшаўся. Янка выстаяў чаргу за сняданнем. Есці не хацелася. Ён няўпэўнена вярнуўся ў барак.

Седзячы на краі нараў, з-пад якіх вытыркаліся насілкі, Румега з напарнікам даядалі суп з суседавай бляшанкі. Пад галавою Дамініка, які ляжаў на ранейшым

месцы, ужо не было ні рэчмяшка, ні пайкі хлеба. Янку не прыйшло ў галаву, што хцівыя груганы атрымалі за нябожчыка сняданне. Хлопец зразумеў гэта толькі тады, калі яны скончылі трапезу і Румега са шкадаваннем прамармытаў напарніку:

— Шкада, што не працягнуў трохі. Дасталася б яшчэ і сягонняшняя пайка.

«Над мёртвым справілі памінкі,— з агідаю думаў хлопец, калі яны панеслі нябожчыка на насілках.— Вырадкаў і магіла не выправіць».

Толькі праз нейкую гадзіну ў барак прыйшоў той самы санітар, які вадзіў Янку з суседам да дакторак.

— Хто забраў нябожчыка? — запытаўся ён у хлопца.

— Нейкія двое. Высокі, нібы каланча, і яго напарнік.

— О, гэтыя хапугі не празяваюць!

— Хто яны? Санітары?

— На падхваце...

— А высокі нават цікавіўся, які ў нябожчыка лагерны нумар.

— Навошта ён яму? — здзівіўся санітар, паціснуўшы плячамі і пасыпаючы нейкім белым парашком дошкі нараў, на якіх нядаўна ляжаў чалавек.

— Што гэта за атрута? — збянтэжыўся Янка, калі ў нос патыхнула смуродам і вострая рэзь выкрасіла з вачэй слёзы.

— Хлорка. Дэзінфекцыя,— растлумачыў санітар і пашыбаваў да выхаду.

Вочы так слязіліся і шчыпалі, што Янка не вытрымаў і таксама пакінуў барак.

Перад абедам і пасля абеду хацелася прылегчы. Як магнітам хлопца прыцягвалі нары. Некалькі разоў ён заглядваў у барак, але, яшчэ здалёк заўважыўшы хлорку на дошках, вымушаны быў вяртацца назад і сланяцца па двары. То стаяў і выграваўся на санцапёку, то, калі станавілася млосна, надоўга прысаджваўся ў засень барачнае сцяны. Сонечны дзень цягнуўся непамерна доўга і здаўся панурым і маркотным. Янка зразумеў і пераканаўся, што яму немагчыма абысціся без нараў. Таму пад вечар, расслаблены, адразу ж заваліўся на іх, як толькі ўбачыў, што яны ачышчаны ад хлоркі. Але заснуць не здолеў. Варочаўся з боку на

бок. Спачатку здавалася, што навокала па-ранейшаму распаўсюджваецца смурод, якім прасмярдзелі дошкі. Потым зрабілася холадна. Хлопца пранялі дрыжыкі. Нібы галодны звер, ён кляцаў зубамі і ледзь-ледзь выстаяў у страі на вячэрняй паверцы.

## 36

Янка не мог не адчуваць, што яго знясільвае нейкая хворасць. Аднак яму здавалася, што пастаянныя прыступы яе пачаліся менавіта з таго дня, калі санітар прадэзінфіцыраваў нары. Хлопец падазраваў, што пыл хлоркі ўстойліва трымаецца ў порыстай драўніне, удыхаецца і выклікае абвастрэнне. Праўда, простым вокам поры не прыкмячаліся. Дошкі былі настолькі выслізганы сукном шынялёў, што ажно льсніліся. Мусіць, паступова яны выветрыліся, бо пахлі толькі сухою драўнінаю. Але загадкавыя прыступы не спыніліся, а, наадварот, паўтараліся амаль штовечар. Часамі хлопец насцярожана прынюхваўся, выдыхнуўшы паветра. Здавалася, што яно таксама аддае хлоркаю. Янка ўяўляў, што яе пякучым пылам ён абпаліў сваё нутро, як кавальскі мех, раздзьмухваючы ў горане жар, ягонаю гарачынёю апякае ўсё ўсярэдзіне. Можа, абпаленае нутро таму і рэагуе гэтак чуйна: зябкасцю — на вячэрні халадок, а гарачкаю — на начную духату. Бо па такім няпісаным распарадку ўжо два тыдні паўтараліся зацяжныя прыступы незразумелай хваробы.

Увечары хлопцу рабілася зябка. Скурчыўшыся, ён нацягваў на сябе шынель і накрываўся з галавою. Але тонкае французскае сукно не саграваля. Бралі дрыжыкі. У бараку хлопец калаціўся, як цюцька на холадзе. Не мог стрымаць дробнае пастукванне зубоў. Спачатку суседзі думалі, што ён умела сімулюе хваробу, каб не выходзіць на вячэрнюю паверку. Але калі вярталіся ў барак з пастраення і бачылі, што Янку ўсяго калоціць, пачалі ўкрываць яго сваімі шынялямі. Стараліся ўкрываць і перад паверкаю. Балазе, што на дварэ лета і шынялі не трэба апранаць. А то невядома, як бы без іх абыходзіўся, калі ўсяго праймалі дрыжыкі. Апошні раз на яго накінулі ажно сем нашых шынялёў. Хаця яны вынашаныя, але ўсё-такі айчыннае сукно — тоўстае. А хлопец і пад імі ніяк не мог сагрэцца. Саграваўся ён толькі тады, калі зябкасць змянялася га-

рачкаю. Пры ёй паступова абдавала ўсяго спачатку сухою параю, а потым нясцерпнаю спякотаю. Здавалася, што хлорка, быццам нягашаная вапна, уступаючы ў рэакцыю з крывёю, разносіцца па ўсім целе, клякоча ў скронях, агнём паліць твар, раз'ядае мозг і чэрап. Ахутаны моракам, ён траціў прытомнасць. У такія хвіліны падымалася высокая тэмпература. Яе мералі не раз у часе прыступаў. Але хлопец быў у такім стане, што нават не мог пацікавіцца, якая яна ў яго. Ён толькі ведаў, што пасля тэмпература бывае нармальная, а часамі нават паніжаная. І заўважыў, што паніжаецца яна вельмі хутка.

Калі прыступ трохі адпускаў, праяснялася прытомнасць і лягчэй дыхалася. Аднойчы ў такі момант Янка ўбачыў непадалёк Румегу з напарнікам, якія штосьці высочвалі. Яны нагадалі яму крумкачоў, што вылецелі ў пошуках мярцвячыны. На нарах побач не было нікога. Палонныя былі на вячэрняй паверцы. У яго ад жаху ажно пахаладзела ўсярэдзіне, а знадворку ўсяго абліло ледзяным потам.

«Добра, што хоць апамятаўся,— супакойваў ён сябе.— А то што ім значыць прыдушыць жывога пад шынялём. Тым болей што непрытомны нават не пікнеш, і якраз паблізу сведкаў аніякіх».

А назаўтра зранку, калі Янка адчуваў сябе лепей, ён зноў заўважыў абодвух гэтых крумкачоў. Яны падазрона кружылі паміж нараў. Хлопца ахапіла злосць. Ён чамусьці ўспомніў, як бацька, відаць, у тужлівыя хвіліны паціху самотна напяваў:

Черный ворон, что ты вьешься
Над моею головой?
Ты добычи не дождешься:
Я солдат еще живой.

«Не дачакаецеся маёй пагібелі, крумкачы!» — у думках злараднічаў хлопец.

Праўда, калі прыходзілі на памяць іншыя словы гэтай песні, настрой паступова мяняўся. Бо салдат, пра якога спявалася, ляжаў на прыволлі, пад зялёнаю ракітаю і да параненых грудзей прыціскаў медны крыж. А ты ж нявольнік, які ляжыць у бараку за калючым дротам. Які ты салдат, калі ў цябе на грудзях — ні раны, ні медаля? Нават і драўлянага крыжа ты не заслужыш. Вецер развее твае астанкі па зямлі, і ад іх ніякай магілы не застанецца.

Пад гэты нудны настрой раптам успомнілася, што бацька некалі расказваў, як у імперыялістычную вайну немцы ўжылі атрутны газ. Аднойчы пусцілі яго, а вецер змяніў свой кірунак і пачаў паварочваць газ на іхнія акопы. Чаго толькі яны не вытвараюць? У тую вайну атручвалі хлорам, а ў гэтую — дэзінфіцыруюць хлоркаю. Выгадваюць з нямецкай практычнасцю, хаця яна ім часам бокам вылазіць.

Янка разумее, што становішча яго безвыходнае. Нават калі ў трынаццатым блоку ён апынуўся з незаразнаю хворасцю, усё роўна адсюль ужо не выйдзеш здаровым. Знаходзячыся тут, нехаця захварэеш ад тых, хто акружае. Хіба ж можа ўхіліцца ад хваробы здаровы чалавек, сплючы з хворымі ўпокат на суцэльных нарах, дыхаючы заразным паветрам зачыненага барака?

А што датычыцца сухотаў, дык іх і на волі залечвалі з цяжкасцю. Тым болей хто будзе займацца хворымі на чужыне? Не стануць жа заклятыя ворагі лячыць палонных. Ім хапае іншых спраў. Яны па вушы загразлі ў вайне. Нябось у перадсмяротнай агоніі яшчэ шалёна агрызаюцца, нібы воўчая гайня, зацкаваныя ганчакамі. Але абложаныя з двух бакоў, цяпер не надта пагойсаюць: няма раздолля, а кола аблогі з кожным днём усё звужваецца. Шкада, што ў пярэдняй морга не даведаешся, куды ўжо загналі іх лоўчыя і загоншчыкі. І крыўдна будзе, калі не суджана пачуць радасную вестку пра скančэнне на зямлі апошніх ваўкалакаў.

Пасля таго як побач перастаў трызніць у сне і памёр сусед, Янку ўсё часцей здавалася, што зараз на чарзе ён і што хутка ўжо і яго звалакуць з гэтых нараў. Здароўе ў хлопца не паляпшалася. Наадварот, з кожным днём ён адчуваў, як у паядынку з хваробаю яно ўсё болей знясільвалася. Апошнім часам ён ледзь выстойваў у страі за атрыманнем ежы. Пачасціліся галавакружэнні. Напэўна, ад недаядання развівалася малакроўе. Апетыту па-ранейшаму не было. Хлеб Янка яшчэ сяк-так з'ядаў сілком. Адкладаць на потым пабойваўся: прыспешвала таямнічае знікненне пайкі з-пад галавы нябожчыка-суседа. Пра гэты брыдкі выпадак час ад часу яму напаміналі сваім з'яўленнем у бараку Румега з напарнікам.

Хлеб у гэтым шталагу такі ж самы эрзац, як і ў

шахцёрскім лагеры. Хадзілі чуткі, што ў яго прымешана драўлянае пілавінне. Можа, таму ў шахцёрскім лагеры Янку, які ўдосталь паспяваў надыхацца смалістым пахам сасновых стоек у забоі, на паверхні заўсёды здавалася, што і хлеб трошкі прыпахвае смалою. Але там хлопец усё роўна з'ядаў сваю пайку за адзін раз. А тут колькі ні смакаваў яго, а хлеб як быццам без паху і без смаку. Толькі з выгляду не наздраваты, а густа замешаны і тугі, як гума. Нават падсалоджаны дробкаю штучнага мёду ці мармеладу або ў прыкуску з даважкаю поснае каўбасы, адно што-небудзь з якіх выдаецца тут у прыдачу да пайкі, хлеб насілу праглынеш. Затое палонныя кажуць, што нібыта кожны бохан яго, акуратна абгорнуты пергаментнаю папераю, захоўваецца па некалькі гадоў.

Баланду Янка па-ранейшаму не з'ядае, а аддае каму-небудзь з суседзяў. Усё ж такі яны клапоцяцца пра яго, укрываючы сваімі шынялямі ў часе прыступаў хваробы. А ўчора ў абед атрымаў суп, але не паспеў разгледзець, з чаго ён, як пацямнела ўваччу. Каб не пахіснуцца, вымушаны быў спярша прыхінуцца да сценкі барака, а потым асцярожна прысесці на зямлю. Калі праз некалькі хвілін позірк праясніўся, дык разгледзеў, што суп — з локшыны. Павярнуў лыжкаю, а ён густы-густы. Пакаштаваў — яшчэ цёплы, але з прысмакам горасці. Насілу праглынуў пару лыжак. Ніяк не мог вызначыць, ці гарчыць у ягоным роце, таму што давялося паспытаць гэтулькі гора, ці ён увесь прагоркнуў да касцей, надыхаўшыся пылу хлоркі, які растаў у крыві. А можа, і на самай справе гарэніць локшына? Немцы ж пазахоплівалі процьму чужых складаў. А з іхняю ашчаднасцю яны могуць пусціць у абыходак і прагорклую муку. Яе не шкада для палонных ворагаў.

Кожнае з'яўленне ў бараку Румегі з напарнікам у Янкі выклікае агіду, хаця ўжо не наганяе страху. Бо хлопец зразумеў, што не ад жаху яго абліло халодным потам і тады, калі, апрытомнеўшы, убачыў іх абодвух паблізу. У часе прыступаў хваробы Янка прыкмеціў, што пасля таго, як спадае гарачка, ён увесь сыходзіць потам. Прычым, як толькі заварушыцца ў першы момант, калі прачынаецца пачуццё, яму здаецца, што на ўспатнелым целе храбусціць бялізна, быццам капусныя лісты на качанах, якія маці ўратавала ад зама-

разку. Можа, таму ў пачатку прыступаў, калі навылёт праймалі дрыжыкі, ад якіх не трапляў зуб на зуб, у яго такое адчуванне, што і яго душу прыхоплівае замаразак. Янка разумее, што на далёкай чужыне ад замаразку не ўратуе маці.

Але цяпер, калі родны край захлынаецца ў крыві і ў агні, а хлопец без сэнсу гіне ў чужой старане, ён у думках звяртаецца па дапамогу да маці. Тады, калі яго б'е дрыготка, ён кліча маці ўкрыць яго, як у маленстве, цёплаю коўдраю. А калі зябкасць змяняецца гарачкаю, просіць завітаць хоць у сне, каб аблегчыць пакуты: прынесці жменю расы з родных кветак і ёю асвяжыць ягоныя парэпаныя вусны і распалены твар. Аднак, як на злосць, маці не прыходзіць і ў сне. Расчараваны, ён не разумее: ці праз гэтакую далеч да яе не даходзяць ягоныя просьбы, ці маці даўно ўжо няма на свеце, ці яна пакрыўдзілася на сына.

Бо тады, калі Швэрмер трохі аблегчыў ягонае існаванне, у Янкавай памяці спярша ажыла Воля. Ён часцей успамінаў дзяўчыну і болей пра яе думаў. А як беспрасветны лёс наваліўся на яго злавеснаю глыбаю, тады ўспомніў пра маці.

Тры цяжкія пакутлівыя гады ўсё жывое на зямлі вайна малоціць вогненнымі цапамі. Яна руйнуе і ўшчэнт спапяляе вёскі і гарады. Нібы зярняты з каласоў, з людскіх жыццяў вымалочвае мільёны галоў, ураганным смерчам адвяваючы душы ад целаў. І ў такі час за тры гады ад яго ні слыху ні дыху. У родны кут, які захоплены ворагамі і здратаваны іх падкаванымі ботамі, не дойдзе паведамленне пра тое, што Янка прапаў без вестак. Суседзі, сябры і сваякі, мусіць, ужо даўно пахавалі яго ў памяці. І толькі па-ранейшаму жыве ён у сэрцы маці. Прыгнечаная горам, яна ні хвіліну не думае, што сын мог загінуць. А ён, няўдзячны, нават у думках тут мала калі пашкадаваў няшчасную і паспачуваў гаротніцы. Толькі ўспомніў пра яе, як сам апынуўся на мяжы чалавечага жыцця.

А тым часам на нарах то ўнізе, то на верхатуры адзін за адным аддавалі богу душу бедалагі. У той лагер смерці, што каля галандскай мяжы, з трынаццатага блока чамусьці толькі зрэдку адпраўлялі мізэрныя этапы хворых. Усе астатнія небаракі цярпліва чакалі тут на месцы наканаванага вечнага спачыну.

Янку мучыла крыўда. Чорт не ўзяў яго ў апрамет-

най. А немец выручыў у пекле. Дык няўжо ў заразным блоку не выратуюць свае лекары? Хлопец не хацеў загавець душою. Можа, нябожчык-сусед і верыў у тое, што яго душа ўзнясецца на неба. А Янку не хочацца пакідаць грэшную зямлю.

37 «У сне клікаў на дапамогу маці, а наяве накнікаў бяду,— падумаў хлопец, калі пасля снядання санітар прыйшоў па ягоную душу.— Няўжо на этап — у лагер смерці?»

Але санітар забраў яго без рэчаў і прывёў у той самы пакой, дзе мінулы раз выслухоўвалі дзве дакторкі. Цяпер тут была толькі малодшая. З ёю чакалі яшчэ два незнаёмыя палонныя. У суправаджэнні санітара жанчына прывяла ўсіх трох да варот блока.

З прахадной, вынесенай за калючую агароджу, выйшлі два канваіры, ускідваючы на плечы карабіны і нацягваючы на рукі пальчаткі. Пярэдні расчыніў весніцы і з напускною пачцівасцю прапусціў жанчыну, не без грэблівасці беручы з яе рук працягнутыя на хаду нейкія карткі. Глянуўшы ў першую з іх, ён выкрыкнуў па-нямецку лічбы, якія значыліся ў картцы. Але ніводзін з палонных не абазваўся.

— Хіба гэта не свінні? Як заўсёды, ні адзін не ведае свайго лагернага нумара. Расшпіліце каўняры і выньце з-пад адзення нагрудныя медальёны! — па-нямецку загадаў ён, жэстыкулюючы рукамі. А калі палонныя, нарэшце, зразумелі, што ад іх патрабуецца, і нерашуча, пераймаючы адзін аднаго, выканалі загад, кіўком пальца паклікаў пярэдняга. Палонны наблізіўся. Гідліва працягнуўшы руку, але не дакранаючыся да жэтона, вахман пільна ўгледзеўся ў яго і назваў лічбы.

Другі канваір знайшоў картку з адпаведным нумарам і, абыякава вяртаючы яе жанчыне, выпусціў пярэдняга палоннага за весніцы.

«Во, баяцца заразіцца ад жывых, а як жа яны правяраюць жэтоны нябожчыкаў, якіх выносяць з блока?» — падумаў Янка, пакуль абодва канваіры не па прозвішчах, а па нумарах медальёнаў і па картках звяралі дакументацыю палонных.

Хлопца здзівіла, што гэтакую ж педантычную пунк-

туальнасць яны прарабілі і з санітарам, пераконваючыся ў дакладнасці ягонае асобы.

«А што, каб узяў ды сказаў ім: — Асцярожна! Не набярыцеся ад мяне чумных блох! — падумаў ён, калі яны правяралі жэтон і картку наступнага палоннага. Але схамянуўся, бо прыгадаў сваю недарэчную сварку з Кнотам перад брамаю шахцёрскага шталага.— Невядома, у якую яму ўвалішся, калі спатыкнешся. Раней бацькі ў пекла не лезь!»

Нарэшце фармальнасці праверкі скончыліся. Жанчына ў суправаджэнні санітара праз апельпляц прывяла палонных да невялікага адасобленага будынка без калючае агароджы. Увайшла з імі ў пусты пярэдні пакой і запрасіла ўсіх сесці на лаву. А сама знікла за наступнымі дзвярамі. Неўзабаве яна паклікала туды санітара.

— Што гэта за памяшканне? — насцярожана запытаўся Янкаў сусед, калі трое палонных засталіся адны.

— Чорт яго ведае,— няўпэўнена адказаў хлопец.— Перасыльны пункт ці амбулаторыя...

— Паслалі б хоць куды. Абы толькі з заразнага блока,— абыякава прамовіў другі палонны.

Кожны заклапочаны сваёю думкаю, яны моўчкі прасядзелі некалькі хвілін, пакуль дзверы ў наступны пакой расчыніліся і, выпускаючы з іх санітара, жанчына запрасіла туды Янку, назваўшы ягонае прозвішча. Увайшоўшы, хлопец ажно прыжмурыў вейкі ад зыркага электрычнага святла, якое залівала пакой са шчыльна завешанымі вокнамі, і прамаўчаў, бо сумеўся ад прысутнасці незнаёмага мужчыны ў белым халаце.

— Малады чалавек, а чаму ж не вітаецеся з людзьмі? — нечакана запытаўся па-руску мужчына, устаючы з-за стала, за якім сядзела знаёмая, старэйшая па ўзросту дакторка.— Адвыклі самі ці адвучылі вас?

Янка засаромеўся і яшчэ болей збянтэжыўся. Але ў голасе мужчыны ўлавіў ноткі спагадлівасці, таму зразумеў, што перад ім не немец, і няпэўна адказаў:

— І тое, і другое...

— Распранайцеся да пояса,— прамовіла маладзейшая дакторка і, пстрыкнуўшы насценным выключальнікам, патушыла святло.

— Праходзьце сюды, малады чалавек,— з цемры запрасіў мужчына.

Упоцемку хлопец не бачыў і без пабочнай дапамогі навобмацак наўрад ці знайшоў бы, куды яго запрашаюць.

— Сюды, сюды,— удакладніў мужчына, рукою злёгку падштурхоўваючы Янку ніжэй паясніцы і запіхваючы хлопца ў рэнтгенаўскі апарат.— На што скардзіцеся, малады чалавек?

Пры нязручнай паставе, то выпнутымі грудзьмі, то вытыркнутымі лапаткамі непрыемна адчуваючы настыласць шкла ці металу, Янка няскладна адказваў:

— Пад вечар спярша калоціць ад холаду, а потым знутры паліць як агнём.

— Так. Зрабіце ўдых і затрымайце дыханне. Цяпер выдыхніце. Вазьміце рукі на пояс і сагнутыя локці выстаўце наперад. Дыхайце глыбей. Падыміце рукі ўверх,— ласкава гаварыў мужчына, а разгублены Янка неўпапад выконваў ягоныя просьбы.

Нарэшце мужчына папрасіў хлопца павольна паварочвацца тулавам. Як быццам асмельваючыся ў халаднаватай вадзе, сваімі бакамі Янка адчуваў яе настыласць.

— У маладым целе — здаровы дух,— па-свойму перайначыў прымаўку мужчына.— Вашы лёгкія, малады чалавек, чысцюткія, як шкельцы. Можаце апранацца.

У гэты час шчоўкнуў выключацель — і ўспыхнула святло.

— Хворы тэмпературыць свечкамі? — невядома да каго звяртаючыся, запытаўся мужчына.

— Ага. Трыццаць пяць і сем, трыццаць дзевяць і чатыры, трыццаць шэсць і два, сорак, трыццаць шэсць і сем, трыццаць дзевяць і восем,— уголас чытала па картцы старэйшая жанчына, пакуль Янка апранаўся.

— Відаць, малярыя,— няпэўна выказаў здагадку мужчына.— Малады чалавек, ану прыляжце на спіну і агаліце жывот,— паказаў ён рукою ў бок тапчана, што стаяў каля сцяны.— Адкуль вы родам?

— З Беларусі,— адказаў Янка, паслухмяна выконваючы яго просьбу.

— Нямецкія войскі нядаўна пакінулі Мінск,— нечакана паведаміў мужчына, прысаджваючыся на край тапчана.

Кончыкамі пальцаў ён уважліва абмацваў штосьці пад грудною клеткаю з абодвух бакоў Янкавага жывата. Навіна ўзрушыла хлопца і паўплывала так, што ён не рэагаваў на тупы боль у жываце, які выклікалі сваім націсканнем пальцы мужчыны. Янка раскрыў рот і прытаіў дыханне, чакаючы, што яшчэ скажа чалавек, у прыветлівым твары і ў высакароднай сівізне якога было штосьці бацькоўскае. Але мужчына ўстаў і расчараваў хлопца гаворкаю зусім пра іншае:

— Паглядзіце, як павялічаны печань і селязёнка.

Абедзве дакторкі, спачатку старэйшая, а пасля малодшая моўчкі старанна абмацвалі жывот пад Янкавымі грудзьмі. Ад пачутай весткі хлопец успрымаў казытанне жаночых пальцаў, як пяшчотны масаж.

— Трэба перавесці хворага ў сёмы блок,— сказаў мужчына, калі жанчыны адышлі ад Янкі.— Прапішыце яму хіну.

Старэйшая дакторка зноў села за стол, а малодшая жэстам рукі паказала, што хлопец можа ісці.

Ад душэўнага ўзрушэння Янка не мог вымавіць ні слова. На развітанне ён скіраваў на мужчыну ўдзячны позірк. Мужчына заўважыў гэта і, падбадзёрваючы, прамовіў:

— Малады чалавек, вы ачуняеце хутчэй, чым нямецкія войскі планамерна адыдуць з Беларусі.

Акрылены, Янка выпырхнуў з пакоя, як птушка з клеткі. Але, перапоўнены радасцю, нібы баючыся, што ёю можна захлынуцца, каб яна не пралілася з яго цераз край, адразу ж прысеў на лаву побач з палоннымі. На імгненне ўзнёсся ў надхмарныя высі і вымушаны быў зноў апусціцца на грэшную зямлю. Сеў і чамусьці ўспомніў, што нехта расказваў, як птушка ў палёце каменем падае на зямлю ад разрыву сэрца. Цяпер хлопец адчуваў, як яго сэрца калоціцца і ажно вырываецца з грудной клеткі, не ўпраўляючыся гнаць кроў па целе. Яшчэ некалькі хвілін таму назад, пачуўшы прыемную навіну, сэрца млява замерла і не адчувалася ў грудзях. А цяпер бач як трымціць, калі ён моцна ўсхваляваны? Хаця б вытрымала...

Хай сабе ён не вырваўся яшчэ на волю з-за калючага дроту, але ж яго перавядуць з блока смяротнікаў. Усё-такі, напэўна, малярыя не такая заразная, калі яго пераводзяць ад туберкулёзнікаў. Мабыць, яна хутчэй паддаецца лекам. Нездарма ж гэты прыветлівы муж-

чына сказаў, што ён ачуняе хутчэй, чым нямецкія войскі планамерна адыдуць з Беларусі.. А як хочацца ачуняць! Канечне, у гэтым была б толькі яго асабістая, параўнальна маленькая радасць. Ды яшчэ таксама радасць для яго бацькоў, братоў і сясцёр. Але самае галоўнае, што ўжо вольны Мінск і, значыць, прадаўжаецца вызваленне Беларусі. Гэта ўжо не толькі яго асабістая, але і велізарная радасць яго народа. Ён сярод яго — маленькая крывінка. Нават калі суджана яму загінуць на чужыне, дык лягчэй паміраць, усведамляючы, што яго народ не скарылі, не здолелі вынішчыць, што ён будзе жыць на зямлі.

## 38

У той жа дзень пасля абеду Янку перавялі ў сёмы блок, на верхні ярус нараў. Знясіленаму хваробаю, яму было цяжкавата ўзабрацца на верхатуру. Дый палохала вышыня: пабойваўся, каб, крый божа, у гарачцы не зваліцца з нараў. Яму чамусьці здавалася, што калі ён грымнецца з верхатуры на падлогу, дык лопне мяшок з туга напятае скуры і косці разляцяцца ў бакі так, што не збярэш. Але нявольнік сам нічога сабе не выбірае, а карыстаецца тым, што яму даюць. І хлопец змірыўся са сваім становішчам. У яго змяніўся настрой. Ужо адно тое, што перавялі з блока смяротнікаў — усяляла надзею.

Як толькі ён размясціўся, яго знайшоў малады хлопец, які назваўся фельчарам. Заявіўся ён нечакана, нібы анёл, пасланы богам у пекла. Фельчар прынёс хіну. Аказваецца, яе трэба прымаць адразу пасля яды. Янка насілу праглынуў іскрысты парашок, які гаркотаю абпаліў язык і горла, ажно перакрывіла рот. Нават паўшклянкі выпітае вады не знялі горычы. Бывала, у маленстве хлапчукі, надкусваючы кіслы зялёны яблык, перакрыўлялі фізіяноміі і роблена жартавалі, што відаць Масква. Янка праглынуў горкі парашок і ўбачыў не Маскву, а ўспомніў Кітай, які па-нямецку таксама называецца Хінаю.

Адначасова фельчар зрабіў хлопцу балючы ўкол. Можа б, Янка і не адчуў болю, калі б на ягоных касцях было болей мяса. А то яшчэ і так дзіўна, як лекар умудрыўся ўкалоць іголку шпрыца пад скуру. Добра, што на тугім сенніку, які зроду не вытрасаўся і пахнуў тлелаю пацярухаю і зляжалым смеццем, маслакі ўсё-

такі не мулялі, як на голых дошках. Нягледзячы на тое, што паветра ў бараку было насычана выпарэннямі разнастайных лекаў, разраджаная атмасфера і самі абставіны ў сёмым блоку не прыгняталі, як у трынаццатым. Магчыма, гэтак здавалася таму, што сёмы блок быў першым часовым прыстанішчам і перавалачным пунктам для тых, што ачуньвалі і выратаваліся ад гібелі.

З аднаго боку на нарах каля Янкі пуставала месца. А з другога — ягоным суседам быў юнак, якому ў капальні раструшчыла мезенец і безыменны палец левае рукі.

— Нібы няўдалы самастрэл,— пагардліва пажартаваў ён Янку, вярнуўшыся з перавязкі, і дадаў: — Усё роўна шахты не пазбегнуць. А цяпер, калі ваўка гоняць у логава, сама што пакантавацца б тут.

— Ёсць якія-небудзь навіны? — насцярожана запытаўся Янка.

— Можа, і запозненыя, але — прыемныя. Мацёрага драпежніка абкладаюць з усіх бакоў. Даюць і ў хвост і ў грыву. Саюзнікі занялі Рым. Немцы раззбройваюць італьянскіх ваякаў. Мабыць, ужо няма дзе размяшчаць іх, калі прыгналі ў суседні блок.

— Сюды? Італьянцаў? — перапытаўся Янка.

— Ну, а каго ж яшчэ?.. Палюбуешся, як яны займаюцца бязглуздаю справаю.

Ссоўваючыся да краю нараў, юнак запытаўся ў Янкі, адкуль ён родам. Калі хлопец адказаў, што з Беларусі, сусед, на момант затрымліваючыся, ажывіўся:

— О, вашы партызаны ўеліся немцам у косці! Трэба ж умець! За адну ноч зрабіць такі гармідар дый яшчэ даць яму гучную назву — рэйкавая вайна. Адразу па ўсёй Беларусі спынілі рух цягнікоў. Адным словам, далі дыхту! — дадаў ён і нырнуў з нараў.

Ад ягонага рэзкага руху Янку абдало свежаю хваляю паветра. Адначасова ўсярэдзіне штосьці прыемна зварухнулася і ўся істота напоўнілася млявою цеплынёю. Пачуццё прыніжэння і сораму змянілася пачуццём уласнае годнасці. Чужая пахвала землякам выклікала гордасць за свой народ, які нават на заваяванай чужынцамі зямлі не стаў перад імі на калені. За спакойны характар, за сардэчнасць і зычлівасць аднапалчане ў арміі заўсёды з пахвалой адзываліся аб ягоных земляках. А цяпер той, хто хацеў сцерці з зям-

лі ягоны народ, няхай адчуе, якія непакорлівыя беларусы. Шкада, што ў такі час Янка знаходзіцца не разам з імі, а, звязаны па руках і нагах, вымушаны сядзець у няволі. Але землякі за яго таксама адпомсцяць. Можа, яшчэ паспеюць вызваліць жывога...

Весткі пра загадкавую рэйкавую вайну і пра вызваленне Мінска аб'ядналіся ў адну падзею, якая, здаецца, дала сілы. Хлопец ляжаў сам-насам. Ніхто не перашкаджаў яму думаць.

Выразна ўявіліся родныя краявіды. Нібы магнітам, вабілі да сябе знаёмыя палеткі, лугі і пералескі. Мабыць, не пазнаеш іх цяпер, калі родны край апаганены няпрошанымі прышэльцамі...

Прыгадалася маці, а потым — Воля. Ці жывыя хоць яны?

Аднойчы на перапынку ў інстытуце нераўнадушная да Янкі аднакурсніца Таня ўголас абвясціла ўсім, што ў бары ўжо зацвіў сон. Хлопец зразумеў яе намёк, але змоўчаў. А ў наступны выхадны цягніком паехаў з Воляй у бліжэйшыя ад горада лясы.

У засені гушчароў, пад нізкімі елкамі яшчэ ляжалі лапіны пацямнелага снегу. Паветра пахла вільгаццю і прэлай ігліцаю. Сям-там на ўзгрэўках вясна папрастрочвала рэдкімі зялёнымі прошвамі маладой травы леташняе цёмна-бурае лісце. А на сухіх схілах у хваёвым лесе цвілі адзіночныя кветкі, падобныя да лугавых і палявых званочкаў, толькі густа апушаныя, намнога большыя і не блакітныя, а сіне-фіялетавыя.

Сон-трава! Бухматая кветка беларускіх лясоў! Як прыгожа зацвітаеш ты ўвесну! Колькі хараства ў тваім цвіценні! Як трапна людзі далі табе сімвалічную назву! Вольнаму чалавеку на радзіме ты навяваеш казкі-сны залатога маленства, а ў нявольніка на чужыне абуджаеш шчымлівыя ўспаміны аб родным краі!

Янка назбіраў і гэтулькі нападаваў іх Волі, што тая, шчаслівая, як дзіцё, не ўпраўлялася на хаду акуратна складваць з кветак раскошны букет.

І раптам дзяўчына імгненна адскочыла ўбок, а яе прарэзлівы ўскрык водгуллем пакаціўся па лесе. Хлопец кінуў спалоханы позірк на зямлю, за крок ад Волiных ног — і аслупянеў: нібы сплецены з жаўтаватабурай сырыцы бізун, там ляжала згорнутая кольцам

змяя. Янка хапіў дзяўчыну пад руку і павёў убок ад змяі, але праз некалькі крокаў сам ледзь не наступіў на другую. Як ні мяняў напрамак, куды ні ішоў з Воляю, усюды на шляху трапляліся змеі. Адны, згорнутыя кольцамі, лянiва грэліся на санцапёку, другія паволі перапаўзалі. Збянтэжаны, хлопец з перапалоханаю дзяўчынаю вымушаны быў спыніцца сярод змяінага царства, каб разгледзецца — што рабіць? Абое яны знаходзіліся на самым узгорку баравой паляны, схіл якой пастулова пераходзіў у імшарышча.

Янка трохі супакоіўся, аблюбаваў ёмкую дубінку і ёю пачаў пракладаць шлях з зачараванага кола.

— Можа, гэта бясшкодныя вужы? — сумеўшыся, перасцерагла хлопца дзяўчына.

— У вужа па баках галавы — дзве аранжава-жоўтыя плямінкі, і знізу ён — белы. А гэта ж — гадзюкі! Бач, у іх пляскатая галава і чорная зігзагападобная палоска ўздоўж спіны,— адказаў задыханы хлопец, малоцячы дубінкаю, нібы цэпам.

Напэўна, калі б расхваляваная дзяўчына не ўпрасіла Янку хутчэй пайсці з гэтага заклятага месца, дык ён, раз'юшаны, перабіў бы процьму гадзюк.

Пазней хлопец даведаўся, што тады яны з Воляй трапілі якраз на тое месца, дзе гадзюкі выпаўзалі пасля зімоўкі. Кажуць, што зрэдку бываюць выпадкі, калі на зімоўку ў адно месца яны збіраюцца цэлымі зборышчамі.

Янка шкадаваў, што тады мала перабіў гадзюк. Мабыць, расплодзілася іх шмат у тое лета. Як гэтых двухногіх гадзін, што поўзаюць па свеце. Б'юць і б'юць іх людзі, а ўсіх ніяк не знішчаць.

Здавалася, хтосьці абнадзейваў і падбадзёрваў: «Набярыся цярпення. Пакутаваць засталося нядоўга. Ты ж выцерпеў не гэтулькі».

Усхваляваны да глыбіні душы, ён ужо не адчуваў у роце гаркоты ад хіны, а на клубе — болю ад укола. З затхлага барака пацягнула на свежае паветра — і хлопец пакінуў нары.

Ці то ад прыўзнятага настрою, ці то пад уздзеяннем прынятых лекаў на двары дыхалася лёгка-лёгка. Радаваў пагодлівы сонечны дзень. Цёплы ветрык ла-

годна асвяжаў твар. Ягонаму позірку адкрывалася незатуманеная смугою далячынь.

Не знаходзячы сабе занятку, Янка доўга сноўдаўся вакол баракаў. Потым напаткаў суседа, які расказваў пра італьянцаў, і абодва яны падышлі да палонных, што зацікаўлена тоўпіліся ўсцяж калючага дроту. Праз нейтральную палосу паміж дзвюма агароджамі назіралі за тым, што адбываецца ў суседнім блоку. Праўда, блок размяшчаўся на ўзгорку са схіламі, таму не відно было, адкуль пачынаецца і дзе заканчваецца бясконцае цырыманіяльнае шэсце. Але ўмоўна пачатак яго можна было вызначыць па смуглым генерале з клінападобнаю бародкаю і чорнымі вусамі, услед за якім ішлі дзесяткі тры афіцэраў. За імі крочылі радавыя салдаты. У непаношанай вайсковай вопратцы, нібы на шпацыры, моўчкі ішлі яны гужам, адзін за адным, несучы ў руках камяні: большыя ўзняўшы над галовамі, а меншыя асцярожна трымаючы перад грудзьмі, каб не запэцкаць формы. Форма яму здалася нямецкай. Але калі ўважліва прыгледзеўся, дык пераканаўся, што колер яе трохі іншы — цёмна-зялёны з шараватым адценнем і кіцелі — даўжэйшыя. Акрамя таго ў салдатаў — штаны-клёш і крагі да чаравікаў. Спачатку Янка не зразумеў, што адбываецца ў суседнім блоку — цырымонія працавітасці ці тэатралізаванае відовішча?

Але сусед пагардліва зазначыў:

— Даваяваліся, макароннікі!

Янка недалюбліваў, калі людзям даюць насмешлівыя мянушкі па назве іх нацыянальнай стравы. Бывала, яму не падабалася, калі бацька, які ў канцы імперыялістычнай вайны апынуўся на паўднёвым фронце, называў румынаў мамалыжнікамі. Пазней хлопец крыўдаваў за тое, што ягоных землякоў называлі бульбянікамі. Але цяпер перад ім хадзілі чужаземцы, якія нядаўна разам з немцамі спусташалі ягоную радзіму. Хлопец прапусціў міма вушэй суседаву мянушку і толькі разгублена спытаў:

— Што гэта яны робяць?

— Хіба не бачыш? Таўкуць ваду ў ступе ды пераліваюць з пустога ў парожняе. Немцы вось так здзекуюцца з былых сваіх саюзнікаў,— з'едліва дадаў ён.

Прыгледзеўшыся, Янка заўважыў, што кожны ўдзельнік нязвычнага шэсця ступае ўрачыста, з пад-

крэсленаю незалежнасцю і з пачуццём уласнае годнасці. Надзея на тое, што ў іх нарэшце адбываецца запозненае празарэнне, прабудзіла ў хлопца спагаду да гэтых заведзеных у зман людзей.

Усю рэшту дня Янка правёў на двары. Уздоўж і ўпоперак вымераў крокамі агароджаную тэрыторыю блока. Сланяўся ад барака да барака, набліжаўся да разрозненых купак людзей і прыслухоўваўся да гутаркі паміж палоннымі.

А надвячоркам доўга назіраў, як на захадзе, дзесьці далёка за радамі калючага дроту, ірдзеў распалены сонечны дыск, ад агністага водсвету якога агароджа нагадвала расцягнутыя сеці павуціны. Здавалася, што іх спальвае гэты вогненны круг, які не стаіць на адным месцы, а ледзь прыкметна коціцца і коціцца па зямлі.

Мусіць, пад уражаннем гэтага малюнка і ў выніку пачутых за дзень навінаў далёкае сонца радзімы ўначы наведала яго ў сне. То нібы вялізны пражэктар, яно зырка свяціла промнямі з усходу, то, як электразварка, з шыпеннем раскідаючы ў бакі іскры, павольна расплаўляла калючы дрот лагернае агароджы.

## 39

Мінуў амаль месяц, а таямнічы сон Янка ўспамінаў некалькі разоў. Спачатку ён абнадзеіў хлопца, прарочачы паратунак. Пазней прыгадваўся з трывогаю. Але некалькі тыдняў пасля яго праляцелі непрыкметна, таксама як у сне.

Першыя два-тры дні Янка не пачуў палёгкі ад лекаў, бо прыступы хваробы паўтараліся. У дадатак яшчэ ў вушах узнік нейкі шум. Хлопцу нават здалося, быццам ён глухне. Янка спалохаўся, што белы парашок, як людзі кажуць, адно лечыць, а другое — калечыць. Але хвораму вельмі хочацца ачуняць. Таму ён па-ранейшаму прымаў лекі.

Неўзабаве выявілася, што хлопец усё-такі недарэмна глытаў горкую хіну і цярпеў балючыя ўколы. Бо хаця пад вечар яшчэ і адчувалася зябкасць, аднак нават пад лёгкім французскім шынялём яго ўжо не праймалі моцныя дрыжыкі. А потым прыступы хваробы прыкметна аслаблі і нарэшце зусім прапалі. Толькі ў мышцах на месцы ўколаў заставаліся тугія зацвярдзенні, якія марудна разыходзіліся ад цеплыні прыкладзе-

нае грэлкі. Калі б не яна, хлопец не ўлежаў бы на сенніку: гэтак балелі клубы.

Янка з удзячнасцю думаў пра доктара, які пасля рэнтгена паставіў дакладны дыягназ і прыпісаў патрэбныя лекі. Нават назваў, за які час хлопец вылечыцца. Доктар тады сказаў, што Янка ачуняе хутчэй, чым нямецкія войскі планамерна адыдуць з Беларусі. Лекі хлопец прымаў першыя сем ці восем дзён, пасля якіх прыступы хваробы спыніліся. Мінула ўжо болей двух тыдняў. Значыць, Беларусь тады яшчэ не была вызвалена. Бо толькі пазней у блок дайшлі чуткі, што нашы войскі занялі Брэст. Гэтая вестка настолькі абрадавала хлопца, што перавярнула ўсё ўсярэдзіне. Нарэшце-такі родны край уздыхне вольна. Здаецца, зусім нядаўна хлопец думаў, што ў ягоным арганізме пачалі адміраць паасобныя клеткі, пашкоджаныя хваробаю. А цяпер, калі ачуняў, яго настрой зусім змяніўся.

Можа, тыя, хто вызваліў ад навалы бацькоўскі кут, паспеюць яшчэ ўратаваць ад згубы і яго самога? Цяпер хлопец не лічыў сябе канчаткова асуджаным на пагібель. Палонныя ў сёмым блоку не затрымліваліся надоўгу: адны прыбывалі, другія — выбывалі. Таму тут і не патыхала хлоркаю, якой дэзінфіцыруюць нары, вызваленыя нябожчыкамі. А пахі разнастайных лекаў самі выветрываліся. Бо абнадзейлівыя весткі і навіны ў сёмым блоку цыркулявалі безупынна і, нібы свежыя скразнякі, прадзімалі баракі, падбадзёрвалі і паскаралі лячэнне. Цяпер любая навіна з усходу радавала ўсіх палонных, таму што абавязкова прыносіла весткі пра вызваленне родных мясцін на радзіме.

У першыя дні тут Янка пачуў аб вызваленні Пінска. Ён пашкадаваў, што няма ў жывых набожнага земляка, якога гэтая вестка асабліва абрадавала б і магчыма хоць трошкі падтрымала б.

Ачуняламу ў сёмым блоку ўсё-такі можна трываць, гэта не тое, што ў трынаццатым — хвораму. Толькі адно тое падтрымлівала і фізічна і маральна, што ў адрозненне ад ранейшых лагераў і шталагаў, у якіх без дай прычыны палонных білі кіямі паліцаі і нямецкія прыслужнікі, тут, як і ў трынаццатым блоку, паверкі праходзілі больш-менш спакойна, без калатні. Гэта асабліва здзіўляла Янку. Чым растлумачыць такія змены, хлопец не мог дайсці сваёю галавою.

Дапусцім, у трынаццатым блоку знаходзяцца адны

дахадзягі. На іх ні ў каго рука не падымецца. Пачнеш такога дубасіць, дык яму і канцы. Ну, а ў сёмым жа блоку — палонныя здаравейшыя. Кіем іх можна падагнаць. Няўжо немцы ашчаджаюць рабочую сілу? А можа, хочуць задобрыць людзей? Або Міжнародны Чырвоны Крыж на іх знайшоў управу? І чаму тут наогул няма паліцаяў?

Відаць, самі немцы баяліся хвароб, таму пастраенні ў шахцёрскім шталагу праводзілі не на апельпляцы, а ў сярэдзіне кожнага блока. Старасты баракаў выстройвалі палонных, а дзяжурныя вахманы разам са старастамі блокаў правяралі наяўнасць людзей. Звычайна ў такі час толькі канваіры штурхалі палонных прыкладамі ды стваламі карабінаў.

Пазней, калі Янку перавялі ў пяты блок, хлопец насцярожыўся і звесіў галаву. Перамяшчэнне спалохала. «Мяняюць блок, значыць, папраўка заканчваецца. Чаго добрага, вернуць зноў у падзямелле». Трывожны настрой не пакідаў хлопца. Праўда, у першыя дні ён асвойтаўся і, разгледзеўшыся, зразумеў, што і тут тое самае, што ў сёмым блоку.

Аднойчы пасля ранішняй паверкі Янка прыкмеціў сярод палонных санітара з трынаццатага блока. Спачатку падумаў, што абазнаўся і лічыць за яго каго-небудзь іншага, падобнага з выгляду. А калі наблізіўся і разгледзеў не толькі скуласты твар, але і ягоныя шырокія кісці рук, пераканаўся, што не памыляецца.

— Дык нас жа разам на рэнтген прыводзіла Вера Паўлаўна! — абрадаваўся санітар, калі пазнаў Янку.

— Малодшая дакторка? — перапытаў Янка, не ўпэўнены, каго мае на ўвазе санітар.

— Ага.

— А я падумаў тады, што і ты разам з ёю вядзеш нас.

— Санітар — драбяза! У шталагу толькі ўрачам дазваляецца пераходзіць з блока ў блок... Мяне самога перавялі сюды назаўтра пасля рэнтгена.

— А які лёс астатніх палонных, што былі з намі?

— Не ведаю. Урачы санітару не дакладваюць.

Ён гаварыў з оканнем, гэты дробны службовец з Вологды, які аказаўся памяркоўным і лагодным чалавекам. Выявілася, што ў яго таксама не сухоты, а нейкая мудрагелістая па назве хвароба. Яна ўзнікае ад пранікнення ў лёгкія вугальнага пылу...

Ад санітара Янка збольшага даведаўся пра нязвычныя абставіны, якія да гэтага ў шахцёрскім шталагу здаваліся хлопцу незразумелымі і трошкі загадкавымі. Інтарэсы лагернага начальства і медыцынскіх работнікаў тут не толькі не супадалі, але былі супрацьлеглыя. Медперсанал складаўся толькі з савецкіх палонных урачоў, фельчараў і санінструктараў. Гэтыя міласэрныя і чулыя людзі, якія трапілі ў няволю, не маглі не клапаціцца аб сваіх няшчасных суайчынніках, у той час як лагерная ахова адносілася да палонных варожа.

— На паверках вахманы так і стараюцца штурхнуць нашага брата ствалом ці прыкладам,— тлумачыў былы санітар.— Добра, што баяцца заразы. Таму ў блокі заходзяць толькі дзяжурныя. Яны, каб прымелі, дык паелі б нас... Але мы не ім належым.

— А каму ж? — здзівіўся хлопец.

— Фірме ці акцыянернаму таварыству, якія зацікаўлены ў тым, каб дармовая рабсіла пасля выздараўлення зноў вярталася назад на шахты. Бо хто ж будзе здабываць вугаль, калі нямецкіх шахцёраў забіраюць на фронт?

Пасля размовы з былым санітарам Янка западозрыў, што гэтыя прыхаваныя ад простых вачэй супярэчлівыя рычагі і спружыны медперсанал як толькі мог выкарыстоўваў для ратунку гаротнікаў.

«Дзіва што, калі галоўны ўрач шталага — свяціла медыцыны, наш былы генерал!»

Таму на чужыне ў гэтай установе для хворых і лёгка пакалечаных суайчыннікаў склаліся здаровыя абставіны. Вось чаму тут не трапляюцца на вочы розныя прыдуркі, якія прывольна пладзіліся ў звычайных лагерах і шталагах, нарэшце зразумеў хлопец. Для іх тут — ні спрыяльнага клімату, ні ўрадлівае глебы. Там, дзе няма куды падганяць нявольнікаў, паліцаі таксама непатрэбны. Само сабой разумеецца, як вымушаны тут паводзіць сябе кожны староста барака або санітар, якіх часова вылучылі сярод хворых на гэтую пасаду. За перавышэнне ўлады іх, як непажаданых, могуць выпхнуць са шталага пад выглядам ачунялых. І нідзе нікому не дакажаш у сваё апраўданне, бо збоку і прасачыць за гэтым вельмі цяжка. Не толькі таму, што лагернае начальства баіцца заразы і не наведвае туберкулёзны і некаторыя іншыя блокі, але і з прычыны ягонае недасведчанасці ў медыцыне.

## 40

У пятым блоку амаль не прыкмецілі, што знік фельчар. Ягоных суседзяў па нарах якраз не было ў той час, калі яму перадалі, што яго выклікаюць да прахадной. Толькі пасля ночы, калі заўважылі, што ён прапаў, яны ўбачылі, што ва ўзгалоўі няма і ягоных рэчаў. Можа, чалавек дзе-небудзь аблюбаваў сабе лепшае месца?

Аднак тое, што ў блоку аб'явіўся самазваны фельчар, заўважылі многія. У бараках падазрона зашапталіся аб тым, што некалькі дзён не відно нікога з дактароў. Хто ж мог прызначыць новага фельчара? Хаця ў блоку знаходзіліся пераважна ачунялыя, якім не патрэбна была медыцынская дапамога, але дактары ўсё роўна не пакідалі іх без нагляду. Да гэтага ўсе прызвычаіліся. І раптам здарылася штосьці незвычайнае.

Некаторыя тлумачылі гэта тым, што ў пятым блоку дактарам няма чаго рабіць. Знайшліся нават і такія, хто лічыў, што магчыма цяпер дактарам наогул няёмка заходзіць да ачунялых, якіх яны вылечылі, каб зноў адправіць назад на шахты. Маўляў, якімі вачамі яны павінны глядзець нам у вочы?

Усё гэта, канечне, не магло не насцярожыць палонных пятага блока. Праўда, насцярожвала іх не столькі тое, што не было дактароў, колькі непакоіла свая доля. Бо кожнага трывожыў асабісты лёс, які абяцаў вяртанне ў падземнае пекла.

Янка сярод іншых не быў выключэннем. У яго таксама сапсаваўся настрой. Хлопцу не давалі спакою маркотныя думкі. Дактары вылечылі яго ад хваробы, але не засцераглі ад гібелі.

Таму, калі аднойчы раніцою палонныя ўбачылі, што ў цэнтры апельпляца, якраз насупраць пятага блока ўкопаны ў зямлю два драўляныя слупы, змацаваныя зверху перакладзінаю, многім было няўцям, для чаго падрыхтавана гэтае прымітыўнае збудаванне.

— Усё адно як турнік,— сказаў хтосьці.

— Турнік не такой вышыні, дый — карацейшы... Гэта футбольныя вароты,— удакладніў на нарах непадалёк ад Янкі, відаць, нейкі аматар спорту.— Апельпляц усё роўна пустуе. Напэўна, вырашылі скарыстаць яго пад стадыён.

— Хіба для стадыёна не знайшлі б немцы лепшага месца? — недаверліва запярэчыў нехта іншы.

— Болей прыдатнага футбольнага поля не падбярэш,— настойваў на сваім той жа палонны і, ні то ўсур'ёз, ні то жартуючы, растлумачыў: — У самым цэнтры апельпляца. Нібы перапоўненыя трыбуны, кругом выгодна размяшчаюцца блокі. Пераможаныя нехаця вымушаны будуць глядзець, як забаўляюцца пераможцы.

— Чаго добрага, яшчэ нас прымусяць гуляць. Блок з блокам. Дзеля фізічнае загартоўкі,— яхідна дадаў нейчы голас.

Даядаючы з Вадзімавага кацялка гарохавы суп, Янка недаверліва слухаў гэтыя размовы. З тае пары, як у хлопца спыніліся прыступы хваробы, ён не скардзіцца на апетыт, што даюць у шталагу, есць — ажно трашчыць за вушамі.

«Яны падкаванымі ботамі, як футбольны мяч, зямны шар загналі ў сеці з калючага дроту. А цяпер, калі людзі выблытваюць планету, ім не да футбольнае гульні,— падумаў хлопец. Але ягоную думку абарвала каманда: «Выходзьце строіцца!» — Пасля снядання — адразу на пастраенне? Напэўна, штосьці здарылася?»

Аднак пастраенне зацягвалася. Палонныя затрымліваліся не таму, што іх ніхто не прыспешваў: тыя, хто апошні атрымаў ежу, яшчэ не ўправіліся паснедаць.

Становячыся ў строй, Янка заўважыў, што паабапал у абодвух блоках таксама выстройваюцца: злева — італьянцы, а справа — палонныя. Толькі італьянцы станавіліся не ў адну суцэльную калону. Афіцэры выстройвалі перад генералам невялікія падраздзяленні.

Мінула некалькі хвілін, як пастраенне было закончана, а палонныя ў нерашучасці стаялі, невядома чаго чакаючы. Нарэшце з таго боку, дзе лагерная камендатура, па апельпляцу падкаціла легкавушка, за якою ехаў грузавік. Абедзве машыны спыніліся каля ўзведзенага збудавання. Пакуль з легкавушкі, не спяшаючыся, вылазілі нямецкія афіцэры, грузавік, нібы ў вароты, уехаў паміж абодвума слупамі і спыніўся кузавам пад самаю перакладзінаю. З ягонае кабіны вылез шафёр, адчыніў задні борт машыны і зноў сеў на сваё месца. З абодвух бакоў у кузаве стаялі два нямецкія салдаты, паміж якімі хтосьці сядзеў спінаю да кабіны. Відаць, па загаду салдат з лавы ўсталі ў белых халатах мужчына і дзве жанчыны.

Ад усеагульнага ўздыху строй уздрыгнуў і ажы-

віўся. Напружанасць ад здзіўлення паступова ўзмацнялася, інтуітыўна перадаючыся па шарэнгах.

Прыгледзеўшыся, Янка пазнаў у мужчыне і ў дзвюх жанчынах дактароў, што аглядалі яго на рэнтгене. На іхніх галовах былі пілоткі з чырвонымі зоркамі, а на грудзях з-пад расшпіленых халатаў выглядалі гімнасцёркі са знакамі адрознення на пятліцах.

Ад сонечных промняў адсвечвала вішнёвая эмаль — і хлопец ніяк не мог разгледзець, якія ў іх знакі адрознення. Пакуль афіцэры размаўлялі між сабою, адзін з салдат у кузаве прывязаў да перакладзіны тры кароткія пятлі.

Усе ў страі затаілі дыханне. Запанавала трывожная цішыня. Хаця ніхто не падаваў каманды «смірна!», але падспудна адчувалася, што навокала выстраены тысячы людзей.

Янку здалося, што калі б не драцяная агароджа з прапушчаным па ёй электрычным токам і не вартавыя вышкі з кулямётамі, дык гэтае ўтаймаванае людское мора зараз хлынула б з бакоў на апельпляц, нібы вясновая паводка, змываючы ўсё на сваім шляху.

— Камендант шталага,— пачуў хлопец за спінаю.

— Каторы? — ціха перапытаў ззаду другі голас.

— У форме мышынага колеру.

Цяпер Янка разгледзеў, што толькі адзін з афіцэраў апрануты ў агульнавайсковую нямецкую форму, якую носіць лагерная ахова. На астатніх, у тым ліку на абодвух салдатах у кузаве — форма іншага колеру.

«Мусіць, гестапаўцы... Якое-небудзь «СА» або «СД»? — падумаў хлопец.— У немцаў хапае розных спецслужбаў».

Тым часам адзін з афіцэраў разгарнуў папку і пачаў уголас чытаць нейкі загад. Янка як ні напружваў слых, а ўсё роўна праз адлегласць нічога не мог пачуць. Толькі тады, калі гестапавец у кузаве расшпіліў каўнер гімнасцёркі на грудзях мужчыны, выцягнуў з-пад яе медальён і праверыў асабісты лагерны нумар, хлопец здагадаўся, што афіцэр зачытвае прысуд і называе прозвішчы дактароў.

А гестапавец узяў са дна кузава вялікі фанерны шчыт і праз галаву павесіў на грудзі мужчыну. Потым на шыю яму надзеў пятлю. Мужчына як быццам выпрастаўся і горда ўзняў галаву.

«За вредительство и саботаж!» — прачытаў Янка словы, напісаныя на шчыце аршыннымі літарамі.

Калі гестапавец, каб удакладніць асобу, пачаў расшпільваць каўнер гімнасцёркі старэйшае жанчыны, тая з нянавісцю плюнула яму ў твар.

Анямелы строй скалануўся шматгалосым выдыхам ухвалы, які перакаціўся з канца ў канец.

Але салдат нават не адрэагаваў на ўчынак жанчыны. Ён толькі выцер адною рукою вочы і, нібы механічны робат, выканаў сваю справу.

— Суайчыннікі, не памінайце нас ліхам! Мы зрабілі ўсё, што маглі! — выкрыкнуў мужчына, калі гестапавец наблізіўся да малодшае дакторкі.

У той момант, як ён надзяваў ёй на шыю пятлю, вочы жанчыны, асветленыя сонечнымі промнямі, бліснулі слязьмі, а ў блоку італьянцаў прагучала нейкая каманда. Відаць, яе падаў генерал. Бо калі Янка глянуў туды, дык убачыў, што італьянскія салдаты стаяць па камандзе «смірна!», а генерал і афіцэры аддаюць воінскую чэсць, узяўшы руку пад казырок. Іхняе адчуванне быццам перадалося хлопцу. Ён таксама міжвольна стаў навыцяжку. Стаў і ажно войкнуў і заплюшчыў вочы, калі рыўком крануўся з месца грузавік. Амаль адначасова ахнулі сотні палонных, ад чаго хлопец спалохана расплюшчыў вочы. Ён убачыў, як з кузава сарваліся тры чалавечыя постаці і, нібы паражоныя ўдарам грому, канвульсіўна ўздрыгваючы, павіслі, пагойдваючыся ў паветры. Янкаў твар перакрывіўся ад болю, як быццам навальнічны ўдар рыкашэтам зачапіў і самога хлопца.

Не саромеючыся, Янка абедзвюма рукамі выцер слёзы. Ці таму, што вочы паяснелі, прамытыя слязьмі, ці таму, што постаці павешаных ледзь-ледзь паварочваліся і ў пэўны момант эмаль знакаў адрознення не паблісквала ад сонечных промняў, але ён разгледзеў на пятліцах: у мужчыны — ромб, у старэйшае дакторкі — шпалу, а ў малодшае — два кубікі.

Мабыць, ворагі злітаваліся і задаволілі апошнюю просьбу асуджаных: пад медыцынскія халаты дазволілі адзець савецкую вайсковую форму. Гэтым самым ахвяры сцвердзілі, што яны паміраюць не толькі як дактары, але і як салдаты.

Гэтая падзея, нібы выбух сакрушальнае сілы, паралізавала людзей. Мінула нямала часу пасля таго, як

распусцілі строй, а яны, расслабленыя, усё яшчэ не разыходзіліся. У Янкі было такое адчуванне, быццам гэты выбух параніў не толькі яго, але адначасова і аглушыў усіх палонных. Сам ён таксама не мог апамятацца, ашаломлены жорсткасцю ўдасканаленае кары. На вачах ва ўсіх пацыентаў дэманстратыўна павесіць дактароў за тое, што яны ратавалі ад смерці хворых суайчыннікаў!

Мусіць, у пятым блоку не было нікога, каго б не ўзрушыла гэтая кара і хто б не бедаваў па яе ахвярах. Бо адны з палонных былі ўдзячны дактарам за выздараўленне, а другія за ратунак ад гібелі.

Янка асабліва блізка прыняў да сэрца пакаранне дактароў, бо ў самы крытычны для яго момант яны падалі руку дапамогі. Калі б яны ў час не выратавалі хлопца з бяды, дык наўрад ці жыў бы ён зараз на белым свеце. Ён быў так усхваляваны, што доўга не мог супакоіцца, балюча перажываючы гвалтоўную смерць сумленных людзей. Нават калі намагаўся не думаць пра іх, усё роўна яны ўваскрасалі ў памяці і паўставалі перад ім жывыя.

То ўспамінаў, як на рэнтгене мужчына асцярожна паварочваў і пільна праглядваў яго навылёт. «У маладым целе — здаровы дух. Вашы лёгкія, малады чалавек, чысцюткія, як шкельцы». А ён, радавы салдат, нават не павітаўся з генералам. Цяпер жывому сорамна перад мёртвым.

То прыгадвалася, як абедзве дакторкі па чарзе ўважліва выслухоўвалі яго дыханне і старанна выстуквалі кончыкамі пальцаў рэбры на спіне і на грудзях. За сваю брыдкую худзізну перад імі яму было няёмка. Але ўсё-такі ад нязвычнае блізкасці малодшае, русы жмук валасоў якой нагадаў перавязаную палойку лёну, хлопец не ўтрымаўся — і размяк. А жанчына і выгляду не падала, што адчула, як у яго закружылася галава і мімаволі прыплюшчыліся павекі. Яна даравала ягоную слабасць.

Ён таксама не асуджае жанчыну за тое, што яна не стрымала слёз перад пакараннем. Мо ў гэтым было не так праяўленне слабасці, як адчувалася прага да жыцця.

«Павесілі маіх збавіцеляў. А за што?.. Пакаралі смерцю за тое, што яны выратавалі мяне? Не маглі ж яны раўнадушна глядзець на пакуты хворага. На тое

яны і дактары, каб не пакідаць людзей у бядзе. А тым болей — на чужыне. На чужыне землякі — радня, сваякі — суайчыннікам. Ім трэба падтрымліваць адзін аднаго, а не крыўдзіць і зневажаць».

Мусіць, невыпадкова галоўны ўрач перад смерцю выкрыкнуў:

«Не памінайце нас ліхам! Мы зрабілі ўсё, што маглі!»

Відаць, яны не сядзелі склаўшы рукі. Цікава, а якім чынам дактары ў шталагу маглі шкодзіць і займацца сабатажам? Можа, хворых падлечвалі, а здаровых наўмысна падоўгу затрымлівалі? Калі ў гэтакіх умовах хітра перамешваць хворых з ачунялымі, пераводзячы з блока ў блок, дык недасведчаных у медыцыне можна збіць з панталыку.

Як толькі Янка пачаў бегла супастаўляць некаторыя факты, яны адразу ж выклікалі насцярожанасць. Напрыклад, чаму абодвух цяжка хворых (яго і іхняга санітара) пасля рэнтгена перавялі не ў адзін блок, а ў розныя? І ў той жа час у сёмым блоку суседам цяжка хворага Янкі аказаўся юнак з лёгка пакалечанымі пальцамі?

Але разважанні падказвалі хлопцу, што нягожа варажыць на гушчы, і ён самакрытычна ацаніў свае довады:

«Сам не здолеў выслужыцца вышэй за радавога, а спрабуеш раскумекаць тое, што дасціпна рабілі афіцэры на чале з генералам? Калі такі дапытлівы, дык разведай у былога санітара. Можа, ён хоць збольшага ведае пра справы дактароў».

Аднак былы санітар пры сустрэчы таксама не сказаў нічога пэўнага. Толькі насцярожана, цішком паведаміў, што і ў другіх блоках немцы замянілі фельчараў.

— Іх таксама пакараюць? — усхвалявана запытаўся Янка.

— Гледзячы, якую віну дакажуць. Адных могуць кінуць у канцлагеры, сашлюць у штрафныя каманды,— растлумачыў той і скіраваў размову на іншае: — Помніш, як у трынаццатым блоку двое палонных, апярэдзіўшы мяне, забралі з нараў твайго мёртвага суседа? Ты бачыў, што яны глядзелі яго лагерны нумар?

— Не, не бачыў. Але адзін з іх чамусьці пытаўся,

які яго лагерны нумар. Можа, ён пытаўся толькі дзеля адводу вачэй, таму што карцела хутчэй дабрацца да чужога рэчмяшка?

— Цяпер яны абое выклікаюць у мяне падазрэнне... Ці не падсаднымі качкамі былі яны ў трынаццатым блоку?.. Бо на падхватах надта ж спрытна апярэджвалі санітараў.

— А пры чым нябожчыкаў лагерны нумар? — здзівіўся Янка.

— Хто ведае, што маглі рабіць пакараныя?..— няпэўна пацiснуў плячамі былы санітар.— Галоўны ўрач шталага — не толькі свяціла з урачэбнаю практыкаю, а яшчэ і генерал па арганізацыі медыцынскае справы.

Пасля размовы з ім у Янкі ўзнікла падазрэнне, што ў шталагу маглі мяняць асабістыя лагерныя нумары. Нічога заганнага або ганебнага ў такім падмене хлопец не бачыў. Гэта не гандаль мёртвымі душамі дзеля нажывы. Мёртваму ўсё роўна, з якою палавінаю жэтона яго спаляць у крэматорыі і з якімі лічбамі другая палова застанецца ў немцаў дзеля справаздачы. А жывому палоннаму не ўсё адно, які ў яго лагерны нумар. Калі зняты з нябожчыка жэтон павесіць на шыю ачуняламу, дык ён невядома колькі часу можа яшчэ пракантавацца пад выглядам хворага. І галоўнае, што на месцы нельга дакладна пасведчыць асобу. Жэтон жа — не пашпарт з фотакарткаю. Канечне, пунктуальныя немцы дзе-небудзь у берлінскай канцылярыі захоўваюць картатэку з прозвішчамі і адпаведнымі асабістымі лагернымі нумарамі палонных. Дык яна ж не пад рукамі. А картку, якую пры апытанні Янкі запаўняла малодшая дакторка, можна заўсёды перапісаць нанова. Цікава, а для чаго яна вяла скурпулёзны ўлік хворых?.. Нават адрас хатні запісвала...

Пасля гэтага Янка таксама западозрыў у нячыстых справах Румегу з напарнікам. Хлопец успомніў сваю даўнюю размову з Вадзімам. Вадзім, пакрыўджаны тым, што Янка назваў Румегу ягоным земляком, злосна спытаўся:

«Які ён мне зямляк?» Каб як-небудзь згладзіць непрыемнае ўражанне, хлопец пажартаваў тады, што Румега ўсё-такі не роўня Янкаваму земляку, каменданту Грышку. Вадзім з'едліва адказаў Янку, што, маўляў, з такіх, як мой, і выходзяць такія, як твой. А Янка яшчэ пашкадаваў тады, што Вадзім дарма абвінавачвае

чалавека ва ўсіх грахах. Аказваецца, Вадзім быў болей празорлівы...

Праз пару дзён Янка ўпаў духам, даведаўшыся, што немцы забралі былога санітара. Хлопец застаўся ў блоку без прыяцеляў і сяброў, адзін-адзінюсенькі. Навокала яго зборышча людзей у рознакаляровых гімнасцёрках, кіцелях і фрэнчах здавалася яму безаблічнай масаю. Не было каму яго падтрымаць і падбадзёрыць, бо тут панавала прыгнечанасць, пры якой кожны быў заняты толькі сабою. Палонныя ў шталагу адчувалі, што справа ідзе да немінучай развязкі, якая не абяцае рахунку ад гібелі.

Кожны разумеў, што ўсіх хоць трохі ачунялых адсюль адашлюць назад у падзямелле.

Цяпер, калі савецкія войскі пераможна рухаліся на захад, Янку не хацелася гінуць... Хлопец крыўдаваў на сваю долю і злаваў на марудлівых амерыканцаў і англічан. Чаму яны гэтак павольна прасоўваюцца наперад? З тае пары, як саюзнікі высадзіліся ў Нармандыі, савецкія войскі паспелі вызваліць Беларусь, ачышчаюць ад ворага Польшчу і ўварваліся ва Усходнюю Прусію. А амерыканцы і англічане дзейнічаюць акружным манеўрам: раней уступілі ў Рым, цяпер дайшлі чуткі, што яны занялі Парыж і Брусель. Пакуль дойдуць сюды, дык немцы з цябе выматаюць духі.

«От табе і абяцаны другі фронт! Мы яго чакалі-чакалі дый ужо ўсякую надзею страцілі! А каб жа саюзнікі адкрылі яго тады, калі абяцалі, многае на свеце выглядала б цяпер зусім па-другому. З двух бакоў заціснутыя ў клешчы, гітлераўцы не здолелі б захапіць гэтульві нашае зямлі, якую давялося адваёўваць цяжкімі ахвярамі. Даўно былі б выратаваны не толькі заняволеныя народы Заходняй Еўропы, але і захопленыя савецкія ваеннапалонныя. А апошнія, якія зведалі на сабе ўсе жахі фашызму, з такім імпэтам рынуліся б на ворага, што іх рукі прыкіпалі б да зброі. Пакуль саюзнікі марудзілі з адкрыццём другога фронту, гітлераўцы тым часам у лагерах смерці паспелі знішчыць многіх актыўных змагароў супраць фашызму... І ў шахцёрскім шталагу не загінула б гэтакая процьма люду. Нашы палонныя ўрачы, што ратавалі ад смерці землякоў, таксама былі б жывы і здаровы дый яшчэ вылечылі б нямала знявечаных і хворых».

Янку хацелася ўявіць сабе аблічча малодшае дакторкі з ільнянымі валасамі. Але па невядомай асацыяцыі чамусьці раптам успаміналася падвешаная на канатах вялізная жаночая галава з прыгожым профілем у лаўровым вянку на пышных валасах. Хлапчуком ён падоўгу разглядаў той малюнак у пажоўклым дарэвалюцыйным часопісе. Подпіс тлумачыў, што на малюнку — галава статуі «Германія», якую ўстанаўлівалі на вяршыні нейкай гары. Колькі ні намагаўся цяпер хлопец уявіць яе аблічча, у якім спалучаліся гордасць і прывабнасць, жаноцкасць і веліч, але замест яго перад ягоным зрокам кожны раз паўставаў прыгожы жаночы твар, абязвечаны палосаю выстрыжаных праз галаву — ад ілба да патыліцы — валасоў. Настолькі моцна ўрэзаўся ў ягоную памяць воблік жанчыны, якую канваір некалі вёў паўз іхнюю калону. І хлопец думаў: каторая з іх Германія?

**Аўрамчык М.**

А 93 У падзямеллі: Раман.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 293 с.

Раман «У падзямеллі» — першая кніга прозы вядомага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР Міколы Аўрамчыка. Твор уваскрашае драматычныя старонкі Вялікай Айчыннай вайны, духоўнае працістаянне, няскоранасць савецкіх ваеннапалонных, якіх фашысты загналі пад зямлю, у шахты Рура. У цэнтры рамана — вобраз беларускага хлопца Янкі. Выстаяць у невыносных умовах яму дапамагае інтэрнацыянальная салідарнасць рабочых шахты — французаў, палякаў, немцаў.

А $\frac{4702120200-118}{М\ 302(05)-86}$ 1—86 ББК 84Бел7

НИКОЛАЙ ЯКОВЛЕВИЧ АВРАМЧИК

**В подземелье**

Роман

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Л. К. Лявонаў. Мастак М. А. Стэцэнка. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктар К. А. Крукоўская.

ІБ № 2319
Здадзена ў набор 02.01.86. Падп. да друку 14.07.86. АТ 05120. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,54. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 16,04. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2074. Цана 1 р. 50 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.